Міністэрства адукацыі Рэспублікі Беларусь

УСТАНОВА АДУКАЦЫІ
«ГРОДЗЕНСКІ ДЗЯРЖАЎНЫ УНІВЕРСІТЭТ
ІМЯ ЯНКІ КУПАЛЫ»

**А.М.ЛАПКОЎСКАЯ**

# БЕЛАРУСКАЯ МОВА (ПРАФЕСІЙНАЯ ЛЕКСІКА)

Вучэбны дапаможнік
для студэнтаў вышэйшых навучальных устаноў
па педагагічных спецыяльнасцях

Гродна
ГрГУ імя Я.Купалы
2009

УДК 808.26(075.8)
ББК 81.411.3
Л30

Р э ц э н з е н т ы :

*Шчэрбін В.К.,* дактарант Інстытута мовазнаўства імя Якуба Коласа НАН Беларусі, кандыдат філалагічных навук;

*Ялоўская Э.А.,* кандыдат філалагічных навук, дацэнт кафедры гісторыі беларускай мовы Бларускага дзяржаўнага універсітэта;

*Шахаб В.В.,* першы прарэктар прыватнай Установы адукацыі «Жаночы інстытут ЭНВІЛА», кандыдат педагагічных навук, дацэнт.

**Лапкоўская, А.М.**

Л30 Беларуская мова (Прафесійная лексіка) : вучэб. дапам. / А.М. Лапкоўская. – Гродна : ГрДУ, 2009. – 271 с.
ISBN 978-985-417-184-6

Вучэбны дапаможнік «Беларуская мова (прафесійная лексіка)» разлічаны на студэнтаў педагагічных спецыяльнасцей.

Дадзенае выданне дапаможа студэнтам авалодаць асноўнымі пытаннямі тэорыі і практыкі беларускага мовазнаўства, тэрміналагічнай лексікай па адпаведнай спецыяльнасці, культурай вуснага і пісьмовага маўлення і набыць навыкі аналізу тэксту, перакладу спецтэкстаў, выпраўлення розных памылак у вусных і пісьмовых тэкстах навуковага і афіцыйна-дзелавога стыляў.

У выданні змешчаны практычныя заданні, якія дапамогуць студэнтам практычна разгледзець і засвоіць асноўныя пытанні выкладаемага курса, а таксама заданні, разлічаныя на самастойную работу студэнтаў.

**УДК 808.26(075.8)**
**ББК 81.411.3**



**ISBN 978-985-417-184-6**

# ПРАДМОВА

У сувязі з пашырэннем сфер выкарыстання беларускай мовы як дзяржаўнай і афіцыйнай мовы краіны да маўленчай культуры будучых спецыялістаў, якім у той ці іншай ступені давядзецца працаваць з моўным матэрыялам, ставяцца высокія патрабаванні. Таму ў сучасных ВНУ Беларусі, у прыватнасці на нефілалагічных факультэтах, вывучаецца такі курс, як «Беларуская мова (прафесійная лексіка)», які накіраваны на тое, каб узбагаціць студэнтаў усімі рэсурсамі роднай мовы. Асабліва важным пры вывучэнні гэтага курса з'яўляецца фарміраванне практычных уменняў і навыкаў будучых спецыялістаў і ўдасканаленне іх маўленчага вопыту ў розных сферах зносін.

Дадзенае вучэбнае выданне пабудавана на аснове сучасных патрабаванняў кампетэнтнаснага падыходу да выкладання дысцыплін у вышэйшых навучальных установах. Вывучэнне беларускай мовы на педагагічных спецыяльнасцях мае на мэце развіццё мовы студэнтаў, авалоданне імі маўленнем як інфарматыўным, інтэрактыўным іперцэптыўным сродкам ва ўсіх сферах жыццядзейнасці: навучальнай, прафесійнай, пазнавальнай, культурнай і інш.

Дапаможнік структурна арганізаваны такім чынам, каб забяспечыць у студэнтаў трывалыя веды па лінгвістычнай тэорыі і выпрацаваць на іх аснове аналітычныя і канструктыўныя ўменні, звязаныя з распазнаваннем, класіфікацыяй і навуковай інтэрпрэтацыяй разнастайных моўных з'яў і працэсаў у галіне псіхолага-педагагічнай тэрміналогіі. Па заканчэнні навучання студэнты павінны засвоіць ролю мовы і маўлення ў працэсе сацыялізацыі асобы; месца беларускай мовы сярод іншых моў свету; асноўныя этапы паходжання і развіцця беларускай мовы; сістэму лексічных і стылістычных сродкаў беларускай мовы і іх камунікатыўныя магчымасці; асноўныя лексікаграфічныя крыніцы па спецыяльнасці, а таксама набыць абагуленыя ўменні аналізаваць і характарызаваць асноўныя нормы сучаснай беларускай літаратурнай мовы ў тэкстах вызначаных праграмай стыляў, жанраў, тыпаў з пункту гледжання іх зместу, структуры і мэтанакіраванасці, усведамляць гістарычнае міжмоўнае ўзаемадзеянне ў прычыннавыніковым аспекце. Акрамя таго, студэнты павінны набыць якасці духоўна сталай, маральна выхаванай асобы, здольнай адказваць за лёс краіны і лёс цывілізацыі, абараняць і адстойваць нацынальныя каштоўнасці і гуманістычныя традыцыі, захоўваць гармонію ў грамадстве і прыродзе.

Прапанаваныя ў дапаможніку практыкаванні не толькі ўтрымліваюць неабходны лінгвістычны матэрыял, але і накіраваны на ўдасканаленне і студэнта, і навакольнага свету. Пры падборы матэрыялу ўлічана і тое, што на практыцы задавальненне любых патрэбаў індывіда звязана з узаемадзеяннем з іншымі людзьмі, у тым ліку і ў прафесійнай сферы: практыкаванні арыентуюць на працу з разнастайнай тэрміналагічнай лексікай па спецыяльнасці.

У вучэбным дапаможніку ўлічваюцца асаблівасці выкладання курса «Беларуская мова (прафесійная лексіка)», якія абумоўлены выкарыстаннем не толькі беларускага, але і рускага моўнага матэрыялу з тэкстаў па спецыяльнасці, блізкасцю беларускай і рускай тэрміналогіі, наяўнасцю студэнтаў, для часткі якіх роднай мовай з’яўляецца руская. Таму важнае месца ў дапаможніку займае тэорыя і практыка перакладу з рускай мовы на беларускую.

# УВОДЗІНЫ

## §1. Беларуская мова – нацыянальная мова беларускага народа

Нацыянальнай называецца мова, якая з’яўляецца сродкам пісьмовых і вусных зносін нацыі. Нацыянальная мова – катэгорыя гістарычыая: яна складваецца ў перыяд пераўтварэння народнасці ў нацыю, таму што нацыя як гістарычная супольнасць акрамя агульнай тэрыторыі, эканамічнага жыцця і псіхічнага складу характарызуецца і агульнасцю мовы. Мова – найважнейшы сродак зносін паміж людзьмі, і агульнасць мовы з'яўляецца важнай умовай эканамічнай і палітычный канцэнтрацыі жыцця грамадства ў перыяд складвання нацыі.

У склад нацыянальнай мовы ўваходзіць і літаратурная мова, і мясцовыя гаворкі, і прастамоўе, і сацыяльныя дыялекты. Аднак яны не з'яўляюцца раўнапраўнымі. У эпоху фарміравання нацый адбываецца станаўленне адзінай літаратурнай мовы, якая пачынае абслугоўваць усе сферы пісьмовых і вусных зносін і паступова выцясняе астатнія разнавіднасці нацыянальнай мовы. Распаўсюджваецца адзінае вуснае літаратурнае маўленне. Працэс пашырэння літаратурнай мовы асабліва паскараецца ў перыяды інтэнсіўнага сацыяльна-эканамічнага і культурнага развіцця нацыі. Павышэнне агульнаадукацыйнага ўзроўню, узрастанне ролі сродкаў масавай інфармацыі (перыядычнага друку, радыё, тэлебачання) ствараюць спрыяльныя ўмовы для шырокага распаўсюджання літаратурнай мовы сярод усіх прадстаўнікоў нацыі. Гэта, у сваю чаргу, вядзе да звужэння ролі і функцый мясцовых гаворак і іншых разнавіднасцей нацыянальнай мовы.

Звычайна кожная нацыя атаясамліваецца з адной нацыянальнай мовай, напрыклад, французы – з французскай, шведы – са шведскай, палякі – з польскай, грузіны – з грузінскай, украінцы – з украінскай і г. д. Аднак у сучасным свеце нярэдкія сітуацыі, калі адна нацыя карыстаецца некалькімі мовамі. Тыповым прыкладам можа служыць Швейцарыя. Швейцарцы – адна нацыя, аднак карыстаюцца французскай, нямецкай, італьянскай і рэтараманскай мовамі. У сучасным Парагваі індзейцы гуарані складаюць больш за 90 % насельніцтва краіны. Таму мова гуарані мае такі ж высокі прэстыж, як і афіцыйная іспанская мова. Сёння гуарані ў гэтай краіне з'яўляецца нацыянальнай мовай, якая выкарыстоўваецца ў розных сферах грамадскага жыцця [1].

[1] Гл.: Беларуская мова: Энцыклапедыя / пад рэд. А.Я.Міхневіча. — Мінск: БелЭН, 1994. – С. 383.

З другога боку, можна прывесці прыклады, калі адна мова з'яўляецца сродкам зносін некалькіх нацый, напрыклад іспанская ў краінах Лацінскай і Цэнтральнай Амерыкі. У такіх выпадках фарміруюцца нацыянальныя варыянты той ці іншай мовы: англійская брытанская, англійская амерыканская, англійская аўстралійская і г. д.

Сучасная літаратурная беларуская мова як вышэйшая форма нацыянальнай мовы пачала складвацца ў Х ІХ ст. Гэты працэс супаў з перыядам так званага славянскага адраджэння, калі адбывалася інтэнсіўнае фарміраванне славянскіх нацый і новых славянскіх літаратурных моў. Асаблівасцю складвання мовы беларускай нацыі было тое, што новая беаруская мова амаль не мела традыцый пераемнасці з пісьмовай старабеларускай мовай – мовай беларускай народнасці – і складвалася на народна-гутарковай аснове.

Упачатку ХХ ст. беларуская мова набыла ўсе правы і функцыі нацыянальнай мовы. Упершыню пасля некалькіх стагоддзяў перарыву яна пачала абслугоўваць усе сферы моўнага жыцця беларускай нацыі. Значнае пашырэнне грамадскіх функцый спрыяла і развіццю самой беларускай нацыянальнай мовы, і ў першую чаргу яе літаратурнай формы. За кароткі час значна ўзбагаціўся слоўнікавы запас, развіліся функцыянальныя стылі, удасканаліўся граматычны лад, замацаваліся літаратурныя нормы, была створана навуковая тэрміналогія.

На сучасным этапе беларуская нацыянальная мова паспяхова выконвае свае функцыі ў розных сферах зносін паміж людзьмі, на ёй ствараецца разнастайная мастацкая літаратура, выдаюцца газеты і часопісы, друкуюцца навуковыя працы, яна гучыць па радыё і на тэлебачанні, што з'яўляецца сведчаннем высокага ўзроўню яе развіцця.

## §2. Гістарычныя этапы фарміравання і развіцця беларускай мовы

Мова – жывая грамадская з’ява. Шлях развіцця яе абумоўліваецца асаблівасцямі гісторыі, жыцця народа.

Узнікненне і фарміраванне беларускай мовы адбывалася ў непарыўнай сувязі з гісторыяй усяго славянства. Так, у ІІІ тысячагоддзі да н.э. склалася славянская этнічная супольнасць, адзіны славянскі народ са сваёй мовай і культурай. Супольнае жыццё славян працягвалася да сярэдзіны І тысячагоддзя н.э. Увесь гэты час славяне жылі на абмежаванай тэрыторыі. Карысталіся славяне аднай мовай, якую ў навуцы прынята называць *праславянскай, або агульнаславянскай*, якая ў пісьмовых помніках не адлюстравалася.

Агульнаславянскі перыяд быў самым працяглым. Ад яго ў мовах сучасных славян захавалася шмат аднолькавых лексічных адзінак, назіраюцца аднолькавыя фанетычныя працэсы, а таксама рысы граматычнага ладу.

Паступова славяне пашыралі тэрыторыю свайго рассялення і к сярэдзіне I тысячагоддзя н.э. славянская гаворка гучала ўжо ў паўночных рэгіёнах Усходняй Еўропы, на Балканах, на тэрыторыі сучаснай Чэхіі, Славакіі, Венгрыі, Румыніі, у Малой Азіі. За час вандровак славян па Еўропе сувязі паміж імі паслабляліся, што і прывяло да распаду агульнаславянскага моўнага адзінства.

У VI – VII стст. утвараюцца тры групы славянскіх плямён: усходнія, заходнія і паўднёвыя славяне. На іх аснове ў наступныя стагоддзі склаліся асобныя славянскія народнасці. Беларуская народнасць сфарміравалася на аснове ўсходнеславянскіх плямёнаў – крывічоў, дрыгавічоў, радзімічаў. На працягу X – XIII стст. усходнеславянскія народнасці, у тым ліку і беларуская, карысталіся адной пісьмовай *старажытнаўсходнеславянскай (старажытнарускай)* літаратурнай мовай. На гэтай мове створана даволі шмат рукапісных помнікаў (рэлігійных, справавых, мастацкіх і інш.), частка якіх захавалася да нашага часу, праўда, у выглядзе пазнейшых перапісаных копій. Некаторыя з захаваных старажытнаўсходнеславянскіх твораў напісаны на беларускай зямлі нашымі славутымі продкамі К.Тураўскім, К.Смаляцічам, Л.Богшам і інш.

Найбольш знакамітымі помнікамі таго часу з’яўляюцца «Слова пра паход Ігаравы», «Аповесць мінулых часоў», «Руская праўда» і інш. Яны служаць агульнай пісьмовай скарбонкай усіх усходніх славян і перакладзены на сучасныя беларускую, рускую, украінскую мовы.

З улікам наяўнасці пісьмовых помнікаў (мастацкіх тэкстаў, рэлігійнай, справавой, мемуарнай, публіцыстычнай, навуковай і інш. літаратуры), што створаны на нашай зямлі, усю гісторыю беларускай літаратурнай мовы можна падзяліць як мінімум на тры выразныя перыяды яе развіцця. Выдзяленне гэтых перыядаў грунтуецца як на ўнутрымоўных крытэрыях, так і на знешніх асаблівасцях, сацыяльных умовах існавання, функцыянавання і развіцця пісьмовай мовы, беларускага этнасу.

У межах выдзеленых перыядаў, якія можна лічыць агульнапрынятымі, часам робіцца яшчэ больш падрабязны падзел гісторыі фарміравання і развіцця беларускай літаратурнай мовы.

**Першы перыяд** (X – XIVстст.), як ужо засведчана вышэй, – агульны для ўсіх усходніх славян – **агульнаўсходнеславянскі пе-**

**рыяд.** Гэта час існавання і развіцця старыжытнарускай, ці старажытнаўсходнеславянскай, літаратурнай мовы. На гэты час не было кнігадрукавання, таму усе пісьмовыя помнікі з'яўляюцца рукапіснымі; да нашага часу захавалася каля тысячы разнастайных рукапісаў гэтага перыяду, палова з якіх прыпадае на XIV ст.

**Другі перыяд** існавання беларускай літаратурнай мовы ахінае XIV – XVIII стст. – **старажытнабеларускі перыяд**. Храналагічна дадзены перыяд супадае з утварэннем і далейшым развіццём беларускай народнасці ў складзе Вялікага княства Літоўскага, у якім землі сучаснай Беларусі складалі асноўную частку яго тэрыторыі. Мову гэтага перыяду прынята называць *старажытнай беларускай, або старабеларускай.* Яна сфарміравалася ў XIV – XV стст. на аснове ўсходнеславянскай літаратурнай мовы, якая пад уплывам вуснай народна-дыялектнай мовы ўсё больш набывала выразныя беларускія асаблівасці. У XVI ст. старажытная беларуская мова дасягае найвышэйшай ступені свайго развіцця і выступае ўжо як асобная славянская мова, якая выразна адрозніваецца і ад агульнаўсходнеславянскай, і ад іншых тагачасных славянскіх моў.

Старабеларуская мова з XIV ст. з'яўлялася дзяржаўнай у Вялікім княстве Літоўскім і выкарыстоўвалася ва ўсіх сферах гаспадарчага і грамадскага жыцця, ва ўрадавых установах, судзе, школе, дыпламатычнай перапісцы. На працягу XV – XVII стст. на ёй створана і да нашага часу захавалася багатая пісьмовая спадчына. Зберагласся вялікая колькасць справавых дакументаў. Сярод іх найбольш каштоўная – Літоўская метрыка, г.зн. архіў урадавай канцылярыі Вялікага княства Літоўскага (каля 600 тамоў). Крыніцай вывучэння мовы і гісторыі беларускага народа з'яўляюцца кнігі судовых і іншых запісаў буйных гарадоў Беларусі: Гродна, Мінска, Брэста, Магілёва, Полацка і інш. Развівалася мастацкая літаратура, перакладная і арыгінальная; пашырана было вершаскладанне. Напрыклад, перакладныя тэксты «Александрыя», «Траянская вайна», «Аповесць аб Трыстане» і інш., арыгінальныя паэтычныя тэксты Андрэя Рымшы, Сімяона Полацкага, а таксама творы невядомых аўтараў, публіцыстычныя тэксты («Прамова Мялешкі», «Ліст да Абуховіча» і інш.). Працягвала і развівала традыцыі Кіеўскай Русі беларускае летапісанне (хроніка Быхаўца, Баркулабаўскі летапіс і інш.). Сведчаннем развіцця юрыдычнай думкі эпохі феадалізму з'яўляецца створаны на старажытнай беларускай мове Статут Вялікага Княства Літоўскага, Рускага і Жамойцкага (1529, 1566, 1588). Прыкладамі вучэбнай літаратуры могуць служыць «Граммати ка Словенска» Лаўрэнція Зізанія (1596), «Грамматики Словенския правиль-

ное Синтагма» Мялецію Сматрыцкага (1619), слоўнікі Л.Зізанія, Памвы Бярынды.

Асабліва важную ролю ў развіцці тагачаснай культуры адыграла кнігадрукаванне, заснавальнікам якога быў таленавіты вучоны і асветнік Францыск Скарына. Яго выдавецкая дзейнасць паслужыла пачаткам кнігадрукавання ва ўсходніх славян. Вялікі ўклад у развіццё беларускай мовы ўнеслі Сымон Будны і Васіль Цяпінскі.

У канцы XVI ст. у сувязі з тым, што Беларусь у выніку Люблінскай уніі (1569) аказалася ў складзе Рэчы Паспалітай, пачынаецца актыўны працэс паланізацыі беларускага і ўкраінскага насельніцтва Вялікага Княства Літоўскага. Беларуская мова пастуопва страчвае сваю поліфункцыянальнасць, выцясняецца з афіцыйнай сферы польскай і лацінскай мовамі.

Забарона беларускай мовы Варшаўскім сеймам у 1696 годзе і негатыўныя адносіны да яе царскага ўрада Расіі выклікалі вялікі разрыў паміж пісьмовымі традыцыямі старабеларускай і сучаснай беларускай мовы. Гэта быў заключны этап у працяглай гісторыі старажытнай беларускай літаратурнай мовы. Ё н бедны на пісьмовыя помнікі. Толькі беларуская народна-дыялектная мова па-ранейшаму жыла ў народзе, які нязменна карыстаўся родным словам і стварыў надзвычай багаты фальклор.

**Трэці перыяд** развіцця беларускай літаратурнай мовы пачынаецца з XIX стагоддзя і доўжыцца па наш час, гэта **перыяд новай сучаснай літаратурнай мовы**, якая ўзнікла, у адрозненне ад амаль усіх астатніх славянскіх моў, без прамой сувязі з папярэднімі кніжнымі традыцыямі на грунце сярэднебеларускіх народных гаворак. Славуты зямляк, знакаміты польскі паэт Адам Міцкевіч называў беларускую мову самай чыстай і багатай з усіх славянскіх моў.

На тэрыторыі Беларусі на працягу ўсяго XIX ст. не існавала навучальных устаноў, у якіх выкладанне вялося б на беларускай мове. Супраць нацыянальнага прыгнёту ўспыхвалі паўстанні (1830 і 1863 гг.). У 1840 г. на Беларусі было спынена дзеянне Статута Вялікага Княства Літоўскага 1588 г., ліквідавана грэка-каталіцкая (уніяцкая) царква, якая вяла набажэнства на беларускай мове, было забаронена ўжываць у афіцыйных дакументах нават назву «Беларусь». За ўсё XIX ст. на беларускай мове выйшла толькі 75 кніг, якія друкаваліся пераважна лацінкай і нелегальна або за межамі Расійскай дзяржавы. А пасля паўстання 1863 г. на працягу трыццаці гадоў на Беларусі не было надрукавана ніводнай кнігі на беларускай мове. Працяглы час заняпаду старажытнай беларускай мовы прывёў да таго, што яе традыцыі былі па сутнасці страчаны, і новая

літаратурная мова беларусаў пачала фарміравацца на базе вуснай народна-дыялектнай мовы. У працэсе яе станаўлення галоўную ролю адыграла мастацкая літаратура.

Узнікаюць ананімныя вершаваныя беларускія творы «Тарас на Парнасе», «Энеіда навыварат», што, перад тым як быць надрукаванымі, існавалі ў вуснай і рукапіснай формах. Выходзяць першыя аўтарскія творы на беларускай мове А.Баршчэўскага, А.Рыпінскага, У.Сыракомлі, Я.Чачота і інш., якія былі напісаны лацінскім алфавітам і добра адлюстроўвалі такія рысы беларускіх народных гаворак, як аканне, яканне, дзеканне, цеканне і інш.

У сярэдзіне XIX ст. былі зроблены спробы напісаць кнігі па граматыцы беларускай мовы, але падрыхтаваныя працы П.Шпілеўскага, К.Нядзвецкага не былі апублікаваны.

Да першых публіцыстычных тэкстаў на новай беларускай літаратурнай мове належаць і вершаваныя, і празаічныя пісьмовыя помнікі, што доўжылі традыцыі старабеларускай мовы, напрыклад, вершаваныя – «Гутарка Данілы са Сцяпанам», празаічныя – нелегальная друкаваная газета «Мужыцкая праўда» К.Каліноўскага, празаічныя гутаркі «Пра багацце і беднасць», «Размова пана з хлопам», «Гутарка старога дзеда» і інш., адозвы царскага ўрада на беларускай мове да народу («Прамова Старавойта», «Бяседа старога вольніка» і інш.).

На пачатку XX ст. падзеяй, што рашуча змяніла ўмовы культурнага развіцця народаў царскай Расіі, была рэвалюцыя 1905–1907 гг. Была знята забарона карыстацца беларускай мовай, друкаваць на ёй. У Пецярбургу дзейнічала беларускае таварыства («суполка») «Загляне сонца і ў наша ваконца», якое выдала 38 кніг агульным тыражом больш за 100 тысяч экземпляраў. Сярод іх «Першае чытанне для дзетак беларусаў» Цёткі, «Жалейка» Янкі Купалы, «Абразкі» Змітрака Бядулі, «Песні» Цішкі Гартнага і інш. Працавалі выдавецтвы і на Беларусі (у Вільні, Мінску і іншых гарадах) «Наша хата», «Мінчук», «Беларускае выдавецкае таварыства», «Палачанін» і інш. Пачынаюць выходзіць легальныя беларускія газеты і часопісы (газеты: «Наша ніва», «Наша доля», «Беларус», «Гоман» і інш., часопісы: «Лучынка», «Крапіва» (сатырычны часопіс), «Саха» (сельска-гаспадарчы часопіс), «Раніца» (студэнцкі часопіс) і інш.) з публіцыстычнымі матэрыяламі побач з вершамі, апавяданнямі, афіцыйнымі паведамленнямі, сацыяльнымі публікацыямі і інш., а таксама ў публіцыстычных выданнях з’яўляюцца нататкі, нарысы, хронікі, інфармацыйныя паведамленні, навукова-папулярныя артыкулы, рэцэнзіі, агляды і да т.п., што спрыяла выпрацоўцы новых сродкаў моўнага выражэння.

Новы этап у гісторыі беларускай літаратурнай мовы звязаны з будаўніцтвам на пачатку 20-х гг. беларускай дзяржавы, якая стварыла неабмежаваныя ўмовы для яе выкарыстання і развіцця. Беларуская мова стала мовай дзяржаўных і грамадскіх устаноў, мовай школы і навукі, мовай мастацкай літаратуры і перыядычнага друку, радыё і тэатра. Пачалося сістэматычнае і глыбокае даследаванне фанетыкі, лексікі, граматычнага ладу беларускай літаратурнай мовы, выяўляліся тэндэнцыі яе далейшага развіцця.

У 20-я гады XX ст. у краіне друкуецца шмат газет як цэнтральных («Савецкая Беларусь», «Звязда» і г.д.), так і мясцовых («Магілёўская праўда», «Чырвоная Полаччына» і г.д.), дзе ў розных формах і прапорцыях былі прадстаўлены тэксты на рускай і беларускай мовах. Неабходна адзначыць, што на пачатку 30-х гадоў XX ст. на беларускай мове выходзяць 194 газеты (з 234), 27 часопісаў (з 30).

На гэтым этапе развіцця беларускай літаратурнай мовы ў сувязі з шырокім яе ўжываннем у розных сферах грамадскага жыцця паўстала вострая неабходнасць упарадкаваць яе правапісныя і лексіка-граматычныя нормы.

Гэту задачу фактычна выканаў Браніслаў Тарашкевіч, які ў 1918 годзе выдаў «Беларускую граматыку для школ». Пабудаваная на фактычным матэрыяле жывой народнай гаворкі, беларускіх дарэвалюцыйных выданняў і навуковых прац па роднай мове, граматыка Б.Тарашкевіча даволі паслядоўна вызначала граматычныя рысы беларускай мовы і дакладна сфармулявала яе правапісныя нормы. Яна стала першым удалым вопытам стварэння нарматыўнай граматыкі беларускай мовы, якая з 1918 па 1929 гады вытрымала 5 выданняў. На граматыку Б.Тарашкевіча арыентаваліся і іншыя мовазнаўцы. Так, Язэп Лёсік апублікаваў «Практычную граматыку» (1921) і падручнік «Беларуская мова. Правапіс» (1924).

Аднак і граматыка Б.Тарашкевіча, і іншыя падручнікі не змаглі дакладна вызначыць усе характэрныя рысы беларускай мовы і паслядоўна сфармуляваць іх у адпаведных граматычных правілах, адразу і канчаткова замацаваць граматычныя і арфаграфічныя нормы. Таму ў 20-я гады XX ст. разгарнулася шырокая дыскусія па пытаннях нармалізацыі беларускай літаратурнай мовы. Для ўпарадкавання норм роднай мовы ў лістападзе 1926 г. была склікана Акадэмічная канферэнцыя па рэформе беларускага правапісу і азбукі. Прапаноўвалася, напрыклад, увесці поўнае аканне і яканне, адмовіцца ад ужывання мяккага знака для абазначэння асіміляцыйнай мяккасці (параўн. *сьнег – снег, насеньне – насенне, сьцяг – сцяг*), перайсці на лацініцу і інш. Аднак Акадэмічная канферэнцыя таксама не змагла выпрацаваць адзіных рэкамендацый.

Для апрацоўкі матэрыялаў канферэнцыі і канчатковай выпрацоўкі праекта правапісу была створана спецыяльная Правапісная камісія. У 1933 быў выдадзены «Праект спрашчэння беларускага правапісу», на аснове якога Савет Народных Камісараў БССР прыняў пастанову «Аб зменах і спрашчэнні беларускага правапісу», якая афіцыйна ўзаконьвала адзіныя і абавязковыя для ўсіх нормы беларускага правапісу і граматыкі.

У 1938 г. выходзіць пастанова СНК і ЦК ВКП (б) «Аб абавязковым вывучэнні рускай мовы ў школах нацыянальных рэспублік і абласцей». З гэтага часу пачынаецца мэтанакіраванае выцясненне беларускай мовы са сферы навучальна-выхаваўчага працэсу ў школе. Паступова беларуская мова выцясняецца і з многіх іншых сфер грамадскага жыцця.

Аднак праца па ўдасканаленні беларускай літаратурнай мовы працягвалася. У 1957 г. Савет Міністраў БССР прыняў пастанову «Аб удакладненні і частковых зменах існуючага беларускага правапісу», праект якой быў абмеркаваны грамадскасцю. Пастанова анулявала шматлікія выключэнні з правілаў напісання тых ці іншых слоў і словаформ, якія дапускаліся папярэдняй пастановай і ўдакладніла іншыя правілы. Звод правілаў беларускай арфаграфіі і пунктуацыі, арфаграфічны слоўнік, граматыкі, розныя граматычныя даведнікі і лексікаграфічныя дапаможнікі, выдадзеныя з улікам гэтай пастановы, унеслі неабходную дакладнасць у правапіс слоў, урэгулявалі некаторыя ўзаемаадносіны паміж фанетычным і марфалагічным прынцыпамі беларускага правапісу.

Канец 30-х гг. – 80-я гг. XX ст. – гэта этап, калі руская мова фактычна выконвала ролю дзяржаўнай, выцесніўшы беларускую, таму што займала дамінуючае становішча ў сферах грамадска-палітычнага, адміністрацыйнага і вытворчага жыцця, дамінавала ў народнай адукацыі, рэспубліканскім друку.

Але нельга сказаць, што праца па ўдасканаленні беларускай літаратурнай мовы ў гэты час не праводзілася. Вялікую работу ў гэтым напрамку праводзілі мовазнаўцы, пісьменнікі і паэты. Новая беларуская мова імкліва праявіла і рэалізавала свае багатыя творчыя патэнцыі ва ўсіх кірунках літаратурных мастацкіх жанраў: паэзія (П.Броўка, П.Глебка, М.Танк, П.Панчанка, А.Куляшоў, Л.Геніюш, Р.Барадулін і інш.), проза (К.Чорны, М.Лынькоў, Я.Брыль, І.Мележ, У.Караткевіч, В.Быкаў, І.Шамякін, І.Навуменка, У.Арлоў і інш.), драматургія (У.Галубок, К.Крапіва, А.Маўзон, А.Макаёнак, А.Дудараў і інш.).

У 1990 г. быў прыняты Закон «Аб мовах у Рэспубліцы Беларусь», у адпаведнасці з якім беларускай мове быў нададзены статус

дзяржаўнай. Закон прадугледжваў аднаўленне беларускай мовы найперш у сферы афіцыйна-дзелавога ўжытку, у адукацыі. 14 мая 1995 г. адбыўся першы агульнарэспубліканскі рэферэндум, дзе большая частка насельніцтва выказалася за дзяржаўнае двухмоўе, г.зн. беларуская і руская мовы могуць раўнапраўна выкарыстоўвацца як дзяржаўныя ў розных сферах жыцця рэспублікі. Улічваючы большую пашыранасць рускай мовы ў беларускім грамадстве, такое раўнапраўе дзвюх моў фактычна стварае пэўныя перавагі для рускай мовы.

Тым не менш аптымістычныя падставы для паўсюднага выкарыстання беларускай мовы ў грамадскім жыцці краіны ёсць, таму што, па-першае, па дадзеных апошняга перапісу (1999), звыш 70 % насельніцтва Беларусі прызнала беларускую мову роднай, а каля 40 % жыхароў рэспублікі карыстаюцца ёю рэгулярна ў сваіх бытавых надзённых справах, дома. Звыш сямі мільёнаў носьбітаў беларускай мовы здольны ў належных сацыяльных варунках зрабіць менавіта сваю мову, родную, выпрацаваную і выпакутаваную некалькімі пакаленнямі нашых землякоў, універсальным сродкам праяўлення свайго багатага духоўнага патэнцыялу. Па-другое, нашым народам створаны адзін з найбагацейшых у Еўропе фальклор і адметнае беларускае прыгожае пісьменства, дзе прадстаўлены арыгінальны светапогляд беларусаў, адлюстраваныя на пісьме светаадчуванне і бачанне навакольнага жыцця, якія ўяўляюць сабой духоўную каштоўнасць сусветнага маштабу, бо не паўтараюць іншыя літаратуры і фальклор, не прыпадабняюцца да іх.

## §3. Месца беларускай мовы сярод іншых славянскіх моў

Усе мовы свету, колькасць якіх па розных прычынах вызначаецца спецыялістамі ў межах ад 3000 да 6000, аб'ядноўваюцца ў генетычна роднасныя сем'і. Сярод 20 такіх засведчаных сем'яў найбольш вялікай з'яўляецца індаеўрапейская, яе мовы распаўсюджаны на ўсіх кантынентах. Амаль кожны другі жыхар нашай планеты карыстаецца адной з індаеўрапейскіх моў, да якіх адносіцца і беларуская. У сваю чаргу, усе моўныя сем'і распадаюцца на групы. На еўрапейскім кантыненце самую вялікую і па колькасці сваіх носьбітаў, і па тэрыторыі распаўсюджвання групу складаюць славянскія мовы. Так, да канца 80-х гадоў XX ст. колькасць еўрапейцаў, што размаўляюць на германскіх (англійская, нямецкая, дацкая, фламандская і інш.) і раманскіх (французская, іспанская, партугальская, італьянская і інш.) мовах, складала прыблізна 180 мільёнаў

чалавек, а на славянскіх мовах – звыш 240 мільёнаў чалавек, ва ўсім жа свеце славян налічваецца каля 300 мільёнаў чалавек. Па колькасці асоб, якія карыстаюцца славянскімі мовамі, славяне размяркоўваюцца ў наступнай паслядоўнасці: рускія (159 млн.), украінцы (42,5 млн.), палякі (39 млн.), сербы і харваты (17 млн.), чэхі (10 млн.), беларусы (9,3 млн.), балгары (8,9 млн.), славакі (5 млн.), ñëàâåí öû (2 ì ëí .), ì àêåäî í öû (1,5 ì ëí .), ëóæûöê³ÿ ñåðáû (0,1 ì ëí .)[2].

Упершыню пісьмовыя звесткі пра славян сустракаюцца ў працах старажытнарымскіх і старажытнагрэчаскіх вучоных і пісьменнікаў – Герадота, Плінія, Тацыта, Пталамея і інш. Да IX ст. нашай эры гэтае адзінства распалася на тры падгрупы як па геаграфічных, так і ўласна моўных прыметах: усходняя, заходняя і паўднёвая, але моўныя адрозненні паміж імі не выходзілі за межы міждыялектных адрозненняў.

На сучасным этапе, сярод даных падгруп вылучыліся асобныя славянскія мовы: ***усходнеславянская падгрупа*** (беларуская, руская, украінская мовы); ***заходнеславянская падгрупа*** (польская, чэшская, славацкая, верхнялужыцкая, ніжнялужыцкая, кашубская мовы); ***паўднёваславянская падгрупа*** (сербская, харвацкая, балгарская, славенская, македонская мовы).

Такім чынам, ва ўсходнеславянскую падгрупу ўваходзяць усяго тры мовы, але па колькасці насельніцтва, якое размаўляе на гэтых мовах, яна самая вялікая (210,8 млн. чалавек з 240 млн.).

Роднасць славянскіх моў і іх блізкасць у адзінстве лексічнага складу, у фанетычнай сістэме, у марфалогіі і сінтаксісе тлумачацца перш за ўсё агульнасцю паходжання з адной праславянскай крыніцы, што падтрымліваецца таксама тымі пастаяннымі інтэнсіўнымі кантактамі, якія абумоўлены знешнімі геаграфічнымі, эканамічнымі, сацыяльнымі фактарамі, спрыяльнымі для захавання і пераапрацоўкі тоесных і падобных адзінак, рыс, структур у моўных сістэмах славян.

Так, ва ўсіх славянскіх мовах ужываецца большасць аднолькавых галосных і зычных гукаў, для ўсіх характэрна змяненне зычных [ г], [к], [х] на [ж], [ч], [ш], змяненне старажытных груп зычных, аглушэнне звонкіх зычных на канцы слоў і інш. Напрыклад, параўнаем некаторыя змяненні на прыкладзе беларускай і рускай моў:

| Беларуская мова | Руская мова |
|---|---|
| *на[γ]а – но[ж]ачка* | *но[г]а – но[ж]ечка* |
| *ру[к]а – ру[ч]ачка* | *ру[к]а – ру[ч]ечка* |
| *гаро[х] – гаро[ш]ак* | *горо[х] – горо[ш]ек* |
| *зу[п] (зуб), сне[х] (снег)* | *зу[п] (зуб), сне[х] (снег)* |

[2] Гл.: Супрун, А.Е. Введение в славянскую филологию / А.Е.Супрун. — Мінск: Вышэйшая школа, 1989. – С.13.

Ва ўсіх славянскіх мовах актыўна выкарыстоўваецца значная колькасць аднолькавых слоў, што абазначаюць прадметы, з'явы, паняцці, з якімі чалавек найчасцей сутыкаецца ў паўсядзённым жыцці. Да такіх можна аднесці наступныя словы: *галава, рука, маці, брат, зямля, неба, хлеб, піва, дзень, ноч, зіма, вецер, гром, дом, сцяна, каза, гара, лес, многа, мала, слова, белы, сіні* і да т.п.

Адначасова кожная славянская мова мае і свае, толькі ёй уласцівыя рысы, якімі адрозніваецца ад іншых моў. У беларускай мове, напрыклад, развіўся і пастаянна папаўняецца пласт уласнай беларускай лексікі, што ўключае такія словы, як *бацька, араты, певень, сківіца, чарот, навальніца, золак, ложак, шкарпэтка, сарочка, абшар, хвіліна, пакута, кратаць, сціплы, жабрацкі, выдатна, дрэнна* і г.д.

У беларускай графіцы адсутнічае літара ъ, у якасці раздзяляльнага знака выкарыстоўваецца '(апостраф): *сям'я, раз'езд, п'ю*. На месцы рускай літары **щ** ужываецца спалучэнне **шч**, а на месцы **и** заўсёды пішацца літара **і**, якая, дарэчы, выкарыстоўвалася і ў рускім пісьме да 1918 года.

Выразна выяўляецца адметнасць беларускай мовы і ў галіне фанетыкі: наяўнасць гука [ў] (*на ўзвышшы, воўк, праўда*); чаргаванне [л] з [ў] (*гуляла – гуляў, пісала – пісаў*); прыстаўныя гукі (*аржаны, ільняны, вугал, гэты, вокны, гісторыя, гармата, наваколле*); аканне і яканне (*войска – вайсковец, дрэва – драўляны; вёсны – вясна, зелень – зялёны*); дзеканне і цеканне (*дзеці, дзверы, Дзмітрый, цётка, ціха, Цюмень*); спецыфічныя чаргаванні [ро] – [ры], [ло] – [лы] (*бровы – брыво, глотка – глытаць*); падоўжаныя зычныя (*калоссе, палоззе, пад печчу*); афрыкаты *дж, дз* (*дождж, сяджу, дзед*).

У граматыцы беларуская мова мае наступныя асаблівасці: адсутнасць на пісьме літары **й** у канчатках прыметнікаў, дзеепрыметнікаў і парадкавых лічэбнікаў: *першы, мазгавы, віртуальны, паскораны*; гук **[н]** не ўжываецца ў асабовых займенніках пры іх скланенні і не пішацца літара **н**: *з ім, без яго;* рэдка ўжываюцца дзеепрыметнікі незалежнага стану цяперашняга часу, дзеепрыметныя звароты часта замяняюцца апісальнымі канструкцыямі: *Мальчик, гуляющий во дворе, был учеником нашего класса. – Хлопчык, які гуляў у двары, быў вучнем нашага класа*; прыназоўнік **па** ўжываецца з месным склонам назоўнікаў: *па вуліцах і плошчах*; часткова захаваліся назоўнікі ў форме былога клічнага склону: *браце, народзе, Іване* і г.д.; рэдка ўжываюцца кароткія формы прыметнікаў: *Як многа іх (грыбоў), і ўсе таўсматы, прыземісты, карэнкаваты, чорнагаловы, паўнацелы, як тонкі кужаль, знізу белы;* на канцы

дзеясловаў першага спражэння ў трэцяй асобе адзіночнага ліку цяперашняга часу адсутнічае зычны **т**: *ён піша, яна прыедзе*; даволі шырока ўжываецца катэгорыя зборнасці (*галлё, збожжа, бярвенне*); у формах назоўнікаў роднага склону адзіночнага ліку мужчынскага роду часцей ужываецца канчатак –у (-ю): *экзамену, заліку, ганарару, юбілею, ягадніку*; для вышэйшай ступені параўнання прыметнікаў выкарыстоўваецца канструкцыя з прыназоўнікам **за:** *саладзейшы за мёд, маладзейшы за мяне*; ужываюцца сінтаксічныя канструкцыі з прыназоўнікам **да**: *падысці да лесу*.

## §4. Формы беларускай нацыянальнай мовы

Як і іншыя нацыянальныя мовы, беларуская мова існуе ў дзвюх формах: літаратурнай і дыялектнай.

### 4.1. Беларуская літаратурная мова і яе нормы

Беларуская літаратурная мова – асноўная, вышэйшая форма нацыянальнай мовы. Яна апрацоўвалася і творча ўзбагачалася многімі пакаленнямі пісьменнікаў, дзеячаў культуры і вучоных. Літаратурная мова ўжываецца ў розных сферах жыцця і дзейнасці беларускага народа, і гэта абумовіла выпрацоўку ў ёй разгалінаванай сістэмы функцыянальных стыляў.

Адна з істотных прымет літаратурнай мовы – яе ўнармаванасць. «Моўная норма – сукупнасць найбольш устойлівых, традыцыйных элементаў мовы, гістарычна адабраных і замацаваных грамадскай моўнай практыкай у якасці агульнапрынятых правілаў»[3]. Моўная норма – катэгорыя гістарычная, адносна ўстойлівая і адначасова зменлівая.

Беларуская літаратурная мова, як і іншыя мовы, мае свае нормы:

➢ **акцэнталагічныя нормы** – правільная пастаноўка націску. Напрыклад: *в**ы**падак, непры**я**цель (*вораг*), н**е**прыяцель (*нядобразычлівец*), пасла**не**ц* і г.д.;

➢**арфаграфічныя нормы** – напісанне слоў, якое вызначана пэўнымі правіламі. Так, па-беларуску вымаўляецца [*гарацк'і*], [*с'н'эх*], [*стушка*], а пішацца *гарадскі*, *снег*, *стужка*;

➢ **арфаэпічныя нормы** – правільнае вымаўленне гукаў і іх спалучэнняў. Напрыклад, нормай з'яўляецца перадача ў вымаўленні мяккіх [з'], [с'] перад наступнымі мяккімі зычнымі [*с'ц'ах*],

---

[3] Сцяцко, П.У. Слоўнік лінгвістычных тэрмінаў / П.У.Сцяцко, М.Ф.Гуліцкі, Л.А.Антанюк. – Мінск: Выш. школа, 1990. – С.83.

[*з’н’эс’ц’і*], аглушэнне звонкіх зычных на канцы слова [*голуп*], [*сат*], вымаўленне падоўжанага гука [ч] на месцы спалучэнняў [дч], [тч] [*выклачык*], [*л’очык*] і інш.;

➢ **лексічныя нормы** – правільны выбар слова і дарэчнасць яго прымянення ў агульнавядомым значэнні і агульнапрынятых спалучэннях. Напрыклад, не ўсе словы, якія ўжываюцца ў беларускай мове, уваходзяць у літаратурную мову. Так, не ўключаюцца словы, якія маюць грубы ці непрыстойны сэнс (*боўдзіла, сапляк, плявузгаць*), а таксама жаргонныя і вузкадыялектныя словы, ужыванне якіх абмежавана пэўным асяроддзем або мясцовай гаворкай (*вуркаган /злодзей/, катлець /мерзнуць/, кропна /жудасна/, гальнік /дзяркач/*);

➢ **марфалагічныя нормы** – правільнае выкарыстанне формаў слоў. Напрыклад, у беларускай мове назоўнікі м.р. у форме Р.скл. адз.л. могуць мець канчатак -*а (-я)* або -*у (-ю) вучня, аленя, ветру, снегу* (параўн. з рускай мовай *ученика, оленя, ветра, снега*), а таксама неабходна ведаць, што род або лік назоўнікаў беларускай мовы не заўсёды супадае з родам ці лікам назоўнікаў рускай мовы (параўн.: /бел./ *гусь* (ж.р.) – /руск./*гусь* (м.р.), *сабака* (м.р.) – *собака* (ж.р.), *дзверы* (мн.лік) – *дверь* (адз.лік);

➢ **пунктуацыйныя нормы** – правільная пастаноўка знакаў прыпынку. Напрыклад, коска ставіцца паміж аднароднымі членамі сказа пры адсутнасці злучнікаў: *Добрай раніцы ў полі вятрам-дабрадзеям, каласам умалотным, высокім, рупным жнеям* (М.Т.);

➢ **сінтаксічныя нормы** – правільная пабудова словазлучэнняў, сказаў, тэкстаў. Напрыклад, у словазлучэннях, дзе галоўнае слова лічэбнікі *два (дзве), абодва (абедзве), тры, чатыры*, залежныя словы-назоўнікі ўжываюцца ў форме Н.скл. мн.л.: *два берагі, тры сталы, чатыры студэнты*. У рускай мове ў такіх словазлучэннях назоўнікі маюць форму Р.скл. адз.л.: *два берега, три стола, четыре студента*;

➢ **словаўтваральныя нормы** – правільнае ўтварэнне новых слоў у адпаведнасці з законамі беларускай мовы. Напрыклад, аддзеяслоўныя назоўнікі найчасцей утвараюцца ад інфінітываў незакончанага трывання. Калі дзеяслоў не мае інфінітыва незакончанага трывання або калі формы інфінітыва абодвух трыванняў супадаюць, то ў аддзеяслоўных назоўніках захоўваецца націск інфінітыва закончанага трывання: *спатка́ць – спатка́нне, каха́ць – каха́нне*; прыметнікі на -*оўскі* ўтвараюцца ад уласных назоўнікаў з націскным канчаткам: *Маст**ы** – мастоўскі, Літв**а** – літоўскі*;

➢ **стылістычныя нормы** – выкарыстанне моўных сродкаў у адпаведнасці з пэўным стылем. Напрыклад, лічыцца стылістычнай памылкай нематываванае ўжыванне ў адным стылі слоў, выразаў,

сінтаксічных канструкцый, уласцівых іншаму стылю мовы, найчасцей – выкарыстанне ў адным кантэксце рознастылёвай (кніжнай – гутарковай) лексікі: 1. *Я працавала ў школе амаль цэлы год і вельмі прывыкла да маіх вучняў, да гэтых хітрых* ***мардашак****.* 2. *Пасля купальскіх светкаванняў яшчэ з тыдзень кожны гаспадар шукае свае вароты. Гэта* ***вынік дзейнасці*** *вясковай моладзі.*

Моўныя нормы адлюстроўваюць самыя характэрныя рысы нашай мовы і з'яўляюцца абавязковымі для ўсіх, хто карыстаецца ёю. Дзякуючы нормам дасягаецца адзінства мовы, разуменне паміж людзьмі ў працэсе моўных зносін.

## 4.2. Дыялектная мова

Дыялектная мова – гэта мова народа (нацыі або народнасці), якая выступае ў выглядзе мясцовых гаворак.

Разнастайныя мясцовыя гаворкі, што бытуюць на тэрыторыі Беларусі на аснове свайго падабенства аб'ядноўваюцца ў тэрытарыяльныя дыялекты, якія ў сукупнасці і ўтвараюць дыялектную мову. На дыялекталагічных картах можна ўбачыць два проціластаўленыя адзін аднаму дыялекты: паўночна-ўсходні і паўднёва-заходні. Сярэднебеларускія гаворкі спалучаюць некаторыя рысы паўночна-ўсходняга і паўднёва-заходняга дыялектаў, а таксама маюць і свае спецыфічныя асаблівасці, што дае падставу выдзяляць іх у асобную міждыялектную групу. Два дыялекты з міждыялектнай пераходнай групай гаворак складаюць асноўны масіў сучаснай беларускай дыялектнай мовы. Акрамя гэтага, у склад сучаснай беларускай дыялектнай мовы ўваходзіць яшчэ адасобленая група заходнепалескіх, ці брэсцка-пінскіх, гаворак. Яны значна адрозніваюцца ад усіх іншых гаворак асноўнага беларускага дыялектнага масіву.

Такім чынам, два дыялекты і сярэднебеларуская група гаворак – аснова сучаснай беларускай дыялектнай мовы.

Кожны беларускі дыялект мае свае спецыфічныя асаблівасці.

| **Паўночна-ўсходні дыялект** | **Паўднёва-заходні дыялект** |
|---|---|
| • дысімілятыўнае аканне (праяўленне гука [а] у першым пераднаціскным складзе пасля цвёрдых зычных пры наяўнасці пад націскам любога гука, акрамя [а]): *выда, ныга, зімля*; | • недысімілятыўнае аканне (галосныя [о], [э] вымаўляюцца як [а] незалежна ад таго, які гук пад націскам): *вада, нага, зямля*; |

| | |
|---|---|
| • цвёрды і мяккі гук [р]: *рака, трэба, бярёза*; | • цвёрды гук [р]: *рака, трэба, бяроза*; |
| • канчаткі *–аць, –эць (-ець)* у дзеясловах 3-й асобы адзіночнага ліку I спражэння: *кажаць, бярэць, нясець*; | • прыстаўны [г] у словах тыпу *гавечка, гуліца, гараць*; |
| • наяўнасць суфікса *–онак (–ёнак)* у назвах маладых істот: *цялёнак, ягнёнак*; | • наяўнасць дыфтонгаў (спалучэнні складовага і нескладовага галоснага ў межах аднаго склада) [уо], [іе]: *дуом, муост, ліес, сіена*; |
| • наяўнасць канчаткаў *–ый (–ій), –эй (–ей)* у прыметніках мужчынскага роду адзіночнага ліку: *добрый, сіній, маладой, плахей*. | • наяўнасць канчатка *–му* ў дзеясловах будучага часу: *казацьму, рабіцьму, хадзіцьму*; |
| | • наяўнасць постфікса *–са* ў зваротных дзеясловах: *спадзяваласа, памыласа, апранаемса*. |

Сярэднебеларускія пераходныя гаворкі маюць асаблівасці і аднаго, і другога дыялекту, але разам з тым ёсць і свае адметныя рысы, напрыклад, адсутнасць мяккага [ц’] у 3-й асобе дзеясловаў II спражэння (*ходзя, робя, купя, гавора*), вымаўленне [о] на месцы [а] перад [ў] (*проўда, казоў*) і інш.

Брэсцка-пінскія (заходнепалескія) гаворкі істотна адрозніваюцца ад усіх іншых гаворак асноўнага масіву беларускай дыялектнай мовы, у іх многа агульнага з украінскай мовай. Так, палескай групе гаворак уласціва оканне[4] (*вода, нога*); цвёрдыя зычныя (*вэчор, зыма*); вымаўленне [і] на месцы [э] (*ліс, хліб*); спалучэнне [мн’] перад [а] (*мнята, мнясо*); канчатак *–ові* ў давальным і месным склонах (*братові, сынові*); інфінітыў на *–ты* (*ходыты, просыты, купыты*) і інш.

Беларускія дыялекты і асобныя гаворкі ўнутры іх адрозніваюцца таксама лексікай і словаўтварэннем. Аднак, нягледзячы на ўсе гэтыя адрозненні, агульных элементаў у іх значна больш. Таму наяўнасць тэрытарыяльных дыялектаў не парушае адзінства беларускай нацыянальнай мовы.

У наш час новыя дыялекты не толькі не ўтвараюцца, але паступова сціраюцца адрозненні паміж існуючымі. У прыватнасці,

[4] Оканне – фанетычная з’ява, пры якой галосныя [о] і [а] пасля цвёрдых і зацвярдзелых зычных у першым складзе перад націскам адрозніваюцца.

страчваюцца мясцовыя асаблівасці, разбураюцца дыялектныя межы, звужаецца іх роля ў працэсе зносін. Тым не менш дыялекты яшчэ жывуць. Яны – апора і аснова нацыянальнай мовы. Гэта – моўныя сродкі, выпрацаваныя і адшліфаваныя на працягу стагоддзяў нашымі папярэднікамі. Для нацыянальнай мовы яны – скарбніца, якую мы павінны захоўваць і берагчы. У многіх краінах свету дыялекты ахоўваюцца як нацыянальнае багацце. На дыялектах друкуецца фальклор, ствараецца літаратура, у школах вучаць, як карыстацца імі. На некаторых дыялектах мастацкая літаратура існуе стагоддзі.

Аднак дыялектнае маўленне, натуральнае ў гутарцы з землякамі, недапушчальнае ў навуковых і афіцыйных зносінах. Асабліва адмоўна характарызуе маўленчую культуру чалавека ўжыванне дыялектных формаў, дыялектнага акцэнту пры карыстанні літаратурнай мовай. Каб пазбегнуць дыялектных звычак маўлення, пазбавіцца ад перамешвання літаратурнага і дыялектнага, трэба добра ўсведамляць розніцу паміж літаратурнымі і дыялектнымі моўнымі сродкамі, валодаць нормамі сучаснай беларускай літаратурнай мовы.

## §5. Моўная сітуацыя на Беларусі

Рэспубліка Беларусь з’яўляецца шматнацыянальнай дзяржавай з шырока распаўсюджаным двухмоўем (білінгвізмам). «Двухмоўе – гэта папераменнае карыстанне дзвюма мовамі. Сэнс паняцця «двухмоўе» вынікае з выразу дзве мовы. Такая ж структура яго лацінскага эквівалента білінгвізм (bi – двойчы і lingua – мова)»[5].

На нашай планеце жывуць многія народы. Яны знаходзяцца ў пастаянным кантакце адзін з адным. Вядома, напрыклад, што 3–4 тысячы народаў зямлі сёння ўтвараюць усяго каля 200 дзяржаўных аб’яднанняў. Моўныя кантакты, якія дыктуюцца эканамічнымі, культурнымі і іншымі сувязямі, патрабуюць вывучэння і выкарыстання ў моўнай практыцы дзвюх і больш моў. Існуюць і іншыя матывы авалодвання дзвюма ці некалькімі мовамі (атрыманне адукацыі, патрэбы навуковай дзейнасці і г.д.).

Вылучаюць наступныя разнавіднасці двухмоўя:

• **індывідуальнае**, калі дзвюма мовамі валодаюць толькі асобныя члены калектыву;

• **групавое**, калі двухмоўнымі з’яўляюцца цэлыя групы або асобныя сацыяльныя слаі;

[5] Беларуская мова: Энцыклапедыя / пад рэд. А.Я.Міхневіча. – Мінск: БелЭН, 1994. – С.174.

• **поўнае**, ці суцэльнае, калі двухмоўе з'яўляецца характэрным для ўсіх сацыяльна-культурных груп народа.

Можна гаварыць і пра нацыянальнае двухмоўе, калі яно пашырана сярод прадстаўнікоў усёй нацыі. Дзяржаўным двухмоўе называюць тады, калі ў адной краіне статус дзяржаўнай, ці афіцыйнай, маюць дзве мовы. Пры гэтым дзяржаўнае двухмоўе можа суправаджацца індывідуальным аднамоўем, калі насельніцтва краіны распадаецца на некалькі аднамоўных калектываў.

Двухмоўе – з'ява складаная, шматбаковая. Яна можа разглядацца ў трох аспектах: псіхалагічным, педагагічным і сацыялінгвістычным.

**Псіхалагічны аспект двухмоўя** звязаны з асаблівасцямі псіхалагічнага складу індывіда, з яго разумовымі здольнасцямі, эмацыянальнай прыстасаванасцю і г.д., з праблемай пераключэння з аднаго моўнага кода на другі.

**Педагагічны бок двухмоўя** закранае розныя аспекты навучання другой мове, у тым ліку і ўплыў адной мовы на працэс засваення іншай.

**Сацыялінгвістычная характарыстыка двухмоўя** грунтуецца на такіх параметрах як: сфера выкарыстання першай і другой мовы; ступень авалодання мовамі; набор сацыяльна-функцыянальных кампанентаў моў, якія выкарыстоўвае двухмоўны індывід (літаратурная мова, дыялект, жаргон і г.д.); размеркаванне камунікацыйных функцый паміж мовамі; кантынгент ахопленых двухмоўем членаў соцыуму і шырыня выкарыстання другой мовы; ацэнка двухмоўнымі індывідамі ўласнага двухмоўя як сацыяльна-лінгвістычнага феномена.

На тэрыторыі Беларусі двухмоўе існавала здаўна, хоць яго характар і састаўныя кампаненты мяняліся. Так, у перыяд Вялікага княства Літоўскага існавала беларуска-царкоўнаславянскае пісьмовае і вуснае двухмоўе. З пашырэннем на тэрыторыі Беларусі польскай мовы пачало складацца беларуска-польскае двухмоўе. Пазней шырока развіваецца беларуска-рускае двухмоўе.

Сучасная моўная сітуацыя на Беларусі характарызуецца пераважна суіснаваннем і выкарыстаннем беларускай і рускай моў і можа быць вызначана як беларуска-рускае двухмоўе. Нацыянальнае беларуска-рускае двухмоўе прадстаўлена:

• індывідуальным беларуска-рускім двухмоўем, калі побач з роднай беларускай мовай двухмоўны індывід выкарыстоўвае і рускую мову;

• індывідуальным руска-беларускім двухмоўем, калі побач з рускай мовай двухмоўны індывід выкарыстоўвае беларускую мову;

• індывідуальным беларускім ці рускім аднамоўем.

Побач з беларуска-рускім двухмоўем на тэрыторыі Беларусі ў месцах сумеснага пражывання беларусаў з палякамі, літоўцамі, латышамі існуе адпаведнае беларуска-польскае, беларуска-літоўскае, беларуска-латышскае двухмоўе. Для небеларускага насельніцтва яно мае характар польска-беларускага, літоўска-беларускага і г.д. Паколькі ў гэтых раёнах функцыянуе і руская мова, можна гаварыць, напрыклад, пра мясцовае беларуска-польска-рускае і г.д. шматмоўе.

Сёння і беларуская, і руская мовы выкарыстоўваюцца ў большасці важнейшых сфер дзейнасці чалавека.

У сітуацыі двухмоўя ўзаемадзеянне моў, якія кантактуюць, прыводзіць да **інтэрферэнцыі**, г.зн. пры маўленні на адной мове ўжываюцца элементы другой мовы. Іншымі словамі інтэрферэнцыя прыводзіць да парушэння нормаў суіснуючых моў. Узровень інтэрферэнцыі залежыць ад ступені авалодання другой мовай, ад умення свядома адрозніваць факты розных моў і шэрага іншых прычын. Беларуска-руская і руска-беларуская інтэрферэнцыя – з'ява даволі распаўсюджаная і закранае ўсе сферы моўнай сістэмы:

• фанетыку, калі, напрыклад, у рускай мове двухмоўнага індывіда сустракаюцца такія беларускамоўныя фанетычныя рысы, як цвёрдыя [р] і [ч] на месцы рускіх мяккіх [р'] і [ч'], дзеканне і цеканне, ярка выражанае аканне і г.д.;

• акцэнтуацыю, калі двухмоўны індывід размаўляе, напрыклад, на беларускай мове, а выкарыстоўвае націск рускай мовы: *зá руку* (замест *за рукý*), *глі΄няны (*замест *гліня΄ны), крапі΄ва (*замест *крапівá)* і г.д.

• марфалогію, калі граматычнае афармленне рускіх і беларускіх лексем не адпавядае норме, напрыклад, карыстаючыся рускай мовай двухмоўны індывід можа няправільна ўжываць родавыя формы назоўнікаў (*золотой медаль* замест *золотая медаль*, *порванный шинель* замест *порванная шинель*), канчаткі назоўнікаў множнага ліку (*озёры* замест *озёра*, *окны* замест *окна*) і г.д.

• лексіку, калі білінгв, напрыклад, у беларускай мове ўжывае выраз *гуляць ролю* замест *адыгрываць ролю*, г.зн. выкарыстоўвае слова з неўласцівым яму ў дадзенай мове значэннем;

• сінтаксіс, калі пры карыстанні рускай мовай білінгв уводзіць у яе сінтаксічныя канструкцыі беларускай мовы, напрыклад, *смеяться с него* замест *смеяться над ним*, *вернуться со школы* замест *вернуться из школы* і да т.п.

Блізкароднасны характар беларускай і рускай моў абумоўлівае шматлікасць і ўстойлівасць інтэрферэнцыйных памылак пры

маўленні ў той ці іншай мове. Аднак яны, як правіла, не ўплываюць на працэс разумення выказванняў як на беларускай, так і на рускай мовах. Таму праблема інтэрферэнцыі для беларуска-рускага двухмоўя стаіць, пераважна, як праблема культуры беларускай і рускай моў ва ўмовах двухмоўя.

## ПЫТАННІ І ЗАДАННІ

1. Як вы разумееце сэнс выказвання «Духоўная самабытнасць кожнага народа выяўляецца ў родным слове»?
2. Назавіце асноўныя этапы фарміравання і развіцця беларускай мовы.
3. Якое месца займае беларуская мова сярод іншых славянскіх моў?
4. Што такое моўная норма? Якія нормы характэрны для вуснай формы літаратурнай мовы, а якія – для пісьмовай формы літаратурнай мовы?
5. Што складае аснову беларускай дыялектнай мовы?
6. Пералічыце асноўныя адрозненні паўночна-ўсходняга дыялекту ад паўднёва-заходняга.
7. Дайце ацэнку сучаснай моўнай сітуацыі на Беларусі.
8. Што такое білінгвізм? Назавіце разнавіднасці білінгвізму.
9. Ахарактарызуйце тры аспекты двухмоўя (псіхалагічны, педагагічны і сацыялінгвістычны).
10. Што такое інтэрферэнцыя? Якія ўзроўні моўнай сістэмы закранае інтэрферэнцыя?

## ПРАКТЫКАВАННІ

**1. Прачытайце наступныя тэксты. Выдзеліце ў іх важныя палажэнні. Выпішыце ключавыя сказы. Н аснове тэкстаў VII і VIII складзіце апорны план і пабудуйце вуснае выказванне.**

I. Як ад нараджэння звяры, што ходзяць у пустыні, ведаюць ямы свае; птушкі, што лятаюць у паветры, ведаюць гнёзды свае; рыбы, што плаваюць па моры і ў рэках, чуюць віры свае; пчолы і падобныя ім бароняць вуллі свае, – гэтак і людзі, дзе нарадзіліся і ўскормлены, у Бога верачы, да таго месца вялікую ласку маюць. *(Францыск Скарына)*

II. На беларускай мове, якую называюць русінскай альбо літоўска-русінскай... гаворыць каля дзесяці мільёнаў чалавек; гэта самая

багатая і самая чыстая гаворка, яна ўзнікла даўно і цудоўна распрацавана. У перыяд незалежнасці Літвы вялікія князі карысталіся ёю для сваёй дыпламатычнай перапіскі. (*Адам Міцкевіч, 1842 год*)

III. Родная мова ў дакладным значэнні ёсць самая любімая спадчына нацыі; праз яе пасрэдніцтва лягчэй за ўсё пранікнуць у душу нацыі, закрануць пачуцці, праясніць розум, падштурхнуць адпаведную думку, заклікаць да дзеяння, змагацца са страсцямі, ствараць дабрачыннасць! (*Аляксандр Ельскі*)

IV. ...Закладзі спадчыну ў мову – перш за ўсё! Бо выдзьмуць вятры гісторыі і напамінак пра тых, хто нядбала адмахваецца ад яе як ад нечага брыдотнага і аджытага, або – горш! – усчынае дратаваць роднае з родных – сваё Слова! Адно яно будзе жыць, бо ў мове закладзена вялікая жыццетрываласць, і нездарма дайшло ад старажытных «У пачатку было Слова, і Слова было ад Бога, і Бог быў Слова». *(Максім Лужанін)*

V. Асновавытворным у чалавеку павінна быць усведамленне сябе часцінкай Сусвету. Нельга адчуваць сябе часткай адзінага цэлага, не наладзіўшы кантакту з іншымі людзьмі. А для гэтага трэба валодаць Словам. Слова – сродак выражэння свайго «Я» і стварэння незалежнай творчай асобы.

Слова – носьбіт духоўнага, узвышанага. Менавіта з яго дапамогай можна вылечыць душу сапсаваную, загубленую. Пра ўнутраны свет чалавека часцей за ўсё мяркуюць па яго мове багатай, эмацыянальнай ці шэрай, беднай, нуднай. (*Паводле Дзмітрыя Ліхачова*)

VI. Пры авалоданні мовай мы вучымся думаць.

Сама свядомасць наша будуецца сродкамі мовы. Таму нашы думкі і пачуцці з’яўляюцца да нас у выглядзе думак і пачуццяў таго асяроддзя, якое нас выхавала, грамадства, у якім мы жывём, народа, да якога належым.

І свядомасць простага чалавека, і геній найвялікшага паэта, што выражаюцца ў адной мове, глыбока звязаны між сабой, бо народжаны ў адзіным улонні роднай мовы, сілкуюцца аднымі агульнымі каранямі. Гэтае адзінства асновы і стварае галоўным чынам нацыянальнае адзінства. Мова – адна з асноўных, характэрных прымет нацыі. Гэта як бы сама тканіна нацыянальнасці, другая, унутраная радзіма, улонне душы, у якой нараджаюцца наша свядомасць і наша асоба. *(Паводле Барыса Казанскага)*

VII. На вышэйшае жыццё, на глыбіню думкі запазычанай, чужой мовы не хопіць, менавіта таму, што яна нам усё ж будзе аставацца чужой; дзеля гэтага патрэбна мова родная, з якой, так ска-

заць, нараджаюцца... Толькі засвоіўшы ў магчымай дасканаласці першапачатковы матэрыял, гэта значыць, родную мову, мы будзем здольны ў магчымай дасканаласці засвоіць і мову замежную, але не раней... І вось гэтага «матэрыялу» мы самі пазбаўляем сваіх дзяцей, – дзеля чаго? Каб зрабіць іх няшчаснымі, бясспрэчна. Мы пагарджаем гэтым матэрыялам, лічым грубай і падкапытнай мову, на якой непрыстойна выказваць велікасвецкую думку... Ну, дык ведайце ж, ёсць такая таямніца прыроды, закон яе, паводле якога толькі той мовай можна валодаць у дасканаласці, з якой нарадзіўся, гэта значыць якой размаўляе твой народ, да якога належыце вы... *(Фёдар Дастаеўскі)*

VIII. Ці не траплялася вам, сябры вучыцелі, прачытаць калі-колечы дзецям што на іх роднай мове! Што вы тады бачылі? Я часта чытаў сваім вучням газету, байкі з календара і вучыў беларускія вершы. Душа цешыцца, як чытаеш што ім на іх роднай, добра зразумелай мове. Уваходжу ў школу з «Нашай нівай», зараз сціхае гул і праносіцца радасны шэпт: «Будзе чытаць вучыцель папросту, ціха!» Мігам робіцца ў школе цішыня і ўсе вочкі глядзяць на мяне, як я раскрываю газету і шукаю, што б такое пачытаць ім. Ціхутка. Я пачынаю чытаць і ўсе слухаюць так, каб хоць і аднаго слова не прапусціць. Чытаю казку і дачытаўся да смешнага месца – разам, як па загаду, праносіцца вясёлы смех, і канца яму, здаецца, няма, я і кажу: «Будзе, даволі ўжо», – і ціш зноў мёртвая. Прачытаў адну казку, прачытаў верш і кажу: «Будзе на сягоння ўжо». – «Не, яшчэ пачытайце, яшчэ, яшчэ...» Чытаю яшчэ, і, мусіць, каб чытаў усю ноч, то не перасталі б дзеці слухаць. А возьмеш чытаць па-расейску – не тое: хлопцы – адзін спіць, а другі штоўхае таварыша ў бок, трэці смяецца або гаворыць. Або даеш навучыцца на памяць які-колечы расейскі верш – бяда: тлумачыш, тлумачыш кожнае слова, аж абрыдне, і рады няма. Навучыцца і сыпле, як той цецярук, – нічагусенька не разбярэш.

А чаму? Бо ён гаворыць толькі языком, а душа яго не ўнікае ў тое, што ён гаворыць, бо яно яму чужое. А дай вывучыць родны верш, зразу з ахвотай прымуцца і скажуць так, што міла паслухаць. Вось гэта гаворыць яго маладому сэрцу, вось гэта яму не чужое, а яго роднае, дарагое яму. (*М.Арол*)

**2. Прачытайце зменены і дапоўнены ў 1998 годзе «Закон аб мовах у Рэспубліцы Беларусь». Скажыце, у якой сферы грамадскага жыцця Закон прадугледжвае аднаўленне беларускай мовы? Заканспектуйце артыкулы 8, 21–25, 27, 29.**

**3. Працягніце разважанне на тэму «Мова. Радзіма. Асоба».**

Нацыянальная мова – нацыянальная гісторыя – нацыянальная культура – духоўнае багацце. Гэтыя паняцці, на жаль, не заўсёды звязваюцца ў свядомасці людзей як звёны аднаго ланцуга, як паняцці ўзаемазначныя і ўзаемазалежныя. Але...

**4. Разгледзьце індаеўрапейскую моўную сям'ю. Адзначце, да якой групы адносіцца беларуская мова?**

| ГРУПЫ | МОВЫ |
|---|---|
| Індыйская | Хіндустані, раджастхані, пенджабі, бенгалі, орыя, біхары, маратхі, гуджараці, сіндхі і інш., новаіндыйскія мовы, цыганская, мёртвыя мовы – ведыйская, санскрыт, пракрыты, палі. |
| Іранская | Персідская, таджыкская, курдская, белуджская, талышская, тацкая, гілянская, афганская (пушту), шугнанская, рушанская, ваханская, ягнопская, асецінская, мёртвыя мовы – старажытнаперсідская, медыйская, сагдыйская, парфянская, скіфская, харэзмійская і інш. |
| Балтыйская | Літоўская, латышская, мёртвая мова – пруская. |
| Германская<br>а) паўночнагерманская падгрупа<br>б) заходнегерманская падгрупа<br><br>в) усходнегерманская падгрупа | <br>Дацкая, нарвежская, шведская, ісландская, фарэрская.<br>Нямецкая, англійская, нідэрландская (галандская), фламандская, фрызская, ідыш (новаяўрэйская).<br>Мёртвыя мовы – гоцкая, бургундская, вандальская. |
| Раманская | Іспанская, французская, партугальская, італьянская, правансальская, сардзінская, каталанская, румынская, малдаўская, рэтараманская. Мёртвыя мовы – лацінская і інш. |
| Кельцкая<br>а) гэльская падгрупа<br><br>б) брыцкая падгрупа<br><br>в) гальская падгрупа | <br>Ірландская, шатландская, мова вострава Мэн.<br><br>Брэтонская, уэльская (валійская), мёртвая мова – корнская (карнуэльская).<br>Гальская. |

| ГРУПЫ | МОВЫ |
|---|---|
| Славянская | |
| а) усходнеславянская | Беларуская, руская, украінская. |
| б) заходнеславянская | Польская, кашубская, чэшская, славацкая, сербалужыцкая. Мёртвая мова – палабская. |
| в) паўднёваславянская | Балгарская, македонская, сербскахарвацкая, славенская. Мёртвая мова – стараславянская. |
| Асобныя мовы | Грэчаская, албанская, армянская. Мёртвыя мовы – старажытнагрэчаская, сярэднягрэчаская (візантыйская). |

**5. Прачытайце тэксты на беларускай, рускай і ўкраінскай мовах. Знайдзіце і выпішыце агульныя словы для ўсіх трох моў і словы, якія ўжываюцца толькі ў адной з гэтых моў.**

**I**. Для педагогического такта учителя большое, а иногда решающее значение имеют такие его волевые черты, как выдержка и самообладание. Конечно, это не значит, что учитель должен всегда, что бы ни случилось, быть абсолютно спокойным. Он может иногда и вспыхнуть, взорваться, как говорил А.С.Макаренко, но такие свои вспышки он должен всегда контролировать. В состоянии, близком к аффекту, очень трудно принять правильное решение. Было бы лишним приводить примеры грубой бестактности, которую допускают учителя, утратившие выдержку и самообладание. Достаточно только сказать, что вместе с потерей выдержки и самообладания педагог нередко теряет свой авторитет, а то и право на свою профессию. (*Сацыяльная педагогіка, с.82–83*)

Для педагагічнага такту настаўніка значнае, а іншы раз вырашальнае значэнне маюць такія яго валявыя рысы, як вытрымка і самавалоданне. Канечне, гэта не значыць, што настаўнік павінен заўсёды, што б ні здарылася, быць абсалютна спакойным. Ён можа калі-нікалі і ўспыхнуць, узарвацца, як гаварыў А.С.Макаранка, але такія свае ўспышкі ён павінен заўсёды кантраляваць. У стане, блізкім да афекту, вельмі цяжка прыняць правільнае рашэнне. Было б празмерным прыводзіць прыклады грубай бестактоўнасці, якую дапускаюць настаўнікі, якія страцілі вытрымку і самавалоданне. Дастаткова толькі сказаць, што разам са стратай вытрымкі і самавалодання педагог нярэдка губляе свой аўтарытэт, а іншы раз і права на сваю прафесію. (*Сацыяльная педагогіка, с.82–83*)

Для педагогічного такту вчителя велике, а інколи і вирішальне значення мають такі його вольові риси, як витримка і самоволодіння. Звичайно, це не означає , що учитель повинен завжди, що би не сталося, бути абсолютно спокійним. Він може іноді і спалахнути, вибухнути, як говорив О.С. Макаренко, але такі свої спалахи він повинен завжди контролювати. В стані, близькому до афекту, дуже важко прийняти правильне рішення. Було би зайвим наводити приклади грубої безтактності, яку допускають учителі, що втратили витримку і самоволодіння. Достатньо лише сказати, що разом із втратою витримки і самоволодіння педагог часто втрачає свій авторитет, а іноді й право на свою професію. (*Сацыяльная педагогіка, с.82–83*)

**II.** Чтение с лица (чтение с губ) – зрительное восприятие речевой мимики говорящего человека, позволяющее понимать устную речь в условиях затрудненного или нарушенного слухового восприятия. Употреблявшийся ранее термин «чтение с губ» в современной сурдопедагогической литературе используется все реже, поскольку недостаточно отражает многообразие воспринимаемых выразительных движений.

Лицам с нарушениями слуха чтение с лица позволяет в некоторой степени компенсировать дефект слухового восприятия речи. Однако зрительные сигналы отличаются недостаточной четкостью и дифференцированностью. Поэтому успешное овладение чтением с лица требует предварительного освоения большого словарного запаса и грамматических правил. У глухих и слабослышащих детей навыки чтения с лица формируются лишь на основе обучения речи. (*ДэфСД, с.71*)

Чытанне з твару (чытанне з губ) – зрокавае ўспрыняцце маўленчай мімікі чалавека, які гаворыць. Яно дазваляе разумець вуснае маўленне ва ўмовах цяжкага ці парушанага слыхавога ўспрыняцця. Тэрмін «чытанне з губ», які выкарыстоўваўся раней, у сучаснай сурдапедагагічнай літаратуры выкарыстоўваецца рэдка, таму што недастаткова адлюстроўвае разнастайнасць успрымаемых выразных рухаў.

Асобам з парушэннем слыху чытанне з твару дазваляе ў некаторай ступені кампенсаваць дэфект слыхавога ўспрыняцця маўлення. Аднак зрокавыя сігналы адрозніваюцца недастатковай выразнасцю і дыферэнцыйнасцю. Таму паспяховае авалодванне чытаннем з твару патрабуе папярэдняга засваення вялікага слоўнікавага запасу і граматычных правіл. У глухіх дзяцей і дзяцей, якія маюць слабы слых, навыкі чытання з твару фарміруюцца толькі на аснове навучання маўленню. (*ДэфСД, с.71*)

Читання з обличчя (читання з губ) – це зорове сприйняття мовної міміки людини, яка говорить. Воно дозволяє розуміти усну мову в умовах затрудненого чи порушеного слухового сприйняття. Термін «читання з губ», що вживався раніше, в сучасній сурдопедагогічній літературі використовується все менше, оскільки недостатньо відображає різноманітність виразных для сприйняття рухів.

Особам з порушеннями слуху читання з обличчя дозволяє в деякій мірі компенсувати дефект слухового сприйняття мови. Однак зорові сигнали відрізняються недостатньою чіткістю і диференційованістю. Тому успішне володіння читанням з обличчя вимагає попереднього засвоєння великого словникового запасу і граматичних правил. У глухих дітей, а також у дітей, які мають слабий слух, навики у читанні з обличчя формуються лише на базі вивчення мови. (*ДэфСД, с.71*)

**6. Перакладзіце тэкст на беларускую мову. Падкрэсліце словы, агульныя для рускай і беларускай моў. Якія нормы беларускай літаратурнай мовы адлюстраваны ў перакладзеным тэксце?**

Речевая деятельность формируется и функционирует в тесной связи со всей психикой ребёнка в целом, с различными её процессами, протекающими в сенсорной, интеллектуальной, аффективно-волевой сферах.

Раскрытие индивидуального своеобразия и протекании тех или иных психических процессов у ребёнка позволяет понять аномальное протекание того или иного речевого нарушения. Так, при ослабленном зрении, когда компенсаторные возможности зрительного анализатора снижены, такие нарушения, как алексия и аграфия, будут протекать в более тяжёлой форме, хотя природа и степень этих нарушений такие же, как и в случаях благоприятного компенсаторного фона.

Чаще всего объектами логопедического изучения и воздействия являются состояния, когда сам патологический процесс уже завершился и наблюдаются лишь остаточные явления, свидетельствующие о перенесённом заболевании (например, дизартрия в результате перенесённого детского церебрального паралича). (*ОД, с.103*).

**7. Карыстаючыся «Слоўнікам націску беларускай мовы» М.В.Бірылы, пастаўце націск у настуных словах. Падкрэсліце тыя, у якіх націск у беларускай і рускай мовах не супадае.**

Аб'інець, адзінаццаць, адэкватны, алфавіт, амплуа, апранугы, аргумент, асака, астраханскі, бамбук, беларусы, бераце, блу-

каць, блытаніна, буйны, бульбяны, была, везучы, велізарны, велічыня, вугал, вулей, выпадак, выразна, гліняны, грамадзянін, дакумент, дума, дыспансер, дыялог, каменны, квартал, імя, індустрыя, інструмент, кулінарыя, ласкавы, міліметр, магазін, металургія, муляр, накат, накрыўка, несучы, несці, паведаміць, падчыстую, партытура, партэр, прывязка, растаптаны, сівы, сакавік, сальфеджыо, сапраўдны, слабы, смажаніна, спіна, спажывец, стары, статуя, стрыманы, таварышы, тарфяны, удалы, фартух, фундамент, цэмент, цэнтнер, цяжар, цяжкі, чатырнаццаць, шэравокі, шэсцьдзесят.

**8. Перакладзіце словазлучэнні на беларускую мову. Вызначце род назоўнікаў у рускай і беларускай мовах.**

Последняя запись, острая боль, белая лебедь, злая собака, стройный тополь, чудесная степь, сильная накипь, горькая полынь, высокая насыпь, выгодная продажа, золотая медаль, высокий стебель, сильный пар, большое пространство, зелёный салат, домашний гусь, избирательный округ, густая пыль, невыносимая тяжесть, солдатская шинель, чёрная бровь, яркий свет, быстрый жеребец, хорошая жизнь, непокорённая возвышенность.

**9. Знайдзіце памылкі ў сказах і выпраўце іх. Якія ўзроўні моўнай сістэмы закранула беларуска-руская інтэферэнцыя?**

1. Тоня толькі пасмяялася над сваім страхам. 2. Досыць спаць, герой. Паўтары гадзіны пасля абеду – для тваіх год хопіць. 3. Дзед Астап быў старым мікалаеўскім салдатам, служыў вартаўніком у дэпо, меў дзве срэбныя медалі за турэцкую вайну. 4. Чатыры вядра вады прынесла маці, каб вымыць хлопца. 5. На хутары ў шляхцюка Радкевіча кожнае лета голлі гнуцца ад яблыкаў, груш, сліў. 6. Два томікі як два чырвоных святы. 7. Яна ішла трохі працверазелая і ў душы зычлівая яму, што паспеў у час, што незнарок засцярог ад граха. 8. Ідзём мы неяк з Бобікам. Ажно ляціць качка. Не, не качка – гусь дзікі. 9. Адзінаццаць вучняў з класа атрымала выдатныя адзнакі па выніковай кантрольнай рабоце. 10. Міша за два гады так і не навучыўся пісаць чарніламі. 11. Васілю далі гуляць галоўную ролю ў спектаклі пра Робіна Гуда. 12. Ёсць у дзеда Язэпа сусед Антось. Вельмі ўжо ён любіць кпіць над старым. 13. За ўсё, што вы расказалі, я вас так дзякую.

**10. Выпішыце са слоўнікаў, прыведзеных у канцы дапаможніка, рускамоўныя і беларускамоўныя тэрміны па сваёй спецыяльнасці, у якіх не супадае: а) націск; б) род, в) лік. Складзіце з імі пяць сказаў (на выбар).**

**11. Перакладзіце тэкст на беларускую мову. Вызначце асноўныя адрозненні (фанетычныя, акцэнтныя, словаўтваральныя, марфалагічныя) паміж рускім і беларускім тэкстамі.**

**I**. Большое значение для развития зрительного внимания имеют игры с перемещением предметов в пространстве. Перемещение должно производиться медленно, так, чтобы дети могли проследить за движением. Здесь можно использовать кукольный театр, показать детям, как мышка прячется от кошки, собака ищет мальчика и т.п. Вечером можно использовать «теневой театр». Когда дети научатся следить за передвижением, которое происходит у них на глазах, можно перейти к передвижению предметов, скрытых от глаз ребёнка. Проводится новый вариант игры «Ку-ку»: кукла появляется сначала над ширмой, потом справа от неё, снова над ширмой, снова справа от неё, проделывая за экраном один и тот же путь. Дети, наблюдая за ней, должны начать ожидать её появления то наверху, то справа. Однако это не всегда происходит у умственно отсталых детей. Они не могут представить себе путь куклы за экраном, поэтому переводят взгляд с одного места на другое только после того, как появится игрушка. Чтобы побудить детей к прослеживанию, на втором-третьем занятии нужно попросить детей показать, где появится кукла сейчас. После того, как дети покажут, кукла появляется и подтверждает (или опровергает) их предположение. Затем педагог показывает детям, как движется кукла за экраном. Для этого дети заходят за экран. Потом они возвращаются на свои места, и игра повторяется. *(Дошкольная олигофренопедагогика, с.79–80)*

**II.** Жестокость в современной семье – явление не новое. Это социальное явление, это эмоциональное, физическое или сексуальное насилие.

Часто жестокость направлена на пожилых членов семьи, их отвержение, отделение от семьи, плохое питание, отсутствие ухода.

Жестокость между супругами проявляется в избиении мужем жены. Статистика показывает, что большинство убийств в семье – это убийство одного супруга другим, причём чаще жертвой становится женщина.

Супружеская жестокость преобладает в возрасте от 20 до 30 лет, в семьях с низким образовательным уровнем и доходом, чаще среди рабочих, бывает и среди супругов с высшим образованием.

Исследования показали, что жертвами жестокости чаще являются незамужние женщины, которые испытывают насилие со стороны сожителя. Многие жертвы имеют умственные или физические недостатки, отчего они зависимы от семьи. Они не могут обеспечить себя питанием, лекарствами, личной гигиеной, амбулаторной помощью. Чаще это престарелые люди старше 75 лет, прикованные к постели.

Семейная жестокость вызвана социальными факторами, стрессами в семье, употреблением алкоголя или наркотиков. Прибегают к физической силе в том случае, когда нет возможности мирно повлиять на принятие семьёй тех или иных решений, когда муж алкоголик или наркоман и с его мнением не считаются.

Существует много разных мнений о причинах жестокости в семье. Это могут быть психические нарушения, невысокий культурный уровень у супругов. *(Социальная педагогика, с.281–282)*

# РАЗДЗЕЛ 1

# МОВА І МАЎЛЕННЕ

## §1. Сутнасць мовы

З даўніх часоў людзі шукалі адказ на пытанне: што такое мова? Пра гэта сведчаць працы старажытных вучоных Грэцыі, Рыма, Індыі і іншых краін. Такое ж пытанне цікавіць нас і сёння. Мы імкнемся зразумець, што такое мова, як яна ўзнікла, чым яна адрозніваецца ад іншых праяў чалавечай існасці.

У гісторыі навукі існавалі розныя погляды на мову.

Адны вучоныя разглядалі мову як з'яву ***біялагічную***, такую ж, як здольнасць есці, піць, хадзіць і г.д. Гэта значыць, што мова закладзена ў самой біялагічнай сутнасці чалавека і перадаецца ў спадчыну (як колер вачэй, валасоў, форма твару і да т.п.).

Другія вучоныя лічылі мову з'явай ***псіхічнай***, адносілі яе да сферы падсвядомай псіхафізіялагічнай дзейнасці.

Аднак такія меркаванні маюць аднабаковы характар. На самой справе мова – з'ява і біялагічная, і псіхічная, але ў тым сэнсе,

што ў чалавеку генетычна закладзена здольнасць авалодаць мовай. Рэалізаваць гэту здольнасць чалавек можа толькі ў зносінах з іншымі людзьмі – носьбітамі пэўнай мовы. Нагадаем Маўглі з аднайменнай кнігі Р.Кіплінга, які, трапіўшы ў асяроддзе звяроў, набыў іх звычкі.

Неабходна памятаць, што дзіця пачынае гаварыць на той мове, якую чуе з першых дзён жыцця. Значыць, мова асобнага чалавека развіваецца толькі ў асяроддзі людзей.

Атрымліваецца, што кожны чалавек валодае не мовай увогуле, а канкрэтнай мовай (ці некалькімі мовамі), што належаць пэўнаму народу. У гэтым праяўляецца дваісты характар мовы: з аднаго боку, яна з’ява індывідуальная, бо ўласціва чалавеку, з другога – з’ява грамадская (сацыяльная), бо належыць канкрэтнай грамадскай супольнасці. Сацыяльная прырода мовы заключаецца ў першую чаргу ў тым, што яна аснова і форма грамадскай свядомасці і разам з тым унікальны і універсальны сродак зносін людзей, феномен духоўнай культуры чалавецтва. Мова пранізвае ўсе сферы матэрыяльнай і духоўнай дзейнасці грамадства і непасрэдна звязана з усімі праявамі сацыяльнага быцця чалавека.

Мова забяспечвае бесперапыннасць этнічнага і культурнага развіцця любой грамадскай супольнасці на працягу ўсёй яе гісторыі, з’яўляецца спосабам захавання адзінства народа ў прасторы і часе, формай трансляцыі ад пакалення да пакалення сацыяльнага вопыту і духоўнай культуры грамадства. Па сутнасці, мова – гэта неабходная ўмова існавання грамадства, яго падмурак. Без мовы не можа быць грамадства, як і сама мова не можа існаваць без грамадства.

## §2. Функцыі мовы

Чалавек думае, адчувае, вырашае свае праблемы, «жывучы» ў мове. Пры дапамозе мовы людзі абменьваюцца інфармацыяй, наладжваюць кантакты, выказваюць адзін аднаму свае думкі, пачуцці. З яе дапамогай людзі ўсведамляюць і асэнсоўваюць свет, захоўваюць і перадаюць ад пакалення да пакалення набытыя веды і вопыт. Так універсальны характар мовы вызначае разнастайнасць яе функцый. У мовазнаўстве няма адзінага меркавання адносна функцый мовы, аднак большасцю даследчыкаў вылучаюцца наступныя асноўныя, базавыя функцыі мовы:

**1. Камунікацыйная** (лац. communicatio – зносіны, сувязь) – гэта значыць, што мова з’яўляецца найважнейшым сродкам зносін паміж людзьмі, сродкам перадачы інфармацыі.

**2. Пазнавальная (кагнітыўная)** (лац. cognitio – пазнанне), якая забяспечвае чалавеку магчымасць думаць і пазнаваць свет.

Успрыманне і асэнсаванне чалавекам рэчаіснасці адбываецца пры дапамозе мовы. Яна з'яўляецца як бы своеасаблівай прызмай, праз якую чалавек «бачыць» свет.

Камунікацыйная і пазнавальная функцыі мовы ўзаемазвязаныя. Сацыяльны характар жыцця народа, яго markdown рознабаковая пазнавальная дзейнасць вымагаюць пастаяннага кантактавання людзей. Разам з тым самі моўныя зносіны людзей, у адрозненне ад камунікацыі жывёл, – гэта інструмент пазнання. Вызначальную ролю як у дзейнасці асобы, так і грамадства выконвае інфармацыя, якая перадаецца менавіта ў працэсе моўнай камунікацыі. Па сутнасці, уся гісторыя развіцця чалавецтва – гэта найперш гісторыя моўных зносін.

На базе камунікацыйнай і пазнавальнай функцый мовы развіваюцца іншыя, больш прыватныя функцыі.

У складзе камунікацыйнай функцыі мовы вылучаюцца:

• **фатычная** (лац. fatum – выраз) – функцыя наладжвання кантактаў, рэгулявання адносін паміж людзьмі;

• **акумуляцыйная** – функцыя назапашвання, захавання традыцый, культуры, гісторыі, нацыянальнай свядомасці народа. Мова захоўвае спадчыну народа, звязвае продкаў і нашчадкаў.

У складзе пазнавальнай функцыі вылучаюцца:

• **намінацыйная** (лац. nominatio – называнне) – гэта функцыя наймення прадметаў, з’яў рэчаіснасці. Пазнаючы свет, чалавек пастаянна сутыкаецца з неабходнасцю называць прадметы, з’явы, працэсы. Але называнне – гэта разам з тым працэс размежавання і атаясамлівання з’яў рэчаіснасці, ці інакш – працэс пазнання рэчаіснасці. Невыпадкова гавораць: «Назваць – значыць зразумець».

• **эмацыйная** функцыя – гэта функцыя выражэння эмоцый, пачуццяў, настрою. Пазнавальная функцыя звязана з рознымі формамі псіхічнай дзейнасці чалавека, таму ў ёй вылучаюць эмацыйную функцыю, якая найбольш выразна выступае ў інтанацыі, выклічніках, розных формах мадальнасці, ацэначных суфіксах і інш., па сутнасці пранізвае ўсе ўзроўні мовы.

З камунікацыйнай і пазнавальнай функцыямі звязана **эстэтычная,** ці паэтычная функцыя, сутнасць якой заключаецца ў здольнасці мовы ўздзейнічаць на пачуцці і думкі чалавека не толькі зместам, але і самой вонкавай формай: гучаннем, адборам і спалучэннем слоў і г.д. Гэта функцыя праяўляецца ў імкненні да рытмічнасці, мілагучнасці, вобразнасці маўлення. Эстэтычная функцыя

вызначае ролю слова ў стварэнні мастацкага вобраза, робіць слова «першаэлементам мастацкай літаратуры».

Для многіх моў свету ўласціва **этнічная** функцыя, калі мова выступае прыметай, сімвалам нацыі, сродкам этнічнай кансалідацыі. Асабліва выразна гэта функцыя праяўляецца ў сітуацыях, дзе існуе культурна-моўная асіміляцыя аднаго народа другім. Мова ў такім выпадку з'яўляецца фактарам еднасці (адраджэння) этнасу. Народ імкнецца захаваць яе як сведчанне сваёй нацыянальна-гістарычнай адметнасці і культурна-духоўнай самабытнасці.

Розныя функцыі мовы рэдка выступаюць у маўленні ў чыстым выглядзе. Як правіла, у працэсе камунікацыі яны спалучаюцца адна з адной, бо зносіны звычайна патрабуюць выражэння не толькі думкі, але і эмоцый, волі і г.д.

## §3. Мова і іншыя сродкі камунікацыі

Калі мы гаворым, што мова – асноўны, найважнейшы сродак зносін, то мяркуецца, што ёсць і менш важныя спосабы кантактавання. Сапраўды, людзі карыстаюцца і іншымі сродкамі зносін, напрыклад, жэстамі, рознымі штучнымі сігналамі, знакамі (матэматычныя, хімічныя, дарожнага руху, семафоры, сірэны, азбука Морзе і г.д.). Мова жэстаў як самастойная сістэма выкарыстоўваецца глуханямымі. Жэсты тут адпавядаюць выразам гукавой мовы. Аднак дадзеная мова вельмі абмежаваная і бедная ў параўнанні з гукавой мовай. Жэсты могуць выкарыстоўвацца і як дадатковы несамастойны сродак зносін (суправаджаць выказванне, узмацняючы яго выразнасць). Своеасаблівымі сродкамі перадачы інфармацыі з'яўляюцца музыка і выяўленчае мастацтва. Аднак і гэтыя формы, нягледзячы на іх вялікія магчымасці, даволі «аднабаковыя» ў параўнанні з моваю. Ні музыка, ні выяўленчае мастацтва не выражаюць дакладных, расчлянёных паняццяў. Яны выклікаюць пэўныя вобразы ў свядомасці слухача ці гледача і, адпаведна, пэўныя думкі, аднак гэтыя думкі могуць быць вельмі непадобнымі ў розных людзей.

Ёсць і іншыя «экзатычныя сродкі» зносін, як, напрыклад, барабанная мова ў некаторых афрыканскіх народаў, з якой звязана шмат звычаяў і абрадаў.

У старажытнасці на Усходзе, а ў сярэднія стагоддзі ў Заходняй Еўропе, была папулярнай мова кветак – умоўны спосаб выражаць розныя пачуцці і паняцці. Сімвалічнае значэнне некаторых кветак:

фіялка – сімвал сціпласці; лілея – цнатлівасці; незабудка – памяці; астра – тугі; ружа – кахання (у старажытных грэкаў і рымлян яна была сімвалам таямніцы).

У 60-я гады XX ст. галандскі вучоны Ганс Фройдэнталь зрабіў спробу стварыць штучную мову – так званы «лінкос» (лінгвакосміка – мова космасу) для перадачы пасланняў у космас. Сутнасць яе ў тым, што пры дапамозе сігналаў рознай даўжыні, якія нясуць пэўную матэматычную інфармацыю (а законы матэматыкі ўсюды аднолькавыя), можна наладзіць кантакт з іншапланецянамі.

Відавочна, што названыя сродкі зносін выступаюць як дапаможныя ў дачыненні да адзінага універсальнага сродку мовы слоў. Самі па сабе, без перакладу на мову, гэтыя сродкі не могуць перадаць думку. Іх функцыянаванне магчыма толькі на аснове мовы.

## §4. Маўленчая дзейнасць. Суадносіны паміж мовай і маўленнем

***Мова*** – гэта сістэма знакаў (гукаў, марфем, слоў, словазлучэнняў і сказаў), якія абазначаюць з'явы рэчаіснасці, а ***маўленне*** – спосаб перадачы думак праз мову, пры дапамозе і праз пасрэдніцтва мовы, гэта валоданне моваю, працэс моўных зносін паміж людзьмі, перадача думкі на адлегласць.

Адрозніваюць вуснае і пісьмовае, знешняе і ўнутранае маўленне.

**Вуснае маўленне** адбываецца ва ўмовах непасрэднага кантакту суразмоўцаў, таму значнае месца адводзіцца тэмпу, тону, мелодыцы, тэмбру голасу, паўзам, лагічнаму націску і іншым маўленчым якасцям. Пэўную ролю адыгрываюць і нямоўныя сродкі (жэсты, міміка і да т.п.). Усім відам вуснага маўлення ўласціва экспрэсія непасрэднасці і высокі ўзровень эмацыянальнасці. Нездарма Бернард Шоу гаварыў, што ёсць пяцьдзесят спосабаў сказаць «так» і пяцьсот спосабаў сказаць «не», але ёсць адзін спосаб напісаць гэта.

**Пісьмовае маўленне** характарызуецца адсутнасцю непасрэдных агульных для ўдзельнікаў зносін жыццёвых абставін і агульнага жыццёвага вопыту, што на 9/10 палягчаюць узаемаразуменне ў вусным маўленні, а таксама адсутнасцю дапамогі з боку жэстаў, мімікі, інтанацыі. Пісьмовае маўленне – гэта звычайна падрыхтаванае маўленне. Яно больш строгае па форме і складанае па змесце, у ім дакладней выбраны словы, больш складаныя сказы і г.д.

**Унутранае маўленне** характарызуецца афармленнем думкі без выказвання. Яму ўласцівы фрагментарнасць, хуткасць мыслення,

сцісласць. Сам сабе чалавек не апісвае падрабязна тое, што ён робіць ці збіраецца рабіць. Для ўнутранага маўлення не характэрны строгія правілы. Іншы раз чалавек ведае нейкую інфармацыю на ўзроўні ўнутранага маўлення, але не можа яе выказаць на ўзроўні знешняга маўлення.

**Знешняе маўленне** разлічана на іншую асобу, таму яно патрабуе паўнаты ў афармленні думкі, пабудовы дакладнага, выразнага, з дастаткова разгорнутай думкай тэксту выказвання. Знешняе маўленне адрозніваецца ад унутранага і будовай. Яно можа быць маналагічным ці дыялагічным, можа адрозніваецца паводле стылёвай ці жанравай прыналежнасці.

Адзінкамі маўлення, яго формамі з'яўляюцца маналог, дыялог, тэкст.

**Маналог** (грэч. monos – адзін, logos – слова, маўленне) – разгорнутая форма маўлення ад першай асобы, адрасаваная слухачам або чытачам і разлічаная на пасіўнае, апасродкаванае ўспрыманне. Для маналогаў характэрны тэксты рознага памеру, якія структурна і сэнсава звязаны. Маналог мае індывідуальную кампазіцыйную будову і адносную сэнсавую закончанасць, якія залежаць ад жанравай (мастацкі маналог, прамова, даклад, артыкул, бытавое апавяданне і г.д.) і функцыянальнай (апавяданне, разважанне, апісанне) прыналежнасці тэксту. Маналог амаль не залежыць ад сітуацыі, ён звычайна не накіроўваецца і не падтрымліваецца пытаннямі. Асобныя адрэзкі маналога могуць змяшчаць у сабе сродкі, характэрныя для дыялога (звароткі, рытарычныя пытанні і інш.), мэта якіх актывізаваць адрасата.

**Дыялог** (грэч. dialogos – размова, гутарка) – форма маўлення, у якой удзельнічаюць два ці некалькі (палілог) чалавек і якая характарызуецца непасрэднай сувяззю выказванняў з сітуацыяй. Выказванне ў дыялогу, якое звернута да суразмоўніка, называюць рэплікай. Рэплікі звязаны паміж сабой па сэнсе і будове, але характарызуюцца непасрэднасцю, непадрыхтаванасцю. Значную ролю ў дыялогу адыгрываюць пазамоўныя сродкі (жэсты, міміка, інтанацыя і інш).

**Тэкст** (лац. textum) – гэта падрыхтаванае выказванне (вуснае ці пісьмовае) з устойлівым сэнсавым адзінствам і сістэмай кампанентаў, функцыянальна аб'яднаных у адзіную структуру. Тэкст падпарадкаваны адзінай тэме. Ён разгортваецца ў лагічнай паслядоўнасці, якая вырашаецца спецыфічнымі сродкамі тэкставай сувязі. Асноўнымі ўласцівасцямі тэксту з'яўляюцца разгорнутасць, паслядоўнасць, звязанасць, закончанасць.

У залежнасці ад спосабу перадачы зместу і ўнутранай арганізацыі тэксту адрозніваюць такія камунікацыйна-сэнсавыя тыпы тэкстаў ці, дакладней, маўлення, як апавяданне, апісанне, разважанне.

**Апавяданне** – гэта тып маўлення, які служыць для перадачы фактаў, з'яў, дзеянняў і г.д. Гэтыя падзеі звычайна разгортваюцца ў часе, маюць дынаміку. Менавіта гэта прадвызначае пэўную ролю дзеясловаў. Напрыклад:

*Леварукасць – пераважнае выкарыстанне левай рукі для здзяйснення маторных актаў. У некаторых выпадках леварукасць абумоўлена пашкоджаннем або захворваннем правай рукі, што выклікае немагчымасць карыстацца ёю (вымушаная леварукасць). Часцей пераважнае выкарыстанне левай рукі носіць прыроджаны характар і абумоўлена атрыманай у спадчыну спецыфікай функцыянавання ЦНС. Акрамя выражанай леварукасці, даволі часта сустракаецца скрытая леварукасць. Чалавек з такой леварукасцю прывучаны з дзяцінства карыстацца правай рукой, але пры нязвычных дзеяннях ці ў стане афекту карыстаецца левай рукой.* (ДефСД, с.41)

**Апісанне** – гэта тып маўлення, які ўжываецца для характарыстыкі прадметаў, з'яў, асобы і г.д. У ім пералічваюцца прыметы прадмета ў пэўнай паслядоўнасці. Найбольш важнай асаблівасцю апісання з'яўляецца статычнасць, таму ў такіх тэкстах часцей выкарыстоўваюцца назоўнікі, прыметнікі, радзей дзеясловы-выказнікі, якія, як правіла, маюць аднолькавую форму і значэнне знаходжання або існавання. Напрыклад:

*Падлеткавы ўзрост адрозніваецца павышанай інтэлектуальнай актыўнасцю, якая стымулюецца не толькі натуральнай узроставай цікаўнасцю падлеткаў, але і жаданнем развіць, прадэманстраваць навакольным свае здольнасці, атрымаць высокую адзнаку з іх боку. У гэтай сувязі падлеткі на людзях імкнуцца браць на сябе найбольш складаныя і прэстыжныя задачы, нярэдка праяўляюць не толькі высокаразвіты інтэлект, але і незвычайныя здольнасці. Для іх характэрна эмацыянальна-адмоўная афектыўная рэакцыя на вельмі простыя задачы.* (Немаў, кн.2, с.143)

**Разважанне** – тып маўлення, у якім даецца лагічны і аргументаваны выклад думкі. Будуецца разважанне дэдуктыўна (ад агульных палажэнняў да прыватных) ці індуктыўна (ад прыватных палажэнняў да агульных). Напрыклад:

*Калі вучань расклаў малюнкі з парушэннем паслядоўнасці, то не трэба адразу ўказваць яму на гэта (толькі зафіксаваць гэта ў пратаколе). Па-першае, таму што ў прцэсе складання апавядання ён можа сам выправіць парадак; па-другое, нават пры няправіль-*

*най раскладцы магчыма звязнае і па-свойму лагічнае апавяданне. Калі ж такога апавядання не атрымалася, неабходна ўказаць вучню на памылку і прапанаваць яму змяніць парадак раскладкі. Калі ж і пасля гэтага дзіця не можа раскласці малюнкі паслядоўна, то правільную раскладку здзяйсняе сам псіхолаг.* (Рогаў, с.26)

Своеасаблівасць тэкстаў залежыць і ад іх функцыянальна-стылістычнай і жанравай прыналежнасці (мастацкі, публіцыстычны, навуковы тэкст і г.д.).

Мова і маўленне належаць да *маўленчай дзейнасці* – сукупнасці псіхафізіялагічных дзеянняў чалавечага арганізма, якія неабходныя для фарміравання, перадачы і ўспрыняцця думкі. Аднак яны з'яўляюцца двума яе рознымі бакамі: унутраным і знешнім, якія не могуць існаваць адзін без другога і, такім чынам, з'яўляюцца арганічна ўзаемазвязанымі. Мова і маўленне суадносяцца паміж сабой у цэлым як сутнасць і з'ява: мова служыць унутранай глыбіннай сутнасцю, а маўленне – знешняй з'явай, праз якую гэта сутнасць праяўляецца.

Маўленне з'яўляецца індывідуальнай з'явай, якая характарызуе кожнага чалавека як асобу. Зносіны паміж людзьмі ажыццяўляюцца праз маўленне, і, нягледзячы на тое, што маўленне – індывідуальная з'ява, мы разумеем адзін аднаго, таму што карыстаемся агульнымі адзінкамі (фанемы, марфемы, словы), якія ўласцівы ўсім членам моўнага калектыву, і агульнымі правіламі аперыравання гэтымі адзінкамі.

Самі прыватныя працэсы гаварэння і разумення яго цыркулююць у чалавечым асяроддзі і вымагаюцца патрэбамі абменьвацца думкамі, перадаваць паведамленні ад аднаго чалавека да другога, гэта значыць грунтуюцца на сацыяльным падмурку. Гэты сацыяльны падмурак маўлення і ўтварае мова.

*Значыць, маўленне адносіцца да мовы, як прыватная і індывідуальная з'ява да агульнай і сацыяльнай сутнасці.*

Маўленне кожнага чалавека праяўляецца матэрыяльна і фіксуецца акустычнымі або пісьмовымі формамі, прычым гэтым формам папярэднічае фізіялагічная актыўнасць органаў чалавека (пры вусным маўленні – лёгкія, язык, вусны, гартань; пры пісьмовым – рукі).

Мова ж з'яўляецца абстрактнай сутнасцю, але рэальнай, бо яна праяўляецца канкрэтнымі маўленчымі актамі, і фізіялагічная актыўнасць маўлення мае ў сваёй аснове псіхічную дзейнасць усёй нервовай сістэмы, і галоўным чынам галаўнога мозга.

*Значыць, маўленне характарызуецца як канкрэтная і фізіялагічная з'ява, а мова – як абстрактная і псіхічная сутнасць.*

Мова ўяўляецца патэнцыяльнай сутнасцю, што ўжыўлена ў нашу свядомасць у выглядзе засвоеных з дзяцінства здольнасцей гаварыць, а таксама разумець праз маўленне думкі і пачуцці іншых людзей.

Маўленне ж служыць актуалізацыяй гэтай патэнцыі, яе матэрыяльным увасабленнем, ператварэннем здольнасці гаварыць непасрэдна ў працэсе гаварэння.

*Адсюль вынікае, што мова – патэнцыяльная сутнасць, якая дае здольнасць гаварыць, а маўленне – актуалізаваная з'ява, працэс гаварэння.*

Мова – гэта код або набор адцягненых адзінак і правілаў іх арганізацыі, які з'яўляецца ўнармаваным, што забяспечвае яго правільнае выкарыстанне гаворачымі ў межах выпрацаваных нормаў і разуменне слухачом.

Маўленне ўяўляе сабой гатовы прадукт, які вытворны ад кода і выступае ў выглядзе вуснага або пісьмовага тэксту. Тэкст пры спантанным спараджэнні з'яўляецца моўным ужываннем, якое патрабуе карпатлівай дадатковай працы (напрыклад, пры напісанні курсавых і дыпломных работ), каб яго аформіць у строгай адпаведнасці з правіламі мовы.

*Значыць, мова суадносіцца з маўленнем, як код і норма з тэкстам і ўжываннем.*

Маўленне з'яўляецца сітуацыйна замацаваным, бо яно ўжываецца ў пэўных абставінах і прадугледжвае наяўнасць суразмоўцы і спаразумення з яго боку і носіць мэтанакіраваны характар.

Мова ж не звязваецца ні з сітуацыяй зносін, ні з вызначанай мэтай ужывання, таму што яна служыць сродкам зносін, сродкам фарміравання маўленчых выказванняў незалежна ад мэты.

З гэтага вынікае, што маўленне належыць да сітуацыйных і мэтанакіраваных з'яў, а мова нейтральная ў адносінах да згаданых асаблівасцей.

Адзінкі розных узроўняў мовы звязаны паміж сабой разнастайнымі адносінамі, у выніку чаго яна ўтварае шматмерную сістэму. Можна перадаць адну думку рознымі спосабамі. Маўленне і яго прадукт – тэкст будуюцца строга ў лінейнай паслядоўнасці. Маўленне – з'ява аднамерная.

Пры спантанным спараджэнні маўлення ў ім здольны праяўляцца індывідуальныя асаблівасці маўлення, якія не адпавядаюць агульнапрынятым нормам мовы. Маўленне кожнага канкрэтнага чалавека мае некаторую ступень свабоды ў адносінах да ўнутранай сістэмы мовы.

## ПЫТАННІ І ЗАДАННІ

1. У чым праяўляецца сацыяльная прырода мовы?
2. Якія погляды на мову існуюць у навуцы?
3. Чаму камунікацыйная функцыя мовы з'яўляецца асноўнай?
4. Якія яшчэ функцыі, акрамя камунікацыйнай, выконвае мова?
5. Ці ўласціва беларускай мове этнічная функцыя?
6. Ці ведаеце вы якія-небудзь сродкі зносін, апрача мовы?
7. Што такое мова, маўленне, маўленчая дзейнасць?
8. Якія разнавіднасці маўлення вы ведаеце?
9. Назавіце тыпы маўлення і пералічыце іх асноўныя асаблівасці.
10. Што можна назваць тэкстам?
11. Прадстаўце папарна прыметы, па якіх супастаўляюцца і адрозніваюцца мова і маўленне.
12. Чаму мова з'яўляецца сутнасцю маўленчай дзейнасці, а маўленне – з'явай?

## ПРАКТЫКАВАННІ

**1. Прачытайце тэкст. Назавіце, якія існуюць тэорыі паходжання мовы? У чым сутнасць кожнай з іх?**

### Калі і як узнікла мова?

Гукавая мова (у яе членападзельнай, блізкай да сучаснай форме) узнікла, відаць, больш за 100 тыс. гадоў таму назад, у эпоху пераходу ад неандэртальца да чалавека сучаснага тыпу. Менавіта мова стала вызначальнай прыметай чалавека. Пытанне ж «як яна ўзнікла?» хвалюе вучоных ужо на працягу больш чым 2-х тысячагоддзяў. Але таямніца паходжання мовы да канца так і не разгадана.

Вядома, што ў першабытных людзей рот і горла былі прыстасаваны, каб утвараць гукі, тым не менш першыя людзі на зямлі не ўмелі размаўляць. Як жа ўзнікла мова? Як навучыліся гаварыць першабытныя людзі, калі ніхто яшчэ не ведаў, як гэта робіцца? Адказаць на гэтыя пытанні не так лёгка, бо яны звязаны з такімі складанымі праблемамі, як сама сутнасць мовы, яе роля ў станаўленні чалавека і грамадства. Вырашэннем гэтых пытанняў займаюцца дзве галіны ведаў – філасофія і філалогія. Таму існуюць як філасофскія, так і філалагічныя тэорыі паходжання мовы.

Самая старажытная філасофская канцэпцыя мовы, якая дайшла да нас, пабудавана на міфолага-рэлігійных уяўленнях пра мову

як **дар Бога** (Багоў). Яна існуе ў некалькіх разнавіднасцях: ведычнай (ад назвы «Веды» – старажытнага філасофскага помніка Індыі), канфуцыянскай (Канфуцый – старажытны кітайскі рэлігійны філасаф, мудрэц), біблейскай («Біблія» – збор «свяшчэнных кніг» іудзейска-хрысціянскай рэлігіі). Паводле міфолага-рэлігійнай тэорыі, у аснове свету ляжыць духоўны пачатак. Дух уздзейнічае на матэрыю, якая знаходзіцца у хаатычным стане, уладкоўвае яе формы. Вянец тварэння духу – чалавек. Для абазначэння духоўнага пачатку ўжываліся тэрміны «Бог»,«Дао», ці «Логас» *(грэч.* logos – слова), таму гэтую канцэпцыю называюць *лагасічнай,* ці *логаснай* тэорыяй паходжання мовы. Так, згодна з хрысціянскай філасофіяй, «Слова» існавала да з’яўлення чалавека і непасрэдна кіравала інертнай матэрыяй. Яно (сродак і энергія) стварала свет з першаснага хаосу. Вось як пра гэта гаворыць у Біbліі евангеліст Іаан (1 ст.): «У пачатку было Слова, і Слова было у Бога, і Слова было Бог. Яно было спачатку ў Бога. Усё праз Яго пачало быць, і без Яго нічога не пачало быць, што пачало быць».

Падобныя тлумачэнні, толькі ў іншых тэрмінах, ляжаць у аснове індуізму і канфуцыянства. Побач з Божым паходжаннем мовы хрысціянская філасофія тлумачыць слова і як чалавечую з'яву. Бог стварае чалавека і адкрывае яму дар слова, г.зн. Божае слова, якое стварыла чалавека, становіцца потым здабыткам чалавека: чалавек сам пачынае ствараць словы. У Бібліі першачалавек Адам дае імёны жывёлам, якіх прыводзіць Бог.

Логасная тэорыя, згодна з якой «Слова» ўвасабляе дух і валодае магічнай сілай, што пануе над чалавекам, аказала вялікі ўплыў на філасофскую і філалагічную думку старажытнасці.

Пытанне пра паходжанне мовы разглядалася і ў антычнай філасофіі. Яшчэ ў 7–6 стст. да н.э. старажытнагрэчаскія вучоныя імкнуліся знайсці сувязь паміж словамі, «імёнамі» і рэчамі і высветліць, які характар паходжання мовы – прыродны (г.зн. біялагічна абумоўлены) і ўмоўны (не звязаны з сутнасцю рэчаў), г.зн. свядомы, штучны спосаб яе ўзнікнення. Пазней гэтыя праблемы асэнсоўваліся ў філасофіі эпохі сярэдніх вякоў і Адраджэння.

З 16 ст. у Еўропе пашыраецца тэорыя паходжання мовы, у аснове якой ляжыць рацыянальная філасофская канцэпцыя «*грамадскай дамоўленасці*». Паводле яе грамадская дамоўленасць адрознівае чалавечае грамадства ад першабытнага статку, дзе пануюць варожасць і барацьба кожнага з кожным. Прычыны пераходу да супрацоўніцтва тлумачыліся па-рознаму: ідэалістычна – божым паходжаннем чалавека і яго маралі, розуму і матэрыялістычна – агуль-

насцю інтарэсаў людзей. Паводле гэтай філасофіі, не Божае «Слова-Логас», а сам чалавек-мысляр, яго розум з'яўляюцца крыніцай навуковых адкрыццяў, стваральнай працы, у тым ліку і ў галіне мовы. Аднак тэорыя не тлумачыла, адкуль узялася мова, як чалавек авалодаў ёю.

Пазней на аснове філасофіі грамадскай дамоўленасці былі распрацаваны т.зв. этымалагічныя і натуралістычныя гіпотэзы паходжання мовы: гукапераймальная, выклічнікавая і інш. Так, паводле *гукапераймальнай* гіпотэзы, мова ўзнікла са здольнасці чалавека пераймаць гукі навакольнага свету (напрыклад, спеў птушак, крык звяроў, шум вады, ветру і г.д.), і гэтыя гукаперайманні (тыпу мяў-мяў, кукарэку, гаў-гаў) сталі асновай слоў-назваў чалавечай мовы. Згодна з *выклічнікавай* тэорыяй, штуршком для ўзнікнення мовы былі натуральныя, інстынктыўныя гукавыя комплексы накшталт ой-ой, ха-ха і інш. як рэакцыя на пэўныя вонкавыя раздражняльнікі (боль, гнеў, радасць і інш.). Некаторыя вучоныя лічылі, што мова ўзнікла з дзіцячага лепятання, г.зн. спачатку з’явіліся такія простыя ў вымаўленні словы, як *баба, мама* і інш., а затым і больш складаныя па структуры найменні.

Відавочна, гэтыя гіпотэзы не даюць адказу на пытанне: як узнікла мова? Яны падмяняюць саму праблему паходжання мовы важным, але прыватным пытаннем аб крыніцах утварэння старажытных слоў. Але мова – гэта не проста сума слоў, а больш складаная з'ява, звязаная з мысленнем і разумовай дзейнасцю чалавека.

Вялікая ўвага праблемам паходжання і развіцця мовы надавалася ў працах французскіх і нямецкіх філосафаў (Ж.Русо, І.Гердэра і інш.). Але найбольш разгорнутае асвятленне атрымала гэтая праблематыка на пачатку XIX ст. у даследаваннях нямецкага філосафа і лінгвіста Вільгельма фон Гумбальта. На думку Гумбальта, «узнікненне мовы абумоўлена ўнутранай праблемай чалавецтва». Мова, паводле Гумбальта, – гэта жывая *дзейнасць* чалавечага духу, адзіная энергія народа, якая ідзе з глыбінь чалавечай існасці і напаўняе ўсё яго жыццё. Мова не проста сродак зносін людзей, яна тая сіла, якая робіць чалавека чалавекам. Канцэпцыя Гумбальта апіралася на ідэю ўзаемазвязанага развіцця мовы, мыслення і «духу народа». «Мова і духоўная сіла народа, – пісаў Гумбальт, – развіваюцца не асобна адна ад адной і не паслядоўна адна за другой, а складаюць выключна і непадзельна адно і тое ж дзеянне інтэлектуальнай здольнасці».

У XIX ст. была распрацавана т.зв. *матэрыялістычная* тэорыя паходжання мовы, а інакш «*працоўная*», або «*сацыяльная*». Паводле яе мова ўзнікла як вынік сумеснай дзейнасці першабытных лю-

дзей. Неабходнасць узгадняць свае дзеянні, дасягаць узаемаразумення стымулявала з'яўленне пэўных гукавых комплексаў. Першабытныя людзі як бы прымацоўвалі гэтыя гукавыя комплексы да прадметаў, дзеянняў, але яшчэ не маглі абстрагавацца ад іх. Паступова з развіццём грамадства, з падзелам відаў працоўнай дзейнасці, з ускладненнем працэсаў і сродкаў працы ўдасканальваліся мысленне чалавека і формы адлюстравання яго ў мове. Слова пачынае ўжывацца не толькі як абазначэнне асобнага, канкрэтнага прадмета, але і цэлага класа прадметаў (так, слова *бяроза* стала абазначаць не адно канкрэтнае дрэва, а ўсе дрэвы, якія маюць такія прыметы, як белая кара на ствале, зубчастае лісце і г.д.). Абстрагуючыся ад прадмета, слова ператвараецца ў своеасаблівы *знак.* У працэсе зносін слоўныя знакі аб'ядноўваюцца спачатку ў простыя, а затым у больш складаныя сістэмы знакаў, набываюць «спецыялізацыю»: адны для назвы прадметаў, другія – прымет, трэція – колькасці, чацвёртыя «спецыялізуюцца» на здольнасці не называць, а толькі ўказваць на прадметы, іх прыметы і г.д. Такім чынам, згодна з матэрыялістычнай тэорыяй, вытокі мовы ўзыходзяць да пачатку сумеснай працоўнай дзейнасці і іншых грамадскіх стасункаў у працоўным калектыве.

Як бы ні вырашалася ў навуцы праблема паходжання мовы, відавочна, што пераход чалавека ад жыцця біялагічнага да жыцця сацыяльнага самым непасрэдным чынам звязаны з фарміраваннем мовы як своеасаблівай формы пазнання свету і спосабу наладжвання кантактаў у грамадстве. Сёння жыццё грамадства нельга ўявіць без мовы. З яе дапамогай людзі выказваюць адзін аднаму свае думкі, пачуцці, замацоўваюць веды пра тое, чаго самі не бачылі. Так, вучоныя расшыфроўваюць надпісы на вазах, чарапках, таблічках, знойдзеных пры археалагічных раскопках, і мы даведваемся, як жылі людзі за тысячы год да нас. Мова нясе інфармацыю пра гісторыю, культуру чалавецтва, захоўвае здабыткі чалавечага розуму[6].

**2. Прачытайце і прааналізуйце ўрыўкі з твораў і выказванні пісьменнікаў пра мову. Пра якія функцыі мовы гаворыцца ў іх?**

**I**. Прырода краіны і гісторыя народа, якія адбіваюцца ў душы чалавека, адлюстроўваюцца ў слове. Чалавек знікаў, але слова, створанае ім, заставалася бессмяротнай і невычарпальнай скарбніцай народнай мовы, кожная яго форма ёсць вынік думкі і пачуцця чалавека, праз якія адлюстраваліся ў слове прырода краіны і гісторыя народа. (*К.Дз.Ушынскі*)

[6] Гл.: Сямешка Л.І. Беларуская мова: вучэбны дапаможнік. — Мінск: Сучаснае слова, 1999. — С.5—9.

**II**. Наша мова – гэта важнейшая частка нашых агульных паводзін ў жыцці. І па тым, як чалавек размаўляе, мы адразу і лёгка можам меркаваць аб тым, з кім маем справу: мы можам вызначаць ступень інтэлегентнасці чалавека, ступень яго псіхалагічнай ураўнаважанасці...

Вучыцца добраму, спакойнаму, інтэлегентнаму маўленню трэба доўга і ўважліва – прыслухоўваючыся, запамінаючы, заўважаючы і вывучаючы. Але хоць і цяжка – гэта трэба. Наша маўленне – важнейшая частка не толькі нашых паводзін, але і нашай асобы, нашай душы, розуму. (*Дз.Ліхачоў*)

**III**. Па адносінах кожнага чалавека да сваёй мовы можна абсалютна дакладна меркаваць не толькі аб яго культурным узроўні, але і аб яго грамадзянскай каштоўнасці.

Сапраўдная любоў да сваёй краіны не можа быць без любові да сваёй мовы. Чалавек, які абыякавы да роднай мовы, – дзікун. Ён шкодны па самой сваёй сутнасці таму, што яго абыякавасць да мовы тлумачыцца поўнай абыякавасцю да мінулага, сённяшняга і будучага свайго народа. (*К.Паустоўскі*)

**IV**. Мова – прылада мыслення. Абыходзіцца з мовай абы-як – значыць і мысліць абы-як. (*А.Талстой*).

**V**. Мова не ёсць толькі гаворка, маўленне: мова ёсць вобраз усяго ўнутранага чалавека: яго розуму, таго, што называецца сэрцам, яна выразнік выхавання, усіх сіл разумовых і маральных...(*І.Ганчароў*).

**VI.** ... Слова
Таксама сіла, бо яно кладзе
Раздзел паміж людзьмі і зверам,
Яно людзей яднае ў народы,
І славу дзеднюю рукамі праўнук множыць
Вярней, чым меч. (*М.Клімковіч*)

**VII.** Мова продкаў нашых і нашчадкаў –
Шэпт дубровы і пчаліны звон, –
Нам цябе ласкава і ашчадна
Спазнаваць ажно да скону дзён.
Па чужых краях не пабірацца,
Не аддаць цябе на забыццё,
Наша невычэрпнае багацце,
Наша несмяротнае жыццё. (*Г.Бураўкін*)

**VIII.** Бясследна нішто не міне,
Гісторыю слова адрозніць.
Ты мост, на якім да мяне

Мінуўшчына ў госці прыходзіць.
Мільгаюць старонкі твае –
І мы размаўляем з вякамі,
І продак да нас дастае
Радкамі, нібыта рукамі. (*П.Макаль*)

**3. Складзіце разгорнуты план па тэме «Мова як сродак камунікацыі, пазнання, мыслення».**

**4. Прачытайце тэкст. Вызначце яго асноўную думку. Падбярыце прыказкі і прымаўкі, якія вучаць чалавека паводзінам у гутарцы, і пабудуйце на іх аснове звязны тэкст-разважанне.**

Шмат якія прыказкі, прымаўкі вучаць паводзінам у гутарцы: як слухаць чалавека і рэагаваць на яго словы, чаму трэба быць стрыманым у час размовы, навошта трэба ўлічваць абставіны маўлення і г.д.?

Каб належным чынам весці гутарку, трэба перш за ўсё ўмець слухаць таго, з кім гаворыш: *Сам не ўмееш слухаць, другога не прымусіш. Будзь спярша выслухачым, а потым апавядачым.*

Народ перасцерагае: да мовы трэба ставіцца ўважліва, з адказнасцю. Перш чым нешта сказаць, трэба добра падумаць, узважыць кожнае слова, узяць пад увагу інтарэсы абодвух бакоў у маўленні – і таго, хто гаворыць, і таго, хто слухае, адказвае. Настойліва гучыць папярэджанне: *Кайся, не кайся, выпусціў слоўца – не зловіш. Выказанага слова да губы не вернеш.* (*Паводле А.Каўруса*)

**5. Успомніце і запішыце беларускія звароты ветлівасці: а) просьбы; б) запрашэнні; в) словы-падзякі; г) пажаданні; д) віншаванні. Гэтыя звароты могуць ўжывацца ў гутарцы з сябрамі, знаёмымі, старэйшымі па ўзросце, афіцыйнымі асобамі.**

**6. Прачытайце тэкст, вызначце тэму, асноўную думку, тып маўлення. Дайце назву тэксту і растлумачце, што вы адлюстравалі ў загалоўку (тэму, ідэю, тое і другое разам). Вылучыце ў кожным абзацы сказы, якія нясуць асноўную інфармацыю.**

Светлая раніца ўсміхалася гораду. Сонечныя блёсткі ігралі з лісцем ліп і клёнаў, рассыпаліся зайчыкамі на шыбах акон, залацілі шыльды, падфарбоўвалі дахі камяніц.

Грымелі гарачай меддзю трубы, і выбухі барабана ўзляталі вышэй сонечных сцен. Аднак яны не заглушалі ні песенных слоў,

ні кволага шолаху шаўковых сцягоў, ні чалавечых уздыхаў, чалавечых слоў звычайных. Гаварылі: «Бывай, зноў убачымся хутка... Не сумуй... Толькі ворагаў вось разаб'ём... І разбіць іх павінны...»

Людзі ішлі на фронт.

Адна за другой праходзілі калоны. Людзі тоўпіліся на тратуарах, праводзілі. І большасць вачэй прамянілася сонцам, сонечнай радасцю, сонечным сумам. Развіталіся са сваімі роднымі, блізкімі. Толькі дзе-нідзе за прыспушчанымі фіранкамі, холадна паблісквалі чужыя вочы, сутуліліся чужыя спіны.

Васька ішоў у пярэдніх калонах.

Ён старанна адбіваў крок, беражна нёс вінтоўку. На яе штыку красаваўся гвараздзік. Нехта з праводзіўшых – ці то дзяўчына, ці то стары, а мо і родная маці, хіба ўспомніць цяпер – надарылі яго гэтай маленькай кветкай, пахучай, свежай. Яшчэ не высахла кропелька расы на яе бархатнай чырвані.

Васька ішоў і не адчуваў хады свае, да таго лёгка ісці, калі музыка, калі песні, калі сонца іскрыцца на палотнішчах сцягоў, на тварах людскіх, у думках, надзеях. (*М.Лынькоў*)

**7. Прачытайце тэкст. Растлумачце, якія праявы маўленчай дзейнасці чалавека апісаны аўтарам.**

Па дарозе абмяркоўваўся даклад. Думкі плылі лёгка і гладка. Многа трапных сказаў складвалася ў галаве. Часамі настаўнік нават прыпыняўся, даставаў з кішэні запісную кніжку, азіраўся, каб не было лішніх сведкаў, бо людзі маглі б чорт ведае што падумаць, і запісваў дасціпныя выразы. Тады здавалася, што варта сесці за стол, і ўсё пацячэ на паперу так жа гладка і вольна, як цяклі яго мыслі ў дарозе. На справе выходзіла іначай. Запісаныя дасканалыя сказы не маглі аднавіць той поўны і шырокі малюнак, што рысаваўся ў яго ўяўленні, і ўзятыя паасобку выглядалі бездапаможна, як абшчыпаныя вераб'і. (*Я.Колас*)

**8. Прачытайце дыялог і вызначце яго асаблівасці. Адзначце, наколькі дыялог адпавядае характару ўзаемаадносін паміж персанажамі.**

Зося, напэўна, сама адчула няёмкасць зацяглай паўзы. Яна сказала:

— Ад мяне толькі што пайшла Маша. Мы доўга гутарылі.

— Я рады, што вы пасябравалі.

— Яна цікавая. Спачатку мне здалося, яна іграе... А ў жыцці нельга іграць! Некалі, яшчэ ў школе, я хацела стаць актрысай. І таксама іграла выдуманую ролю. Дома, на вуліцы, у гасцях – усюды... Смешна і наіўна.

— Чаму смешна? Маладыя ўсе рамантыкі. Вунь мае дзеці, Тарас, Віця... Якія ў іх мары і жаданні! І я не сказаў бы, што гэта ігра.

— Дзе ён быў тады, Тарас?

— Яго схавалі добрыя людзі. Суседзі.

— Я шукала яго.

— Я ведаю. Мне казала цётка Люба.

— Яна не паверыла мне.

— Не крыўдуйце на яе. Яна была залаты чалавек і найлепшая канспіратарка.

— Яна загінула?

— Не, памерла год назад.

Зося замаўчала, як бы ўшаноўваючы памяць чалавека, з якім лёс звёў яе на кароткі міг. (*І.Шамякін*)

**9. Прачытайце тэкст, дайце яму загаловак. Запішыце тэкст, вызначце яго тэму і асноўную думку. Да якога тыпу маўлення адносіцца тэкст? Дакажыце.**

Чалавечую душу жывіць памяць. Калі чалавека параўнаць з дрэвам, то памяць і будзе тымі каранямі, якія даюць сілу, даюць непахісную апору чалавечай годнасці. Кажуць, што ў дрэва крона каранёў ледзь не ўдвая большая за тую крону, якую мы бачым. Якой жа павінна быць крона памяці ў людзей, каб яны сапраўды маглі людзьмі звацца? Калі памяць пачынае адміраць, чалавек з векавечнага дрэва ператвараецца ў аднадзёнку. І калі яму ўсё роўна, што было да яго, то што для яго тады дзень заўтрашні. Вось тады і пачынае расці дрэва ненажэрнасці, і твар чалавечы ператвараецца ў свіное рыла, і, як язвы, на целе зямлі з’яўляюцца мёртвыя азёры і рэкі, палі і лясы, скалечаныя лёсы людзей і цэлых народаў, і, як засцярога, пачынаюць лунаць над зямлёю званы Хатыні і жураўы Хірасімы. Душа чалавечая, якая не п’е з крыніц сваіх продкаў, камянее і ператвараецца ў прах, і людзі становяцца нелюдзямі, і святое слова «Радзіма» перастае для іх існаваць, бо для такіх радзіма там, дзе добра кормяць.

Як жа трэба берагчы тыя крыніцы, знаходзіць і вяртаць да жыцця затаптаныя! (*П.Ламан*)

**10. Перакладзіце тэксты на беларускую мову. Вызначце асноўную думку кожнага з іх. Выпішыце ключавыя словы, якія адлюстроўваюць тэму тэксту.**

I. Человек обедняет свою духовную жизнь, если он высокомерно смотрит сверху вниз на всё живое (и неживое), не наделённое его, человеческим, разумом. Ведь жизнь людей, какой бы сложной и высокоорганизованной она не была, как бы далеко ни простиралась наша власть над окружающим миром, это всего лишь частица жизни природы. Ведь то, что мы о ней знаем сегодня, так мало по сравнению с тем таинственным, сложным, удивительным и прекрасным, что нам предстоит о ней узнать.

Нам по-прежнему интересны повадки зверей и птиц. Нам интересно, почему такой дремучий зверь, как медведь, легко поддаётся дрессировке. И не угрожает ли серому волку занесение в тревожную Красную книгу... и как быстро растут кристаллы горного хрусталя. И почему считается целебным лист обычного подорожника. (*И.Акимушкин*)

II. Звуковой язык возник как спутник и союзник трудовой деятельности человека. Вместе с трудом он стал движущей силой, развивавшей человеческое мышление. Закрепление и накопление общественного опыта, передача его последующим поколениям стали возможны лишь с помощью языка.

Чем сложнее становилось человеческое общество, тем сложнее и богаче становился его язык. В первобытной орде люди могли обходиться немногими словами, выражавшими основные понятия, относившиеся к их пока ещё примитивной деятельности. Человек гомеровских времён должен был обладать весьма богатым словарём, чтобы объясниться со своими одноплеменниками в необычайно усложнившихся условиях развитого родового общества. (*С.Наровчатов*)

**11. Прачытайце тэксты. Параўнайце іх з пункту погляду члянення на абзацы. Вызначце функцыі і ролю абзаца ў кожным тэксце. Да якіх тыпаў маўлення адносяцца дадзеныя тэксты?**

I. Можна толькі ўявіць, як уразіла ўпершыню антычнага чалавека Нагорная казань з яе запаведдзю, «залатым словам»: «Усё,

што вы толькі хочаце, каб рабілі вам людзі, тое самае рабіце ім і вы». Вядома, у старажытных можна знайсці пэўныя паралелі. Але ўсе яны выказаны ў адмоўнай форме, як, напрыклад: не рабі другому таго, чаго не хочаш, каб рабілі табе. Але гэта зусім не тое. Бо такое правіла можна захоўваць, застаючыся ў пэўным бяздзеянні. Гэта не вельмі складана. Успомнім Гётэ: лёгка быць маральным, нічога не робячы.

А тут станоўчае сцвярджэнне. І яго не знойдзеш ні ў старажытных мудрацоў, ні ў Канфуцыя, ні ў Буды. Гэта быў новы погляд на жыццё і новыя жыццёвыя абавязкі: рабі дабро іншым, бо ты хочаш, каб і табе было добра ад іншых. (*Літаратура і мастацтва*)

ІІ. У Італіі, у адным з найстарэйшых у свеце Падуанскім універсітэце, ёсць славутая «Зала сарака». На покуці стаіць зробленая з тоўстых дошак, сёння паточаная ўжо шашалем трыбуна-кафедра. Яна памятае, як некалі тут чытаў лекцыі Галілей. Цяпер на гэтым месцы стаіць бюст геніяльнага вучонага.

На сценах універсітэта скрозь памятныя знакі – эмблемы, гербы славутых родаў. Падуанскі універсітэт з гонарам ушаноўвае тых вялікіх, хто вучыўся альбо вучыў тут. Ды чаму не ганарыцца: адно такое імя, як Капернік ці Галілей, шмат што кажа ўсяму адукаванаму чалавецтву.

На сценах універсітэта – эмблемы...

Але ў «Зале сарака» ўжо не эмблемы, а сорак вялікіх партрэтаў слаўных з найслаўнейшых. Сярод іх другі ад покуці, каля кафедры Галілея, – Францішак Скарына.

Так за тысячы кіламетраў ад Беларусі, у далёкай Італіі, ушаноўваецца памяць аб нашым першадрукару Францішку Скарыну.

Менавіта са Скарынавых рук пяцьсот гадоў таму назад усходняе славянства атрымала першую друкаваную кнігу. (*А.Клышка*)

**12. Падрыхтуйце вуснае выступленне-разважанне на тэму «XXI стагоддзе – стагоддзе адраджэння нацыянальнай мовы і культуры». У якасці ключавых можна выкарыстаць словы:** навука, Слова, Сусвет, Беларусь, гуманізм, духоўнасць, асоба, сумленне, міласэрнасць, маральна-этычны, Зямля, праўда.

**13. Падрыхтуйце пісьмовае паведамленне на тэму «Роля маўлення ў працяканні псіхічных працэсаў».**

# РАЗДЗЕЛ 2

# ЛЕКСІКА БЕЛАРУСКАЙ МОВЫ ПАВОДЛЕ СФЕР ЯЕ ВЫКАРЫСТАННЯ

**Лексіка** (ад грэч. lexik ys – які адносіцца да слова) – гэта сукупнасць слоў пэўнай мовы, яе слоўнікавы склад. У больш вузкім значэнні лексіка абазначае асобныя пласты слоўнікавага складу мовы, вылучаныя на падставе той або іншай прыметы.

Лексічная сістэма, слоўнікавы склад мовы і асобнае слова як важнейшая адзінка гэтага складу з'яўляюцца прадметам лексікалогіі.

**Лексікалогія** (ад грэч. lexis – слова і logos – вучэнне) – раздзел мовазнаўства, які вывучае слоўнікавы склад мовы.

Падзел лексікі з пункту гледжання сфер яе выкарыстання заснаваны на ўліку сацыяльнай структуры таго грамадства, якое абслугоўвае мова. Грамадства – гэта не простая сукупнасць асобных індывідаў, а складаная сістэма самых разнастайных сацыяльных груп насельніцтва: класаў, прафесійных калектываў, грамадскіх і вытворчых арганізацый, прадстаўнікоў розных ідэалагічных, мастацкіх, рэлігійных плыней, жыхароў адной мясцовасці і г.д.

Абмен думкамі з дапамогай мовы адбываецца перш за ўсё ў межах канкрэтных тэрытарыяльных і сацыяльных груп. Карыстаючыся адзіным лексічным запасам, кожная з гэтых груп усё ж характарызуецца пэўнай спецыфічнасцю як у частотнасці ўжывання тых ці іншых разрадаў слоў, так і ў іх складзе. У сувязі з гэтым слоўнікавы склад мовы можа быць сістэматызаваны з улікам такога параметра, як агульнаўжывальнасць – абмежаваная ўжывальнасць. На аснове гэтага параметра ўсе словы нацыянальнага лексікону ўмоўна прынята аб'ядноўваць у дзве вялікія групы: лексіку агульнаўжывальную; лексіку абмежаванага выкарыстання.

## §1. Агульнаўжывальная лексіка

Да агульнаўжывальнай лексікі адносяцца словы, выкарыстанне якіх не залежыць ад месца жыхарства, прафесіі, сацыяльнага становішча людзей, не абмежавана моўнай сітуацыяй (стылем, жанрам, формай мовы), прыналежнасцю да той ці іншай часціны мовы. Агульнаўжывальнымі могуць быць словы ўсіх лексіка-граматычных класаў: назоўнікі (*школа, шчасце, каханне*), прыметнікі (*белы, дарагі, малады*), дзеясловы (*радавацца, хваліць, вучыцца*), лічэбнікі (*пяць, тысяча, адна другая*),

прыслоўі (*важна, добра, моцна*), займеннікі (*я, нейкі, што*), прыназоўнікі (*аб, каля, у*), злучнікі (*а, ці, або*), часціцы (*аж, не, нават*), выклічнікі (*ах, гэй, о*). Такія словы маюць устойлівую семантыку, з'яўляюцца агульназразумелымі і выкарыстоўваюцца ва ўсіх стылях мовы.

У межах агульнаўжывальнай лексікі могуць быць вылучаны розныя лексіка-семантычныя катэгорыі (амонімы, сінонімы, антонімы, паронімы), прадметна-тэматычныя і лексіка-семантычныя групы слоў, іншыя формы сістэмных адносін. А гэта значыць, што агульнаўжывальная лексіка з'яўляецца найбольш важнай часткай слоўніка нацыянальнай мовы, складае ядро лексічнай сістэмы, на базе якога адбываецца яе далейшае ўзбагачэнне і ўдасканаленне.

## §2. Лексіка абмежаванага ўжывання

Да лексікі абмежаванага ўжывання адносяцца словы, уласцівыя мове пэўнай тэрытарыяльнай або сацыяльна абмежаванай групы людзей, а таксама выкарыстанне якіх абумоўлена спецыфікай іх лексічнага значэння. У залежнасці ад таго, як яны выкарыстоўваюцца, у складзе лексікі абмежаванага ўжывання можна вылучыць наступныя спецыфічныя пласты:

1) лексіка, якая абмежавана тэрыторыяй ужывання:
- дыялектная лексіка;

2) лексіка, якая характэрна сацыяльна абмежаванай групе людзей:
- спецыяльная лексіка;
- жаргонная і аргатыўная лексіка.

Падзел лексікі на агульнаўжывальную і абмежаваную ў выкарыстанні з'яўляецца ў пэўнай меры ўмоўным і патрабуе некаторых заўваг. Лічыцца, напрыклад, што прадметам лексікалогіі з'яўляецца толькі агульнаўжывальная лексіка, паколькі дыялектныя, жаргонныя, аргатыўныя словы і прафесіяналізмы знаходзяцца па-за межамі ўнармаванай літаратурнай мовы. І ўсё ж азнаямленне з лексікай абмежаванага выкарыстання неабходна па той прычыне, што яна пастаянна ўступае ва ўзаемадзеянне з агульнаўжывальнай лексікай, становячыся адной з найважнейшых крыніц узбагачэння апошняй новымі намінацыйнымі і выяўленча-стылістычнымі сродкамі.

### 2.1. Дыялектная лексіка

Дыялектная лексіка (грэч. dialektos – гаворка, дыялект) – гэта словы, якія ўжываюцца на пэўнай тэрыторыі і вядомы не ўсім нось-

бітам беларускай мовы, а толькі тым, хто жыве на той тэрыторыі, дзе яны бытуюць. Аснову кожнай мясцовай гаворкі складаюць словы агульнаўжывальныя. Частка лексікі гаворкі або дыялекта, якая адрозніваецца ад агульнаўжывальнай, складае дыялектную лексіку. *Асобнае дыялектнае слова, уведзенае ў літаратурны тэкст, але поўнасцю не асвоенае літаратурнай мовай, называецца дыялектызмам* (англ. dialectism).

Дыялектызмы падзяляюцца на пяць разрадаў: **1) лексічныя дылектызмы** – гэта мясцовыя словы-назвы агульнавядомых прадметаў, дзеянняў, прымет. У літаратурнай мове такім назвам адпавядаюць агульнаўжывальныя словы. Сярод іх адрозніваюцца: <u>уласналексічныя дыялектызмы</u> – гэта мясцовыя назвы агульнавядомых прадметаў, з'яў і паняццяў, напрыклад: *вятроўкі* (басаножкі), *ясёнка* (асенняе паліто), *шаліноўка* (святочная хустка), *змануць* (прывыкнуць), *жылач* (верабей), *кулінкі* (парэчкі) і г.д.; <u>этнаграфічныя дыялектызмы</u> – гэта словы, якія называюць рэаліі, характэрныя ў пэўнай мясцовасці і для наймення якіх адсутнічаюць літаратурныя словы. Напрыклад, у некаторых гаворках Гродзеншчыны ўжываецца слова *кузёмка*, якое абазначае пасудзіну з кары для збірання ягад. У іншых мясцінах Беларусі гэты прадмет не сустракаецца, таму прыведзенае вышэй слова абмежавана толькі пэўнай тэрыторыяй, г.зн. абмежавана этнаграфічна. У «Слоўніку гаворак цэнтральных раёнаў Беларусі» сустракаюцца наступныя этнаграфічныя дыялектызмы: *апора* – 'корм скаціне з мякіны, мукі, сянной пацярухі', *ясік* – 'маленькая падушка', *кляпанкі* – 'калошы сваёй работы', *матлахон* – 'непаседлівы чалавек', *дахаўка* – 'футравае паўпаліто'; **2) семантычныя дыялектызмы** – гэта такія мясцовыя назвы, якія ў вымаўленні і напісанні супадаюць з агульнанароднымі словамі, але адрозніваюцца ад іх сваім значэннем. Напрыклад: *лазня* (дыял.) – 'дзіця, якое ўсюды ўлезе, нашкодзіць' і *лазня* (літ.) – 'спецыяльнае памяшканне, у якім мыюцца і парацца' і 'мыццё ў такім памяшканні'; *смага* (дыял.) – 'гора, бяда' і *смага* (літ.) – 'моцнае жаданне піць'; *дубальтоўка* (дыял.) – 'падвойная хустка' і *дубальтоўка* (літ.) – 'двухствольнае паляўнічае ружжо'; *галка* (дыял.) – 'плечавы сучтаў' і *галка* (літ.) – 'від птушкі'; *дрыгва* (дыял.) – 'застылы адвар разам з кусочкамі мяса ці без яго' і *дрыгва* (літ.) – 'балота' і г.д.; **3) фанетычныя дыялектызмы** – гэта мясцовыя назвы, якія адрозніваюцца ад літаратурных слоў асобнымі гукамі, напрыклад: *братачко* (братачка), *дрянікі* (дранікі), *пасоля* (фасоля), *хвартух* (фартух), *штрап* (штраф), аглянуўса (аглянуўся), *хадзема* (хадзем) і г.д.; **4) слова-**

**ўтваральныя дыялектызмы** – гэта мясцовыя назвы, якія адрозніваюцца ад суадносных літаратурных слоў словаўтваральнымі сродкамі, напрыклад: *дабытак* (прыбытак), *стрывожыцца* (устрывожыцца), *тамака* (там), *пявун* (певень), *жартун* (жартаўнік), *насевак* (насенне) і г.д.; **5) граматычныя дыялектызмы** – гэта мясцовыя назвы, якія адрозніваюцца ад літаратурных слоў асобнымі граматычнымі значэннямі ці сродкамі іх выражэння. Напрыклад, дыялектызмы *дрыгво*, *разор, санаторыя, траншэй* адрозніваюцца ад адпаведных агульналітаратурных слоў *дрыгва, разора, санаторый, траншэя* граматычным значэннем роду; дыялектызмы *гавора, нясець, ходзя, кажыць* ад формаў дзеясловаў *гаворыць, нясе, ходзіць, кажа* адрозніваюцца канчаткамі, гэта значыць сродкамі выражэння граматычнага значэння 3-й асобы цяперашняга часу адзіночнага ліку.

Дыялектная лексіка – крыніца ўзбагачэння агульнаўжывальнай лексікі беларускай мовы. Шмат слоў, некалі вядомых толькі ў асобных гаворках, так пашырылі сферу свайго ўжывання, што сталі агульнаўжывальнымі, напрыклад: *аселіца, акрыяць, бруіцца, нягеглы, плён, плённы* і інш.

## 2.2. Спецыяльная лексіка

Да спецыяльнай лексікі адносяцца словы, што ўжываюцца прадстаўнікамі пэўнай спецыяльнасці ці галіны навукі. Асноўнымі разрадамі спецыяльнай лексікі з'яўляюцца тэрміны, наменклатурныя назвы і прафесіяналізмы.

Усе гэтыя разнавіднасці спецыяльнай лексікі аб'яднаны не толькі адной сферай зносін, але і абавязковай суаднесенасцю са спецыяльным (навуковым або тэхнічным), а не агульнаўжывальным паняццем. І тэрміны, і наменклатурныя назвы, і прафесіяналізмы з'яўляюцца назвамі спецыфічных рэалій або паняццяў са сферы навукі, тэхнікі, вытворчасці і г.д. У той жа час класы тэрмінаў і прафесіяналізмаў супрацьпастаўлены па прымеце «афіцыйнае, узаконенае, нарматыўнае найменне спецыяльнага паняцця» – «неафіцыйнае, неўзаконенае, ненарматыўнае найменне паняцця», а таксама сферай функцыянавання: для тэрмінаў – гэта пісьмовае маўленне, для прафесіяналізмаў – вуснае маўленне прадстаўнікоў розных прафесій.

Наменклатура, у сваю чаргу, супрацьпастаўляецца тэрміналогіі як сукупнасць найменняў прадметаў сукупнасці найменняў паняццяў. Наменклатурны знак называе канкрэтныя прадметы, даклад-

ней клас аднародных прадметаў, а тэрмін – тэарэтычнае паняцце або агульнае паняцце пра клас прадметаў.

### 2.2.1. Тэрміны, наменклатурныя назвы, прафесіяналізмы

У сучасным мовазнаўстве пакуль што няма адзінага вызначэння паняцця «тэрмін».

Існуе некалькі канцэпцый пры вырашэнні данага пытання, заснаваных на розных камбінацыях прымет, якія прыпісваюцца тэрмінам, тым не менш большасць даследчыкаў падкрэсліваюць, што менавіта сувязь тэрміна з навуковым або тэхнічным паняццем з'яўляецца яго асноўнай вызначальнай уласцівасцю.

Аднак улік толькі гэтай уласцівасці, разуменне тэрміналагічных адзінак як адзінак, якія суадносяцца з больш дакладнымі па змесце паняццямі, што арганізаваны ў строгую сістэму, і прыводзіць да ідэалізацыі ўласцівасці тэрміна. Істотна важна, што тэрмін застаецца элементам моўнай сістэмы, на які яна пастаянна ўплывае, які жыве па яе законах, чым тлумачыцца парушэнне адназначнай адпаведнасці тэрміна і паняцця, характэрнага для большасці тэрмінасістэм. Астатнія ўласцівасці тэрміна (адсутнасць полісеміі, сінаніміі, высокая дакладнасць тэрміна і інш.) трэба разглядаць як пажаданыя, але цяжка рэалізуемыя на практыцы, разглядаць як тэндэнцыю.

І паколькі праблема лінгвістычнай сутнасці тэрміна канчаткова не вырашана, то *тэрмінам можна лічыць слова ці лексікалізаванае спалучэнне, якое суадносіцца з адпаведным спецыяльным паняццем навукі ці тэхнікі і мае дэфініцыю*.

Асвятляючы праблему тэрміна, даследчыкі фармулююць шматлікія патрабаванні, якім павінен адпавядаць тэрмін. Абагульніўшы думкі розных даследчыкаў, можна вылучыць наступныя патрабаванні да тэрміна, якія павінны ўлічвацца пры стварэнні тэрмінасістэмы любой галіны навукі і тэхнікі: *тэрмін павінен*: дакладна суадносіцца з выражаемым паняццем; быць лексічна сістэмным; адпавядаць сінтаксічным нормам літаратурнай мовы; быць па магчымасці кароткім; быць монасемічным; *тэрмін не павінен*: быць плеанастычным; змяшчаць у сабе лішкавай інфармацыі; мець сінонімаў, амонімаў, морфаварыянтаў.

*Наменклатурныя назвы (наменклатура) (лац. nomenclatura – роспіс імён, пералік, спіс) – гэта назвы, якія выкарыстоўваюцца ў якой-небудзь галіне навукі, вытворчасці для абазначэння яе аб'ектаў* (у адрозненне ад тэрміналогіі, дзе ўтрымліваюцца назвы абстрактных паняццяў і катэгорый).

*Прафесіяналізм – гэта слова або выраз, характэрныя для людзей пэўных прафесій, распаўсюджанае ў гутарковай мове або ўжытае ў мастацкім творы.*

Тэрміны і прафесіяналізмы ўваходзяць у паняцце «спецыяльная лексіка». Але тэрміны адрозніваюцца ад прафесіяналізмаў сістэматызаванасцю, унармаванасцю, кадыфікаванасцю. Так, тэрмін з'яўляецца афіцыйна ўзаконенай назвай навуковага паняцця, якая зафіксавана ў слоўніку і пераважае ў пісьмовых тэкстах, а прафесіяналізм – гэта слова, уласцівае гаворцы групы асоб, аб'яднаных агульнай прафесіяй. Прафесіяналізмы амаль заўсёды экспрэсіўныя, а тэрмін звычайна стылістычна нейтральны. Тэрміны маюць агульнанацыянальны і часам інтэрнацыянальны характар, а прафесіяналізмы нярэдка носяць мясцовы характар.

### 2.2.2. Узаемадзеянне паміж спецыяльнымі і агульнаўжывальнымі словамі

Паміж спецыяльнай і агульнаўжывальнай лексікай існуе пастаяннае ўзаемадзеянне: частка агульнаўжывальных слоў становіцца тэрмінамі, а многія тэрміны пранікаюць у літаратурную мову. Згодна з існуючымі поглядамі на паняційны змест тэрмінаў і агульнаўжывальных слоў, апошнія выражаюць агульныя, зразумелыя і вядомыя ўсім паняцці. Напрыклад, параўнаем значэнні некаторых агульнаўжывальных слоў (АС) і тэрмінаў (Т): *дзяцінства* (АС) – 1. Дзіцячая пара; дзіцячыя гады. *Шчаслівае <u>дзяцінства</u>. Яго <u>дзяцінства</u> прайшло ў вёсцы*. 2. Па-дзіцячаму легкадумныя паводзіны, учынкі. *Яму не маглі дараваць гэтага <u>дзяцінства</u>*. (ТСБЛМ, с.180) і *дзяцінства* (Т) – этап развіцця чалавека, які папярэднічае дарослдосці і характарызуецца інтэнсіўным ростам арганізма і фарміраваннем вышэйшых псіхічных функцый. *<u>Дзяцінства</u> па міжнародным нормам, якія замацаваны ў Канвенцыі ААН аб правах дзіцяці, ахоплівае перыяд жыцця ад нараджэння да прыблізна малодшага юнацкага ўзросту* (ПС, с.36); *трывога* (АС) – неспакой, моцнае душэўнае хваляванне, выкліканае страхам, небяспекай і пад. *<u>Трывога</u> за лёс дзяцей*. 2. Шум, перапалох, мітусня. *Усе крычалі, адчувалася моцная <u>трывога</u>*. 3. Небяспечнае становішча, а таксама сігнал, які апавяшчае аб ім. *Паветраная <u>трывога</u>* (ТСБЛМ, с.664) і *трывога* (Т) – прыўзнятая схільнасць чалавека перажываць хваляванне, небяспеку ў самых розных сітуацыях, у тым ліку і ў такіх, грамадскія характарыстыкі якіх да гэтага не прадвызначаны. *<u>Трывога</u> малодшых школьнікаў найчасцей праяўляецца ў навучальным працэсе* (ПС, 151).

З прыведзеных прыкладаў бачым, што ў агульнаўжывальных словах выражаецца перш за ўсё інфармацыя пра пачуццёва ўспрымальныя прадметы і з’явы навакольнага асяроддзя і вельмі часта – пра эмацыянальны стан чалавека, звязаны з уздзеяннем на яго гэтых прадметаў і з’яў. У тэрмінах на першы план выходзіць інфармацыя пра лагічныя абагульненні якасцей, уласцівасцей, прымет, якія адносяцца да пэўных груп, класаў, аднародных па гэтых якасцях, уласцівасцях і прыметах. Эмацыянальная афарбоўка слоў страчвае сваё першаснае значэнне, калі слова набывае нейкае прафесійнае значэнне і становіцца тэрмінам з іншым лексічным значэннем. Але гэта не значыць, што словы агульнага ўжывання лагічна не абагульняюць прадметы і з’явы. Аднак ступень абагульнення тут іншая, яна не ўзнімае свядомасць на ўзровень адцягнення логікі ад эмоцый.

Такім чынам, тэрмін любой галіны ведаў выражае спецыяльнае прафесійнае паняцце, калі ён ужываецца ва ўмовах спецыяльнай камунікацыі: у пісьмовых тэкстах або вусным маўленні спецыялістаў. А агульнаўжывальныя словы выражаюць бытавыя паняцці або агульныя ўяўленні; прычым межы паміж бытавым паняццем і агульным уяўленнем вельмі ўмоўныя. У той жа час і тэрміны, і словы, і словазлучэнні агульнага ўжывання здольны называць прадметы і выражаць паняцці пра іх у залежнасці ад камунікацыйных задач свайго функцыянавання; прычым тэрмін, які ўжываецца ў мастацкім тэксце, здольны рэалізаваць не спецыяльнае прафесійнае, а бытавое паняцце або агульнае ўяўленне, і разам з тым часткова рэалізаваць уласнае значэнне, звычайна суадносячыся з прадметам, але не з паняццем.

## 2.3. Жаргонная і аргатыўная лексіка

Ад лексікі дыялектнай і спецыяльнай адрозніваецца так званая жаргонная лексіка. *Жаргон* (фр. j argon) – сацыяльная разнавіднасць мовы, якой карыстаюцца прафесійныя групы і сацыяльныя праслойкі людзей, аб’яднаных агульнасцю інтарэсаў, звычак, заняткаў, сацыяльнага становішча. Яна адрозніваецца ад літаратурнай мовы спецыфічнай лексікай і фразеалогіяй, створанай на аснове агульнаўжывальных слоў шляхам эмацыянальна-прафесійнага іх пераасэнсавання. Існуе, напрыклад, жаргон гандляроў, спартсменаў, маракоў, вайскоўцаў, студэнтаў, выкладчыкаў і г.д. Жаргон з’яўляецца своеасаблівым дыялектам пэўнай узроставай групы людзей або «прафесійнай» карпарацыі (Л.І.Скварцоў). Таму жаргоны часта называюць сацыяльнымі дыялектамі.

У адрозненне ад тэрытарыяльных дыялектаў жаргонная лексіка не мае сваёй фанетычнай і граматычнай сістэмы. Лексіка жаргона фарміруецца на базе слоў літаратурнай мовы шляхам іх пераасэнсавання, метафарызацыі. Словы і выразы жаргоннай мовы, якія выкарыстоўваюцца за межамі жаргону, называюцца *жарганізмамі*.

Жарганізмы тэматычна звязаны з рознымі групамі прафесійнай лексікі. *Прафесійныя жарганізмы* – гэта прастамоўныя словы прафесійнага маўлення, бытавыя, стылістычныя адпаведнікі тэрмінаў і прафесіяналізмаў. Па сваім паходжанні прафесійныя жарганізмы з’яўляюцца або пераасэнсаванымі агульнаўжывальнымі словамі, або новаўтварэннямі ад іх. Але ў адрозненне ад тэрмінаў і прафесіяналізмаў, створаных такім самым спосабам, прафесійныя жарганізмы ўяўляюць сабой нематываваныя назвы. Яны даюцца прадмету, з’яве, працэсу на аснове або прыблізнай, або аддаленай асацыяцыі. Напрыклад: *гарбач* – нямецкі самалёт-разведчык, *буйны асетр* – пасажыр, які далёка едзе. Аўтамабілісты, напрыклад, часта карыстаюцца словам *керагаз* (старая дрэнная машына-грузавік), *баранка* (руль у аўтамашыне), *чайнік* (нявопытны шафёр).

У маладзёжных калектывах, у прыватнасці ў студэнцкім і вучнёўскім асяроддзі, можна сустрэць такія ўтварэнні, як *немка* (настаўніца нямецкай мовы), *арганіка* (арганічная хімія), *чыталка* (чытальная зала), *хвост* (не здадзены ў тэрмін экзамен, залік і пад.), *продкі* (бацькі).

Своеасаблівым жаргонам карыстаюцца людзі, звязаныя агульнасцю інтарэсаў негатыўнага характару: *халтура* (нядобрасумленна выкананая работа), *налізацца* (напіцца), *свіснуць* (украсці) і інш.

Жарганізмы ў мастацкай літаратуры выкарыстоўваюцца для тыпізацыі персанажаў, характарыстыкі сацыяльных груп і катэгорый людзей.

Жаргонная лексіка няўстойлівая і часам значна змяняецца. Лексіка розных жаргонаў можа часткова супадаць, утвараючы так званы інтэржаргон. Асобныя жаргонныя словы могуць набываць больш шырокае ўжыванне, захоўваючы зарад экспрэсіўнасці, эмацыянальнай ацэнкі. Некаторыя жарганізмы часам пранікаюць у літаратурную мову і замацоўваюцца ў ёй у сваім пераносным, ацэначным значэнні, напрыклад: *Аркадзю пасля таго, як ён зрэзаўся пры паступленні ў педагагічны інстытут, нават боязна было і падумаць паступаць яшчэ куды-небудзь* (Р.Сабаленка. Бурштынавае вочка). Аднак ужыванне жарганізмаў у мастацкай літаратуры ў якасці характарыстычных сродкаў патрабуе вялікага майстэрства. Інакш ужыванне жаргоннай лексікі можа засмеціць мову, зрабіць яе грубай, малазразумелай і непрыгожай.

Адной з разнавіднасцей жаргонаў з’яўляецца *арго* (фр. argot – замкнуты, нядзейсны). У строга тэрміналагічным сэнсе арго – гэта мова нізоў грамадства, дэкласаваных груп і крымінальнага асяроддзя: жабракоў, злодзеяў, карцёжных шулераў і г.д. Напрыклад: *пахан*, *папаня* (неафіцыйны лідэр сярод турэмшчыкаў), *вышка* (вышэйшая мера пакарання), *стукач* (даносчык) і да т.п.

Аргатыўныя словы, як і жарганізмы, не ўваходзяць у лексіка-семантычную сістэму беларускай літаратурнай мовы, але могуць выкарыстоўвацца ў літаратурна-мастацкіх і публіцыстычных творах для характарыстыкі персанажаў, сацыяльнага асяроддзя, гістарычнай эпохі і пад.

**ПЫТАННІ І ЗАДАННІ**

1. Што такое лексіка?
2. Сфармулюйце прыметы лексічнага складу мовы.
3. На якія групы падзяляецца лексіка паводле сфер яе выкарыстання?
4. Якія пласты можна выдзеліць у складзе лексікі абмежаванага выкарыстання?
5. Ахарактарызуйце дыялектную і жаргонную лексіку.
6. На якія разрады падзяляюцца дыялектныя словы? Ахарактарызуйце кожны разрад.
7. Якія лексічныя адзінкі адносяцца да спецыяльнай лексікі?
8. Што такое тэрмін?
9. Растлумачце ўзаемадзеянне паміж спецыяльнымі і агульнаўжывальнымі словамі
10. Дайце азначэнне тэрміна «наменклатурная назва».
11. Чым адрозніваюцца паміж сабой тэрміны і наменклатурныя назвы?
12. Што называецца прафесіяналізмам?
13. Назавіце прыметы, па якіх тэрміны і прафесіяналізмы адрозніваюцца паміж сабой.
14. Сфармулюйце патрабаванні, якім павінен адпавядаць тэрмін.

**ПРАКТЫКАВАННІ**

**1. Выпішыце са сказаў выдзеленыя словы, вызначце сферу іх выкарыстання.**

1. Не крычыце, чайкі, не завіце ў мора, я ж не *салажонак*, ведаю ваш нораў. (*Х.Ж.*) 2. А ў нашым інстытуце без чарчэння хоць вучыцца кідай. У мяне чуць *хвост* не быў. (*Ермал.*) 3. Сам чысты, тоўсты, і жонка – *загладуха* такая, што ў дзверы не пройдзе. (*Кудр.*) 4. А часу так не хапала: з раніцы да вечара ў *чыталцы*. Затым глытаў паэзію, прозу, крытыку. (*Стр.*) 5. Ён дакурыў самакрутку, кінуў маленькі *бычок* у цяпельца. (*Мас.*) 6. *Індывідуальнасць* – своеасаблівы і непаўторны жыццёвы шлях кожнага чалавека, умовы яго жыцця і дзейнасці, навучання і выхавання. (*Нем.*) 7. Васіль, паправіўшы *дворнікі*, хуценька сеў у машыну і паехаў у вёску па дзяцей. (*І.Н.)* 8. Мічман загадваў аднаму матросу *задраіць* з левага борта ілюмінатары, а другому аднесці прадукты ў камбуз. (*Кудр.*) 9. «Мой артыкул на першай *паласе*, а твой – размешчаны ў *падвале*!» – са злюсцю сказаў Міхась Пятровіч. (*Мысл.*) 10. *Амбідэкстрыя* можа быць з самага нарэджэння або ўзнікнуць у выніку трэніроўкі. (*П.С.*) 11. «Ведаеш, Андрэй, ці не *ўліплі* мы з гэтым дзядзькам: нешта ён дужа прыязна пазіраў на нас,» – заўважыў Янка. (*К-с*) 12. Цяпер зноў графік падціскае. *Філоніць* тут не будзеш. (*Мысл.*) 13. *Бузу* я раней цёр вялікую... Але ж, бачыш, кінуў я ўсю гэтую *муру*. (*Лыньк.*) 14. З дапамогай *арала* плытагоны стрымліваюць плыт. (*Хадк.*) 15. *Фабіі* бываюць пры неўрозах і псіхапатыях у *псіхастэнікаў*, а таксама пры розных псіхозах з эмацыянальнымі расстройствамі. (*П.С.*)

**2. Выпішыце асобна словы агульнаўжывальныя і абмежаванага выкарыстання. Знайдзіце словы, якія ў залежнасці ад кантэксту можна аднесці і да адной, і да другой групы.**

Аблуда, абстракцыянізм, аграрнік, адбухаць, адчуванне, адэкватны, акопнік, аксаміт, баланс, бацян, біхевіярызм, брамнік, бычок, вакцына, вуркаган, дворнікі, дзежка, каханне, керагаз, кок, лібіда, немка, пазёмка, псіхааналіз, радасць, раздражняльнік, рэакцыя, рэгулятар, рэчаіснасць, саманазіранне, свядомасць, страх, суфікс, сшытак, трансфармацыя, універ, успрыманне, халасцяк, чыталка, элемент, энергія.

**3. Прачытайце выказванні пісьменнікаў і мовазнаўцаў пра ўжыванне дыялектызмаў у мове мастацкай літаратуры. Ці можна выкарыстоўваць дыялектныя словы ў іншых стылях беларускай літаратурнай мовы?**

1. Зусім няма патрэбы ўводзіць дыялектызм, калі ёсць адпаведныя агульнанародныя словы. Няма патрэбы пісаць, напрыклад,

«махнытка», калі ёсць «галавешка». У некаторых мясцовасцях на Палессі пеўняў называюць кабанамі, дык не будзем жа мы пісаць «кабаны пяюць», хоць там іменна так і гавораць. (*К.Крапіва*)

2. «Густое ўжыванне дыялектызмаў, ды яшчэ ў мясцовым вымаўленні» М.Лужанін называе «крайнасцю»: «Тут патыхае небяспека – аўтар будуе сцяну незразумеласці паміж сабою і чытачом. Адно-два толькі ёмкія слоўцы (булы і выпілы) даў Колас свайму дзядзьку Есыпу, і перад намі жывы паляшук з яго гаворкай. І не трэба бясконца паўтараць якое-небудзь «ета», «быдта» ці што-небудзь падобнае. Дарма думаюць, нібы такім спосабам можна перасягнуць Коласа, які, бачыце, апісваў Палессе з пазіцый «заезджага настаўніка Лабановіча». Класікі, уводзячы малазнаёмыя шырокаму чытачу словы, выходзілі пераможцамі ў абнаўленні і ўзбагачэнні лексікі, бо ведалі меру, мелі густ распазнаваць, што дае мове свежасці і сакавітасці, што губіць яе». (*М.Лужанін*)

3. Калі аўтар у пагоні за новымі словамі без патрэбы ўводзіць іх [правінцыялізмы], г.зн. калі літаратурная мова мае свае ўжо стабільныя словы, усім зразумелыя і вядомыя, то ён паступае няправільна. Але калі ён знойдзе добрае, трапнае слова, то чаму не ўвесці яго ў літаратуру? (*Я.Колас*)

4. Дапушчэнне ў літаратурную мову слоў з мясцовых дыялектаў, на наш погляд, магчыма, але пры той толькі ўмове, калі гэтыя словы дапаўняюць мову з семантычнага боку, уносяць новыя, невядомыя яшчэ адценні. Але побач з гэтым непажадана ўводзіць у літаратурную мову словы, якія бытуюць на абмежаванай тэрыторыі і не ўносяць у мову нічога новага, калі яны з'яўляюцца незразумелымі сінонімамі да агульнавядомых слоў, а яшчэ горш – іх варыянтамі. На жаль, слоў гэтай катэгорыі ў нашай беларускай літаратуры з лёгкай рукі некаторых пісьменнікаў развялося занадта многа. Што, напрыклад, даюць літаратурнай мове і каму зразумелыя словы: *выразніў, лісцілі, смяцінка, нагруджваць, вірадавала, уваротка*? (*М.Лобан*)

5. Само сабой разумеецца, што прынцыпы ўзнаўлення сацыяльна-тыпічнай характарыстыкі маўлення не могуць быць натуралістычнымі. Мастацкі твор не з'яўляецца помнікам або дакументам ні абласной дыялекталогіі, ні сацыяльнай жарганалогіі. (*В.У.Вінаградаў*)

6. Першае (што засмучае пры чытанні сучаснай мастацкай літаратуры) – гэта празмернае засмечванне нашай літаратурнай мовы дыялектызмамі, неапраўданае і мастацка немэтазгоднае ўвядзенне ў мову аўтара (падкрэсліваю: аўтара, а не яго героя!) слоў ці граматычных асаблівасцей вузкамясцовай гаворкі, – слоў і асаблівасцей,

якія толькі робяць больш цяжкім разуменне і ўспрыняцце тэксту, і само сабой – толькі раздражняюць. У чытача яны выклікаюць зусім слушнае пытанне: навошта? Навошта – калі ёсць лепшае, прыгожае, ёмкае і агульнавядомае для ўсяго народа слова? Калі ёсць агульнапрынятая літаратурная норма? (*Н.Гілевіч*)

7. Многія сучасныя маладыя беларускія пісьменнікі шырока ўводзяць у літаратурны ўжытак вузкадыялектныя словы, практычна зразумелыя толькі невялікаму колу чытачоў... Падобная дыялектызацыя слоўнікавага саставу толькі павялічвае розніцу паміж пісьмовай і разумовай формамі беларускай літаратурнай мовы ў галіне лексікі. (*А.І.Жураўскі*)

8. У мастацкім творы... кожны дыялектызм павінен быць матываваны пэўнымі мастацка-выяўленчымі, эстэтычнымі мэтамі. (*М.М.Шанскі*)

**4. Прачытайце сказы, выпішыце дыялектызмы, растлумачце іх значэнне. Вусна замяніце дыялектызмы агульнаўжывальнымі словамі.**

1. Над пацямнелымі стагамі крычалі вароны і садзіліся на стромкія сцежары. (*Грах.*) 2. Маладыя жаўтаватыя апенькі і варушкі абляпілі пні. Іх несамнога: не іхняя яшчэ пара. (*Пташ.*) 3. Стаяла восень – чорствая, сухаватая – ужо капалі картоплі. (*Ад.*) 4. Што ты кажаш, суседко! Пеaражывем неяк. Перагораем, буць не можа. (*І.М.*) 5. Дамовіліся так. Начавацьме хлопец тут, на ферме, разам з усімі намі. (*Сач.*) 6. Я ў сваёй хаце, а яна на кладзішчы. А там жа труну не адчыніш і не спытаеш: «Як жа ты тут, жонка? Ці мулка табе? Ці душна?» (*Сіп.*) 7. Стары сярмягу з вешака сарваў, накінуў хутка... (*М.Т.*) 8. Стокрылы вецер дол аблахаваў і вобзем кінуўся наўзбоч. (*Гіл.*) 9. Нечага гаварыць аб тым, чаго і ў жыцці нямашака. (*Лыньк.*) 10. Зашамрэлі мацней каласы. (*Багд.*)

**5. Спішыце сказы. Падкрэсліце дыялектызмы і вызначце іх віды.**

1. Паміж леташніх кустоў чырванее асавік. (*Гл.*) 2. Калі зацвіце, зашуміць канюшына, ты ў цішы даглядацьмеш і сад, і дом. (*К.*) 3. Анупрэй згаджаўся, што ён віноўнік перад таварышамі, што ён зрабіў цяжкую абмылку. (*Ц.Г.*) 4. Зарыпіць, быццам прастуджаны, асвер. (*М.*) 5. Цімох паліў на сотках леташні бульбешнік. (*Кудр.*) 6. Зялёныя, гострыя шаблі аеру праб'юцца да сонца з збуцвелай вады.

(*Гл.*) 7. Сёліта Сымоніха выкарміла гэткага лоўкага парсючка, што ўсім на дзіва. (*Бяд.*) 8. І пад песню агнявую, радасці ўзлёт, мы ў палёх перабудуем твой жытнёвы лёс. (*К.*) 9. Хтось з нашае вёскі знайшоў лагво воўчае. (*Сач.*)

**6. Прачытайце сказы, выпішыце дыялектызмы. Вызначце, як яны ўводзяцца ў тэкст (з тлумачэннем – без тлумачэння, у мове герояў – у мове аўтара). Вызначце значэнне дыялектных слоў, праверце свае меркаванні па дыялектных слоўніках.**

1. Снег асеў, пацвярдзеў і пакрыўся гладкаю бліскучаю скарынкаю – шарпаком, як гаварылі ў Янкавінах. (*Дал.*) 2. «Садзіцеся, галубэ,» – ні то сярдзіта, ні то лагодна прамовіла Чапроўская. (*Дал.*) 3. Госця паставіла збанок, села насупраць, на столаку. (*Дал.*) 4. Мост быў чысты і нейкі белы; на пярэчках сядзелі вароны, нагінаючыся ўніз, – гатовы былі адразу ўзляцець. (*Пташ.*) 5. Змагіцель кінуў у рот трускалку. (*Каратк.*) 6. Добра во, што дроў яны прывезлі яшчэ ў жніўні, адразу ж іх парэзалі, склалі ў вярсту. (*В.Г.*) 7. Бегала і на ферму, і з фермы праз дзядзінец ля плота ці праз свой гарод баразной між гранак. (*Пташ.*) 8. «Я ў калгасі лён брала», – сказала бабуля (*І.К.*). 9. Адале мароз ударыў, укаваў усё. (*Міс.*)

**7. Прачытайце ўрывак з пародыі Г.Юрчанкі «Спаміны». Ахарактарызуйце лексіку прапанаванага тэксту.**

Спамінаецца...

Пад'еўшы хармушкі, зацiркі са здорам і забеленай сачыўкі, кладу маскаль у кішэнь палітона і кіруюся на прыпынак. Іду міма бярозавага пня. Рыхтык такі стаяў на дзедавым котлішчы яшчэ польскім часам. Сок на ім ружавеў і броснеў. Па сцукраванай плешыне поўзалі мухі.

Цераз дарогу ўлукаткі перабягае верабей з пёрынай у дзюбцы. Ладна выліняў, мусі, умее гэльцаць...

Выстойваю, балазе, нядоўга. Падыходзіць знябожаны аўтобус, недалэнга бразгаючы жалезным нутром і знясілена сапучы. Сцішана адчыняюцца заточаныя лапікам дзверы. Унутры стаіць нягучная гамана.

– Нех бэндзе похвалёны! – кідаю я ўваходзячы. Возьдзека! На мяне нуль увагі...

**8. Прачытайце. Назавіце жарганізмы. Адзначце, для мовы якой сацыяльнай групы людзей яны характэрны.**

1. Дрэнна толькі, што пачалі давіць шпану ды ў прытулак забіраць. (*М.Л.*). 2. У іх студэнцкім атрадзе былі дзяўчаты, хімічкі, як называлі іх, бо яны з хімфака. (*І.К.*) 3. Зойка правaліла літаратуру і цяпер бегала, наводзіла даведкі, куды можна паспрабаваць яшчэ здаць дакументы. (*І.Ж.*) 4. «Ты – добры чувак, я ведаў», – расчуліўся Квакула. (*Міс.*) 5. «Не палохай, начальнік! – здзекліва абарваў Максіма Аброць. – Ты яшчэ смэргі падціраў, а Пятро Аброць у свет вялікі падаўся...Аброць сваю жыццёвую пайку ўдосталь рассмакаваў! Усё адно дзе падыхаць!.. мяне спаймаў, але я – пічкурык, плотка!». (*В.Д.*) 6. «Хо-хо...Думаў – застукае продак на месцы...» – радасна аддыхваецца Другі. (*Міс.*)

**9. Спішыце. Падкрэсліце жарганізмы, вызначце функцыю гэтых слоў у тэксце (характарыстыка героя, розных прадметаў і з'яў, сацыяльнага асяроддзя, выражэнне пазіцый аўтара).**

1. «Алесь Раманавіч! – пачуўся голас шафёра. – Рэдактар кліча». Апрануўся па-ваеннаму, за пару мінут, думаў, што прапусціў недзе памылку... Нервы напяліся: няўжо прапусціў ляп? (*Нов.*). 2. Ты – малайчына. Ты – проста – малаток! (*Міс.*). 3. Да прыпынку якраз падышоў вялізны «Ікарус» з Кладна, і з яго павалілі «нашчадкі», што прыехалі ў госці і па каўбасы да «продкаў» (*Каратк.*). 4. Як вучоба мая, кажаш? Чорт яе ведае, часу не стала хапаць, «хвастоў» многа (*Міс.*). 5. Былы мой друг зрабіўся жмотам, прыварак чэрпае густы (*Панч.*). 6. «А мяне гэта не калыша...» – Валерка адвярнуўся, не глядзеў ні на яго, ні на зайца (*Пташ.*). 7. Гэтыя яшчэ не рашылі, куды пайсці, хоць выбар быў і не вельмі багаты: прашвырон, ракавіна і ракета. Прашвыронам на мясцовым жаргоне звалі магчымасць свабодна гуляць... ракавінай называлі танцпляцоўку, бо сховішча для музыкаў нагадвала марскую ракавіну, ракетай – кінатэатр (*Стр.*).

**10. Дайце характарыстыку лексікі дадзенага тэксту. Вызначце значэнне выдзеленых слоў шляхам падбору сінонімаў з агульналітаратурнай мовы.**

Апоўначы ў шаламане мелася адбыцца *талковішча*. Сабраліся кукальнікі, фармазоны, шчыпачы, фортачнікі, шніферы, дамушнікі, макрушнікі. Выпадкова прыбіліся два фраеры і тры сяўкі.

Дзелавыя былі ў законе. Вырашана было вынаць *патрах* шырмача Ванечкі-малпы, які звёў шмару ў пахана... падлы. Ванечка лаяўся, плакаў, гнюсіў, гундзеў: не вінаваты я, шёб мяне *ажанілі*! У вочы я не бачыў тую Софачку.

Віцька-падла, не стары яшчэ вуркаган пяцідзесяці пяці гадоў, ужо вынаў «*пёрышка*», як раптам над ніжняй нарай нешта затрашчала і ўся кодла ўбачыла расхрыстаную Софачку.

– Дзяшоўка! – зароў Віцька. – Дрыхнеш, замест таго, каб *хазу* надыбаць. З-за цябе ледзь фартовага на пяро не пасадзіў! (*Я.Таўшчэзны*)

**11. Прачытайце. Назавіце прафесіяналізмы і вызначце, у чым асаблівасць выкарыстання гэтых слоў, якая іх функцыя ў тэксце.**

1. Ідзе Цімоха па вузкакалейцы, думае, прыглядаецца да стыкаў рэек, да таго, каб не аслабіўся дзе кастыль. То ў адным, то ў другім месцы спыняецца, знімае з пляча брызентавую сумку, выцягвае лапай іржавы кастыль, дастае з сумкі новы, гахае молатам па кастылі. (*І.К.*) 2. І быў ён з намі ў кратэры баёў, і, белы-белы, ён чарнеў ад гора. (*А.П.*) 3. Шмат пісалі, дождж, як ты ідзеш: у аднаго – ступою, у другога – трухам, у трэцяга – алюрам нават. (*Гл.*) 4. Палкоўнік у адстаўцы разгарнуў тоўсты агульны сшытак з акуратна разлінеенымі старонкамі, запісаў маё прозвішча і каардынаты. (*Шах.*) 5. Але на той раз рыба чамусьці аб'явіла мне байкот: узяўся толькі адзін шчупачок-недаростак. (*Шах.*) 6. Можна гаварыць пра сіндром, сукупнасць некаторых сімптомаў, калі браць у анамнезіі, аб праявах дысфорыі і аутызму пры лабільнай дэградацыі інтэлектуальнага ўзроўню. (*Міс.*) 7. Аднак на заключным этапе палёту лётчык абавязкова павінен устанавіць візуальны кантакт з зямлёй, вызначыць адлегласць да пасадачнай паласы, траекторыю зніжэння (глісаду) і іншыя параметры. (*Зв.*)

**12. Перакладзіце тэксты на беларускую мову. Выпішыце ў адну групу агульнанавуковыя тэрміны, а ў другую – тэрміны, якія належаць толькі да тэрміналогіі дэфекталогіі, педагогікі, псіхалогіі.**

**I.** Образование – это процесс и результат усвоения определённой системы знаний в интересах человека, общества и государства, сопровождающиеся констатацией достижения гражданином (обучающимся) установленных государством образовательных уровней (цензов). Образование получают в основном в процессе обучения и воспитания в учебных заведениях под руководством педагогов.

Однако все возрастающую роль играет и самообразование, т.е. приобретение системы знаний самостоятельно.

Образование – это специально организованная в обществе система условий и учебно-образовательных, методических и научных органов и учреждений, необходимых для развития человека.

Образование – процесс изменения, развития, совершенствования сложившейся системы знаний и отношений в течение всей жизни, абсолютная форма бесконечного, непрерывного овладения новыми знаниями, умениями и навыками в связи с изменяющимися условиями жизни, ускоряющимся научно-техническим прогрессом. (*ПС, с.79*)

**II.** Закрытая ринолалия образуется при пониженном физиологическом носовом резонансе во время произнесения звуков речи. Самый сильный резонанс у носовых **[м], [м'], [н], [н']**. При нормальном их произнесении носоглоточный затвор остаётся открытым и воздух проникает прямо в носовую полость. Если для назальных звуков носовой резонанс отсутствует, они звучат как ротовые **[б],]б'], [д], [д']**. В речи исчезает противопоставление звуков по признаку назальный-неназальный, что влияет на её разборчивость. Меняется также звучание гласных звуков из-за заглушения отдельных тонов в носоглоточной и носовой полостях. При этом гласные звуки приобретают в речи неестественный оттенок.

Причина закрытой формы – чаще всего органические изменения в носовом пространстве или функциональные расстройства нёбно-глоточного смыкания. Органические изменения вызываются болезненными явлениями, в результате которых затрудняется носовое дыхание. (*ОД, с.98*)

**13. Выпішыце з тэксту: а) вузкаспецыяльную лексіку, б) тэрміналагізаваныя словы і словазлучэнні, в) агульнаўжывальную лексіку.**

Калі чалавек пазнае рэчаіснасць, ён так або інакш выказвае адносіны да прадметаў, з'яў, падзей, да другіх людзей, да сваёй асобы. Адны з'явы рэчаіснасці радуюць яго, другія – засмучаюць, трэція – абураюць. Радасць, смутак, захапленне, узбуджанасць, гнеў, страх і іншыя – усё гэта розныя віды суб'ектыўных адносін чалавека да рэчаіснасці. У псіхалогіі эмоцыямі называюць працэсы, якія адлюстроўваюць асабістую значнасць і адзнаку знешніх і ўнутраных сітуацый для жыццядзейнасці чалавека ў форме перажыванняў. Эмоцыі, пачуцці служаць для адлюстравання суб'ектыўных адносін

чалавека да самога сябе і да акаляючай рэчаіснасці. Разнастайныя праяўленні эмацыянальнага жыцця чалавека падзяляюцца на афекты, уласна эмоцыі, пачуцці, настрой і стрэс. (*Псіхалогія, с.341*)

**14. Перакладзіце тэксты на беларускую мову. Выпішыце словы спецыяльнай лексікі. У чым адрозненне паміж выпісанымі словамі і словамі агульнаўжывальнай лексікі?**

**I.** Тест Векслера – это набор заданий для оценки умственных способностей, один из наиболее распространённых методов диагностики интеллекта. Разработан Д.Векслером в 1937 году. В настоящее время употребляется модифицированный вариант образца 1974 года – «Шкала Векслера для измерения интеллекта у детей». Содержит наряду с вербальными (словесными) заданиями задачи на конструирование, разгадывание лабиринтов и т.п., на основании результатов выполнения теста вычисляется коэффициент интеллекта. Как и аналогичные методики (тесты Равенна, Станфорд – Бине, Бине – Симона и т.д.), даёт достаточно адекватную оценку наличному уровню развития интеллекта, но не может служить основанием прогноза умственного развития. (*ДефСД, с.17*)

**II.** Локус контроля – склонность человека приписывать ответственность за результаты своей деятельности внешним силам, обстоятельствам (экстернальный локус контроля) либо собственным способностям и усилиям (интернальный локус контроля). Локус контроля является устойчивым свойством индивида, формирующимся в процессе его социализации. Для определения локуса контроля создан вопросник, разработан также комплекс методик, позволяющий выявить закономерную связь между локусом контроля и другими личностными характеристиками. Показано, что люди, обладающие внутренним локусом контроля, уверены в себе, настойчивы в достижении поставленной цели, склонны к самоанализу, уравновешены, общительны, доброжелательны и независимы. Склонность к внешнему локусу контроля, напротив, сопутствует таким чертам, как неуверенность в своих способностях, неуравновешенность, стремление отложить реализацию своих намерений на неопределённый срок, тревожность, подозрительность, конформность и агрессивность. Для педагогической деятельности наиболее ценен внутренний локус контроля. Воспитатель, склонный верить в могущество своих усилий, более ориентирован на совместное творчество с учащимися, чем его неуверенный в своих способностях коллега. (*ПС, с.75*)

# РАЗДЗЕЛ 3

# БЕЛАРУСКАЯ НАВУКОВАЯ ТЭРМІНАЛОГІЯ

## §1. Прадмет і задачы беларускай навуковай тэрміналогіі, яе месца ў сістэме беларускай мовы

Лінгвістычнае вывучэнне тэрмінаў доўгі час адбывалася ў межах лексікалогіі, але на сучасным этапе тэрміналогія – гэта асобная лінгвістычная галіна. Слова «**тэрміналогія**» мае два значэнні:

1. Сістэма тэрмінаў якой-небудзь галіны навукі, тэхнікі, культуры, якія называюць спецыяльныя аб'екты і выражаюць спецыяльныя прафесійныя паняцці.

2. Раздзел мовазнаўства, які вывучае дадзеную сістэму тэрмінаў, іх граматычную арганізацыю і законы функцыянавання.

Прадметам беларускай навуковай тэрміналогіі з'яўляюцца беларускія тэрміны розных галін навукі і тэхнікі.

*Асноўныя задачы беларускай навуковай тэрміналогіі:*

1. Вызначэнне месца тэрміналогіі ў сістэме мовы.

2. Аналіз ролі той ці іншай тэрміналогіі ў камунікацыйных працэсах.

3. Даследаванне семантычнай разнастайнасці тэрмінаў у супастаўленні са словамі агульнаўжывальнай лексікі і свабоднымі ўстойлівымі словазлучэннямі.

4. Аналіз граматычнай арганізацыі простых і састаўных тэрмінаў.

5. Даследаванне спецыфікі тэрміналагічных словазлучэнняў у супастаўленні са свабоднымі і фразеалагічнымі словазлучэннямі.

6. Канкрэтызацыя паняцця «тэрміналагічная сістэма» і распрацоўка методык аналізу і апісання тэрмінасістэм пэўных галін навукі і тэхнікі.

Для таго, каб вызначыць месца тэрміналогіі ў сістэме мовы, неабходна зразумець, якім чынам тэрміналогія суаднесена з такімі моўнымі рэаліямі, як нацыянальная мова, літаратурная мова.

Нацыянальная мова – складаная, дынамічная і мэтанакіраваная культурна-гістарычная сістэма, якая аб'ядноўвае ўсе разнавіднасці маўленчага функцыянавання. Як адзначалася вышэй, у беларускую нацыянальную мову ўваходзяць як у адзіную сістэму сістэм усе разнавіднасці беларускай мовы: літаратурная мова і мова дыялектная. Тэрміналогія, якая забяспечвае намінацыю прафесійных

аб’ектаў і паняццяў у мове навукі і тэхнікі, неад’емным чынам належыць да нацыянальнай мовы.

Для таго каб адказаць на пытанне, у якіх адносінах знаходзяцца канкрэтныя тэрміналогіі і літаратурная мова, неабходна высветліць, ці адпавядае тэрміналогія прыметам, якія выдзяляюцца ў дэфініцыі «літаратурная мова».

*Выдзяляюцца наступныя прыметы лексічнага складу мовы:*

1. Апрацаванасць, упарадкаванасць лексікі літаратурнай мовы ў параўнанні з іншымі разнавіднасцямі нацыянальнай мовы.

2. Нарматыўнасць, якая пераходзіць у кадыфікаванасць.

3. Стабільнасць, якая забяспечвае існаванне і развіццё літаратурнай мовы.

4. Абавязковасць для ўсіх носьбітаў мовы.

5. Універсальнасць, якая забяспечвае абслугоўванне ўсіх сфер грамадскага жыцця.

Супастаўленне тэрміналогіі і лексікі літаратурнай мовы на аснове разгледжаных прымет лексічнага складу мовы дазваляе прыйсці да высновы, што ўсе гэтыя прыметы характэрныя і тэрміналогіі (але не ўласцівыя, напрыклад, лексічнаму складу дыялектаў або жаргонаў). Прымета «універсальнасць, якая забяспечвае абслугоўванне ўсіх сфер грамадскага жыцця» павінна разглядацца як універсальнасць, якая забяспечвае спецыяльную камунікацыю. Асаблівае становішча ў прыметы «абавязковасць для ўсіх носьбітаў мовы». Сапраўды, гэтая прымета, на першы погляд, тэрміналогіі не ўласціва, бо ні адзін чалавек не засвоіў усіх тэрмінаў усіх галін навукі, тэхнікі і культуры. Але авалоданне якой-небудзь сферай прафесійнай дзейнасці прадвызначае абавязковае веданне адпаведнай тэрміналогіі.

Некаторыя тэрміны асобных галін ведаў зразумелыя толькі спецыялістам, напрыклад: *берг-штрых* (картаграфія), *латэрыт* (геалогія), *лептанема* (батаніка), *мультыплікацыя лазернага праменя* (фізіка) *пертынентнасць* (інфарматыка), *сэнсаматорны інтэлект* (псіхалогія), *этымалогія* (лінгвістыка) і г.д. Аднак такія моўныя адзінкі:

- утвораны ці адаптаваны (асвоены) па законах беларускай мовы;
- маюць спецыфічнае для беларускай мовы словазмяненне;
- рэалізуюць беларускія спосабы сувязі ў складзе словазлучэння і сказа.

Пытанне пра суадносіны тэрміналогіі і сістэмы агульналітаратурнай мовы з’яўляецца адным з асноўных пытанняў

тэрміназнаўства на той падставе, што для фарміравання новых тэрмінаў выкарыстоўваюцца ўжо існуючыя ў мове словаўтваральныя мадэлі. У выніку гэтага выразнае размежаванне агульнай і спецыяльнай лексікі не заўсёды магчыма з-за адноснай рухомасці межаў значэння слоў, а таксама праз наяўнасць у тэрміналогіі тых самых лексіка-семантычных працэсаў, якія адбываюцца і ў лексіцы агульналітаратурнай мовы.

Адпаведна іншаму пункту гледжання, тэрміналогія вылучаецца са складу агульналітаратурнай мовы ў самастойную падсістэму, бо развіццё тэрміналогіі абумоўліваецца і знаходзіцца ў залежнасці ад развіцця навукі і тэхнікі, гэта значыць, ад пазамоўных фактараў, а тэрміны ствараюцца штучна і прызначаны для прафесійнай сферы зносін.

Але паміж гэтымі пунктамі гледжання няма прынцыповага разыходжання. Так, меркаванне пра тое, што тэрмін утвараецца ў залежнасці ад пазамоўных фактараў, не супярэчыць меркаванню пра тое, што тэрміны могуць утварацца са слоў агульнаўжывальнай лексікі і па існуючых у мове словаўтваральных мадэлях.

Няма сумнення і ў тым, што тэрмін з'яўляецца словам, якое ўваходзіць у склад мовы, што паміж слоўнікам агульнай мовы і тэрміналогіяй існуе рознабаковае і пастаяннае ўзаемадзеянне.

Такім чынам, тэрміналогія з'яўляецца падсістэмай лексікі літаратурнай мовы.

## §2. Гісторыя развіцця беларускай навуковай тэрміналогіі

Узнікненне і фарміраванне беларускай тэрміналогіі – працяглы і перарывісты працэс. Розныя фактары, як адмоўныя, так і станоўчыя, на працягу стагоддзяў уплывалі на яе развіццё. Так, у XIV – XVI стст. фарміраванню беларускай тэрміналогіі садзейнічалі наступныя абставіны: старабеларуская мова – дзяржаўная мова ў Вялікім Княстве Літоўскім; узнікненне і распаўсюджанне кнігадрукавання.

У XIV – XVI стст. найбольш развітымі галінамі тэрміналогіі былі: грамадска-палітычная, гандлёвая, сельскагаспадарчая, прамысловая, ваенная тэрміналогія, а таксама тэрміналогія мовазнаўства, астраноміі, матэматыкі і інш. Аднак праца па фарміраванні і уніфікацыі тэрміналогіі як самастойны від тэрміналагічнай дзейнасці ў старабеларускай мове не вялася (такое заключэнне можна зрабіць па тых помніках старабеларускай мовы, якія захаваліся), хоць сіна-

німічныя замены тэрмінаў, глосы, «прыточнікі»[7] і слоўнікі таго часу, безумоўна, выконвалі таксама і функцыі ўнармавання і ўніфікацыі тэрміналогіі.

Як адзначалася вышэй, у канцы XVI ст. беларуская мова была забаронена і выцеснена з афіцыйнай сферы польскай і лацінскай мовамі. А затым негатыўныя адносіны да яе царскага ўрада Расіі ў XVII–XVIII ст. адмоўна ўздзейнічалі на пераемнасць натуральнага фарміравання тэрміналагічнай лексікі, бо замацаванне навуковых тэрмінаў адбываецца перш за ўсё ў працэсе іх ужывання ў друкаваных выданнях. Лексікаграфічная і ўласна тэрміналагічная праца ў такіх сацыяльных умовах наогул не магла быць арганізавана.

Асновы беларускай нацыянальнай тэрміналогіі былі закладзены ў 20-я гады XX ст. Так, у 1919 годзе быў створаны Беларускі школьны савет, які разглядаў і распрацоўваў асноўныя тэрміны для беларускай пачатковай школы. У 1921 годзе была створана Навукова-тэрміналагічная камісія, на базе якой у пачатку 1922 года быў заснаваны Інстытут беларускай культуры, у ім тры галіновыя тэрміналагічныя камісіі працавалі над стварэннем беларускай нацыянальнай тэрміналогіі па розных галінах ведаў.

Усяго на працягу 20-х гадоў было выдадзена больш двух дзесяткаў тэрміналагічных руска-беларускіх (беларуска-рускіх) слоўнікаў, у тым ліку і па псіхалогіі. Так, у 1923 годзе выходзіць чацвёрты выпуск Беларускай навуковай тэрміналогіі, дзе быў надрукаваны слоўнік тэрмінаў логікі і псіхалогіі.

Трэба адзначыць, што не ўсе выдадзеныя слоўнікі аказаліся аднолькава каштоўнымі, і нават лепшыя з іх мелі тыя або іншыя заганы як у падборы матэрыялу, так і ў яго падачы. Гэта і зразумела, бо нармалізацыя навуковай і тэхнічнай тэрміналогіі – вельмі адказная і складаная задача, якая прадугледжвае папярэдняе існаванне пэўных літаратурна-культурных традыцый, наяўнасць адпаведнай тэарэтычнай базы, высокі ўзровень навукі і г.д. Калі мець на ўвазе гэты аспект, то зразумела, што беларускім тэрміналагічным камісіям прыйшлося пачынаць справу літаральна на голым месцы. Акрамя таго, у час працы тэрміналагічных камісій адчуваўся востры недахоп як кадраў адпаведных галін навукі і тэхнікі, так і кваліфікаваных лінгвістаў-тэрмінолагаў.

[7] Глоса – заўвага перапісчыка на полі рукапісу або непасрэдна ў тэксце як сродак тлумачэння незразумелага слова або мясціны (Сцяцко, П.У. Слоўнік лінгвістычных тэрмінаў / П.У.Сцяцко, М.Ф.Гуліцкі, Л.А.Антанюк. – Мінск: Выш. школа, 1990. – С.38.).

Прыточнікі – заўвагі перапісчыка, якія падаваліся ў канцы рукапісу, дадаваліся, «прытачваліся» да яго.

Стваральнікі беларускай тэрміналогіі ў аснову фарміравання тэрміналагічнай лексікі паклалі прынцып арыентацыі на ўнутрымоўныя структурна-семантычныя магчымасці беларускай мовы. Яна фарміравалася наступнымі шляхамі: увядзеннем у склад той ці іншай тэрміналогіі агульнаўжывальных слоў: *лад, стан* (тэрміны мовазнаўства), *астача, велічыня* (тэрміны матэматыкі) і г.д.; утварэннем шатлікіх неалагізмаў: *нізкавокасць* (блізарукасць), *роўніца* (плоскасць), *выклічча* (выклічнік) і інш.; выкарыстаннем дыялектных слоў: *лужны* (шчолачны), *аблуда* (памылковая думка) і да т.п.

Але на практыцы аказалася, што прынцып арыентацыі на ўласныя моўныя рэсурсы нярэдка перарастаў у прынцып выключнага выкарыстання гэтых рэсурсаў, у выніку чаго ў склад тэрміналогіі ўводзіліся вузкадыялектныя словы (*глыза* (глыба), *сусолькі* (сасочкі); прапаноўваліся няўдалыя пераклады тэрмінаў інтэрнацыянальнага характару і ім аддавалася перавага (*бязбольле* (амнезія), *зваротнаспадчыннасьць* (атавізм), *здань* (галюцынацыя), *нячуласьць* (анастэзія); ствараліся штучныя неалагізмы (*развязаньне* (рашэнне), *зляшвольле* (гіпербулія); змяняліся асобныя тэрміны, калі іх выкарыстанне тлумачылася ўплывам рускай мовы (*кісьліна* (кіслата)[8].

Ужо ў другой палове 20-х гадоў ХХ ст. у працэсе моўнай практыкі паступова пачала выяўляцца нежыццёвасць шмат якіх тэрмінаў, створаных на вузкадыялектнай аснове, штучных неалагізмаў, няўдалых перакладаў.

У канцы 30-х гадоў ядро беларускай нацыянальнай тэрміналогіі ў асноўным было ўжо акрэслена, тым не менш праблема развіцця і ўдасканалення тэрміналогіі па-ранейшаму заставалася актуальнай. Але моўная сітуацыя ва ўмовах усталявання таталітарнага рэжыму склалася так, што мэтанакіраваная тэрмінатворчасць пачала згортвацца.

У першае пасляваеннае дзесяцігоддзе ў рэспубліцы не было агульнага цэнтра распрацоўкі і ўпарадкавання тэрміналагічнай лексікі.

У 50-я гады пад кіраўніцтвам Якуба Коласа была праведзена вялікая навукова-арганізацыйная праца па стварэнні тэрміналагічнай камісіі пры Акадэміі навук БССР, у задачы якой планавалася ўключыць каардынацыйную і нармалізацыйную дзейнасць па беларускай тэрміналогіі, а таксама выданне бюлетэня рэкамендуемых тэрмінаў. Аднак смерць Якуба Коласа перашкодзіла ажыццяўленню гэтай задумы.

---

[8] Гл.: Красней, В.П. Пошукі прынцыпаў і шляхоў выпрацоўкі беларускай нацыянальнай тэрміналогіі ў 20-х гадах / В.П.Красней // Беларуская мова. – Мінск, 1985. – Вып.13. – С.38–40.

Толькі ў 1955 годзе ў Інстытуце мовазнаўства Акадэміі навук БССР ствараецца сектар тэрміналогіі, які функцыянаваў да 1965 года. За гэты час былі падрыхтаваны і выдадзены наступныя слоўнікі: «Русско-белорусско-латинский словарь ботанической терминологии» А.І.Кісялеўскага (Мінск,1967); «Русско-белорусский словарь сельскохозяйственной терминологии» (рукапіс); «Русско-белорусский словарь общественно-политической терминологии» (Мінск, 1970); «Слоўнік лінгвістычных тэрмінаў» А.К.Юрэвіча (Мінск,1962); «Кароткі слоўнік літаратуразнаўчай тэрміналогіі» А.А.Макарэвіча (Мінск, 1963). Дадзеныя слоўнікі ствараліся на аснове прынцыпу збліжэння беларускай тэрміналогіі з рускай. З 1965 па 1979 гады ў рэспубліцы не было спецыяльнага тэрміналагічнага цэнтра.

Зрух у развіцці беларускай тэрміналогіі адбыўся ў 70-80-я гады, калі распачалася праца над «Беларускай Савецкай Энцыклапедыяй», а таксама «Тлумачальным слоўнікам беларускай мовы», новымі рэдакцыямі беларуска-рускага і руска-беларускага слоўнікаў. Пры Галоўнай рэдакцыі энцыклапедыі была створана і паспяхова працавала прадстаўнічая Камісія па навуковай і тэхнічнай тэрміналогіі пад кіраўніцтвам народнага пісьменніка Беларусі Кандрата Крапівы. Камісія правяла вялікую работу па ўпарадкаванні ўжо існуючай тэрміналогіі і па стварэнні шматлікіх новых тэрмінаў. Многія з гэтых тэрмінаў былі ўтвораны шляхам выкарыстання існуючай у беларускай мове лексікі і на аснове законаў беларускага словаўтварэння. Аднак гаварыць пра якую-небудзь паўнату ў адлюстраванні гэтымі слоўнікамі спецыяльнай тэрміналогіі не даводзіцца. Ды гэта і зразумела. Усе названыя выданні ставілі сабе іншую задачу, і перыферыйная тэрміналагічная лексіка не магла прэтэндаваць на паўнату лексікаграфічнай апрацоўкі.

У 1979 годзе ў рэспубліцы была створана Тэрміналагічная камісія Акадэміі навук БССР, якая складалася з дзевяці секцый і ўключала вядучых вучоных, спецыялістаў розных галін ведаў. Асноўнымі задачамі камісіі з’яўляліся: распрацоўка тэрміналагічных асноў і методыкі ўпарадкавання беларускай тэрміналогіі; практычнае ўпарадкаванне тэрміналогіі і падрыхтоўка слоўнікаў, сістэматызацыя рускай тэрміналогіі вядучых у рэспубліцы галін навукі і тэхнікі; кансультацыя ўстаноў і арганізацый рэспублікі па пытаннях тэрміналогіі і рэкамендацыі навукова-даследчым і навучальным установам па пытаннях распрацоўкі тэрміналагічнай тэматыкі; падрыхтоўка і выданне тэрміналагічных зборнікаў, абмеркаванне і рэкамендацыя да друку тэрміналагічных выданняў, падрыхтаваных навуковымі ўстановамі рэспублікі; вывучэнне вопыту работы Камі-

тэта навукова-тэхнічнай тэрміналогіі АН СССР і тэрміналагічных органаў рэспублік.

У 1987 годзе з’явілася манаграфія Л.А.Антанюк «Беларуская навуковая тэрміналогія», у якой разглядаюцца асноўныя этапы фарміравання тэрміналагічнай лексікі беларускай мовы, аналізуецца структура тэрмінаў, асвятляюцца асноўныя прынцыпы і заканамернасці ўпарадкавання тэрміналогіі.

У 1991 годзе Тэрміналагічная камісія была ператворана ў Рэспубліканскую тэрміналагічную камісію пры АН Беларусі. За перыяд з 1991 па 1995 гады Камісія выдала пяць выпускаў «Тэрміналагічнага зборніка». Паколькі адна Рэспубліканская тэрміналагічная камісія не магла вырашыць усе праблемы фарміравання беларускай тэрміналогіі, а ў 90-я гады ў сувязі з пераходам выкладання шэрагу дысцыплін у ВНУ на беларускую мову з’явілася неабходнасць у стварэнні перакладных тэрміналагічных слоўнікаў, то былі створаны Тэрміналагічная камісія Таварыства беларускай мовы, Тэрміналагічны цэнтр БДУ, Тэрміналагічная камісія Міністэрства адукацыі Рэспублікі Беларусь і шэраг іншых камісій, груп, творчых калектываў у многіх ведамствах, вышэйшых навучальных установах і г.д.

Што ж тычыцца распрацоўкі тэрміналогіі псіхалогіі, педагогікі, дэфекталогіі, лагапедыі, алігафрэнапедагогікі, то можна адзначыць толькі, што ў 1993 годзе, дзякуючы працы навукоўцаў Мазырскага педагагічнага інстытута імя Н.Крупскай, выйшаў «Кароткі слоўнік псіхалагічных паняццяў», у 1996 годзе Н.Г.Алоўнікава і В.В.Кандрацьева выдалі «Руска-беларуска-англійскі слоўнік па педагогіцы і псіхалогіі».

Нашы навукоўцы, зацікаўленыя ў нацыянальным абліччы беларускай мовы і культуры, не раз указвалі на неабходнасць распрацоўкі навуковай тэрміналогіі, якая да апошняга часу з’яўлялася «адной з найбольш занядбаных галін беларускага мовазнаўства»[9].

Але нягледзячы на плённую працу, «распрацоўка нацыянальнай навуковай тэрміналогіі знаходзіцца яшчэ на пачатковым этапе»[10]. Актуальнымі застаюцца пытанні даследавання традыцый і здабыткаў тэрміналагічнай працы 20–30-х гадоў, збору і аналізу народных тэрмінаў і наменклатуры з пункту погляду шляхоў папаўнення сучаснай тэрміналогіі, адчуваецца патрэба ў распрацоўцы вузкіх тэрміналагічных сістэм.

---

[9] Прадмова // Тэрміналагічны зборнік «85–86». – Мінск: Навука і тэхніка, 1990. – С. 3.

[10] Гарэцкі, Р. Беларуская навуковая тэрміналогія – важны кірунак у нацыянальным адраджэнні / Р.Гарэцкі // Праблемы беларускай навуковай тэрміналогіі: Матэрыялы Першай нац. канф., Мінск, 4-6 мая 1994 / ТБМ імя Ф.Скарыны. – Мінск, 1995. – С. 12.

## § 3. Лексіка-семантычная характарыстыка тэрміналогіі

Лексіка-семантычная характарыстыка тэрміналогіі звычайна праводзіцца з улікам такіх патрабаванняў, як: сістэмнасць (узаемасувязь з іншымі адзінкамі тэрміналагічнай сістэмы ў плане зместу і ў плане выражэння (структуры); адназначнасць у межах дадзенай тэрміналагічнай сістэмы; адсутнасць сінонімаў, дублетаў, варыянтаў, амонімаў; эмацыянальна-экспрэсіўная нейтральнасць.

### 3.1.Сістэмнасць тэрмінаў

Пры вызначэнні сістэмнасці неабходна зыходзіць перш за ўсё з таго, што кожны тэрмін з'яўляецца адзінкай пэўнай тэрміналагічнай сістэмы, якая абмежавана адной галіной навукі. Тэрміны ў межах пэўнай сістэмы функцыянуюць як члены адной сям'і: яны залежаць адзін ад аднаго і ў той жа час кожны з іх мае сваё месца. Гэта значыць, што сістэме паняццяў кожнай галіны ведаў адпавядае сістэма тэрмінаў.

Калі мы даследуем новы аб'ект у пэўнай галіне навукі, то, як правіла, суадносім яго з вывучанымі раней аб'ектамі, якія знаходзяцца ў тым жа паняційным радзе лагічнай схемы навукі, г.зн. у адной сістэме. У выніку новае паняцце з'яўляецца абумоўленым пэўнай сістэмай, якая існавала яшчэ да яго ўзнікнення.

Такім чынам, тэрмін павінен суадносіцца з іншымі паняццямі той галіны ведаў, у якой ён функцыянуе, г.зн., што тэрмін (як знак, які выступае ў функцыі лагічнага вызначэння паняцця ў лагічнай схеме навукі) павінен, з аднаго боку, дакладна арыентаваць на аб'ект у сістэме, а з другога (як моўная адзінка канкрэтнай тэрміналогіі) – характарызавацца лексічнай сістэмнасцю і разглядацца ў яго адносінах да іншых тэрмінаў. Са сказанага вынікае, што *патрабаванне сістэмнасці тэрміна павінна рэалізавацца ў двух планах: у плане зместу і ў плане выражэння.*

Напрыклад, група тэрмінаў, што абазначаюць тэмперамент чалавека, паняційны змест адлюстроўвае ў наступных дэфініцыях: ***меланхолік*** – '*<u>чалавек, які валодае тэмпераментам,</u> што характарызуецца неўраўнаважанасцю, хуткай стамляемасцю, замаруджанасцю ў рухах, замкнёнасцю; інэртнасцю ў нервовых працэсах*'(ПС, с.146); ***сангвінік*** – '*<u>чалавек, які валодае тэмпераментам,</u> што праяўляецца ў рухомасці, ураўнаважанасці, моцы нервовых працэсаў, высокай псіхічнай актыўнасці і працаздольнасці*' (ПС, с.147);

***флегматык*** – '*чалавек, які валодае тэмпераментам, што характарызуецца ўраўнаважанасцю, падазронасцю, спакоем, абыякавасцю, роўным настроем, слабым знешнім выражэннем душэўнага стану*' (ПС, с.147); ***халерык*** – '*чалавек, які валодае тэмпераментам, што характарызуецца хуткасцю дзеянняў, моцнымі і хутка ўзнікальнымі пачуццямі, здольнасцю аддавацца справе з выключнай сілай і ў той жа час адзначаецца неўраўнаважанасцю і рэзкай зменай настрою*' (ПС, с.147).

Такім чынам, узаемасувязь тэрмінаў ***меланхолік, сангвінік, флегматык, халерык*** у тым, што ўсе гэтыя тэрміны ўваходзяць у адзін класіфікацыйны рад, адзінкі якога абазначаюць пэўны тып тэмпераменту. Гэта значыць, што кожны з іх знаходзіцца ў адной мікрагрупе, дзе існуе ўзаемасувязь паміж тэрмінамі. Агульная інтэгральная прымета дадзеных тэрмінаў – '*чалавек, які валодае тэмпераментам'*. Менавіта яна і дазваляе аб'ядноўваць адпаведныя тэрміны ў адзін класіфікацыйны рад.

Дыферэнцыйныя сэнсавыя прыметы адпаведных дэфініцый дазваляюць адрозніваць кожнае асобнае паняцце ад іншых у гэтай мікрагрупе. Так, ***меланхолік*** – гэта '*неўраўнаважаны, хутка стамляемы, інэртны чалавек'*; ***сангвінік*** – '*рухомы, ураўнаважаны, з высокай працаздольнасцю чалавек'*; ***флегматык*** – '*спакойны, абыякавы, з падазронасцю і слабым знешнім выражэннем душэўнага стану чалавек*'; ***халерык*** – '*чалавек хуткі, моцны, здольны аддавацца справе з выключнай сілай*'.

Такім чынам, можна адзначыць, што ў плане зместу тэрміны дадзенай групы з'яўляюцца сістэмнымі, бо маюць як інтэгральную, так і дыферэнцыйныя прыметы.

У плане структуры выяўляецца наступнае: ***меланхолік*** [ад грэч melas – чорны і chole – жоўць + – ***ік***], ***сангвінік*** [ад лац. sanguis – кроў + –***ік***], ***флегматык*** [ад грэч. flegma – слізь + –***атык***], ***халерык*** [ад грэч. chole – жоўць+ –***ык***]. Значыць тэрміны ***меланхолік, сангвінік, халерык*** аб'ядноўвае наяўнасць у кожным з іх тэрмінаэлемента ***–ік (-ык)***. Тэрмін жа ***флегматык*** па структуры выпадае з дадзенай сістэмы, таму што ўтвораны пры дапамозе суфікса ***–атык***.

Такім чынам, вышэйадзначаныя тэрміны з'яўляюцца сістэмнымі ў плане зместу і часткова сістэмнымі ў плане структуры.

Тэрміны, якія абазначаюць фактары сацыялізацыі, свой паняційны змест адлюстроўваюць у наступных дэфініцыях: ***макрафактары*** – *фактары сацыялізацыі (краіна, этнас, грамадства, дзяржава), якія ўплываюць на сацыялізацыю ўсіх, хто жыве ў пэўных краінах;* ***мегафактары*** – *фактары сацыялізацыі (космас, плане-*

*та, свет), якія ў той ці іншай ступені праз іншыя групы фактараў уплываюць на сацыялізацыю ўсіх жыхароў Зямлі;* ***мезафактары*** *– фактары сацыялізацыі, якія ўмовы сацыялізацыі вялікіх груп людзей выдзяляюць: па мясцовасці і тыпе паселішча, у якіх яны жывуць (рэгіён, вёска, горад, пасёлак); па прыналежнасці да аўдыторыі тых ці іншых сетак масавай інфармацыі (радыё, тэлебачанне і інш.); па прыналежнасці да тых ці іншых субкультур;* ***мікрафактары*** *– фактары сацыялізацыі, якія непасрэдна ўплываюць на канкрэтных людзей, што ўзаемадзейнічаюць з імі – сям'я і дом, суседзі, групы аднагодкаў, выхаваўчыя арганізацыі, разнастайныя грамадскія, дзяржаўныя, рэлігійныя і прыватныя арганізацыі, мікрасоцыум.*

Такім чынам, агульная інтэгральная прымета дадзеных тэрмінаў – '*фактары сацыялізацыі'*. Менавіта яна і дазваляе аб'ядноўваць адпаведныя тэрміны ў адзін класіфікацыйны рад.

Дыферэнцыйныя сэнсавыя прыметы адпаведных дэфініцый дазваляюць адрозніваць кожнае асобнае паняцце ад іншых у гэтай мікрагрупе: ***макрафактары*** *– краіна, этнас, грамадства, дзяржава;* ***мегафактары*** *– космас, планета, свет;* ***мезафактары*** *– рэгіён, вёска, горад, пасёлак; радыё, тэлебачанне і інш.;* ***мікрафактары*** *– сям'я і дом, суседзі, групы аднагодкаў, выхаваўчыя арганізацыі, разнастайныя грамадскія, дзяржаўныя, рэлігійныя і прыватныя арганізацыі, мікрасоцыум.*

Такім чынам, у плане зместу тэрміны дадзенай групы з'яўляюцца сістэмнымі.

Структура гэтых тэрмінаў прадстаўлена наступным чынам: ***макрафактары*** [гр. makros вялікі + лац. factor які робіць, стварае што-небудзь] ***мегафактары*** [гр. megas гіганцкі + лац. factor які робіць, стварае што-небудзь], ***мезафактары*** [гр. mesos сярэдні, прамежкавы + лац. factor які робіць, стварае што-небудзь], ***мікрафактары***[гр. mikros малы + лац. factor які робіць, стварае што-небудзь].

Дадзеныя тэрміны аб'ядноўвае наяўнасць у кожным з іх тэрмінаэлемента **factor** (які робіць, стварае што-небудзь). Усе тэрміны данай мікрагрупы маюць аднатыпную структуру, а гэта значыць, што яны сістэмныя і ў плане структуры.

Трэба адзначыць, што сістэмнасць, якая рэалізуецца ў двух планах, у асноўным характэрна тэрмінам іншамоўнага паходжання, таму што яны ствараліся мэтанакіравана ў працэсе навуковага пазнання адпаведна тым патрабаванням, якія ставіліся і ставяцца да навукова-тэхнічнай тэрміналогіі, у прыватнасці, патрабаванню сістэмнасці тэрміна як у плане зместу, так і ў плане выражэння.

Тэрміналагічныя сістэмы розных галін ведаў прасякнуты гіпанімічнымі адносінамі. Пры гэтай з’яве выдзяляюць два тыпы слоў: гіпонімы (выражаюць відавыя паняцці) і гіперонімы (выражаюць родавыя паняцці).

У тэрміналогіях перадаюцца сістэмныя адносіны паміж паняццямі, прычым змест відавога паняцця аказваецца шырэйшым за змест родавага, а аб’ём – вузейшы. Адсюль вынікае, што значэнне слоў-гіпонімаў (відавых паняццяў) уключае ў сябе большую колькасць семантычных кампанентаў, чым значэнне слоў-гіперонімаў (родавых паняццяў). Напрыклад, гіперонім ***дзейнасць*** падпарадкоўвае сабе рад гіпонімаў: ***арганізатарская дзейнасць*** – ‘*практычная дзейнасць па кіраўніцтве людзьмі, а таксама па ўзгадненні іх сумесных дзеянняў’*; ***вядучая дзейнасць*** – *‘дзейнасць, пад уплывам якой адбываюцца важнейшыя змены ў псіхіцы дзіцяці, што падрыхтоўвае яго пераход да новай, вышэйшай ступені развіцця’*; ***інфармацыйная дзейнасць*** – ‘*дзейнасць чалавека накіраваная на працэс збору, аналізу, пераўтварэння, захавання, пошуку і распаўсюджання інфармацыі’*; ***педагагічная дзейнасць*** – ‘*прафесійная дзейнасць, якая накіравана на стварэнне ў педагагічным працэсе аптымальных умоў для выхавання, развіцця і самаразвіцця асобы выхаванца і выбару магчымасцей свабоднага і творчага самавызначэння’*.

Сістэмнасць у плане зместу характэрна для дадзенай мікрагрупы: у іх дэфініцыях ёсць агульная інтэгральная прымета – *‘дзейнасць’*; прысутнічаюць дыферэнцыйныя прыметы: ***арганізатарская*** (дзейнасць) – накіравана на ‘*кіраўніцтва людзьмі і ўзгадненне іх сумесных дзеянняў’*; ***вядучая*** (дзейнасць) –накіравана на *‘змены ў псіхіцы дзіцяці і падрыхтоўку яго да новай, вышэйшай ступені развіцця’*; ***інфармацыйная*** (дзейнасць) – накіравана на *‘працэс збору, аналізу, пераўтварэння, захавання, пошуку і распаўсюджання інфармацыі’;* ***педагагічная*** (дзейнасць) – накіравана на ‘*стварэнне ў педагагічным працэсе аптымальных умоў для выхавання, развіцця і самаразвіцця асобы выхаванца і выбару магчымасцей свабоднага і творчага самавызначэння’*. Інтэгральная прымета выражана агульным тэрмінаэлементам ‘*дзейнасць’*, а дыферэнцыйныя – яго відавымі азначэннямі. Гэта і дазваляе аб’яднаць прыведзеныя гіпонімы ў адзін рад, адзінкі якога абазначаюць сістэму дзейнасці чалавека.

Структура відавых азначэнняў наступная: ***арганізатар- + -ск-(ая), вяд- + -уч- (ая), інфармацый- + -н-(ая), педагагіч- + -н-(ая).***

Такім чынам, у плане выражэння даныя гіпонімы толькі часткова сістэмныя.

З сістэмнасцю тэрмінаў у плане зместу самым непасрэдным чынам звязана іх *дакладнасць*. Як вядома, істотныя прыметы прадметаў і з'яў, якія складаюць змест паняццяў, раскрываюцца ў дэфініцыі. *Пад вызначэннем паняцця разумеецца лагічная аперацыя, пры дапамозе якой раскрываецца змест паняцця, гэта значыць указваюцца такія прыметы прадмета, паняцця, па якіх гэты прадмет можа быць адметным ад іншых прадметаў.* Адметныя і істотныя рысы азначаемага тэрмінам прадмета могуць быць устаноўлены шляхам лагічнай дэфініцыі, а тэрмін, нават такі, унутраная форма якога раскрывае істотную прымету, не здольны азначыць паняцце. Але хоць тэрмін не здольны азначаць паняцце, тым не менш ён выступае ў якасці назвы той дэфініцыі, якая яму нададзена. І калі дэфініцыя дакладна сфармулявана з улікам інтэгральнай і дыферэнцыйных прымет адпаведнага паняцця, то і тэрмін з'яўляецца дакладным.

Прыведзеныя вышэй прыклады паказваюць, што дэфініцыі дакладна вызначаюць месца кожнага асобнага тэрміна ў тым ці іншым класіфікацыйным радзе, суадносяць тэрмін з адпаведным паняццем. Гэта дае падставы сцвярджаць, што тэрміны, сістэмныя ў плане зместу, характарызуюцца і сэнсавай дакладнасцю.

## 3.2. Адназначнасць

Пытанне пра адназначнасць тэрмінаў – адно з прынцыповых пытанняў тэрміназнаўства.

Кожны тэрмін павінен абазначаць толькі адно паняцце ў навуцы ці тэхніцы, а кожнаму паняццю павінен адпавядаць толькі адзін тэрмін. Напрыклад тэрмін *слабарозум* абазначае «*трывалае або малаабарачальнае паслабленне псіхічнай дзейнасці*».

Аднак патрабаванне адназначнасці тэрмінаў не заўсёды вытрымліваецца, бо мнагазначнасць як з'ява, шырока прадстаўленая ў агульнай лексіцы, знаходзіць пашырэнне і ў тэрміналогіі. Мнагазначнасць (полісемія) – здольнасць слова мець адначасова некалькі значэнняў, з'яўляецца істотным недахопам тэрміна. Але зразумець дэфініцыю асобных тэрмінаў мы можам дзякуючы кантэксту. Напрыклад, тэрмін ***рассеянасць*** мае наступныя значэнні: 1) *Паглыбленне ўвагі ў работу, якое выключае з поля зроку чалавека ўсё астатняе;* 2) *Стан, калі чалавек ні на чым не можа дастаткова доўга засяродзіць увагу і пераключаецца з аднаго аб'екта на другі, што не дазваляе рашыць пастаўленую перад ім задачу*. Так, у сказе <u>Рассеянасць</u> *у Васіля праяўляецца не толькі на ўроках матэматыкі* тэрмін ***рассеянасць*** ужываецца ў другім значэнні.

Сапраўды, для мнагазначных тэрміналагічных адзінак абыякавасць да кантэксту не з'яўляецца характэрнай прыметай, таму што ў пэўных кантэкстуальных умовах губляецца мнагазначнасць тэрміна, рэалізуецца толькі адно з яго значэнняў.

Таму ў сферы навуковых або навучальных зносін неабходна ствараць умовы маўлення, якія б забяспечылі слухачу або чытачу магчымасць адназначнага і дакладнага разумення выкарыстанага тэрміна.

Такім чынам, тэрмін павінен быць адназначным, бо ён служыць для абазначэння прадметаў і з'яў функцыянальнага стылю навуковай і тэхнічнай літаратуры, для якой павінны быць характэрны дакладнасць і яснасць.

## 3.3. Сінанімія, дублетнасць, варыянтнасць

Адно з галоўных патрабаванняў да ідэальнага тэрміна заключаецца ў тым, што ён не павінен мець сінонімаў, бо для тэрмінасістэмы характэрна ўзаемаадназначная адпаведнасць паміж тэрмінам і паняццем: адзін тэрмін $\Leftrightarrow$ адно паняцце. Аднак у сучасных тэрмінасістэмах сінанімія, дублетнасць і варыянтнасць усё ж існуюць.

Тэрміназнаўства пакуль не мае несупярэчлівай класіфікацыі тэрмінаў-сінонімаў. Многія мовазнаўцы сінонімамі называюць словы: а) роўныя па значэнні і б) блізкія па значэнні. Пры гэтым некаторыя лінгвісты лічаць сінонімамі і тыя, і другія, а некаторыя – толькі адну з гэтых разнавіднасцей. Але найбольш распаўсюджанай з'яўляецца такая класіфікацыя, згодна якой вылучаюцца тэрміны-сінонімы, тэрміны-дублеты і сінанімічныя варыянты тэрмінаў.

*Да тэрмінаў-сінонімаў адносяць такія тэрміны, якія сваім унутраным зместам адлюстроўваюць розныя класіфікацыйныя прыметы аднаго і таго ж паняцця (іх значэнні супадаюць часткова)*. Напрыклад: *абстракцыя – адцягненасць, аўтаномнае* (маўленне) – *малое* (маўленне), *выдумка – уяўленне, знак – сімвал* і г.д.

*У групу тэрмінаў-дублетаў уключаюцца тэрміны, якія ў сваім паняційным змесце не маюць ніякіх сэнсавых адценняў (іх значэнні супадаюць поўнасцю).* Напрыклад: *абулія – нерашучасць, звыш-я – супер-эга, імпрытынг – захоўванне, яно – ід* і г.д.

*Пад варыянтнасцю разумеюць такую з'яву, калі для абазначэння аднаго і таго ж паняцця выкарыстоўваюцца розныя варыянты аднаго і таго ж тэрміна*. «Варыянтамі з'яўляюцца разнавіднасці таго самага тэрміна, якія адрозніваюцца паміж сабой фанетычнымі і словаўтваральнымі элементамі ці сродкамі выражэння граматычных значэнняў, але не маюць ніякіх семантычных адцен-

няў і поўнасцю супадаюць сваім значэннем»[11]. Напрыклад: *міжклеткавае рэчыва – міжклетачнае рэчыва, узроставыя асаблівасці – асаблівасці ўзросту* і г.д.

Тэрміналагічныя сінонімы, дублеты, варыянты – гэта непажаданыя з'явы ў мове навукі, і большасцю даследчыкаў яны характарызуюцца як тэрміналагічная лішкавасць, празмернасць.

Сярод тэрмінаў вылучаюцца наступныя тыпы сінанімічных адпаведнасцей са словазлучэннямі: 1) «слова – словазлучэнне», напрыклад: *зоапсіхалогія – псіхалогія жывёл, кананалаг – кантактны аналаг, неакартэкс – новая кара галаўнога мозга, палеакартэкс – старажытная кара галаўнога мозга, архікартэкс – старая кара галаўнога мозга* і да т.п.; 2) «словазлучэнне – словазлучэнне», напрыклад*: сімвалічная функцыя – знакавая функцыя, уяўная барацьба – рытуалізаваная барацьба, ніжні парог – абсалютны парог* і да т.п. 3) «поўная форма тэрміна – кароткая форма тэрміна», напрыклад: а*барона псіхалагічная – абарона* і д.п.

Такім чынам, у працэсе ўдасканалення беларускай нацыянальнай тэрміналогіі неабходна пазбавіцца ад варыянтаў і ў пэўнай меры абмежаваць сінанімію і дублетнасць.

## 3.4. Аманімія

Пытанне пра тэрміны-амонімы абмяркоўваецца сярод спецыялістаў не так шырока, як пытанне пра полісемію тэрмінаў. Гэта тлумачыцца тым, што ў апошнім выпадку закранаецца адна з важнейшых праблем тэрміналогіі – праблема дакладнасці тэрміна. У сувязі з аманіміяй дадзеная праблема практычна не ўзнікае. Саму ж з'яву лексічнай аманіміі іншы раз разумеюць як «вынік асаблівага збегу абставін, унутрана ніяк не звязаных з агульнымі заканамернасцямі існавання і развіцця мовы»[12].

Падабенства паміж раўнагучнымі тэрмінамі і звычайнымі словамі-амонімамі заключаецца ў тоеснасці гучання і розніцы значэнняў. У астатнім гэтыя з'явы вельмі не падобныя, таму што:

1. Словы-амонімы з'яўляюцца такімі ў межах ўсёй мовы, а тэрміны-амонімы маюць зусім не звязаныя значэнні толькі ў межах розных дысцыплін, калі ж яны перастаюць быць тэрмінамі, то яны перастаюць быць амонімамі, напрыклад, тэрмін ***від*** у тэрмінаполі

[11] Красней, В.П. Аб сінонімах, дублетах і варыянтах у тэрміналогіі / В.П.Красней // Веснік БДУ. Сер.4. – 1995. – №1. – С.27.

[12] Шмелёв, Д.М. Современный русский язык: Лексика: учеб. пособие для пед. ин-тов по спец. № 2101 / Д.М.Шмелёв. – М.: Просвещение, 1977. – С.68.

псіхалогіі мае значэнне ‘*агульнае паняцце, якое ўваходзіць у склад больш агульнага родавага паняцця’*, у тэрмінаполі батанікі – значэнне ‘*сукупнасць асобін, якія ўтвараюць геаграфічна або экалагічна вікарыруючыя папуляцыі, якія валодаюць агульнымі морфафізіялагічнымі прыметамі і могуць у прыродных умовах размнажацца і даваць новае пакаленне’*. Дадзеныя тэрміны маюць зусім не звязаныя паміж сабой значэнні ў межах розных тэрмінапалёў. Параўнаем, што ж адбываецца з гэтым словам, калі яно перастае быць тэрмінам: ***Від*** – 1) *Тое, што адкрываецца перад вачамі, перспектыва, а таксама адлюстраванне яе*. Від на мора. 2) *Тое, што і выгляд /у 1-м знач/*. Спалоханы від твару. 3) *Меркаванні; намер*. Віды на ўраджай. (ТСБЛМ-96, с.112). Відавочна, што гэтае слова стала мнагазначным.

2. Працэс утварэння звычайных амонімаў з мнагазначнага слова ўдакладніць амаль нельга, у той час як для тэрмінаў гэты момант фіксуецца дастаткова дакладна, бо гісторыя пэўнай навукі можа адказаць на пытанне, калі з’явіўся той ці іншы тэрмін.

3. Для звычайнай аманіміі гэты працэс павінен быць стыхійным па сваёй сутнасці. Семантычнае ж разыходжанне тэрмінаў – наскрозь рацыянальны працэс, дакладней, ён рацыянальны настолькі, наколькі рацыянальныя навуковае веданне і стварэнне навуковых паняццяў.

Такім чынам, міжнавуковая аманімія – гэта вельмі своеасаблівая з’ява, не падобная на звычайную аманімію, якая як уласна моўная з’ява не можа быць лакалізавана адносна галіны ведаў або дзейнасці. Таму раўнагучныя тэрміны, якія належаць да розных навук, неабходна лічыць проста рознымі тэрмінамі.

Напрыклад, педагагічны тэрмін ***асіміляцыя*** – ‘*выкарыстанне ў новых умовах уменняў і навыкаў без іх істотных змен’*. Такое азначэнне дадзены тэрмін будзе мець толькі ў межах педагагічнай тэрмінасістэмы. Але ён можа ўваходзіць і ў іншыя тэрміналагічныя палі і набываць там зусім іншае значэнне. Так, у межах мовазнаўчай тэрміналогіі ***асіміляцыя*** – *’фанетычны працэс прыпадабнення аднаго гука да другога ў артыкуляцыйных і акустычных адносінах’,* а ў батаніцы ***асіміляцыя*** – гэта ‘*працэс засваення арганізмамі рэчываў са знешняга асяроддзя і ўтварэнне з іх больш складаных, уласцівых арганізму арганічных рэчываў’*. Менавіта тое, што тэрмін можа ўваходзіць у розныя тэрміналагічныя палі, унутры якіх ён набывае пэўную дэфініцыю, дазваляе істотна адрозніваць яго ад звычайнага мнагазначнага слова. Для актуалізацыі якога-небудзь канкрэтнага значэння мнагазначнага слова вызначальным з’яўля-

ецца кантэкст. Але для тэрміна-амоніма кантэкст не адыгрывае істотнай ролі, таму што калі тэрмін ***асіміляцыя*** ўваходзіць у поле псіхалагічных тэрмінаў, то тут ніяк не можа з'явіцца «лінгвістычнае» або «батанічнае» значэнне, паколькі ў дадзеным выпадку ўсякае ўжыванне тэрміна прадвызначае менавіта яго псіхалагічнае значэнне.

## 3.5. Антанімія

Семантычныя адносіны ў лексічнай сістэме мовы дапаўняюцца антаніміяй. Тэрміналогіі антанімія ўласціва не менш, чым лексіцы агульналітаратурнай мовы, таму што адным з важных праяўленняў сістэмных адносін у мове і ў тэрміналогіі ёсць сэнсавае супрацьпастаўленне яе элементаў.

Паняцці нярэдка ўзнікаюць парамі, калі адно з іх утрымлівае ў сабе сваю супрацьлегласць, якая грунтуецца на відазмяненнях унутры адной і той жа з'явы (якасці, уласцівасці, стану). Антанімічнасць выступае як асаблівая характарыстыка лексічнага значэння слоў, як спецыфічнае моўнае адлюстраванне відазмяненняў і супрацьлегласцей у прадметах і з'явах аб'ектыўнага свету. Асэнсаванне такой супрацьлегласці дапамагае дакладней устанавіць значэнне слоў, іх узаемасувязь і месца ў лексічнай сістэме мовы. У тэрміналогіі рэалізуюцца два тыпы антаніміі – лексічны і словаўтваральны. Сярод тэрмінаў-слоў, якія складаюць групу лексічных антонімаў, сустракаюцца: а) назоўнікі: *халерык – меланхолік: халерык – 'хуткі, парывісты чалавек, здольны аддавацца справе з выключнай заўзятасцю'*; *меланхолік – 'павольны чалавек, які вяла рэагуе на ўсё, што акружае яго'* і да т.п.; б) прыметнікі – кампаненты састаўных тэрмінаў: *аналітычная* (памяць) – *інтуітыўная* (памяць), *унутранае* (маўленне) – *знешняе* (маўленне), *вуснае* (маўленне) – *пісьмовае* (маўленне), *агульная* (псіхіятрыя) – *прыватная* (псіхіятрыя) і іншыя.

Словаўтваральная антанімія таксама пашырана: а) назоўнікі, адзін з якіх мае прэфікс *дэ-*, што выражае сэнсавую супрацьлегласць суадносных паняццяў, напрыклад: *градацыя – дэградацыя;* б) прыметнікі – кампаненты састаўных тэрмінаў: *умоўны* (рэфлекс) – *безумоўны* (рэфлекс), *адэкватнае* (успрыманне) – *неадэкватнае* (успрыманне), *міжасабовы* (канфлікт) – *унутрыасабовы* (канфлікт), *доўгачасовая* (рэлаксацыя) – *каротказчасовая* (рэлаксацыя) і іншыя. У падобных выпадках сродкамі выражэння супрацьлегласці з'яўляюцца прыстаўкі *не-, без-* у аднаго з членаў антанімічнай пары ці прыстаўкі і першыя часткі складаных слоў *доўга-* і *каротка-, унутры-* і *між-*.

## §4. Структурная характарыстыка тэрмінаў і асноўныя спосабы іх утварэння

Па сваёй прыродзе тэрмін больш складаны, чым слова агульнаўжывальнай лексікі, таму што ён суаднесены менавіта са спецыяльным паняццем, якое павінна захоўваць сваю цэласнасць незалежна ад спосабаў выражэння паняцця. Межы канкрэтнага тэрміна непасрэдна абумоўлены змястоўнымі межамі тэрмінуемага паняцця. У сувязі з гэтым структурныя тыпы тэрмінаў цалкам не супадаюць са структурнымі тыпамі слоў агульнаўжывальнай мовы.

Мінімальная структурная адзінка ў тэрміналогіі – тэрмінаэлемент, які ўключае ў сябе і вытворную аснову, і словаўтваральныя афіксы, і слова ў складзе складаных слоў, а таксама словазлучэнні і сімвалы ў складзе сімвалаў-слоў.

Прынята вылучаць тры асноўныя структурныя тыпы тэрмінаў:

**1. Тэрміны-словы**, якія падзяляюцца на:

а) невытворныя: *увага, метад, веды, дзеці, талент, характар, стан* і г.д.;

б) вытворныя: *уважлівы, смакавы, перакананне, назіранне, методыка, дзіцячы, таленавіты, характарыстыка* і г.д.;

в) складаныя: *славалюбства, сацыяльна-псіхалагічны, самаактуалізацыя, самавыхаванне, самаўспрыманне, Я-ідэал, звыш-Я, ты-паведамленне* і г.д.;

г) абрэвіятуры: *ДД* (думкадзейнасць), *ДДА* (дыферэнцыйнадыягнастычнае апытванне), *ДЦП* (дзіцячы цэрэбральны параліч), *ЗПР* (затрымка псіхічнага развіцця), *КТС* (калектыўная творчая справа), *НЛП* (нейралінгвістычнае праграмаванне), *РДА* (ранні дзіцячы аўтызм), *ЦНС* (цэнтральная нервовая сістэма), IQ (Inetlligence Quotient – каэфіцыент інтэлекту) і г.д.

**2**. **Тэрміны-словазлучэнні**, якія падзяляюцца на:

а) свабодныя тэрміны-словазлучэнні, у якіх кожны асобны кампанент з’яўляецца тэрмінам: *афект неадэкватнасці, неадвольная ўвага, невербальная камунікацыя, педагагічны эксперымент* і да т.п.;

б) несвабодныя тэрміны-словазлучэнні, складаюцца з кампанентаў, якія, калі яны ўжыты ізалявана, могуць і не быць тэрмінамі: *абараняльны рэфлекс* (параўн.: *абараняльныя збудаванні*), *дзіцячы негатывізм* (*дзіцячы каптурок*), *парог адчуванняў* (*парог хаты*) і інш.

**3. Тэрміны-сімвалы** (сімвалы-словы) – асаблівы камбінаваны структурны тып тэрміналагічнай намінацыі, у склад якой побач са слоўнымі знакамі уваходзяць сімвалы (літары, лічбы, графічныя

знакі): $d^1$*-каэфіцыент, Е-хваля, мю-рытм,* ч$^2$*-крытэрыі*, ч$^2$*-размеркаванне* і г.д.

Мова навукі не валодае асобнымі спосабамі ўтварэння тэрмінаў, яна выкарыстоўвае тыя ж спосабы, пры дапамозе якіх утвараюцца словы агульнаўжывальнай лексікі. Гэта значыць, што асноўнымі спосабамі тэрмінаўтварэння, як і словаўтварэння, прынята лічыць тры: лексіка-семантычны, марфалагічны і сінтаксічны. Але адрозненне ўтварэння тэрмінаў ад утварэння агульнаўжывальных адзінак лексікі той або іншай мовы заключаецца ў тым, што тэрміны не ўтвараюцца ва ўласным сэнсе гэтага слова, а «ствараюцца», «творацца», «прыдумваюцца».

## 4.1. Лексіка-семантычны спосаб утварэння тэрмінаў

Уласны лексічны фонд беларускай нацыянальнай мовы ва ўсе часы з'яўляецца асноўнай крыніцай стварэння тэрмінаў. Пры гэтым вельмі важнае значэнне набывае лексіка-семантычная дэрывацыя, сутнасць якой заключаецца ў пераасэнсаванні ўжо існуючых лексічных адзінак для абазначэння навуковых паняццяў шляхам надання гэтым адзінкам у новай функцыянальнай сферы асаблівага тэрміналагічнага значэння. «Паміж слоўнікам навукі і слоўнікам быту цесная сувязь. Усякая навука пачынае з вынікаў, здабытых мысленнем і мовай народа, і ў далейшым сваім развіцці не адрываецца ад народнай мовы. Нават так званыя дакладныя навукі да гэтай пары ўтрымліваюць у сваіх слоўніках тэрміны, узятыя з агульнаўжывальнай мовы» [13].

Пры дапамозе лексіка-семантычнага спосабу ўтвараюцца тэрміны пастаянна, хоць і менш інтэнсіўна з прычыны меншай здольнасці адпавядаць патрабаванням словаўтваральнай сістэмнасці тэрміналогіі. Па суадносінах прымет спецыяльнага паняцця і агульнавядомага прадмета, з'явы, прыметы вылучаюць наступныя віды лексіка-семантычнага спосабу ўтварэння тэрмінаў.

**Спецыялізацыя значэння** – гэта адзін з відаў лексіка-семантычнай дэрывацыі, дзякуючы якому многія агульнаўжывальныя словы сталі тэрмінамі. Спецыялізацыя значэння адбываецца ў тых выпадках, калі ўжо гатовая намінацыйная адзінка тыпу ***каханне, пачуцці, упартасць*** і іншыя, будучы выкарыстанай у сферы спецыяльнай камунікацыі, набывае спецыяльнае тэрміналагічнае зна-

[13] Виноградов, В.В. Основные типы лексических значений слов / В.В.Виноградов // Вопросы языкознания. – 1953. – № 5. – С. 6.

чэнне, хоць і суадносіцца з тым самым азначаемым, з якім яна суадносіцца і ў шырокай агульналітаратурнай сферы. Відавочна, што ў падобных словах азначальнае і азначаемае ў агульналітаратурнай і навуковай сферы супадаюць. Значыць, «яны называюць такія паняцці, што адначасова (пры розным падыходзе да іх) могуць быць і бытавымі, і навуковымі, г.зн. выступаць носьбітамі двух тыпаў інфармацыі – агульнаўжывальнага і тэрміналагічнага значэнняў»[14].

Напрыкалад агульнаўжывальныя словы ***каханне, пачуцці, упартасць*** будуць мець наступныя лексічныя значэнні: ***каханне*** – ‘*вялікае сардэчнае пачуццё да пэўнай асобы другога полу’*; ***пачуцці*** – ‘*здольнасці ўсведамляць, перажываць, разумець што-небудзь на аснове адчуванняў, уражанняў*‘; ***упартасць*** – ‘*незгаворлівасць, імкненне рабіць што-небудзь толькі па-свойму, наперакор каму-небудзь*‘. Кожнае з прыведзеных значэнняў уяўляе сабой тыпізаванае ўяўленне людзей пра акаляючую рэчаіснасць, вынік натуральнай жыццёвай логікі пазнання свету і выконвае перш за ўсё функцыю называння адпаведных прадметаў і з'яў і ў плане зместу гэтыя словы вызначаюцца прадметнай суаднесенасцю.

Уведзеныя ў сферу спецыяльнай камунікацыі, словы ***каханне, пачуцці, упартасць*** суадносяцца з тымі самымі прадметамі і з'явамі, але апошнія асэнсоўваюцца ўжо на вышэйшай ступені пазнання ў межах паняццяў адпаведнай тэрмінасістэмы. Агульнаўжывальнае слова ў плане зместу напаўняецца элементамі адпаведнай тэорыі, становіцца тэрмінам, значэнне якога без гэтай тэорыі не можа быць дакладна акрэслена, а значыць – асэнсавана і ўспрынята. Так, у тэрмінасістэмах псіхалогіі і педагогікі за названымі вышэй словамі замацаваны наступныя дэфініцыі: ***каханне*** – ‘*інтымнае глыбокае пачуццё, якое ўключае псіхалагічны і фізічны (сэксуальны) аспекты’* (ПС, с.76); ***пачуцці*** – *‘устойлівыя эмацыянальныя адносіны чалавека да з'яў рэчаіснасці, якія адлюстроўваюць сувязь апошніх з яго запатрабаваннямі і матывамі’* (ПС, с.164); ***упартасць*** – ‘*адмоўная асаблівасць паводзін чалавека (якая пераходзіць у рысы характару), якая выяўляецца ў імкненні рабіць толькі па-свойму, насуперак доказам, просьбам, указанням іншых людзей’* (ПС, с.154).

Параўнанне агульнаўжывальных і тэрміналагічных значэнняў лексічных адзінак паказвае, што першыя значэнні (агульныя, не зусім канкрэтныя, прыблізныя) заснаваны на аснове здаровага жыццёвага сэнсу, таго, што мы ведаем пра прадмет ці з'яву, зыходзячы з іх знешніх прымет і ўласцівасцей; другія (дакладныя, лагічна ак-

[14] Мацюк, Г.П. Про термінологізацію одиниць загальновживаної лексики / Г.П.Мацюк // Мовазнавство. – 1984. – № 5. – С. 69.

рэсленыя як вышэйшая аб'ектыўнасць думкі) – на аснове навуковага пазнання і асэнсавання ўнутраных заканамернасцей тых самых прадметаў і з'яў пад уздзеяннем адпаведнай навуковай тэорыі.

**Звужэнне значэння –** гэта такі від лексіка-семантычнай дэрывацыі, дзякуючы якому агульнаўжывальнае слова, стаўшы тэрмінам, звузіла сваё значэнне. Напрыклад, тэрмін *адчуванне* мае значэнне *'псіхічны працэс успрымання з'яў аб'ектыўнага свету пры іх уздзеянні на органы пачуццяў'*, а агульнаўжывальнае слова *адчуванне* мае два значэнні:1) *'працэс успрымання з'яў аб'ектыўнага свету пры іх уздзеянні на органы пачуццяў'* (адчуванне дотыку); 2) *'стан духоўных і фізічных сіл чалавека'* (кепскае адчуванне). Як паказвае прыклад, тэрмін *адчуванне* ў тэрміналогіі псіхалогіі звузіў сваю семантыку і ўжываецца толькі ў першым значэнні.

**Метафарычны перанос.** У класічным варыянце сутнасць метафары заключаецца ў «прысваенні прадметам імені, якое належыць чаму-небудзь іншаму. Перанос назвы (імені) звычайна адбываецца на аснове падабенства або па знешніх прыметах і ўласцівасцях, або па функцыях»[15].

Узбагачэнне ведаў пра свет зручна і натуральна фіксаваць з дапамогай ужо вядомых вобразаў, замацаваных у лексічных значэннях. Чым больш у існуючым значэнні слова ўтрымліваецца інфармацыі, якая супадае з уласцівасцямі пазнаваемага аб'екта, тым вышэй верагоднасць выбару гэтага слова для абазначэння аб'екта, які называецца. На аснове агульнай, інтэгральнай прыметы адбываецца метафарычны перанос назвы з агульнаўжывальнага на навуковае паняцце.

Прыметы, на падставе якіх адбываецца метафарызацыя, могуць быць самымі разнастайнымі і паказваць як на знешняе, так і на ўнутранае падабенства прадметаў і паняццяў. Нярэдка пры метафарычным тэрмінаўтварэнні дадатковай з'яўляецца асацыятыўная прымета. Таму ў аснове тэрмінаў метафарычнага ўтварэння іншы раз побач з аб'ектыўнай прыметай (знешні выгляд, функцыя, форма, колер і г.д.) прысутнічае і суб'ектыўная прымета (асацыятыўная), без якой агульнаўжывальныя і навуковыя паняцці цяжка супаставіць.

Сярод тэрмінаў, што ўзніклі ў выніку метафарызацыі агульнаўжывальных слоў, вылучаецца некалькі груп у залежнасці ад таго, на аснове якой інтэгральнай прыметы адбыўся метафарычны перанос[16]:

[15] Петров, А.А. Семантика научных терминов / А.А.Петров. – Новосибирск, 1982. – С.74.

[16] Тэрмінаў, што ўзніклі ў выніку метафарызацыі агульнаўжывальных слоў, у межах тэрмінасістэм педагогікі, дэфекталогіі і псіхалогіі намі не было выяўлена, таму прыклады прыводзяцца з батанічнай тэрміналогіі, дзе дадзены від лексіка-семантычнага спосабу ўтварэння найбольш яскрава прадстаўлены.

➢ на аснове падабенства формы (перанос адбываецца на аснове падабенства знешняга выгляду спецыяльнага і агульнага паняццяў): *мяцёлка, падушачка, парасонік, парус, шапачка;*

➢ на аснове падабенства выконваемай функцыі (значэнні слоў ва ўсіх выпадках іх ужывання адлюстроўваюць функцыянальную ролю адпаведных прадметаў ці паняццяў): *аснова, абгортка, шво;*

➢ на аснове асацыятыўнага падабенства прадметаў ці з’яў (метафарызаваныя словы цесна звязаны асацыятыўнымі сувязямі са словамі-дамінантамі, пры метафарычным пераносе па асацыяцыі асноўную ролю адыгрываюць эмоцыі чалавека, таму што прыметы, якія б рэальна існавалі, аб’ектыўна ўспрымаліся, могуць адсутнічаць): *бар’ер, пласцінка, тканка*;

➢ на аснове некалькіх прымет (група тэрмінаў, у якіх цяжка вызначыць адну прымету, на аснове якой адбыўся метафарычны перанос): *панцыр, створка*.

**Метанімічны перанос** заснаваны на пераносе назвы аднаго прадмета ці з’явы на іншы прадмет ці з’яву на аснове пэўнай знешняй ці ўнутранай сувязі паміж імі. У выніку метанімізацыі адбываецца ўзбагачэнне семантычнай структуры слова новым значэннем. Метанімізацыя спрыяе развіццю мнагазначнасці, ці полісеміі. Напрыклад: ***ананас*** **–** *’паўднёвая травяністая расліна з прадаўгаватым духмяным і сакавітым плодам*’ і ***ананас*** **–** *’плод гэтай расліны’* (ТСБЛМ-96, с.57); ***кукуруза*** – ’*аднагадовая травяністая расліна сям. злакавых з высокім і тоўстым сцяблом і ядомымі буйнымі жоўтымі зярнятамі, сабранымі ў пачаткі*’ і ’*зерне гэтай расліны’* (ТСБМ, ІІІ, с.751); ***лімон*** – *’паўднёвае вечназялёнае цытрусавае дрэва сям. рутавых’* і ’*авальны плод гэтага дрэва’* (ТСБМ, ІІІ, с.45) і да т.п.

Неабходна адзначыць, што гэты від лексіка-семантычнага спосабу ўтварэння не праяўляецца ў межах тэрмінасістэм псіхалогіі, педагогікі, дэфекталогіі, лагапедыі, алігафрэнапедагогікі.

Сутнасць **семантычнага калькавання** заключаецца ў тым, што тэрміналагізацыя агульнаўжывальных слоў беларускай мовы адбываецца паводле іншамоўнага ўзору.

Так, у межах тэрмінасістэм на пачатковым этапе іх развіцця вылучаліся тэрміны, утвораныя шляхам семантычнага калькавання, як *асяродак* (бел.) – *цэнтр* (руск.)*; сон – сновидение; прытомны – сознательный* і да т.п.

Гэты шлях тэрміналагізацыі агульнаўжывальных слоў быў прадуктыўным у 20–30-х гадах. Не ўсе семантычныя калькі аказаліся ўдалымі і замацаваліся ў складзе адпаведных тэрмінасістэм.

## 4.2. Марфалагічны спосаб утварэння тэрмінаў

Марфалагічнае тэрмінаўтварэнне, як і словаўтварэнне наогул, – гэта працэс узнікнення новых слоў шляхам афіксацыі, аснова- і словаскладання, а таксама бязафіксным спосабам паводле існуючых у мове мадэлей і заканамернасцей.

Асноўным аб’ектам аналізу ў словаўтварэнні з’яўляецца вытворнае слова, якое, як правіла, павінна мець сваё ўтваральнае, да асновы якога далучаецца фармант. Так, для тэрміна ***перакананне*** ўтваральным з'яўляецца тэрмін-дзеяслоў ***пераканаць***, да асновы якога з захаваннем фінальнага галоснага далучаецца суфікс ***–нн-***.

Вытворны і ўтваральны тэрміны звязаны паміж сабой адносінамі вытворнасці, г.зн. вытворны тэрмін з'яўляецца другасным, залежным ад утваральнага, на базе якога ён узнік. Утваральны тэрмін звычайна выступае як больш просты ў адносінах да вытворнага, параўн.: *аналіз – аналізатар, геній – геніяльнасць, узбуджэнне – узбудзіць* і да т.п.

Такім чынам, кожны вытворны тэрмін з боку словаўтваральнай структуры складаецца з утваральнай (матывацыйнай) асновы і фарманта.

Пры вывучэнні таго, як утвараюцца тэрміны-словы, неабходна мець на ўвазе, што адным і тым жа спосабам пры дапамозе розных словаўтваральных сродкаў могуць утварацца тэрміны самай разнастайнай семантыкі. Таму ў вытворных тэрмінах можна ўстанавіць нейкія агульныя словаўтваральныя прыметы, на падставе якіх яны аб’ядноўваюцца ў своеасаблівыя групы – так званыя словаўтваральныя тыпы. *Пад словаўтваральным тыпам* неабходна разумець схему пабудовы слоў пэўнай часціны мовы, якія супадаюць у словаўтваральных адносінах: маюць у якасці ўтваральных словы той самай часціны мовы і агульны для іх фармант, тоесны па семантыцы і форме. Напрыклад: *адаптаванасць ← адаптаван(ы) + -асць, амбівалентнасць ← амбівалентн(ы) + -асць, бісэксуальнасць ← бісэксуальн(ы) + -асць, выхаванасць ← выхаван(ы) + -асць, падрыхтаванасць ← падрыхтаван(ы) + -асць* і да т.п.

Кожны фармант з’яўляецца носьбітам словаўтваральнага значэння. *Словаўтваральнае значэнне* – гэта тое агульнае значэнне, якое аб’ядноўвае вытворныя словы ў адзін словаўтваральны тып і адрознівае іх ад сваіх утваральных.

Разнастайнасць структуры вытворных аднаго і таго ж словаўтваральнага тыпу абумоўлівае вылучэнне ў ім адзінак ніжэйшага парадку, у межах якіх аб'ядноўваюцца гэтыя вытворныя па некато-

рых прыватных асаблівасцях іх утварэння. Такой словаўтваральнай адзінкай з’яўляецца *словаўтваральная мадэль* – марфаналагічная разнавіднасць унутры аднаго і таго ж словаўтваральнага тыпу.

**Суфіксальны спосаб** – гэта ўтварэнне тэрмінаў шляхам далучэння да ўтваральнай асновы суфікса: *апытванне ← апытваць + нн(е), калектывізм ← калектыў + -ізм, разумовы ← розум + -ов-(ы), схільнасць ← схіл + -насць* і да т.п.

**Бязафіксны спосаб** – разнавіднасць суфіксальнага спосабу пры дапамозе якога ўтвараюцца тэрміны-назоўнікі ад тэрмінаў-дзеясловаў і тэрмінаў-прыметнікаў: *адбор ← адбіраць, дотык ← датыкацца, перанос ← пераносіць* і інш.

**Прыставачны спосаб** – утварэнне тэрмінаў далучэннем прыстаўкі да ўтваральнага слова: *дэзадаптацыя ← дэз- + адаптацыя, дэкампенсацыя ← дэ- + кампенсацыя, неадэкватнасць ← не- + адэкватнасць, падгрупа ← пад- + група, суадносіны ← су- + адносіны* і г.д.

**Прыставачна-суфіксальны спосаб** – утварэнне тэрмінаў аднначасовым далучэннем прыстаўкі і суфікса да ўтваральнай асновы: *міжасабовы ← між- + асоб-амі + -ов- (ы), працілеглая ← працi- + ляж-аць + -л- (ая).*

**Постфіксальны спосаб** – гэта ўтварэнне тэрмінаў далучэннем постфікса да ўтваральнага слова: *раскрывацца ← раскрываць + -ца, трансфармавацца ← трансфармаваць + -ца* і г.д.

**Складанне** – спосаб утварэння тэрмінаў шляхам аб’яднання дзвюх і больш асноў або цэлых слоў: *карэкцыйна-падрыхтоўчы, міміка-жэставы, нейроны-дэтэктары, оптыка-кінетычны, супер-Эга, эмацыянальна-валявы, фанетыка-фанематычны, я-паведамленне* і г.д.

**Суфіксальна-складаны** – складанне ў спалучэнні з суфіксальным спосабам: *доўгачасовы ← доўгі час + -ов- (ы), самавыхаванне ← сам выхаваць + -нн- (е), самавалоданне ← сам валодаць + -нн- (е)* і інш.

**Зрашчэнне** – спосаб утварэння, пры якім два словы, звязаныя падпарадкавальнай сувяззю, аб’ядноўваюцца ў адно. У будове складанага слова гэта сувязь захоўваецца; залежнае слова з’яўляецца першай часткай: *высокаадукаваны, малазразумелы, слабарозум, слепаглуханемата, супрацьпастаўляць* і інш.

**Абрэвіяцыя** – спосаб утварэння складана-скарочаных слоў, або абрэвіятур, шляхам аб’яднання ўсечаных частак або частак і цэлага слова: *ДЦП, ЗПР, МД, СМД, ТСН, ЦНС, райана, педсавет* і г.д.

У беларускім тэрмінаўтварэнні, як сцвярджае Л.А.Антанюк, наглядаецца актыўнасць пераважнай большасці ўласцівых агуль-

наўжывальнай мове афіксальных словаўтваральных мадэлей, але прадуктыўнасць гэтых мадэлей мае істотныя адрозненні ў тэрмінаўтварэнні і словаўтварэнні[17].

## 4.3. Сінтаксічны спосаб утварэння тэрмінаў

Акрамя тэрмінаў-слоў, значную колькасць у любой тэрмінасістэме складаюць тэрміны-словазлучэнні.

Прадуктыўнасць састаўных найменняў выклікаецца тэндэнцыяй моўнага развіцця, таму што пры ўтварэнні тэрмінаў не прыцягваецца новы моўны матэрыял і не ствараюцца новыя моўныя адзінкі, а выкарыстоўваюцца ўжо існуючыя, на базе якіх і з'яўляюцца састаўныя тэрміны-найменні.

Акрамя таго, састаўныя тэрміны менавіта таму распаўсюджаны ў розных тэрміналогіях, што цалкам пакрываюць значныя ўчасткі паняційнага поля адпаведнай тэрмінасістэмы і па меры назапашвання прымет могуць тэарэтычна бясконца павялічваць склад сваіх кампанентаў.

Адметная асаблівасць тэрмінаў-словазлучэнняў, якая адрознівае іх ад словазлучэнняў агульналітаратурнай мовы, у тым ліку і фразеалагізмаў, заключаецца ў тым, што ім уласціва перш за ўсё класіфікацыйная функцыя: атрыбут у іменных тэрмінах-словазлучэннях паказвае на якую-небудзь адметную прымету паняцця і вылучае яго з больш шырокага класа ў падклас, рад і г.д. У нетэрміналагічных жа словазлучэннях азначальны член не выконвае такой ролі. Параўнаем: *безумоўнае тармажэнне, унутранае тармажэнне, лакальнае тармажэнне* і *Наташын шалік, чырвоны шалік, шарсцяны шалік* (адзін і той жа шалік можа быць *Наташыным, чырвоным* і *шарсцяным*).

Такім чынам, пры разглядзе тэрмінаў-словазлучэнняў трэба ўлічваць, што састаўны тэрмін – гэта своеасаблівы моўны знак. З аднаго боку, ён функцыянуе ў якасці адзінкі мовы, якая суадносіцца з адным, дакладна вызначаным навуковым паняццем. З другога боку, тэрмін-словазлучэнне будуецца па жывых мадэлях беларускай мовы з некалькіх тэрмінаэлементаў, многія з якіх маюць адпаведнікі ў агульналітаратурнай лексіцы.

Разглядаючы сінтаксічны спосаб утварэння тэрмінаў, нельга не закрануць такое пытанне, як кароткасць тэрмінаў. Агульнавядо-

[17] Антанюк, Л.А. Беларуская навуковая тэрміналогія: Фарміраванне, структура, упарадкаванне, канструяванне, функцыяніраванне / Л.А.Антанюк. – Мінск:

ма, што калі пішуць або гавораць пра тэрмін, то звычайна маюць на ўвазе аднаслоўны або двухслоўны тэрмін. Тэрміны менавіта такой структуры паказваюцца і тлумачацца ў тэрміналагічных слоўніках. Аднак у спецыяльных тэкстах шырока распаўсюджаны шматслоўныя тэрміны.

Патрабаванне кароткасці тэрміна, як адзначаюць некаторыя даследчыкі, павінна ажыццяўляцца ў межах дапушчальнага, гэта значыць, каб кароткасць не супярэчыла семантычнай дакладнасці.

Паступовае дадаванне да зыходнага аднаслоўнага тэрміна відавых азначэнняў выкарыстоўваецца мовою для канкрэтызацыі значэння зыходнага паняцця.. Напрыклад, тэрмін *псіхалогія*. Яго вытворныя, пабудаваныя шляхам дадавання відавых азначэнняў – асобных слоў, дадуць новыя тэрміны, звязаныя з зыходным, базавым адносінамі канкрэтызацыі і рода-відавымі: *псіхалогія узроставая, псіхалогія глухіх, псіхалогія допыту і паказанняў, псіхалогія выпраўляльная, псіхалогія камп'ютарызацыі, псіхалогія крымінальная, псіхалогія навукі* і г.д.

Такім чынам, кароткі тэрмін неабходна лічыць удалым, калі яго структура не будзе ўступаць у супярэчнасць з семантычнай дакладнасцю.

Сінтаксічны спосаб, як і іншыя спосабы ўтварэння тэрмінаў, мае адметныя рысы. Амаль усе тэрміны-словазлучэнні ствараюцца ў форме іменных словазлучэнняў субстантыўнага характару. Гэта або спалучэнні прыметнікаў ці дзеепрыметнікаў з назоўнікам, або спалучэнні назоўніка з назоўнікам (прыназоўнікавыя ці беспрыназоўнікавыя). У якасці апорнага кампанента ў тэрмінах-словазлучэннях выкарыстоўваюцца назоўнікі з прадметным значэннем, якія з'яўляюцца найменнямі родавых паняццяў.

Усе тэрміны-словазлучэнні класіфікуюцца ў залежнасці ад іх структуры на простыя і складаныя.

Простыя словазлучэнні складаюцца з двух тэрмінаэлементаў-слоў, з якіх граматычна галоўнае выражае больш шырокае паняцце, а другое (залежнае) надае яму відавое класіфікацыйнае значэнне, напрыклад: *нейрапсіхалагічны сіндром, маніякальны сіндром* і інш.

Складаныя словазлучэнні ўяўляюць сабой лексікалізаваныя спалучэнні, у якіх залежныя тэрмінаэлементы-словы выражаюць розныя сэнсавыя аспекты галоўнага слова з родавым тэрміналагічным значэннем, напрыклад: *адмоўная індукцыя нервовых працэсаў, арганізацыя педагагічнай працы, дыдактычная гульня з правіламі, працягласць засваення ведаў* і г.д.

Па марфалагічнаму тыпу галоўнага слова сярод састаўных тэрмінаў вылучаюцца ў асноўным субстантыўныя словазлучэнні з назоўнікамі ў ролі галоўнага кампанента і залежным: назоўнікам: *закон Блоха, інтэрарэцэптары звязак, накіраванасць асобы, пакаранне ў школе, стыль лідэрства, тэст Станфорд-Бінэ* і да т.п.; прыметнікам: *анамальныя дзеці, індывідуальнае распазнаванне, лёгкая дэбільнасць, паталагічная дэпрэсія, педагагічнае майстэрства, прыроджаная амбідэкстрыя, сэнсавы бар'ер,* і г.д.; займеннікам: *уяўленне пра сябе, пертынентнасць у сабе.*; дзеепрыметнікам: *алігафрэнія, ускладненая гідрацэфаліяй.*

Сярод тэрмінаў-словазлучэнняў у залежнасці ад сінтаксічнай структуры выдзяляюцца асобныя мадэлі. Найбольш прадуктыўнымі для тэрміналогіі псіхалогіі, педагогікі, лагапедыі, дэфекталогіі і алігафрэнапедагогікі з'яўляюцца наступныя:

**1) «назоўнік + прыметнік»:** *агрэсіўныя паводзіны, алігафрэнічны плюс, узбуджаная псіхапатыя* і да т.п.;

Парадак слоў у даных тэрміналагічных словазлучэннях – постпазіцыя або прэпазіцыя (у слоўніках) залежнага кампанента. Галоўны і залежны кампаненты звязаны азначальнымі семантыка-сінтаксічнымі адносінамі. Тып сувязі – дапасаванне.

**2) «назоўнік + назоўнік у назоўным склоне»:** *вектар-параметар, нейроны-дэтэктары* і г.д.;

**3) «назоўнік + назоўнік ва ўскосным склоне без прыназоўніка»:** *віды субяседнікаў, змест адукацыі, развіццё асобы, стан маторыкі* і г.д.

Тэрміны-словазлучэнні, утвораныя па гэтай мадэлі, характарызуюцца постпазіцыяй залежнага кампанента. Кампанентам словазлучэнняў уласцівы азначальна-прыналежныя адносіны.Тып сувязі – беспрыназоўнікавае кіраванне.

**4) «назоўнік + назоўнік ва ўскосным склоне з прыназоўнікам»:** *мадэляванне ў педагогіцы, пакаранне ў школе* і г.д.

Парадак слоў – постпазіцыя залежнага кампанента. Кампаненты звязаны азначальнымі адносінамі. Тып сувязі – прыназоўнікавае кіраванне.

**5) «назоўнік + займеннік з прыназоўнікам»:** *пертынентнасць у сабе, уяўленне пра сябе* і г.д.

Даная мадэль характарызуецца постпазіцыяй залежнага кампанента. Кампаненты звязаны азначальнымі адносінамі. Тып сувязі – прыназоўнікавае кіраванне.

Такім чынам, парадак слоў у разгледжаных тэрміналагічных словазлучэннях – постпазіцыя або прэпазіцыя залежнага кампанен-

та. Галоўны і залежны кампаненты звязаны азначальнымі ці азначальна-прыналежнымі сінтаксічнымі адносінамі. Тып сувязі – прыназоўнікавае ці беспрыназоўнікавае кіраванне.

Разглядаючы семантычныя ўласцівасці састаўных тэрмінаў, трэба адзначыць, што іх кампаненты ў сэнсавых адносінах выконваюць розную функцыю. Так, адпаведна сінтаксічнаму крытэрыю састаўны тэрмін *інфантылізм гарманічны* складаецца з галоўнага кампанента *інфантылізм* і залежнага кампанента *гарманічны*. Але пры раскрыцці сутнасці дадзенага тэрміна на першае месца выходзіць залежны кампанент *гарманічны*, таму што менавіта ён па адпаведнай прымеце выдзяляе данае паняцце з парадыгматычнага раду адпаведных тэрмінаў, параўн.: *інфантылізм гарманічны, інфантылізм істэрычны, інфантылізм арганічны, інфантылізм псіхічны* і г.д.

## §5. Характарыстыка тэрміналогіі паводле паходжання

Тэрміналагічная лексіка паводле паходжання неаднародная. Яна, як і лексіка літаратурнай мовы, складаецца з розных пластоў уласных (*выхаванне, гутарка, дзеці, маўленне, хвароба* і г.д.) і іншамоўных слоў (*аграфабія, алалія, амімія, брадыфразія, макрацэфалія* і г.д.), са спалучэнняў уласных і іншамоўных сродкаў (*алігафрэнічны плюс, злаякасная міяпія, кланічныя сутаргі, няўрозападобны энурэз* і г.д.), з традыцыйных слоў (*вобраз, памяць, слых, чытанне*) і неалагізмаў (*нейралінгвістычнае праграмаванне, фрэйдызм*). Разнастайнасць складу тэрміналагічнай лексікі абумоўлена тым, што вытокі і рэсурсы тэрміналогіі ўзыходзяць да розных крыніц і папаўняюцца за кошт разнастайных моўных сродкаў.

Тэрміны, запазычаныя з іншых моў, прадстаўлены ў многіх тэрміналогіях цэлым шэрагам намінацый. Такія тэрміны ўяўляюць сабой гатовыя моўныя адзінкі, якія запазычваліся разам з рэаліямі і паняццямі, якія яны абазначалі.

Працэс запазычвання характэрны для многіх дастаткова развітых літаратурных моў і моў навукі. Неабходна адзначыць, што «працэс запазычвання тэрмінаў досыць нязначна адрозніваецца ад запазычвання слоў літаратурнай мовы».[18] Вылучаюцца адметныя асаблівасці запазычвання тэрмінаў. Гэта ў першую чаргу пісьмовы шлях пранікнення запазычаных тэрмінаў, паколькі навуковая

[18] Лотте, Д.С. Вопросы заимствования и упорядочения иноязычных терминов и терминоэлементов / Д.С.Лотте. — М., 1982. — С.108.

інфармацыя распаўсюджваецца праз пасярэдніцтва публікацый. А.А.Станкевіч заўважае, што «ў цэлым працэс запазычвання лексікі з класічных моў носіць якасна іншы характар. Адсутнасць кантактаў і ўзаемадзеяння паміж носьбітамі моў, несупастаўляльнасць іх у часе, мёртвы стан класічных моў надаюць працэсу запазычвання штучны характар, пры якім успрымаецца не цэласная лексічная намінацыйная адзінка, а толькі ўнутраная форма слова, асобныя адзнакі, якія кладуцца ў аснову намінацый пэўных з'яў і рэалій»[19].

Да гэтага ж на працэсы запазычвання аказваецца свядомае ўздзеянне, паколькі ёсць магчымасць планавага і заканамернага фарміравання тэрміналогій пэўных галін.

Вялікую ролю для запазычвання іншамоўных тэрмінаў у беларускую мову адыгрывае руская мова, паколькі шматлікія тэрміны не толькі запазычаны з яе, але і праз яе з іншых моў свету. Значную колькасць у межах беларускай тэрміналогіі займаюць запазычаныя тэрміны-кампазіты, якія складаюцца з грэка-лацінскіх тэрмінаэлементаў, якія сталі інтэрнацыянальнымі, напрыклад, *астра-, аўта-, бія-, брадзі-, гіпер-, гіпа-, гідра-, -граф, -графія, дыс-, -лог, -логія, макра-, мікра-, псіха-, -фабіі, -фон* і да т.п.

Адметнасцю запазычвання іншамоўных тэрмінаў у беларускую мову з'яўляецца той факт, што ў сучасную беларускую тэрміналогію пранiклі словы і са старабеларускай мовы, у якой адзначаюцца шматлікія словы лацінскага паходжання, напрыклад, *афект, асфіксія, паралітык, падагра, пульс* і інш. Важную ролю ва ўзбагачэнні старабеларускай мовы адыгралі пераклады, вывучэнне і навучанне лацінскай мове.

Выпрацоўка беларускай тэрміналогіі розных галін навукі звязана з выкарыстаннем беларускай мовы адносна часу, перыяду, і як вынік гэтага – пастаяннае імкненне да стварэння нацыянальнай навуковай тэрміналогіі, арыентацыя на ўласныя сродкі. Але ніколі беларуская тэрмінатворчасць не магла пазбегнуць уключэння іншамоўнай лексікі.

У складзе беларускай навуковай тэрміналогіі вылучаюцца запазычанні з наступных неславянскіх моў:

• **лацінскай мовы**: *аб'ект, агравацыя, актуальны, анатацыя, аперцэпцыя, гуманнасць, дэпрывацыя, інтраспекцыя, інфантылізм, калектыў, канфлікт, культура, маргіналы, рэтраспекцыя, рэцэнзія, сангвінік, традыцыя, эгаізм, эфект*;

• **грэчаскай мовы**: *андрагенія, абазія, аграфія, адынамія, акалькулія, акмеалогія, аўтоген, афазія, брадзікінезія, брадзіфра-*

[19] Станкевіч, А.А. Лексіка грэка-лацінскага паходжання ў сучаснай беларускай мове. ДКН / А.А.Станкевич. – Гомель, 1975. – С.124–125.

*зія, крызіс, меланхолік, парадыгма, педалогія, практыка, праблема, псіхалогія, сімпатыя, халерык, харызма*;

• **англійскай мовы**: *брэйнштормінг* (мазгавая атака), *імідж, IQ(каэфіцыент інтэлекту), інтэрв'ю, крэатыўнасць, маркетынг* (адукацыйных паслуг), *суіцыд, трэнінг, тэст, холдынг-тэрапія*;

• **нямецкай мовы**: *гештальт*;

• **французскай мовы**: *бар'ер, інтрыгаваць, інтым, інтэнсіфікацыя, кантроль, маньяк, мараль, прэстыж, роля.*

Асноўныя прыметы запазычаных тэрмінаў наступныя:

• **грэцызмаў** (тэрмінаў з грэчаскай мовы) – пачатковыя гукі [а], [э] ***а**ўтызм, **э**йфарыя, **э**нцэфалапатыя*; зычны [ф] у пачатку слова: ***ф**антазія, **ф**онастэнія*; спалучэнні зычных [кс], [ск], [пс], [мп], [мв] у сярэдзіне слова: *апапле**кс**ія, ды**ск**, сі**мп**том, сі**мв**ал*; прыстаўкі а-, ан- (ана-), анты-, эў-: ***а**таксія, **ан**артрыя, **анты**псіхалогія, **эў**фемізм*; суфіксы -ад-, -ік- (-ык-), -ос- (-ас-): *мет**ад**, меланхол**ік**, флегмат**ык**, халер**ык**, ха**ос**;*

• **лацінізмаў** (тэрмінаў з лацінскай мовы) – суфіксы -ум, -ент (-энт), -ур-, -цыj-, -ат: *аграва[**цыj**а], адапта[**цыj**а], дыктат**ур**а, рэфер**ат**, рэфер**энт**, культ**ур**а, індывіду**ум**;*

• **германізмаў** (тэрміны з нямецкай мовы) – спалучэнні зычных [шт], [шп], [хт]: *ге**шт**альт*;

• **англіцызмы** (тэрміны з англійскай мовы) – канцавыя спалучэнні -ер (-эр), -інг (-ынг), -ід, -дж: *брэйнштормінг*, *імідж, маркетынг*, *трэнінг, холдынг-тэрапія;*

• **галіцызмы** (тэрміны з французскай мовы) – канцавыя спалучэнні -ым, -оль (-аль), -ер, -ыж: *бар'ер, інтрыга, інтым, кантроль, мараль, прэстыж*.

Генетычная роднасць славянскіх моў, цесныя кантакты паміж славянскімі народамі спрыялі актыўнаму ўзаемадзеянню іх моў, асабліва на лексічным узроўні. Пранікненне запазычанняў з польскай мовы ў беларускую пачалося з другой паловы XVI ст. і з рознай ступенню інтэнсіўнасці працягвалася ў наступныя часы. Напрыклад: *апантаны, гвалтоўны, здрада, кірунак, рахунак* і г.д.

Значную групу ў беларускай тэрміналагічнай лексіцы складаюць запазычанні з рускай мовы. Сярод іх вылучаюцца словы ўласнарускага паходжання, запазычаныя з захаваннем марфемнага слкладу мовы-крыніцы: *апазнаванне, вяшчанне, унушэнне, узаемаадзнака* і г.д.

Нямала беларускіх тэрмінаў створана з беларускіх словаўтваральных элементаў на ўзор адпаведных рускіў слоў (калькаванне): *мілагучны – благозвучный, немэтазгоднасць – нецелесообразность,*

*недатыкальнасць – неприкосновенность* і г.д. Руская мова ўвесь час актыўна выконвала ролю пасрэдніка пры запазычванні ў беларускі слоўнік іншамоўных тэрмінаў.

## 5.1. Асваенне запазычаных тэрмінаў

Адрозніваюць графічнае, фанетычнае, марфалагічнае і семантычнае асваенне запазычанняў.

**Графічнае асваенне** – гэта перадача запазычаных тэрмінаў сродкамі беларускай графікі: *абулія* (грэч. abulia)*, агравацыя* (лацін. aggrov atio) *імідж* (англ. image) і да т.п.

**Фанетычнае асваенне** – гэта асваенне іншамоўных тэрмінаў паводле гукавых законаў беларускай мовы: *аб'ект* (лац. obiectum), *камплімент* (фр. compliment) – аканне; *рэферат* (ням. referat, ад лац. referre)*, рэферэнт* (лац. referens) – цвёрды гук [р]. Выключэнне складаюць некаторыя іншамоўныя тэрміны, якія захоўваюць фанетычныя рысы той мовы, з якой запазычаны, напрыклад: *флегматык* (гр. flegmatikos)*, характар* (гр. charakter)*, холдынг-тэрапія* (англ. holding гр. therapeia)*, парадыгма* (гр. paradeigma) – [д], [т] не змяняюцца на [дз'], [ц']; *дэкан* (ням. dekan ад лац. decanus)*, дэманстрацыя* (лац. demonstratio)– ненаціскны [э] не пераходзіць у [а]. У запазычаных тэрмінах не захоўваецца падаўжэнне зычных: *калегія* (лац. collegium), *маса* (лац. massa). Звонкія зычныя ў канцы іншамоўных тэрмінаў вымаўляюцца глуха: *гіпноз* (фр. hypnose), *метад* (фр. mйthode ад гр. methodos), *дыялог* (гр. dialogos)

**Граматычнае асваенне** – гэта поўнае або частковае падпарадкаванне марфемнай структуры іншамоўных тэрмінаў законам беларускай мовы пры захаванні асноўных элементаў мовы-крыніцы. Напрыклад, іншамоўныя канчаткі і суфіксы звычайна адпадаюць або замяняюцца беларускімі: *адынамія* (грэч. adinamis), *меланхолік* (гр. melancholikos), *прагрэс* (бел.) – (лац. progressus), *тэмперамент* (лац. temperamentum) і г.д.

**Семантычнае асваенне** тэрмінаў – гэта працэс, сутнасць якога заключаецца ў асваенні значэння запазычанага слова. Напрыклад, тэрміны, якія прыйшлі ў беларускую мову разам з новымі паняццямі або рэаліямі і не мелі сабе ў ёй адпаведнікаў: *анатомія, дэфекталогія, педагогіка, псіхалогія* і г.д.

Іншамоўныя тэрміны ў беларускай мове нярэдка мяняюць сваю першапачатковую семантыку. Часцей за ўсё яна пашыраецца або канкрэтызуецца. Напрыклад лац. annotatio 'заўвага' стала ўжывацца як *анатацыя* са значэннем 'кароткая характарыстыка кнігі, ар-

тыкула’. Французкае слова diplome (з грэч. diploma) ‘ліст складзены ўдвая’ ўвайшло ў беларускую мову як *дыплом* з двума значэннямі: 1) пасведчанне аб заканчэнні навучальнай установы або аб прысуджэнні вучонага звання ці ступені; 2) пасведчанне, якое выдаецца як узнагарода пераможцу конкурсу.

Працэс асваення запазычаных тэрмінаў надзвычай складаны і разнастайны. Ён не зводзіцца толькі да фанетычнай, граматычнай ці семантычнай адаптацыі слова да новай моўнай сістэмы. У новай сітуацыі запазычаныя тэрміны ўтвараюць аднакаранёвыя словы, якіх няма ў мове-крыніцы. Напрыклад: *аналіз* (гр. analysis) – *аналізаваць*, аналізатар; *дрэнаж* (англ. drainage) – *дрэнажаваць*, *дрэнажны* і г.д.

Запазычванне як спосаб узбагачэння і актуалізацыі слоўніка нацыянальнай мовы – з’ява станоўчая і непазбежная, але толькі ў тым выпадку, калі ва ўласнай мове не знайшлося неабходнай адэкватнай адзінкі.

## §6. Лексіка-граматычная характарыстыка тэрміналогіі

Тэрміны ўваходзяць у лексічную сістэму сучаснай беларускай мовы і маюць форму асноўных марфалагічных катэгорый. Граматычны фонд тэрміналогіі прадстаўлены знамянальнымі словамі: назоўнікамі, прыметнікамі, дзеясловамі, прыслоўямі, дзеепрыметнікамі. Ядро тэрміналогіі складаюць паўназначныя словы – агульныя назоўнікі. Аднак дастаткова часта выкарыстоўваюцца уласныя назоўнікі, якія могуць пераходзіць у разрад агульных. Пры дапамозе ўласных назоўнікаў ўтвараюцца тэрміны ад прозвішчаў вучоных: *сямейная атаксія Фрыдрэйха, хвароба Літля, ідыятыя Тэя-Сакса, сіндром Клайнфельтэра, сіндром Шарашэўскага – Тэрнера* і г.д.

У цэлым выкарыстанне ўласных назоўнікаў як вытворных тэрмінаэлементаў характэрна для шэрагу тэрміналагічных словаўтваральных мадэлей назоўнікаў і прыметнікаў у шматлікіх тэрмінасістэмах: *эйнштэній, фермій, мендзялевій, платанізм, дарвінізм, фрэйдызм* і да т.п.

Тэрміналогія ўяўляе сабой не сукупнасць рэальных рэчаў і дзеянняў, а пэўную сукупнасць назваў паняццяў пра рэчы і дзеянні, таму назоўнік можна лічыць галоўнай і вядучай часцінай мовы, якая можа адлюстраваць паняцці пра прадметы, якасці і дзеянні. Намінатыўны характар навуковага стылю выкладу – сур’ёзны аргумент на карысць назоўніка. Сапраўды, назоўнік – галоўная часціна мовы

для тэрміналогіі, таму што яна выражае статычны характар лексічнага складу мовы навукі, яе нязменную сутнасць. Важна і тое, што назоўнік можа перадаваць рода-відавыя адносіны ўнутры сістэмы паняццяў. У тэрміналогіі, як і ў агульнаўжывальнай лексіцы, назоўніку супрацьпастаўлены дзеяслоў, які выражае дынамічны элемент, абумоўлены самой функцыяй данай часціны мовы – абазначыць працэс. Назоўнік і дзеяслоў не толькі ўзаемна выключаюць адзін аднаго, але і ўзаемна дапаўняюць адзін аднаго: у выніку іх узаемапранікнення ўзнікаюць аддзеяслоўныя тэрміны-назоўнікі.

Калі лічыць справядлівым існаванне тэрміна-назоўніка, то значыць і дзеясловы могуць быць тэрмінамі ў тых выпадках, калі яны знаходзяцца ў семантычных адносінах з адпаведнымі назоўнікамі: *адлюстраванне – адлюстроўваць, выхаванне – выхоўваць, сінтэз – сінтэзаваць, уяўленне – уяўляць, фантазіраванне – фантазіраваць* і г.д. Тэрмінамі з'яўляюцца дзеясловы, якія адназначна выражаюць паняцці канкрэтнай навукі і не асацыіруюцца са словамі агульнаўжывальнай мовы, г.зн. цалкам самастойныя, напрыклад, *апрабіраваць, вучыць, выхоўваць, дыягнасцыраваць, заахвочваць* і інш. У шматлікіх выпадках значэнне дзеяслова ўказвае на яго прыналежнасць да пэўнай галіны навукі або тэхнікі: *аднаўляць, адчуваць, апытваць, вымяраць, назіраць, уяўляць, фантазіраваць* і г.д. У якасці тэрмінаў могуць выступаць дзеясловы, якія маюць адпаведнікі ў агульнаўжывальнай мове, але называюць паняцці менавіта гэтай навукі. Важным момантам у адзнацы тэрмінаў-дзеясловаў з'яўляецца ўлік словаўтваральных адносін – аднаго з галоўных паказчыкаў сістэмнай арганізацыі тэрміналогіі. Калі дзеяслоў уваходзіць у словаўтваральнае гняздо, элементы якога звязаны не толькі марфалагічна, але і семантычна, справядліва лічыць яго тэрмінам.

Вельмі істотныя для азначэння тэрміналагічнага статуса дзеяслова такія семантычныя адносіны, як сінанімія і антанімія. Сінанімія, якая не павінна існаваць у тэрміналогіі, у адрозненне ад агульнаўжывальнай мовы, у дадзеным выпадку мае паўназначныя дыягнастычныя функцыі. Сінанімічныя адносіны назіраюцца паміж тэрмінамі-словамі і тэрмінамі-словазлучэннямі: *аднаўляць – праводзіць аднаўленне (Аднаўляць памяць чалавека. – Праводзіць аднаўленне памяці чалавека.), апытваць – праводзіць апытванне (Сацыяльна-псіхалагічныя службы школы апытвалі вучняў 2 « А» класа. – Сацыяльна-псіхалагічныя службы школы праводзілі апытванне вучняў 2 «А» класа.)* і г.д. Калі тэрміналагічнаму словазлучэнню адпавядае дзеяслоў, які па ўсіх іншых прыметах з'яўляецца тэрмінам, то значыць, ён уваходзіць у тую ж сістэму, у якую ўваходзіць тэрмін-словазлучэнне.

Для тэрмінаў-дзеясловаў характэрныя і антанімічныя адносіны, якія абумоўліваюць аб'яднанне тэрмінаў не толькі ў сферы граматыкі, але і семантыкі.

Такім чынам, спецыфіка тэрміна-дзеяслова выяўляецца на аснове характарыстык, якія ўласцівы тэрміну як асаблівай лексічнай адзінцы, а таксама на аснове сістэмных адносін розных часцін мовы і семантычных адносін, якія адрозніваюцца дастатковай рэгулярнасцю.

Выкарыстанне прыметнікаў у функцыі тэрмінаў некаторымі даследчыкамі адмаўляецца на падставе таго, што яны ўжываюцца толькі ў спалучэнні з назоўнікамі, г.зн. у складзе састаўных тэрмінаў. В.П.Даніленка ў сувязі з гэтым зазначае: «Хіба тэрміны *віртуальны, візуальны, рэлятывісцкі* і г.д. не выражаюць пэўных паняццяў, не маюць пэўнага зместу па-за канкрэтнымі спалучэннямі гэтых тэрмінаў з іншымі тэрмінамі: *віртуальны працэс, віртуальны фатон..., рэлятывісцкая тэорыя..., рэлятывісцкая хуткасць* і г.д. Маюць і выражаюць, таму што сярод разнавіднасцей паняццяў ёсць і такія, якія ўказваюць на наяўнасць ці адсутнасць пэўных прымет у прадметаў, і моўным сродкам прадстаўлення дадзенай катэгорыі лагічных паняццяў з'яўляецца прыметнік»[20].

Падзяляючы думку вядомай даследчыцы, можна лічыць тэрміналагічнымі прыметнікі, утвораныя ад назоўнікаў-тэрмінаў (*зрокавы* ← *зрок + –ав-(ы), мазжачковы* ← *мазжачок + –ов-(ы)* і да т.п.), і запазычаныя прыметнікі, прыналежнасць якіх да тэрміналагічнай лексікі выяўляецца ўласна семантычнымі прыметамі (*амнестычны, аферэнтны, імпрэсіўны, сімультанны, сінтагматычны* і да т.п.).

Тэрміналагічная сутнасць прыметніка звязана з рэалізацыяй асноўнай уласцівасці гэтай часціны мовы – быць азначэннем адпаведнай рэаліі. У тэрміналогіі існуе шэраг тэрмінаў-прыметнікаў, якія выражаюць пэўныя навукова-тэхнічныя паняцці. Аднак не кожны прыметнік у складзе састаўных тэрмінаў з'яўляецца самастойным тэрмінам. У сувязі з гэтым неабходна дакладна разумець спецыфіку ўсіх спалучэнняў тэрмінаў-прыметнікаў з тэрмінамі-назоўнікамі. Уласна моўная прымета такіх спалучэнняў – свабодная спалучальнасць абодвух кампанентаў па двух напрамках.

Як і для іншых часцін мовы, для тэрміна-прыметніка важны ўлік словаўтваральнай матываванасці. Калі прыметнік утвораны ад тэрміна-назоўніка, то ён захоўвае свае тэрміналагічныя ўласцівасці

---

[20] Даниленко, В.П. Русская терминология: Опыт лингвистического описания / В.П.Даниленко. – М., 1977. – С.44.

і ўяўляе сабой цалкам самастойны тэрмін: *квантавы ← квант, рэцэптарны ← рэцэптар, дыфузны ← дыфузія, разумовы ← розум, слыхавы ← слых* і г.д.

Іншамоўныя прыметнікі, запазычаныя як гатовыя тэрміналагічныя адзінкі, губляюць у мове беларускай навукі сваю матываванасць. Іх прыналежнасць да тэрміналогіі ўстанаўліваецца на аснове семантычных паказчыкаў – выражэнне спецыяльных прымет адпаведнага навукова-тэхнічнага паняцця. Напрыклад: *анамальны, візуальны, віртуальны, індывідуальны, крэатыўны, сугестыўны* і інш.

Разгляд тэрміналагічных функцый розных часцін мовы паказвае, што назоўнік хоць і з'яўляецца вядучай часцінай мовы ў тэрміналогіі, але не валодае семантычнай універсальнасцю, не можа, у прыватнасці, выразіць прымету прыметы ці прымету дзеяння. Гэтыя тэрміналагічныя функцыі выконваюць іншыя часціны мовы.

Такім чынам, у мове навукі функцыю тэрмінаў выконваюць назоўнікі, прыметнікі, дзеясловы і вельмі рэдка прыслоўі, займеннікі і лічэбнікі. Выкарыстанне названых часцін мовы ў функцыі тэрмінаў прыводзіць да змяненняў іх лексіка-граматычнай і лексіка-семантычнай будовы. Напрыклад, прыметнікі страчваюць у тэрміналогіі прыметы якасных прыметнікаў, што адлюстроўваецца не толькі ў значэнні прыметнікаў, але і ў адсутнасці ў іх ступеней параўнання. Прычым тэрміны-прыметнікі ўваходзяць у сістэму прынцыпова іншых антанімічных адносін, чым у агульнаўжывальнай лексіцы: *цвёрдае цела – вадкае цела* (цвёрды хлеб – мяккі хлеб), *прамое дзяленне – непрамое дзяленне* (прамая дарога – крывая дарога) і г.д. У складзе тэрмінасістэм прыметнікі змяняюцца семантычна: яны выражаюць ужо не якасную характарыстыку, а рода-відавыя адносіны паміж рэаліямі, г.зн. тэрмін-прыметнік набывае кваліфікацыйнае значэнне, якое рэалізуецца ў функцыях удакладнення, адмежавання і г.д. Тэрміны-дзеясловы функцыянуюць як семантычна эквівалентны сродак выражэння аднаго і таго ж паняцця, прычым пры параўнанні з тэрмінам-назоўнікам тэрмін-дзеяслоў звужае аб'ём паняцця да канкрэтнага працэсу ці з'явы, якія апісваюцца ў дадзенай сітуацыі. У выніку гэтага ў тэрміналогіі назіраецца выкарыстанне асабовых формаў дзеяслова для большай канкрэтызацыі значэння працэсу.

## ПЫТАННІ І ЗАДАННІ

1. Азначце прадмет і сфармулюйце задачы беларускай навуковай тэрміналогіі.

2. Вызначце месца тэрміналогіі ў сістэме беларускай мовы.

3. Ахарактарызуйце асноўныя этапы развіцця беларускай навуковай тэрміналогіі

4. Ахарактарызуеце тэрміны педагогікі і псіхалогіі з пункту гледжання сістэмнасці.

5. Як рэалізуецца ў тэрміналогіі патрабаванне да адназначнасці тэрміна?

6. Дайце азначэнне сінаніміі, дублетнасці і варыянтнасці ў тэрміналогіі.

7. Якія тыпы сінанімічных адпаведнасцей са словазлучэннямі вылучаюцца сярод тэрмінаў?

8. Растлумачце падабенства і адрозненне паміж тэрмінамі-амонімамі і словамі-амонімамі.

9. Назавіце віды тэрмінаў-антонімаў, якія рэалізуюцца ў тэрміналогіі педагогікі, псіхалогіі, дэфекталогіі.

10. На якія структурныя тыпы дзеляцца тэрміны?

11. Назавіце асноўныя спосабы ўтварэння тэрмінаў.

12. Ахарактарызуйце віды лексіка-семантычнага спосабу ўтварэння тэрмінаў.

13. Дайце характарыстыку марфалагічнаму спосабу ўтварэння тэрмінаў.

14. Раскрыйце сутнасць сінтаксічнага спосабу ўтварэння тэрміна.

15. На якія группы дзеляцца тэрміны паводле паходжання?

16. Як пранікаюць у беларускую мову іншамоўныя тэрміны?

17. Якія змены могуць адбывацца ў афармленні іншамоўных тэрмінаў пэўнай галіны навукі пры ўключэнні ў склад беларускай тэрміналогіі?

18. Пералічыце асноўныя прыметы запазычаных тэрмінаў.

19. Якімі часцінамі мовы прадстаўлены тэрміны ў вашай галіне навукі?

20. Якія граматычныя асаблівасці аднаслоўных тэрмінаў заўважаюцца?

## ПРАКТЫКАВАННІ

**1. Прачытайце «Прадмову» да чацвёртага выпуска «Беларускай навуковай тэрміналогіі» (Мн, 1923). На аснове якой лексікі і якім шляхам адбывалася фарміраванне тэрміналогіі псіхалогіі?**

Пры апрацаваньні лёгічна-псыхолёгічных тэрмінаў мелася на ўвазе зацвердзіць у сьцісла азначаным сэнсе для навуковага ўжываньня словы, якія ўжываюцца ў жыцьцёвай беларускай мове і зарэгістраваны ў існуючых слоўніках беларускай мовы І.Насовіча, Я.Ціхінскага, М.Гарэцкага і Ў.Дабравольскага, а таксама ў творах найвыдатнейшых беларускіх пісьменнікаў новага часу. У частковасьці, дзеля згоды з народным ужываньнем прыняты для навуковага ўжываньня тэрмін «мазгі» ў множным ліку.

Таксама ў згоднасьці з народным ужываньнем і з законамі беларускай мовы ўтвораны і нэолёгізмы, якія зьяўляюцца патрэбнымі для перадачы навуковых паняцьцяў.

У першы раз зьяўляюцца ў друку новатворы: *адцягненьне, адцягнены, самарух, зваротнаспадчынанасьць, зваротнаспадчынны, нізкавокасьць, наданьне, узбуджлівасьць, зьлішвольле, зьлішпамяць, разгалосьсе, жыцьцёчыннасьць, самазахаваньне, унутранагледаньне, унутранагледальны*.

З тэрмінаў, увайшоўшых у склад расійскай лёгічна-псыхолёгічнай тэрміналогіі з іншых моваў, перакладзены на беларускую мову тыя тэрміны, якія захавалі ў навуковым ужываньні свой першастковы сэнс, напрыклад, «ассоциация», «активность» і інш.

Тэрміны, якія атрымалі штучны навуковы сэнс, як напрыклад, «ганглий», «рефлекс», «силлогизм» і інш., ці азначаюць паняцьці, у тлумачэньні якіх няма згоднасьці паміж прадстаўнікамі навукі, як, напрыклад, «апперцепция», «аффект» і інш., застаўлены без перакладу і толькі перададзены ў беларускай транскрыпцыі.

Тэрмінолёгія апрацавана ў аб'ёме курсу лёгікі і псыхолёгіі ў школах сярэдняга тыпу. (*М.Байкоў*)

**2. Заканспектуйце раздзел «Фарміраванне беларускай навуковай тэрміналогіі» з манаграфіі Л.А.Антанюк «Беларуская навуковая тэрміналогія: фарміраванне, структура, упарадкаванне, канструяванне, функцыяніраванне» (Мінск, 1987).**

**3. Карыстаючыся «Слоўнікам тэрмінаў лёгікі і псыхалогіі» (Мінск, 1923), дакажыце, што «прынцып арыентацыі на ўласныя моўныя рэсурсы нярэдка перарастаў у прынцып выключнага выкарыстання гэтых рэсурсаў».**

**4. Падрыхтуйце навуковы даклад на любую з наступных тэм:**

«Асаблівасці сям'і як сацыяльнай ячэйкі грамадства»; «Работа сацыяльнага педагога з сям'ёй, дзецьмі і дарослымі»; «Рэлігій-

ныя арганізацыі як фактар сацыялізацыі»; «Сутнасць лекавай педагогікі А.А.Дуброўскага»; «Лагапедычная работа над рознымі формамі дыслексіі»; «Сістэма спецыяльных устаноў для разумова адсталых дзяцей».

**5. Сярод прыведзеных тэрмінаў знайдзіце словы, якія маюць: а) дублеты; б) сінонімы, в) міжнавуковыя амонімы. Складзіце сказы з падкрэсленымі словамі.**

Абсалютны парог, адцягненасць, аналіз, антрапатэхнічная сістэма, аперацыя, асіміляцыя, атрыбут, блізарукасць, вастрыня слыху, від, выбіральнасць, выдумка, выкліканне, дамінанта, дарослаcць, задача, зрокавыя ілюзіі, імпрытынг, інавацыя, клімат, лобная апраксія, нейрон, ненаўмысная актуалізацыя сувязей, рэакцыя, поле, прыклад, псіхаакустыка, рассеянасць, роля, сімвал, супер-Эга, фантазія, шлюб, яно.

**6. У якіх галінах навукі могуць выкарыстоўвацца прыведзеныя тэрміны і што яны абазначаюць? Як называюцца такія тэрміны і чаму? Складзіце сказы з выдзеленымі тэрмінамі.**

**Стан**, калена, **губа**, яблык, форма, аналіз, **парадыгма**, дэфект, аснова, корань, мяшок, шчокі.

**7. Перакладзіце тэрміны на беларускую мову і падбярыце да іх адпаведныя антонімы. Вызначце, да якіх часцін мовы адносяцца антонімы, а таксама іх від (лексічныя ці словаўтваральныя).**

Адекватность, актив, внешняя речь, внутреннее торможение, внутриличностный конфликт, деградация, демократический стиль лидерства, диалогическая речь, долговременная память, индуктивное умозаключение, косноязычие, кратковременная релаксация, локальное торможение, любовь, положительная индукция нервных процессов, произвольность, сложная форма практического мышления, страх, условный рефлекс, флегматик, холерик.

**8. Складзіце сказы, у якіх тэрмін *ўспрыманне* будзе ўжывацца ў наступных значэннях:**

1. Суб’ектыўны вобраз прадмета, з’явы або працэссу, які непасрэдна ўздзейнічае на аналізатар або сістэму аналізатараў.

2. Працэс фарміравання суб'ектыўнага вобразу.
3. Сістэма дзеянняў, накіраваных на азнаямленне з прадметам, які ўздзейнічае на органы пачуццяў.

**9. Карыстаючыся тлумачальным слоўнікам, вызначце, у якім выпадку беларускі эквівалент будзе абазначаць дзеянне, а ў якім – вынік дзеяння.**

Вывод – вывад, выснова; высказывание – выказванне, выказ; дополнение – дапаўненне, дадатак; отрицание – адмаўленне, адмоўе; отражение – адбіванне, адбітак; пересечение – перасячэнне, перасек; повторение – паўтарэнне, паўтор; соприкосновение – судатыканне, судотык.

**10. Выпішыце з «Педагогического словаря» Г.М.Коджаспировой, А.Ю.Коджаспирова і кнігі «Психология: Словарь» / Под общ. ред. А.В.Петровского, М.Г.Ярошевского) мнагазначныя тэрміны (5–6 прыкладаў). Вызначце, ці заўсёды кантэкст дапамагае зразумець значэнне такіх тэрмінаў.**

**11. Выпішыце з тэксту: а) невытворныя тэрміны; б) вытворныя тэрміны. Падзяліце іх на марфемы.**

Канфармізм – падатлівасць чалавека ўплыву групы, змяненне сваіх паводзін і прынцыпаў у адпаведнасці з пазіцыяй большасці, якую раней не падзяляў. Канфармізм залежыць ад якасцей асобы індывіда, яго самаадзнакі, самапавагі, інтэлекту, можа ўзмацняцца ў стрэсавых сітуацыях. У дзяцей канфармізм развіты ў большай ступені, чым у дарослых, у жанчын – мацней, чым у мужчын. Канформнасць бывае ўнутранай, асобаснай і знешняй, якая выражаецца ў дэманстрацыйнай згодзе з групай па розных пытаннях. Супрацьлеглым паняццем з'яўляецца самастойнасць, незалежнасць чалавека ад меркавання іншых. Асобнай разнавіднасцю той жа залежнасці ад групы з'яўляецца негатывізм (нонканфармізм) – імкненне рабіць учынкі толькі насуперак пазіцыі большасці, любым чынам і ва ўсіх выпадках адстойваць супрацьлеглы пункт гледжання. (*ПС, с.64*)

**12. Карыстаючыся руска-беларускімі слоўнікамі тэрмінаў, размешчанымі ў канцы падручніка, выпішыце па 3–4 беларускамоўныя тэрміны, якія маюць аднолькавы корань.**

**13. Запішыце, якія вы ведаеце, тэрміны з коранем *-вуч-, -лог-, -педагог-*. Складзіце з імі сказы.**

**14. Прачытайце тэкст, выпішыце тэрміны: а) утвораныя пры дапамозе прыставак, б) пры дапамозе суфіксаў. Растлумачце, якое новае значэнне (лексічнае ці граматычнае) надаюць названыя марфемы.**

Разгледзім асноўныя псіхалагічныя тэорыі, якія тлумачаць працэс фарміравання маўлення. Адна з іх тэорыя навучання. Даная тэорыя сцвярджае, што перайманне і падмацаванне з'яўляюцца асноўнымі механізмамі фарміравання і развіцця маўлення ў чалавека. Маецца на ўвазе, што ў дзіцяці ёсць прыроджаная патрэба і здольнасць да пераймання, у тым ліку гукаў чалавечага маўлення. Атрымліваючы станоўчае эмацыянальнае падмацаванне, перайманне вядзе да хуткага засваення спачатку гукаў чалавечага маўлення, затым фанем, марфем, слоў, выказванняў, правілаў граматычнай пабудовы.

Аўтарам наступнай тэорыі маўленчага развіцця з'яўляецца Н.Хомскі. Ён сцвярджае, што ў арганізме і мазгах чалавека з нараджэння ёсць некаторыя спецыфічныя задаткі да засваення маўлення ў яго асноўных атрыбутах. Гэтыя задаткі паспяваюць прыблізна да гадавога ўзросту і адкрываюць магчымасці для паскоранага развіцця маўлення з аднаго года да трох. Даны ўзрост называецца сензітыўным для фарміравання маўлення. У больш шырокіх узроставых межах ён ахоплівае перыяд жыцця чалавека ад года да палавой спеласці.

Яшчэ адна папулярная тэорыя засваення мовы называецца кагнітыўнай. Адпаведна ёй развіццё маўлення залежыць ад уласцівай дзіцяці з нараджэння магчымасці ўспрымаць і інтэлектуальна перапрацоўваць інфармацыю. Гэтым, у прыватнасці, і тлумачыцца дзіцячая спантанная словатворчасць. (*Лагапедыя, с.247*)

**15. Вызначце, якім спосабам утвораны наступныя тэрміны.**

Абследаванне, бязвобразнае мысленне, від дзейнасці, вобраз, відарысаўтварэнне, выбар па ўзоры, выхаванне, выхаванне разумовае, выхаванне фізічнае, выхаванне сямейнае, дзяцінства, дапаможная школа, ДзЦП, дыялагічнае мысленне, знешні від, зрокавая ўвага, інтуітыўнае мысленне, каханне, маральная дэфектыўнасць, мікрацэфалія, мінімальная мазгавая дысфункцыя, навык, наглядна-дзейснае мысленне, назафабія, назіранне, немата, парушэнне, РДА, са-

маабслугоўванне, сензітыўны перыяд развіцця, сіндром Вільямса, ТСН, упрыманне выявы, успрыманне руху, успрыманне слова.

**16. Карыстаючыся руска-беларускімі слоўнікамі тэрмінаў, размешчанымі ў канцы падручніка, выпішыце тэрміны, утвораныя featureрознымі спосабамі тэрмінаўтварэння (марфалагічным, лексіка-семантычным, сінтаксічным).**

**17. Перакладзіце тэксты на беларускую мову. Выпішыце тэрміны і вызначце, якім спосабам яны ўтвораны.**

**I.** Олигофрения при синдроме Шерешевского–Тернера. Эта аномалия встречается только у женщин и характеризуется отсутствием одной половой хромосомы во всех клетках (XO) или в части клеток организма (мозаичные варианты). Соматический облик этих больных типичен. При резком отставании в росте они выглядят старше своего возраста. Лицо старообразное, низкая граница волос на лбу и шее, деформированные, низко расположенные ушные раковины, широкая короткая шея, часто с крыловидными кожными складками от затылка к плечам, густо покрытыми волосами. Характерна диспластичность телосложения: бочкообразная грудная клетка с широко расставленными и низко расположенными сосками. Молочные железы отсутствуют. (*ДефСД, с.48*)

**II.** Задержка психического развития (ЗПР) соматогенного происхождения. Этот тип аномалии развития обусловлен длительной соматической недостаточностью различного происхождения: хроническими инфекциями и аллергическими состояниями, врождёнными и приобретёнными пороками развития соматической сферы, в первую очередь сердца. В замедлении темпа психического развития детей значительная роль принадлежит стойкой астении, снижающей не только общий, но и психический тонус. Нередко имеет место и задержка эмоционального развития – соматогенный инфантилизм, обусловленный рядом невротических наслоений – неуверенностью, боязливостью, связанными с ощущением своей физической неполноценности, а иногда вызванными режимом запретов и ограничений, в котором находится соматически ослабленный или больной ребёнок. (*ДефСД, с.32*)

**18. Вызначце найбольш прадуктыўныя мадэлі для ўтварэння тэрмінаў сінтаксічным спосабам. Карыстайцеся руска-**

**беларускімі слоўнікамі тэрмінаў, размешчанымі ў канцы падручніка. Выпішыце па 5 прыкладаў тэрмінаў, утвораных па наступных мадэлях: а) «назоўнік + прыметнік», б) «назоўнік + назоўнік у форме роднага склону», в) «прыметнік + назоўнік + прыметнік».**

**19. Прачытайце тэкст. Зрабіце словаўтваральны разбор выдзеленых тэрмінаў у наступным парадку: 1) вызначце, да якой часціны мовы адносіцца тэрмін; 2) назавіце словаўтваральную базу і сродак утварэння; 3) укажыце спосаб утварэння.**

**Агназія** – парушэнне ўспрыняцця, якое ўзнікае пры пашкоджанні кары вялікіх паўшар'яў галаўнога мозгу. Адрозніваюць **зрокавую** (аптычную), слыхавую (**акустычную**) і **датыкальную** (тактыльную) агназію. Хворы, які пакутуе на агназію, хоць і не згубіў вастрыні зроку, слыху або датыкальнага пачуцця, становіцца няздольным пазнаваць прадметы і іх выявы, а таксама **гукі** (у асноўным гукі маўлення). Узнікненне агназіі ў дзіцячым узросце выклікае сур'ёзныя **адхіленні** ў псіхічным развіцці. Пры зрокавай агназіі дзіця становіцца **дэзарыентаваным** ў навакольным асяроддзі, што можа прывеці да адставання ў разумовым развіцці. Пры слыхавой агназіі ўзнікаюць адхіленні ў развіцці маўлення і як вынік – цяжкасці ў засваенні чытання і пісьма. Карыгавальнае навучанне здзяйсняецца з апорай на захаваныя **аналізатары**. (*ДефСД, с.6*)

**20. Перакладзіце тэксты на беларускую мову. Выпішыце тэрміны-словы і тэрміны-словазлучэнні. Для тэрмінаў-слоў вызначце спосаб утварэння, параўнайце з утварэннем адпаведных тэрмінаў у рускай мове; для тэрмінаў-словазлучэнняў – тып мадэлі тэрміналагічнага спалучэння.**

**I.** Дизартрия – расстройство артикуляции, вызванное недостаточной иннервацией речевого аппарата. Возникает в результате различных органических поражений ЦНС. В зависимости от локализации участка поражения различают бульбарную, псевдобульбарную, экстрапирамидную, мозжечковую и корковую дизартрию. Бывает выражена в различной степени – от нечёткого произношения отдельных звуков да полной неспособности произношения звуков (анартрия). Дизартрии способствуют изменения темпа и интонация речи, нарушения звуко-слоговой структуры высказывания, что делает речь крайне непонятной. Дети, страдающие дизартри-

ей, ограничены в речевом общении, вследствие чего у них снижается познавательная активность, не происходит обогащение словарного запаса; в тяжёлых случаях возникают вторичные отклонения от общего развития. Коррекционные мероприятия дифференцируются в зависимости от формы и степени выраженности дизартрии и связанной с лечением основного органического заболевания. (*ДефСД, с.29*)

**II.** Интерес – форма проявления познавательной потребности, обеспечивающая направленность личности на осознавание целей деятельности и тем самым способствующая ориентировке, ознакомлению с новыми фактами, более полному и глубокому отображению действительности. Удовлетворение интереса не ведёт к его угасанию, а вызывает новые интересы, отвечающие более высокому уровню познавательной деятельности. Различают непосредственный интерес, вызываемый привлекательностью объекта, и опосредствованный интерес к объекту как средству достижения целей деятельности. Устойчивость интереса выражается в длительности его сохранения и интенсивности. В педагогике проблема интереса воспитанника в процессе его обучения и воспитания всегда была и остаётся актуальной. Пробуждение и сохранение интереса у учащихся в учебно-воспитательном процессе способствует его гуманизации и продуктивности. (*ПС, с.50–51*)

**21. Заканспектуйце параграф «Іншамоўныя словы» (с. 183–194) з вучэбнага дапаможніка «Асновы культуры маўлення і стылістыкі» (Мінск, 1992). Выкажыце свае меркаванні адносна выкарыстання запазычаных слоў у агульнаўжывальнай лексіцы.**

**22. Карыстаючыся «Слоўнікам іншамоўных слоў: у 2-х тамах» А.М.Булыкі (Мінск, 1999), вызначце паходжанне ніжэйпрыведзеных тэрмінаў. Назавіце іх фанетычныя і марфалагічныя асаблівасці.**

Адаптацыя, альбінізм, альтэрацыя, амбідэкстрыя, афект, батарызм, гештальт, гідрацэфалія, гуманнасць, дэменцыя, дэпрывацыя, дыстрафія, інфантылізм, кантроль, кантэнт-аналіз, канфлікт, крэатыўнасць, лідэр, менінгіт, метад, мутызм, псіхагенія, псіхатэрапія, рэабілітацыя, рэспандэнт, роля, сугестыя, суіцыд, сурдапедагогіка, фонастэнія, фрустрацыя, холдынг-тэрапія, эгаізм, эйфарыя, энцэфаліт, эпілепсія.

**23. Падзяліце тэрміны на марфемы і ўкажыце іх значэнне ў прыведзеных іншамоўных тэрмінах.**

Аграфабія, аўтызм, аўтаагрэсія, біяграфія, дыяграма, дыяпазітыў, дэкан, плюралізм, біхевіярызм, брэйнстормінг, гамеастаз, графема, дактыялогія, дыстрэс, дыялог, каўзаметрыя, неўратызм, персаніфікацыя, піктаграма, плацэба-эфект, псіхасаматыка, фенатып, эталогія.

**24. Перакладзіце тэксты. Падкрэсліце тэрміны і параўнайце іх з адпаведнікамі рускай мовы ў плане вымаўлення і правапісу.**

**I.** Некоторые традиции, сложившиеся в конкретной воспитательной организации, становятся элементами её быта.

Традиция – формы и установления жизни, идеи, ценности, нормы поведения, сохраняющиеся в воспитательной организации в течение длительного времени и передаваемые от одного поколения её членов к последующим.

Традиции воспитательной организации не сводятся к наиболее стереотипным своим разновидностям, таким, как ритуал или обычай. Они распространяются на гораздо более широкую область явлений. Традиции могут сложиться в различных сферах жизнедеятельности организации, в стиле педагогического руководства и т.д.

Для традиции характерны: бережное отношение к сложившемуся ранее укладу жизни организации; внимание не только к содержанию жизни и поведения, но и к их внешнему оформлению и проявлению.

Жизнеспособность той или иной традиции зависит от её подражания и развития новыми поколениями членов организации. Пренебрежение к традициям приводит к нарушению преемственности в жизни организации. В то же время слепое преклонение перед традициями порождает консерватизм и застой в жизни организации, которые становятся тормозом её развития, культивируя изживший себя уклад жизни или те или иные его компоненты. (*Социальная педагогика, с.121*)

**II.** Интегрированное обучение аномальных детей – обучение и воспитание детей с различными дефектами психофизического развития в учреждениях общей системы образования вместе с нормально развивающимися детьми. С позиции обучения аномальных детей в нашей стране интеграция как включение человека в обще-

ство в качестве его полноценного члена зависит от успешности его общеобразовательной и профессиональной подготовки. Такая подготовка аномальных детей в наиболее адекватной форме осуществляется в условиях специальных (коррекционных) образовательных учреждений. Это не исключает возможности обучения отдельных, наиболее одарённых детей с нарушениями слуха, зрения или двигательной системы в массовых общеобразовательных школах, если они при наличии индивидуальных средств коррекции дефекта могут успевать за темпом обучения остальных детей. За рубежом в последние годы интегрированное обучение аномальных детей в обычных школах стало чаще рассматриваться как основной путь их обучения. Этот подход остаётся дискуссионным, поскольку, несмотря на усилия педагогов, часто ставит аномальных детей в неравное положение с их нормально развивающимися сверстниками, что снижает эффективность обучения и воспитания аномальных детей. (*ДэфСД, с.35-36*)

**25. Карыстаючыся слоўнікамі, прыведзенымі ў канцы падручніка, выпішыце тэрміны розных часцін мовы (па 5 прыкладаў) і ахарактарызуйце іх граматычныя асаблівасці.**

**26. Прачытаце тэкст, выпішыце тэрміны-словы (па 2–3 прыклады на кожную часціну мовы). Зрабіце вывады адносна частотнасці тэрмінаў розных часцін мовы?**

Дэбільнасць – найбольш лёгкая (у параўнанні з ідыятыяй і імбецыльнасцю) ступень разумовай адсталасці. Паніжаны інтэлект і асаблівасці эмацыянальна-валявой сферы дзяцей-дэбілаў не дазваляюць ім авалодаць праграмай агульнаадукацыйнай масавай школы. Засваенне вучэбнага матэрыялу па любым прадмеце школьнай праграмы для дэбілаў празмерна складанае. Напрыклад, пры авалодванні пісьмовым ці вусным маўленнем, паняццем лічбы і навыкамі ліку, яны адчуваюць вялікія цяжкасці ў разуменні сувязей паміж гукам і літарай, множнасцю і яе лічбавым выражэннем і да т.п. Усё гэта фізіялагічна абумоўлена недаразвіццём аналітыка-сінтэтычнай функцыі вышэйшай нервовай дзейнасці, парушэннем фанематычнага слыху і фанетыка-фанематычнага аналізу. Адсутнасць умення ўстанаўліваць адэкватныя прычынна-выніковыя залежнасці прыводзіць да сур’ёзных цяжкасцей нават у разуменні і рашэнні адносна простых матэматычных задач.

Дзецям-дэбілам неабходна спецыяльнае навучанне. За 9 гадоў яны засвойваюць вучэбны матэрыял, які прыблізна адпавядае праг-

раме пачатковай агульнаадукацыйнай школы. Саматычныя парушэнні, агульная фізічная паслабленасць, парушэнне маторыкі, уласцівы большасці дзяцей-дэбілаў, а таксама асаблівасці эмацыянальна-валявой сферы, сістэмы пабуджальных матываў, характару і паводзін у значнай ступені абмяжоўваюць кола іх наступнай прафесійна-працоўнай дзейнасці.

У апошнія гады робяцца спробы правесці больш дыферэнцыйную ацэнку ступені разумовай адсталасці. Выдзяляюцца лёгкая дэбільнасць, сярэдняя дэбільнасць, выяўленая дэбільнасць. Такога тыпу ацэнка можа мець вялікае практычнае значэнне, дазваляць больш дакладна і эфектыўна арганізоўваць вучэбна-выхаваўчы працэс. Аднак крытэрыі такога падзелу да нашага часу выразна не сфармуляваны. (*ДефСД, с.22–23*)

**27. Перакладзіце тэксты на беларускую мову. Выпішыце тэрміны і раскласіфікуйце іх наступным чынам: а) паводле паходжання: уласнабеларускія і запазычаныя тэрміны (для запазычаных указаць мову-крыніцу); б) лексіка-граматычны клас: назоўнік, прыметнік, дзеяслоў і г.д. Укажыце марфалагічныя асаблівасці выпісаных вамі назоўнікаў і прыметнікаў.**

**I.** Возрастные кризисы – условное наименование переходных этапов от одного возрастного периода к другому. В детской психологии эмпирически отмечалась неравномерность детского развития, наличие особых сложных моментов становления личности. При этом многие исследователи (З.Фрейд, А.Гезелл и другие) рассматривали эти моменты как «болезни развития», негативный результат столкновения развивающейся личности с социальной действительностью. Л.С.Выготский разработал оригинальную концепцию, в которой рассматривал возрастное развитие как диалектический процесс. Эволюционные этапы постепенных изменений в этом процессе чередуются с эпохами революционного развития – кризисы возрастные. Психическое развитие происходит в результате смены так называемых стабильных и критических возрастов. В рамках стабильного возраста вызревают психические новообразования, которые актуализируются в возрастных кризисах. Выготский описал следующие возрастные кризисы: кризис новорождённости – отделяет эмбриональный период развития от младенческого возраста; кризис первого года отделяет младенчество от раннего детства; кризис трёх лет – переход к дошкольному возрасту; кризис семи лет – соединительное звено между дошкольным и школьным воз-

растом; кризис 13 лет совпадает с переходом к подростковому возрасту. На этих этапах происходит коренная смена всей «социальной ситуации развития» ребёнка: возникновение нового типа отношений со взрослыми, смена одного вида ведущей деятельности другим. Эти противоречия нередко принимают острую форму, порождая сильные эмоциональные переживания, нарушения взаимопонимания со взрослыми. В школьном возрасте в рамках возрастных кризисов у детей наблюдается снижение успеваемости и работоспособности, ослабление интереса к учебным занятиям. На остроту протекания возрастных кризисов оказывают влияние и индивидуальные особенности ребёнка.

Наиболее яркую негативную окраску обычно имеет кризис трёх лет, когда прежде послушный ребёнок может внезапно стать неуправляемым, и кризис подросткового возраста, опасный неожиданными формами протеста против реального или мнимого давления со стороны взрослых.

Негативные проявления возрастных кризисов не являются неизбежными. Гибкая смена воспитательных действий, учёт происходящих с ребёнком перемен могут значительно смягчить протекание возрастных кризисов. (*Психология, с. 237*)

**II.** Социализация протекает во взаимодействии детей, подростков, юношей с огромным количеством разнообразных условий, более или менее активно влияющих на их развитие. Эти действующие на человека условия принято называть факторами.

Более или менее изученные условия или факторы социализации условно можно объединить в четыре группы.

Первая – мегафакторы – космос, планета, мир, которые в той или иной мере через другие группы факторов влияют на социализацию всех жителей Земли.

Вторая – макрофакторы – страна, этнос, общество, государство, которые влияют на социализацию всех живущих в определённых странах (это влияние опосредствованно двумя другими группами факторов).

Третья – мезофакторы, условия социализации больших групп людей выделяемых: по местности и типу поселения, в которых они живут (регион, село, город, посёлок); по принадлежности к аудитории тех или иных сетей массовой коммуникации (радио, телевидения и другое); по принадлежности к тем или иным субкультурам.

Мезофакторы влияют на социализацию как прямо, так и опосредствованно через четвёртую группу – микрофакторы. К ним от-

носятся факторы, непосредственно влияющие на конкретных людей, которые с ним взаимодействуют – семья и домашний очаг, соседство, группы сверстников, воспитательные организации, различные общественные, государственные, религиозные и частные организации, микросоциум. (*Социальная педагогика, с.10–11*)

# РАЗДЗЕЛ 4

# ЛЕКСІКАГРАФІЯ. ТЭРМІНАГРАФІЯ

## §1. Паняцце «лексікаграфіі» і «тэрмінаграфіі»

**Лексікаграфія** (ад грэч. lexikys – які адносіцца да слова і graphф – пішу) – гэта 1) тэорыя і практыка складання слоўнікаў; 2) сукупнасць слоўнікаў пэўнай мовы, пэўнага тыпу, пэўнага разраду лексікі і г.д.

**Тэрмінаграфія** (ад грэч. terminus – канец, мяжа і graphф – пішу) – гэта 1) адзін з аспектных напрамкаў сучаснай лексікаграфіі; 2) сукупнасць тэрміналагічных слоўнікаў.

**Слоўнік** – кніга, рукапіс ці электронная праграма, у якіх зафіксаваны ў пэўным парадку (алфавітным, гнездавым, тэматычным, храналагічным, лічбавым або інш.) словы ці іншыя адзінкі мовы з адпаведнымі звесткамі пра іх у выглядзе тлумачэнняў, перакладаў на іншую мову, ілюстрацый з розных жанраў літаратуры і г.д.

**Тэрміналагічны слоўнік** – гэта даведнік, які адлюстроўвае тэрміны якой-небудзь галіны навукі, тэхнікі, культуры і г.д.

У практычныя задачы лексікаграфіі і тэрмінаграфіі ўваходзіць збор, сістэматызацыя і фіксацыя лексічнага матэрыялу. Лексічным матэрыялам для лексікаграфіі з’яўляецца ў асноўным агульнаўжывальная, дыялектная і жаргонная лексіка, а для тэрмінаграфіі – гэта тэрміны пэўнай галіны навукі, тэхнікі, культуры, вытворчасці, мастацтва і г.д.

У тэарэтычныя задачы лексікаграфіі і тэрмінагарафіі ўваходзіць вызначэнне тыпаў слоўнікаў, прынцыпаў апісання слоў (для тэрмінаграфіі – тэрмінаў) у слоўнікавых артыкулах, распрацоўка сістэмы памет і прыёмаў тлумачэння значэння слова (ці тэрміна).

Складанне слоўнікаў выклікаецца разнастайнымі навуковымі, культурнымі і практычнымі патрэбамі: растлумачыць значэнне слоў, іх ужыванне, правапіс, паходжанне, дапамагчы ў авалоданні

замежнай мовай і інш. Напрыклад, адкрыўшы «Тлумачальны слоўнік беларускай літаратурнай мовы» мы можам даведаецца, што такое **экзамен**:

**ЭКЗАМЕН** , -у, *мн.* -ы, -аў, *м.* 1. Праверка ведаў па якім-н. вучэбным прадмеце. *Э. па фізіцы*. 2. *перан*. Якое-н. выпрабаванне, праверка. *Э. на смеласць*. | *прым*. ***экзаменацыйны***, -ая, -ае (да 1 знач.).

А таксама будзем ведаць, што гэта назоўнік мужчынскага роду, які ў родным склоне адзіночнага ліку мае канчатк ***-у*** і што гэты назоўнік утварае форму множнага ліку. У множным ліку слова **экзамен** будзе ўжывацца з канчаткам ***-ы*** ў назоўным склоне і з канчаткам ***-аў*** – у родным. Ад назоўніка **экзамен** (у 1 значэнні) утвараецца прыметнік **экзаменацыйны**, які мае канчаткі ***-ая*** (для жаночага роду), ***-ае*** (для ніякага роду). Са слоўнікавага артыкула вынікае, што слова **экзамен** мнагазначнае, што яно можа ўжывацца і ў прамым, і ў пераносным значэнні.

## §2. Будова слоўнікавага артыкула, сістэма стылістычных і граматычных памет

Слова, якое тлумачыцца ў слоўніку, называецца рэестравым (загаловачным) словам. Рэестравае слова разам з усімі звесткамі пра яго складае слоўнікавы артыкул. Загаловачнае слова падаецца ў пачатковай форме: назоўнік, лічэбнік, займеннік – у назоўным склоне адзіночнага ліку, прыметнік, дзеепрыметнік – у назоўным склоне адзіночнага ліку мужчынскага роду, дзеяслоў – у неазначальнай форме.

Найчасцей размяшчэнне слоў у слоўніку бывае алфавітным або гнездавым. Напрыклад:

• алфавітнае размяшчэнне:

**враг** вораг

**вражда** варожасць

**враждебность** варожасць

**враждебный** варожы

**враждовать** быць (знаходзіцца) у варожасці, ваяваць

**вражеский** варожы

**вражий** варожы /Грабчыкаў (рбс), с.26/.

• гнездавое размяшчэнне:

**ВРА//Г 1.** вораг, –га *м*; **классовый в**. класавы вораг; **в. народа** вораг народа; **2.** (*дьявол*) нячысты, –тага *м*, нячысцік, –ка *м*, чорт, *род* чорта *м*; **в.попутал** нячысты (нячысцік, чорт) падбіў (па-

даткнуў); ~ **ЖДА** варожасць, –ці *ж*; ~ **ЖДЕБНО** *нареч*. варожа; ~ **ЖДЕБНОСТЬ** варожасць, –ці *ж*; ~ ждебный варожы; ~ **ЖДОВАТЬ** *несов*. варагаваць; (*воевать*) ваяваць. /РБС-93, I, с.221/.

**ВРАЖ//ЕСКИЙ** варожы; ~ **ИЙ 1**. *нар. – поэт*. варожы; **2.** (*дьявольский*) *уст*. чартоўскі; % ~ **ья сила** нячыстая (варожая) сіла (РБС-93, I, с.221).

У залежнасці ад тыпу слоўніка, прызначэння і структуры ў слоўнікавым артыкуле могуць падавацца: сэнсавая, граматычная і стылістычная характарыстыка слова; пераклад слова на іншую мову (мовы); этымалогія (паходжанне) слова; ілюстрацыйны матэрыял; тэрміналагічныя і фразеалагічныя словазлучэнні.

Сэнсавую характарыстыку слова складае яго тлумачэнне, якое можа праводзіцца:

1. Апісальна, або шляхам лагічнага вызначэння, напрыклад: **СТРАХ**, -у, *м*. **1**. Пачуццё і стан вельмі моцнага спалоху (ТСБМ, V-1, с.337).

2. Падборам сінонімаў, напрыклад: **УЗНЕРВАВАЦЦА**, –нервуюся, –нервуешся, –нервуецца; *зак*., *разм*. Усхваляваცца, разнервавацца (ТСБМ, V-1, с.645).

3. Устанаўленнем словаўтваральных адносін, напрыклад: **ВУЛЁВЫ**. *Прым. да* вулей /СЦБМ, с.27/.

Усе значэнні мнагазначнага слова падаюцца ў адным слоўнікавым артыкуле і пазначаюцца арабскімі лічбамі; словы-амонімы – у розных артыкулах.

Граматычная і стылістычная характарыстыкі даюцца шляхам выкарыстання розных памет.

У граматычную характарыстыку ўваходзяць: назвы часцін мовы (выклічнік – *выкл.*, дзеепрыметнік – *дзеепрым.*, дзеепрыслоўе – *дзеепрысл.,* дзеяслоў – *дзеясл.,* займеннік – *займ.,* злучнік – *злуч.,* лічэбнік – *ліч.,* назоўнік – *наз.,* прыметнік – *прым.,* прыназоўнік – *прыназ.,* прыслоўе – *прысл.,* часціца – *часц.*); паметы роду (*м., ж., н.*), ліку (*адз., няма, толькі мн., мн., толькі адз.*), трывання (*зак., незак.*), асобы (*1, 2 ас. не ўжыв.*).

У стылістычную – паметы, якія паказваюць абмежаванае ўжыванне слоў (*разм., абл., кніж., уст., ласк.*), сферу іх выкарыстання (*спец., астр., бат., псіхал., філас.*).

Пераклад на іншую мову даецца ў перакладных слоўніках, ілюстрацыйны матэрыял залежыць ад тыпу слоўніка, а тэрміналагічныя і фразеалагічныя спалучэнні прыводзяцца адпаведна пасля знакаў ○, ◊.

## § 3. Тыпы слоўнікаў

Паводле прызначэння ўсе слоўнікі аб’ядноўваюцца ў два асноўныя тыпы – энцыклапедычныя і лінгвістычныя.

**Энцыклапедычныя выданні** падзяляюцца на *энцыклапедыі* (у іх артыкулы маюць вялікія памеры) і *энцыклапедычныя слоўнікі* (у іх аб’ём артыкулаў невялікі)[21].

**Энцыклапедычныя слоўнікі** тлумачаць не словы, а паняцці, абазначаныя гэтымі словамі; у сціслай форме ў іх выкладзены навуковыя веды пра прадметы, з’явы, падзеі; звесткі пра гістарычных асоб, дзеячаў навукі, культуры, асобныя гарады і краіны, іх прыродныя багацці і выдатныя мясціны. Загаловачнымі словамі ў энцыклапедычных слоўніках з’яўляюцца назоўнікі (уласныя і агульныя) або спалучэнні назоўнікаў з прыметнікамі і лічэбнікамі. Яны размяшчаюцца ў алфавітным парадку або паводле тэматычнага прынцыпу (па галінах ведаў). Слоўнікавыя артыкулы ў слоўніках такога тыпу не даюць граматычнай і стылістычнай характарыстык, а таксама тэрміналагічных і фразеалагічных спалучэнняў. Указваецца толькі паходжанне запазычаных тэрмінаў і пазначана месца націску на загаловачных словах. Ілюстрацыямі ў слоўніках гэтага тыпу служаць малюнкі, табліцы, рэпрадукцыі, карты, схемы, фотаздымкі.

Паводле характару інфармацыі энцыклапедычныя слоўнікі падзяляюцца на універсальныя, галіновыя, спецыяльныя і рэгіянальныя.

Да энцыклапедычных выданняў адносяцца «Беларуская Савецкая энцыклапедыя» ў 12-ці тамах (1969 – 1975), «Беларуская Энцыклапедыя» ў 18-ці тамах (1996 – 2004), «Этнаграфія Беларусі» (1980), «Архітэктура Беларусі» (1982), «Энцыклапедыя літаратуры і мастацтва Беларусі» ў 5-ці тамах (1984 – 1987) г.д.. Выдадзены персанальныя энцыклапедыі «Янка Купала» (1986) і «Францыск Скарына і яго час» (1988).

**Лінгвістычныя слоўнікі** апісваюць словы – іх значэнне, ужыванне, паходжанне, марфемную будову, вымаўленне, напісанне. Загаловачныя словы ў лінгвістычных слоўніках размяшчаюцца парознаму. Слоўнікавыя артыкулы змяшчаюць сэнсавую, граматычную, стылістычную, этымалагічную характарыстыкі, пераклад на іншую мову, ілюстрацыйны матэрыял, тэрміналагічныя і фразеалагічныя спалучэнні. Ілюстрацыямі ў большасці лінгвістычных слоўнікаў з’яўляюцца прыклады ўжывання слоў у сказах, што бяруцца з літаратурных крыніц.

[21] Першапачаткова тэрмін «энцыклапедычны слоўнік» ужываўся як сінонім да тэрміна «энцыклапедыя».

Лінгвістычныя слоўнікі падзяляюцца на тры віды: аднамоўныя, двухмоўныя і шматмоўныя.

***Двухмоўныя і шматмоўныя слоўнікі*** – гэта перакладныя слоўнікі, у якіх словы адной мовы тлумачацца словамі іншай мовы або некалькіх іншых моў. Прыкладам двухмоўных перакладных слоўнікаў з'яўляюцца: «Беларуска-рускі слоўнік» у 2-х тамах пад рэдакцыяй К.Крапівы (1988-1989), «Русско-белорусский словарь» у 3-х тамах пад рэдакцыяй Я.Коласа, К.Крапівы, П.Глебкі (3-е выд., 2002) і г.д.; шматмоўных – «Нямецка-беларуска-рускі слоўнік» (1990), «Англа-беларуска-рускі слоўнік» (1989), «Французска-беларуска-рускі слоўнік» (1992), «Іспанска-беларуска-рускі слоўнік» (1993) і інш.

***Аднамоўныя слоўнікі*** характарызуюць словы адной мовы сродкамі той самай мовы. Паводле прызначэння аднамоўныя слоўнікі падзяляюцца на тлумачальныя, дыялектныя, этымалагічныя, арфаграфічныя, арфаэпічныя, слоўнікі сінонімаў, паронімаў, амонімаў, антонімаў, эпітэтаў беларускай мовы, фразеалагічныя, марфемныя, словаўтваральныя, анамастычныя, частотныя, адваротныя, асацыятыўныя і інш.

Абавязковай у *тлумачальных слоўніках* з'яўляецца сэнсавая характарыстыка слова. Тлумачальныя слоўнікі ўключаюць і тлумачаць агульнаўжывальную лексіку беларускай літаратурнай мовы. У слоўнікавых артыкулах даецца напісанне слова, указваецца месца націску, прыводзяцца сэнсавая, граматычная, стылістычная характарыстыкі слова, ілюстрацыйны матэрыял, тэрміналагічныя і фразеалагічныя словазлучэнні, у некаторых – даведкі пра паходжанне слова. Да нарматыўных тлумачальных слоўнікаў адносяцца «Тлумачальны слоўнік беларускай мовы» ў 5-ці тамах (1977 – 1984), «Тлумачальны слоўнік беларускай мовы для сярэдняй школы» А.Я.Баханькова, І.М.Гайдукевіча, П.П.Шубы (7-е выд., 2002), «Тлумачальны слоўнік беларускай літаратурнай мовы» пад рэдакцыяй М.Р.Судніка і М.Н.Крыўко (4-е выд., 2005).

*Дыялектныя слоўнікі* фіксуюць словы адной гаворкі, групы гаворак або пэўнага дыялекту, тлумачаць іх значэнне і ўжыванне. Большасць дыялектных слоўнікаў уключае толькі такія словы, якіх няма ў літаратурнай мове або якія адрозніваюцца ад агульнаўжывальных слоў гучаннем, значэннем, словаўтварэннем. Да іх адносяцца, напрыклад, «Дыялектны слоўнік» у 3-х тамах Ф.М.Янкоўскага (1959 – 1970), «Дыялектны слоўнік з гаворак Зэльвеншчыны» П.У.Сцяцко (1970), «Слоўнік рэгіянальнай лексікі Гродзеншчыны» пад рэдакцыяй М.А.Даніловіча, П.У.Сцяцко (1999) і інш.

*Гістарычныя слоўнікі* характарызуюць лексіку пісьмовых помнікаў пэўнага гістарычнага перыяду. У «Гістарычным слоўніку беларускай мовы» (з 1982 па 2007 г.г. выйшла 27 выпускаў) даюцца сэнсавыя і граматычныя характарыстыкі літаратурна-пісьмовай лексікі XIV – XVIII ст., а таксама прыводзяцца прыклады ўжывання слова ў якім-небудзь помніку старажытнабеларускай пісьменнасці.

*Этымалагічныя слоўнікі* – від лінгвістычных слоўнікаў, у якіх раскрываецца паходжанне слоў, іх пачатковае значэнне і змены ў значэнні слова. Шматтомны «Этымалагічны слоўнік» ствараецца ў Інстытуце мовазнаўства НАН Беларусі; выйшлі 11 тамоў (1978 – 2006).

*Арфаграфічныя слоўнікі* даюць правільнае, замацаванае нормамі арфаграфіі напісанне слоў і іх форм. У беларускай лексікаграфіі створаны два тыпы гэтага слоўніка: слоўнік для школы і агульны слоўнік. Напрыклад, «Арфаграфічны слоўнік» для сярэдняй школы М.П.Лобана і М.Р.Судніка выйшаў у 1961 годзе (2-е выд., 1966, 3-е выд., 1971, 4-е выд., 1978, 5-е выд., 1982, 6-е выд., 1990). Гэты слоўнік мае дзве часткі: «Асноўныя правілы правапісу» і «Слоўнік», дзе падаюцца словы ў напісанні, якое адпавядае сучасным арфаграфічным нормам. Калі слова мае дваякае напісанне, прыводзяцца яго арфаграфічныя варыянты, напрыклад: *альха* і *вольха*, *супраць* і *супроць*. «Арфаграфічны слоўнік» для пачатковай школы з’явіўся ў 1968 годзе (2-е выд., 1972, 3-е выд., 1977, 4-е выд., 1982, 5-е выд., 1987, 6-е выд., 1992).

У 1987 годзе выйшаў з друку агульны слоўнік-даведнік па арфаграфіі, арфаэпіі, акцэнтуацыі і словазмяненні – «Слоўнік беларускай мовы» пад рэдакцыяй М.В.Бірылы.

*Слоўнікі мовы пісьменніка* апісваюць лексіку твораў таго ці іншага пісьменніка. Гэта своеасаблівы дапаможнік пры вывучэнні асаблівасцей мовы і стылю пісьменніка або яго канкрэтнага твора. Прыкладамі такіх слоўнікаў з’яўляюцца «Слоўнік мовы Скарыны» У.В.Анічэнкі (3 т., 1977 – 1994), «Анамастычны слоўнік твораў Якуба Коласа» (1990), «Слоўнік мовы Янкі Купалы» ў 8 тамах (Т. 1 – 6, 1997 – 2003), «Фразеалагічны слоўнік мовы Якуба Коласа» (1993).

*Фразеалагічныя слоўнікі* тлумачаць значэнні ўстойлівых словазлучэнняў (фразеалагізмаў), ілюструюць іх прыкладамі, даюць стылістычную характарыстыку і звесткі пра паходжанне. Устойлівыя словазлучэнні беларускай мовы пададзены і ахарактарызаваны ў «Слоўніку беларускай народнай фразеалогіі» Е.С.Мяцельскай, Я.М.Камароўскага (1972), у «Фразеалагічным слоўніку беларускай мовы» у 2-х тамах І.Я.Лепешава (1991), у слоўніку «Беларускія прымаўкі, прыказкі, фразеалагізмы» Ф.Янкоўскага (1992), у

«Этымалагічным слоўніку фразеалагізмаў» у 2-х частках І.Я.Лепешава (1981, 1993).

*Марфемныя слоўнікі* даюць падзел слоў на марфемы. Прыкладам такога слоўніка з'яўляецца «Марфемны слоўнік беларускай мовы» А.М.Бардовіча, Л.М.Шакуна (1989). Загаловачныя словы, падзеленыя на марфемы, размешчаны ў алфавітным парадку. Калі на стыку марфем адбываецца зліццё гукаў, то ў круглых дужках марфемы падаюцца ў іх поўным выглядзе: *студэн[ц]-к-і* (студэнт + ск + і). У круглых дужках, але з паметай *гіст.*, паказваюцца змены ў марфемнай будове слова ў працэсе яго гістарычнага развіцця.

Словаўтваральная структура вытворных слоў раскрываецца ў «Словаўтваральным слоўніку беларускай мовы» А.М.Бардовіча, М.М.Круталевіча і А.А.Лукашанца (2000). У слоўніку паказана, ад якой асновы, якім спосабам утварылася слова, напрыклад: *каранёв-ы (ы)* – суф., ад *корань*-(Ш), чарг. о/а.

*Анамастычныя слоўнікі* фіксуюць уласныя імёны, геаграфічныя назвы. Да іх адносяцца «Слоўнік асабовых імён» М.Р.Судніка (1965), «Беларуская антрапанімія: Уласныя імёны, імёны-мянушкі, імёны па бацьку, прозвішчы» (Ч. 1. 1966; Ч. 2. 1969; Ч.3. 1982) М.В.Бірылы, «Беларуская антрапанімія: Прозвішчы, утвораныя ад апелятыўнай лексікі» (1969) і інш.

*Слоўнік іншамоўных слоў* – гэта лексікаграфічны даведнік, у якім тлумачацца запазычаныя словы, што маюць вузкую сферу выкарыстання і выразна ўсведамляюцца як словы іншай мовы. Напрыклад, у 1993 годзе выдадзены «Слоўнік іншамоўных слоў» А.М.Булыкі, які змяшчае каля 5600 слоў, запазычаных у розны час беларускай мовай з іншых моў. У 1999 г. выйшаў «Слоўнік іншамоўных слоў» у 2-х тамах А.М.Булыкі.

*Слоўнікі сінонімаў* фіксуюць сінонімы і блізказначныя словы ў сінанімічных радах, якія размяшчаюцца ў алфавітным парадку. Першым у такім радзе ідзе стылістычна нейтральнае слова (дамінанта). Для некаторых сінонімаў прыводзяцца стылістычная характарыстыка і фразеалагічныя спалучэнні. Ужыванне кожнага сіноніма з сінанімічнага рада суправаджаецца ілюстрацыйным прыкладам у выглядзе сказа з мастацкай літаратуры, фальклору. У канцы слоўнік мае алфавітны пералік усіх слоў сінанімічных радоў (індэкс), які дапамагае лягчэй і хутчэй знайсці і падабраць патрэбны сінонім. У «Слоўніку сінонімаў і блізказначных слоў» М.К.Клышкі (1976; 2-е выд., 1993) пададзена каля 1900 сінанімічных радоў, у якіх аб'яднана больш за 11000 слоў, устойлівых словазлучэнняў і зваротаў.

*Слоўнік амонімаў* фіксуе і тлумачыць словы, якія аднолькава вымаўляюцца і пішуцца, але маюць рознае значэнне. Прызначаны такі слоўнік для адлюстравання слоў, якія супадаюць па форме, але не маюць нічога агульнага ў значэнні, і для надання ім семантычнай і граматычнай характарыстыкі. «Слоўнік амонімаў беларускай мовы» В.Дз.Старычонка з'явіўся ў 1991 годзе і фіксуе каля 2000 пар ці груп амонімаў.

*Слоўнік паронімаў* адлюстроўвае і тлумачыць блізкія па гучанні, але розныя па значэнні словы. «Слоўнік паронімаў беларускай мовы» С.М.Грабчыкава выйшаў з друку ў 1994 годзе. У ім у алфавітным парадку засведчаны паранімічныя групы слоў, кожнай з іх прысвечаны асобны слоўнікавы артыкул.

*Слоўнік эпітэтаў* – гэта лексікаграфічны даведнік, у якім адлюстраваны вобразныя азначэнні. Першы «Слоўнік эпітэтаў беларускай літаратурнай мовы» М.П.Пазнякова з'явіўся ў 1988 годзе. У 1991 годзе выйшаў «Слоўнік эпітэтаў беларускай мовы» Н.В.Гаўрош (2-е выд.,1998).

*Частотны слоўнік* падае спісы слоў, размешчаных у парадку змяншэння частаты іх ужывання ў тэкстах вызначанай даўжыні і стылю. Такія слоўнікі дапамагаюць высветліць, якія словы складаюць ядро слоўніка мовы, а якія знаходзяцца на яго перыферыі; даюць магчымасць высветліць лексічны мінімум, неабходны пры стварэнні падручнікаў і дапаможнікаў для вучняў; змяшчаюць каштоўны матэрыял па даследаванні пытанняў, звязаных з функцыянаваннем лексікі і інш. Праца па стварэнні частотнага слоўніка беларускай мовы распачалася ў апошнія тры дзесяцігоддзі. Выйшла з друку пяць выпускаў «Частотнага слоўніка беларускай мовы» Н.С.Мажэйкі, А.Я.Супруна (1976–1992) У 2006 годзе выйшаў зводны «Частотны слоўнік беларускай мовы» Н.С.Мажэйкі.

*Асацыятыўныя слоўнікі* ў выглядзе частотных спісаў фіксуюць словы-рэакцыі на словы-стымулы. «Асацыятыўны слоўнік беларускай мовы» А.І.Цітовай выйшаў у 1981 годзе і адлюстраваў вынікі псіхалінгвістычнага эксперыменту на свабоднае асацыяванне з фіксацыяй першых адказаў на 300 слоў-стымулаў розных сфер ужывання, атрыманых ад 1000 інфармантаў.

*Тэрміналагічныя слоўнікі* адлюстроўваюць тэрміны якой-небудзь галіны навукі, тэхнікі, культуры. Беларускія тэрміналагічныя слоўнікі пачалі распрацоўвацца пасля Кастрычніцкай рэвалюцыі. Па меры таго як беларуская мова набывала ўсё шырэйшыя грамадскія функцыі, асабліва востра стаў адчувацца недахоп у ёй тэрміналагічных сродкаў, бо таго запасу тэрміналагічнай лексікі, якім ва-

лодала народная гаворка, было зусім недастаткова нават для таго, каб выдаваць школьныя падручнікі, весці разнастайную канцылярскую перапіску, не кажучы ўжо пра навуку, юрыспрудэнцыю, вайскoвую справу, розныя галіны тэхнікі і іншыя больш высокія сферы прымянення нацыянальнай мовы. Таму на працягу 20-х XX ст. вялася актыўная работа па стварэнні беларускай нацыянальнай тэрміналогіі. За гэты час было выдадзена больш двух дзесяткаў тэрміналагічных руска-беларускіх (беларуска-рускіх) слоўнікаў, у тым ліку і па псіхалогіі.

Неабходна адзначыць, што на працягу XX ст. выходзяць у асноўным аднамоўныя («Кароткі слоўнік псіхалагічных паняццяў» (Мазыр, 1993); С.С.Кацэвіч «Слоўнік педагагічных тэрмінаў» (Брэст, 1995); А.І.Андарала, Г.Ф.Андарала «Кароткі тлумачальны слоўнік педагагічных тэрмінаў» (Мінск, 1995) і інш.) ці двухмоўныя і шматмоўныя («Слоўнік тэрмінаў логікі і псіхалогіі» (Мінск, 1923); Т.У.Васілец, Я.Л.Каламінскі, Р.А.Макарэвіч «Руска-беларускі слоўнік псіхалагічных тэрмінаў» (Мінск, 1993); Н.Г.Алоўнікава, В.В.Кандрацьева «Руска-беларуска-англійскі слоўнік па педагогіцы і псіхалогіі» (Мінск, 1996) і інш.) тэрміналагічныя слоўнікі па псіхалогіі, дэфекталогіі, педагогіцы.

Характарыстыка слоўнікаў беларускай мовы розных тыпаў сведчыць, што беларуская лексікаграфія і тэрмінаграфія як асобныя раздзелы навукі аб мове атрымалі належнае развіццё.

## ПЫТАННІ І ЗАДАННІ

1. Дайце азначэнне лексікаграфіі і тэрмінаграфіі, вызначце іх прадмет і задачы.

2. З чаго складаецца і як будуецца слоўнікавы артыкул?

3. Што адносіцца да сістэмы граматычных памет?

4. Якія стылістычныя паметы ўжываюцца ў слоўніках?

5. Прывядзіце прыклады слоўнікаў, у якіх словы размешчаны гнездавым спосабам.

6. Ахарактарызуйце лінгвістычныя слоўнікі.

7. Якія слоўнікі называюцца энцыклапедычнымі? Прывядзіце прыклады энцыклапедычных слоўнікаў па сваёй спецыяльнасці.

8. Падумайце, як могуць псіхолагі, дэфектолагі і сацыяльныя педагогі выкарыстоўваць у сваёй працы асацыятыўныя і частотныя слоўнікі?

**1. Вызначце тып і від слоўнікаў, з якіх узяты прыклады. Прачытайце і параўнайце будову слоўнікавых артыкулаў.**

**ДЭФЕКТАЛОГІЯ**, -і, *ж*. Навука, якая вывучае заканамернасці і асаблівасці развіцця дзяцей з фізічнымі і псіхічнымі недахопамі і пытанні іх навучання і выхавання. ‖ *прым.* **дэфекталагічны**, -ая, -ае.

**ДЭФЕКТАЛОГІЯ** (ад лац. *def ectus*– загана, недахоп + гр. *logos* – слова) – навука, якая вывучае заканамернасці і асаблівасці развіцця дзяцей з фізічнымі і псіхічнымі недахопамі і пытанні іх навучання і выхавання.

**ДЭФЕКТАЛОГІЯ** (ад лац. *defectus* – недахоп + гр. *logos* – навука, вучэнне) – навука пра псіхафізічныя асаблівасці развіцця анамальных дзяцей, заканамернасці іх навучання і выхавання.

**ПЕДАГОГІКА**, -і, *ДМ* -гіцы, *ж*. Навука пра метады выхавання і навучання. ‖ *прым.* **педагагічны**, -ая, -ае. *П. факультэт* (які рыхтуе спецыялістаў па педагогіцы). *П. інстытут* (які рыхтуе настаўнікаў).

**ПЕДАГОГІКА** (гр. paidogogike) – навука пра выхаванне чалавека.

**ПЕДАГОГІКА** – 1) навука, якая вывучае аб’ектыўныя законы развіцця канкрэтна-гістарычнага працэсу выхавання, арганічна звязаныя з законамі развіцця грамадскіх адносін і станаўлення дзіцячай асобы, а таксама вопыт рэальнай грамадскай выхаваўча-навучальнай практыкі фарміравання падрастаючых пакаленняў, асаблівасці і ўмовы арганізацыі педагагічнага працэсу; 2) сукупнасць тэарэтычных і прыкладных навук, якія вывучаюць выхаванне, адукацыю і навучанне; 3) навука пра выхаваўчыя адносіны, якія ўзнікаюць у працэсе ўзаемасувязі выхавання, адукацыі і навучання з самавыхаваннем, самаадукацыяй і саманавучаннем і накіраваныя на развіццё чалавека; 4) вучэбны курс, які выкладаецца ў педагагічных вучэбных установах і іншых установах па прафілюючых праграмах.

**2. Выпішыце з «Тлумачальнага слоўніка беларускай мовы» ў 5-ці тамах (т.2. Мінск, 1978) і з «Руска-беларускага слоўніка» ў 3-х тамах (т.1. Мінск, 1993) слоўнікавыя артыкулы слова *запас*. Вызначце адрозненні ў падачы аднаго і таго слова ў гэтых лінгвістычных слоўніках.**

**3. Прачытайце тэкст. Карыстаючыся «Тлумачальным слоўнікам беларускай мовы» ў 5-ці тамах, вызначце лексічнае значэнне выдзеленых слоў.**

«Ці маем мы права выракацца роднай мовы?» – пытаўся ў беларусаў Янка Купала ў 1914 годзе. Сёння духоўныя **нашчадкі** вялікага паэта зноў і зноў задаюць пытанне сваім сучаснікам, спадзеючыся на аднаўленне жывога бытавання беларускага **слова**. У наш час **урбаністычнай** уніфікацыі і навукова-тэхнічнай стандартызацыі характэрны для ўсіх рэгіёнаў свету рух за адраджэнне нацыянальных культур **недасведчанымі** людзьмі часам успрымаецца, як парадокс ці штучнае **дзівацтва**. Небяспечная памылка, за якую шмат якія народы ўжо дорага заплацілі і не толькі здабыткамі культуры, але і чалавечымі **ахвярамі**!

І вельмі добра, што праўда пра нацыянальную культуру ўрэшце стала фактам новага палітычнага **мыслення**. Наіўная ў навуковых адносінах, але зусім не бяскрыўдная канцэпцыя папярэдніх гадоў, паводле якой беларуская мова, **фальклор**, іншыя аспекты нацыянальнага быцця – гэта толькі «мясцовы каларыт» агульнасавецкай культуры, паступова знікае. Верх бярэ інтэрнацыянальная павага да **мовы** кожнага народа, выспявае грамадскае перакананне, што агульначалавечая прагрэсіўная культура – гэта гарманічная «сімфонія» раўнапраўных галасоў усіх нацыянальных культур. (*Паводле У.Конана*)

**4. Карыстаючыся індэксам, змешчаным у канцы «Слоўніка сінонімаў і блізказначных слоў» М.К.Клышкі (Мінск, 1993), знайдзіце сінонімы да слоў *думка*, *водгук*. Запішыце сінанімічныя рады, у якія ўваходзяць гэтыя словы, складзіце і запішыце сказы са словамі-дамінантамі.**

**5. Выпішыце з «Тлумачальнага слоўніка беларускай літаратурнай мовы» (Мінск, 1996) па тры слоўнікавыя артыкулы мнагазначных слоў і слоў-амонімаў. Вызначце асаблівасці іх будовы.**

**6. Выпішыце эпітэты і асацыяцыі да слова *дзень* са «Слоўніка эпітэтаў беларускай мовы» Н.В.Гаўрош (Мінск, 1998) і «Асацыятыўнага слоўніка беларускай мовы» А.І.Цітовай (Мінск, 1981).**

**7. Падбярыце і запішыце свае асацыяцыі да слоў *дзіця, жыццё, кахаць* . Параўнайце вашы асацыяцыі з тымі, што прыведзены ў «Асацыятыўным слоўніку беларускай мовы» А.І.Цітовай (Мінск, 1981).**

**8. Законспектуйце артыкулы *дзяўчына* і *хлопец* са «Слоўніка эпітэтаў беларускай мовы» Н.В.Гаўрош (Мінск, 1998). Параўнайце эпітэты ў абодвух артыкулах, выпішыце эпітэты-антонімы.**

**9. Карыстаючыся «Слоўнікам паронімаў беларускай мовы» С.М.Грабчыкава (Мінск, 1994), вызначце розніцу паміж наступнымі словамі.**

Абгрунтаванасць – абгрунтаванне, адзінкавы – адзінокі – адзіночны – адзіны, адукаваны – адукацыйны, асабісты – асабовы – асаблівы, асветніцкі – асветны – асвечаны, асвоіць – засвоіць, афектыўны – эфектыўны, важкасць – важнасць, варыянтны – варыяцыйны, вымысел – замысел, гімназісцкі – гімназічны, дысцыплінаваны – дысцыплінарны, запазычанасць – запазычанне – запазычванне, зыходзячы – зыходны, кваліфікаваны – кваліфікацыйны, падлетак – падлётак – подлетак, прэтэндэнт – прэцэдэнт, разумнець – разумнічаць, самалюбаванне – самалюбівасць – самалюбнасць – самалюбства – самаўлюбёнасць, узбуджальнасць – узбуджанасць – узбуджэнне – узбудлівасць, факультатыўны – факультэцкі, фармаваць – фарміраваць, хандра – хандрома – хандрыла, цікавы – цікаўны, чытальнік – чытач, экспансіўнасць – экспансія – экспансіянізм, юнацкасць – юнацтва.

**10. Прачытайце і вызначце, якія з прапанаваных беларускіх эквівалентаў у «Слоўніку тэрмінаў логікі і псіхалогіі» 1923 года не прыжыліся ў сучаснай тэрміналогіі, а якія змянілі сваё фонамарфалагічнае аблічча.**

Автоматизм – аўтоматызм, самарух; аксиома – аксіома, пэўнік; актуальность – актуальнасьць, здольнадзейнасьць; амнезия – амнэзія, бяспамяцьце; анализ – аналіз, расклад; анкетный метод – анкетны, запытальны метад; анальгезия – анальгэзія, бязбольле; антитезис – антытэзіс, проціпалажэньне; апатия – апатыя, апешаласьць; аргумент – аргумэнт, довад; ассоциация представлений – злучэньне прадстаўленьняў; атавизм – зваротнаспадчыннасьць; аффект астенический – афэкт прыгнятаючы; аффект стенический – афэкт узбуджаючы; бинокулярное зрение – двухвочны зрок; близорукость –

нізкавокасьць; вкусовые клеткі – смакавыя каморкі; внешнее внимание – знадворная ўвага; внушение – наданьне; воображение – выабражэньне; восстановление – адбудова; галлюцинация – здань; генезис – гэнэзіс, узьнікненьне; гипербулия – гіпэрбулія, зьлішвольле; гипермнезия – гіпэрмнэзія, зьлішпамяць; гипотеза – гіпотэза, дапушчэньне; графический образ – пісоўны, графічны вобраз; дедукция – дэдукцыя, вывядзеньне; заблуждение – аблуда; закон тождества – закон тожсамасьці; звук – зык, гук; индукция – індукцыя, навядзеньне; интроспекция – інтрэспэкцыя, унутранагляданьне; концепция – канцэпцыя, паняцьце; метод эмпирический – мэтод эмпірычны, дасьвядчальны; необходимость – канечнасьць, неабходнасьць; наблюдение – нагляданьне, спасьцярога; ошибка – абмылка, памылка; опыт – дасьведчаньне; призрак – здань, мара; сознание – сьвядомасьць, прытомнасьць; способность – здольнасьць, здатнасьць; тавтология – тожслоўе; тест – тэст, выпыт; эстезиомер – чуламер.

**11. Перакладзіце тэкст на беларускую мову. Зрабіце лексічны разбор выдзеленых слоў у наступным парадку: 1) растлумачце лексічнае значэнне слова; 2) укажыце, у прамым ці пераносным значэнні ўжыта слова; 3) падбярыце, калі магчыма, да слова амонімы, сінонімы, антонімы; 4) вызначце, да актыўнай ці да пасіўнай лексікі належыць слова (гістарызм, архаізм, неалагізм); 5) назавіце слова паводле яго ўжывання (агульнаўжывальнае, дыялектнае, спецыяльнае, жаргоннае); 6) пакажыце, да якога стылістычнага разраду адносіцца слова; 7) паходжанне слова, прыметы і асваенне запазычанага слова.**

***Узор*** *Мы будзем пастаянна пашыраць і ўмацоўваць сувязі паміж калектывамі.*

*Калектыў* – група людзей, аб'яднаных агульнай працай, інтарэсамі. Слова аднaзначнае, ужываецца ў прамым значэнні, не мае амонімаў, належыць да актыўнай лексікі, агульнаўжывальнае, нейтральнае, запазычанае з лацінскай мовы, прыметы запазычання – адсутнасць якання і цекання.

**I.** Приказ, распоряжение, команда

Эти сообщения говорят ребёнку о том, что его чувства или потребности не представляют собой никакой **ценности**; он должен согласиться с тем, что чувствует или в чём нуждается его родитель («Мне наплевать, что ты хочешь делать; сию же минуту домой»).

Они выражают неприятие **ребёнка** таким, каков он есть в данный момент («Перестань вертеться»).

Они вызывают страх перед властью родителей. Ребёнок слышит в них угрозу со стороны того, кто больше и сильнее, чем он («Иди к себе в комнату – а если не пойдёшь, я заставлю тебя это сделать»).

Они могут вызвать у ребёнка **чувство** обиды и негодования, нередко заставляя его выражать враждебные чувства, сопротивляться, давать отпор.

Они могут говорить ребёнку о том, что его родитель не доверяет его рассудительности или компетентности («Не трогай эту тарелку», «Не подходи к своему младшему брату»). (*Популярная педагогика, с.600*)

**II.** Совет, предложение решений

Такие сообщения часто воспринимаются ребёнком как свидетельство того, что родитель недооценивает его **рассудительность** или его способность находить свои собственные решения.

Они могут заставить ребёнка стать зависимым от родителей и перестать думать за себя («Что я должен сделать, папа?»).

Иногда дети с ходу отвергают **предложения** и советы родителей («Дай мне самому в этом разобраться», «Я не хочу, чтобы мне указывали, что я должен делать»).

**Совет** иногда сообщает ребёнку, что родитель относится к нему с чувством своего превосходства («Мы с мамой знаем, что лучше»).

Совет может заставить ребёнка думать, что родитель вообще его не понял («Если бы ты знал, что я на самом деле чувствую, ты бы этого не предложил»).

Частые советы иногда приводят к тому, что ребёнок всё свое время посвящает реагированию на идеи родителя в ущерб развитию собственных идей. (*Популярная педагогика, с.601*)

# РАЗДЗЕЛ 5

# СТЫЛІСТЫКА. АСАБЛІВАСЦІ НАВУКОВАГА СТЫЛЮ

## §1. Паняцце стылю

**Стылістыка** (ад лац. stylos завостраная палачка для пісьма) – раздзел мовазнаўства, які даследуе ўжыванне слоў, словазлучэнняў, сказаў паводле іх адпаведнасці зместу, мэце выказвання, а таксама сітуацыі (у вусным маўленні).

Стылістыка вучыць перадаваць думкі паслядоўна, дакладна, вобразна, пазбягаць штампаванай, неапраўдана расквечанай або псеўданавуковай мовы. Сродкам дасягнення гэтай мэты з'яўляюцца правілы ўжывання лексічных адзінак, марфалагічных форм і сінтаксічных канструкцый, распрацаваных у адпаведнасці з функцыянальным размежаваннем літаратурнай мовы ў розных сітуацыях моўнага кантактавання.

«Функцыянальная разнавіднасць літаратурнай мовы, якая адрозніваецца адборам моўных сродкаў і ўжываннем у адпаведнасці са зместам, задачамі і сітуацыяй маўлення называецца **стылем**»[22].

У сучаснай беларускай мове адрозніваюць кніжныя стылі: навуковы, публіцыстычны, афіцыйна-дзелавы. Ім стылістычна супрацьпастаўляецца размоўнае маўленне, якое выступае ў вуснай форме. Асаблівае месца ў сістэме стыляў займае стыль мастацкай літаратуры. Для ўсіх стыляў характэрна наяўнасць міжстылёвых (нейтральных) моўных сродкаў.

Стылістычная характарыстыка слова вызначаецца ў залежнасці ад таго, як яно ўспрымаецца тым, хто гаворыць: як замацаванае за пэўным функцыянальным стылем. Напрыклад, да навуковага стылю адносяцца тэрміны (*анамальныя дзеці, педагагічнае майстэрства* і г.д.); да публіцыстычнага – словы з грамадска-палітычнай сферы (*гонка ўзбраенняў, сусветны валютны фонд*); да афіцыйна-дзелавога – *ніжэйпадпісаны, вышэйадзначаны* і г.д. – або як міжстылёвыя (*гаварыць, адзначаць, падзел* і г.д.).

Найбольш выразна супрацьпастаўлены кніжныя і размоўныя словы (*умешвацца – улазіць, гаварыць – лепятаць* і г.д.).

Стылістычная афарбоўка лексікі найбольш пэўна выяўляецца ў маўленні. Кніжныя словы не падыходзяць да простай гутаркі, напрыклад: *На <u>зялёных насаджэннях</u> з'явілася першае лісце.* Размоўныя і прастамоўныя словы несумяшчальны з афіцыйна-дзелавым стылем. Навуковыя тэрміны недарэчна выкарыстоўваць у размове з дзецьмі. Напрыклад: *Напэўна, наш тата будзе ў <u>візуальным кантакце</u> з дзядулем Васілём на працягу ўсяго дня.*

У выніку кожны са стыляў характарызуецца пэўнай камунікацыйнай сферай ужывання, што выяўляецца ў своеасаблівым адборы і ўжыванні моўных сродкаў, сваёй маўленчай сістэмнасцю, якія гістарычна склаліся, традыцыйна ўсталяваліся і падтрымліваюцца носьбітамі мовы (гл. табліцу «Функцыянальныя стылі беларускай літаратурнай мовы»).

---

[22] Сцяцко, П.У. Слоўнік лінгвістычных тэрмінаў / П.У.Сцяцко, М.Ф.Гуліцкі, Л.А.Антанюк. – Мінск: Выш.школа, 1990. – С.141.

## §2. Характарыстыка функцыянальных стыляў беларускай мовы

**Навуковы стыль** – гэта стыль навуковых артыкулаў, дакладаў, манаграфій, падручнікаў і г.д., які вызначаецца іх зместам і мэтамі – па магчымасці дакладна і поўна растлумачыць факты акаляючай нас рэчаіснасці, паказаць прычынна-выніковыя сувязі паміж з'явамі, выявіць заканамернасць гістарычнага развіцця, паведаміць інфармацыю і г.д.

Узнікненне і развіццё навуковага стылю звязана з пашырэннем розных сфер дзейнасці людзей. На першых парах свайго станаўлення навуковы стыль быў блізкі да стылю мастацкага паведамлення, апавядання і выдзеліўся ў самастойны стыль тады, калі пачала фарміравацца навуковая тэрміналогія.

Асноўная функцыя навуковай мовы – доказны выклад навуковай інфармацыі, дакладнае і строга лагічнае выказванне думкі. Гэтай функцыяй абумоўліваецца спецыфіка навуковага стылю.

**Асноўныя стылёвыя рысы:** лагічная паслядоўнасць выкладу; адназначнасць, дакладнасць, сцісласць пры інфармацыйнай насычанасці зместу; канкрэтнасць, бясстраснасць (халоднасць), аб'ектыўнасць выказвання.

**Характэрныя асаблівасці навуковага стылю:** насычанасць тэрмінамі; навуковая фразеалогія (*асобасны падыход, дынамічная афазія, дысгарманічны інфантылізм, навуковая арганізацыя педагагічнай працы, перцэптыўнае дзеянне, развіццё асобы* і г.д.); спецыфічнае ўжыванне сродкаў марфалогіі і сінтаксісу; перавага абстрактнай лексікі (*развіццё, рух, фактар, дзеянне* і г.д.).

Больш падрабязна навуковы стыль будзе разгледжаны ў трэцім параграфе гэтага раздзела.

**Афіцыйна-дзелавы стыль** – гэта стыль дакументаў, міжнародных дагавораў, дзяржаўных актаў, законаў, справавых папер і г.д., які вызначаецца іх зместам і мэтамі – паведаміць інфармацыю, якая мае практычнае значэнне, даць указанні, інструкцыі.

У штодзённым жыцці чалавек наладжвае афіцыйныя адносіны з іншымі людзьмі, з дзяржаўнымі ўстановамі. Гэтыя адносіны рэгулююцца прававымі нормамі, якія замацаваны ў законах, правілах. Са школы мы карыстаемся рознымі дакументамі, пішам заяву, пратакол, справаздачу і іншыя дзелавыя паперы.

**Асноўныя стылёвыя рысы:** сцісласць, кампактнасць выкладу, эканомнае выкарыстанне моўных сродкаў; стандартнае размеркаванне матэрыялу, абавязковасць формы; выклад вядзецца ў стылі

прадпісання, канстатацыі, сцверджання; канкрэтнасць, бясстраснасць, афіцыйнасць выказвання.

**Характэрныя асаблівасці афіцыйна-дзелавога стылю:** шырокае выкарыстанне тэрміналогіі справаводства; наяўнасць асаблівай фразеалогіі, а таксама шматлікіх маўленчых стандартаў, клішэ; выкарыстанне аддзеяслоўных назоўнікаў (*на аснове, у адносінах* і г.д.); выкарыстанне намінатыўных сказаў з пералікам; адсутнасць эмацыянальна-экспрэсіўных маўленчых сродкаў.

**Публіцыстычны стыль** – гэта стыль грамадска-палітычнай літаратуры, перыядычнага друку, аратарскага маўлення і г.д., які вызначаецца зместам тэкстаў і асноўнымі мэтамі – уздзейнічаць на масы, заклікаць іх да дзеяння, паведаміць інфармацыю і г.д.

Прызначэнне публіцыстыкі – паведамляць навіны штодзённага жыцця, культуры, навукі, растлумачваць грамадска-палітычныя пытанні. Гэтым выклікана, з аднаго боку, выкарыстанне грамадска-палітычнай тэрміналогіі, з другога – моўных сродкаў для выказвання настрою, пачуццяў, у прыватнасці эмацыянальна-экспрэсіўнай лексікі.

У публіцыстычным творы арганічна спалучаюцца лагічна-абстрактная, або навуковая, і эмацыянальна-вобразная, або мастацкая, формы адлюстравання рэчаіснасці.

**Асноўныя стылёвыя рысы:** лаканічнасць выкладу пры інфармацыйнай насычанасці; даходлівасць выкладу (газета – найбольш пашыраны від масавай інфармацыі); эмацыянальнасць, абагульненасць, прастата, натуральнасць выказвання.

**Характэрныя асаблівасці публіцыстычнага стылю:** грамадска-палітычная лексіка і фразеалогія; выкарыстанне маўленчых штампаў, клішэ, лёгкая іх узнаўляльнасць (*працаўнікі палёў, работнікі прылаўка, сяброўская атмасфера, майстры скуранога мяча, сталёвы конь* і інш.); выкарыстанне кароткіх сказаў – «рубленая» проза; эліптычныя сказы /бяздзеяслоўныя фразы/ (*прыватызацыйны чэк – кожнаму, банкі – не толькі для банкіраў* і г.д.); выкарыстанне выяўленча-выразных сродкаў мовы (рытарычныя пытанні, паўторы, інверсія і інш.).

**Стыль мастацкай літаратуры** – гэта стыль, які вызначаецца зместам і мэтамі мастацкіх твораў – перадаць свае адносіны да навакольнага, да таго, што паказваецца ў творы, намаляваць словамі карціну, апісаць падзеі і г.д.

Мастацкі стыль выкарыстоўваецца ў эстэтычнай сферы зносін, абслугоўвае патрэбы духоўнага жыцця грамадства. Гэтым стылем пішуцца мастацкія творы розных жанраў. У маўленчай тканіне тво-

ра элементы мовы, выступаючы сродкам фарміравання мастацкіх вобразаў, набываюць дадатковае эстэтычнае значэнне, эмацыянальна ўздзейнічаюць на чытача, далучаюць яго да супольнай з пісьменнікам творчасці. Пры гэтым эстэтычная функцыя нібы наслойваецца на камунікацыйную, зліваецца з ёю.

**Асноўныя стылёвыя рысы:** вобразнасць, эмацыянальнасць; адзінства камунікатыўнай і эстэтычнай функцыі.

**Характэрныя асаблівасці стылю мастацкай літаратуры:** шырокае выкарыстанне лексікі і фразеалогіі другіх стыляў; выкарыстанне выяўленча-выразных сродкаў (метафары, эпітэты, параўнанні, перыфразы, увасабленні, сінонімы, антонімы, мнагазначныя словы і г.д.); праяўленне творчай індывідуальнасці аўтара (аўтарскі стыль).

**Размоўны стыль** супрацьпастаўляецца кніжным, ён адзін выконвае функцыю бытавых зносін і выкарыстоўваецца ў форме вуснага маўлення (у пісьмовай форме ў тэкстах мастацкага стылю, асобных жанрах публіцыстычнага).

**Асноўныя стылёвыя рысы:** экспрэсіўнасць, адсутнасць папярэдняга абдумвання выказванняў; суб’ектыўнасць; эмацыянальнасць, прастата, абагульненасць.

**Характэрныя асаблівасці размоўнага стылю:** шырокае выкарыстанне размоўна-бытавой лексікі і фразеалогіі; выкарыстанне пазалексічных сродкаў (інтанацыі, націску, паўзы, тэмпу маўлення); дыялогавая форма выказвання, радзей маналог; уключэнне ў маўленне часціц, выклічнікаў, пабочных слоў і канструкцый, зваротаў; перавага простых сказаў над складанымі; выкарыстанне ўстаўных і далучальных канструкцый; лексічныя паўторы, інверсіі (адваротны парадак слоў).

## § 3. Навуковы стыль беларускай літаратурнай мовы

Навуковы стыль з’яўляецца сродкам зносін у галіне навукі і вучэбна-навуковай дзейнасці. Кожны член сучаснага грамадства ў розны час свайго жыцця і ў рознай ступені сустракаецца з тэкстамі дадзенага стылю, які функцыянуе ў вуснай і пісьмовай форме, таму авалодаць нормамі навуковага і навукова-вучэбнага стылю маўлення з’яўляецца важнай задачай кожнага чалавека.

Навуковы стыль належыць да ліку кніжных стыляў беларускай літаратурнай мовы, якія валодаюць як агульнымі ўмовамі функцыянавання, так і аднолькавымі або блізкімі моўнымі асаблівасцямі, сярод якіх можна вылучыць наступныя: папярэдняе абдум-

ванне выказвання; маналагічны характар маўлення; строгі адбор моўных сродкаў; імкненне да нармаванага маўлення.

Праяўленне і развіццё навуковага стылю звязана з прагрэсам навуковых ведаў у разнастайных галінах жыцця і дзейнасці прыроды і чалавека. Першапачаткова навуковы выклад быў набліжаны да мастацкага стылю (напрыклад, эмацыйнае ўспрыманне з'яў у навуковых працах Піфагора, Платона, Лукрэцыя і г.д.). Стварэнне ў грэчаскай мове, якая распаўсюджвала свой уплыў на ўвесь культурны свет, трывалай навуковай тэрміналогіі прывяло да аддзялення навуковага стылю ад мастацкага. На Беларусі навуковы стыль пачаў складвацца у 20 гады XX стагоддзя ў сувязі з развіццём навукі і напісаннем манаграфій, падручнікаў, навуковых артыкулаў па розных галінах навукі і тэхнікі, а таксама з перакладамі падручнікаў з рускай мовы на беларускую, таму што навучанне праводзілася на беларускай мове.

У сувязі з прызначэннем навуковага маўлення выдзяляюцца наступныя разнавіднасці навуковага стылю: уласна навуковы; навукова-тэхнічны; навукова-інфарматыўны; навукова-даведачны; навукова-вучэбны; навукова-папулярны.

Знаходзячы сваю рэалізацыю ў пісьмовай і вуснай форме зносін навуковы стыль мае разнастайныя жанры (анатацыя, рэферат, канспект, тэзісы, рэзюме, рэцэнзія, водзыў) і віды тэкстаў (падручнік, даведнік, навуковы артыкул, манаграфія, дысертацыя, лекцыя, даклад).

Навукова-вучэбны стыль рэалізуецца ў наступных жанрах: паведамленне; адказ (вусны адказ, адказ-аналіз, адказ-абагульненне, адказ-групоўка); разважанне; тлумачэнне; моўны прыклад.

Разнастайнасць відаў навуковага стылю базіруецца на ўнутраным адзінстве і наяўнасці агульных пазамоўных і ўласна лінгвістычных сродкаў гэтага віду моўнай дзейнасці, якія праяўляюцца нават незалежна ад характару навук (прыродазнаўчых, дакладных, гуманітарных) і ўласна жанравых адрозненняў. Разам з тым зразумела, што, напрыклад, тэксты па фізіцы, хіміі, матэматыцы заўважна адрозніваюцца па характары выкладу ад тэкстаў па педагогіцы, псіхалогіі, філалогіі ці гісторыі.

Сфера навуковых зносін адрозніваецца тым, што ў ёй прадугледжваецца найбольш дакладнае, лагічнае і адназначнае выражэнне думкі. Галоўнай формай мыслення ў галіне навукі аказваецца паняцце, дынаміка мыслення выражаецца ў суджэннях і вывадах, якія ідуць адзін за адным у пэўнай лагічнай паслядоўнасці. Думка строга аргументавана, падкрэсліваецца лагічнасць разважання, у цеснай узаемасувязі знаходзіцца аналіз і сінтэз. Значыць навуковае

мысленне набывае абагульнены і абстрагаваны характар. Канчатковая крышталізацыя навуковай думкі адбываецца ва ўнутраным маўленні, у вусных і пісьмовых тэкстах разнастайных жанраў навуковага стылю, якія маюць, як было адзначана, агульныя рысы.

Агульнымі пазамоўнымі ўласцівасцямі навуковага стылю маўлення, яго стылёвымі рысамі, абумоўленымі абстрактнасцю і строгай лагічнасцю мыслення, з’яўляюцца: навуковая тэматыка тэкстаў і абагульненасць, адцягненасць, абстрактнасць выкладу.

Амаль кожнае слова выступае як абазначэнне агульнага паняцця ці абстрактнага прадмета. Адцягнена-абагульнены характар маўлення праяўляецца ў адборы лексічнага матэрыялу (назоўнікі дамінуюць над дзеясловамі, выкарыстоўваюцца агульнанавуковыя тэрміны і словы, дзеясловы выкарыстоўваюцца ў пэўных формах часу і асобы), і асаблівых сінтаксічных канструкцыях (няпэўна-асабовыя сказы, пасіўныя канструкцыі).

Навуковы стыль характарызуецца лагічнай паслядоўнасцю выкладу, упарадкаванай сістэмай сувязей паміж часткамі выказвання, імкненнем аўтараў да дакладнасці, сціслсці, адназначнасці пры захаванні насычанасці зместу.

**Лагічнасць выкладу.** Паміж часткамі выкзвання ёсць упарадкаваная сістэма сувязей, выклад несупярэчлівы і паслядоўны. Гэта дасягаецца выкарыстаннем асаблівых сінтаксічных канструкцый і тыповых сродкаў міжфразавай сувязі.

Паслядоўнасцю валодае толькі той тэкст, у якім вывады вынікаюць са зместу, яны несупярэчлівыя, тэкст разбіты на асобныя сэнсавыя адрэзкі, якія адлюстроўваюць рух думкі ад прыватнага да агульнага або ад агульнага да прыватнага. Напрыклад: *Усе студэнты ВНУ вывучаюць педагогіку і псіхалогію. Святлана – студэнтка.* Вывад: *Святлана вывучае педагогіку і псіхалогію.*

У дадзеным прыкладзе выкарыстоўваецца спосаб разважання, які называецца дэдукцыяй – разважанне ад агульнага да прыватнага.

*Індуктыўны* спосаб разважання – ад прыватнага да агульнага. Напрыклад: *У фірме А сацыяльны псіхолаг працуе па сумяшчальніцтву. У фірме Б сацыяльны псіхолаг працуе па сумяшчальніцтву. У фірме В сацыяльны псіхолаг працуе па сумяшчальніцтву. У фірме Г сацыяльны псіхолаг працуе па сумяшчальніцтву.* Вывад: *Усе сацыяльныя псіхолагі працуюць па сумяшчальніцтву.*

Зразумела, што заключэнне па індукцыі носіць праўдападобны або імаверны характар; бо неабходна было б разгледзець усе фірмы горада, каб зрабіць абсалютна дакладны вывад. Таму поўная індукцыя далёка не заўсёды магчымая.

**Яснасць выкладу.** Яснасць, як якасць навуковага маўлення, прадвызначае зразумеласць і даступнасць. Па ступені даступнасці навуковыя, навукова-вучэбныя і навукова-папулярныя тэксты адрозніваюцца па матэрыяле і па спосабе яго моўнага афармлення.

**Дакладнасць выкладу.** Дасягаецца выкарыстаннем адназначных выразаў, тэрмінаў, слоў з выразнай лексіка-семантычнай спалучальнасцю. Прадвызначае адназначнасць разумення, адсутнасць разыходжанняў паміж азначаемым і яго азначэннем. Таму ў навуковых тэкстах, як правіла, адсутнічаюць вобразныя, экспрэсіўныя сродкі; словы выкарыстоўваюцца пераважна ў прамым значэнні, частае выкарыстанне тэрмінаў таксама садзейнічае адназначнасці тэксту.

Жорсткія патрабаванні дакладнасці, якія ставяцца да навуковага тэксту, абмяжоўваюць выкарыстанне вобразных сродкаў мовы: метафар, эпітэтаў, мастацкіх параўнанняў, прыказак і прымавак і г.д. Іншы раз такія сродкі могуць трапляць у навуковыя творы, таму што навуковы стыль імкнецца не толькі да дакладнасці, але і да выкарыстальнасці, доказнасці. Аднак вобразныя сродкі неабходны для рэалізацыі патрабавання яснасці і даходлівасці выкладу.

**Доказнасць выкладу.** Для дасягнення доказнасці навуковага выкладу разважанні павінны быць аргументаваны пры дапамозе адпаведных навуковых гіпотэз або палажэнняў ці на аснове навуковага вопыту даследчыкаў папярэдніх часоў.

**Аб'ектыўнасць выкладу.** Праяўляецца ў выкладзе, аналізе разнастайных пунктаў гледжання на праблему, у засяроджанасці на прадмеце выказвання і адсутнасці суб'ектывізму пры перадачы зместу, у безасабовасці моўнага выражэння.

Для доказнасці і аб'ектыўнасці выкладу неабходна насычанасць фактычнай інфармацыяй.

Эмацыянальнасць, як і экспрэсіўнасць, у навуковым стылі, які патрабуе аб'ектыўнага, «інтэлектуальнага» выкладу навуковых дадзеных, выражаецца інакш, чым у другіх стылях. Успрыманне навуковага твора можа выклікаць пэўныя пачуцці ў настаўніка, але не як адваротную рэакцыю на эмацыянальнасць аўтара, а як асэнсаванне самаго навуковага факта. Хоць навуковае адкрыццё ўплывае незалежна ад спосабу яго перадачы, сам аўтар навуковага твора не заўсёды адмаўляецца ад эмацыянальна-ацэначных адносін да выкладаемых падзей і фактаў. Імкненне да абмежаванага выкарыстання аўтарскага «я» – гэта не даніна этыкету, а праява адцягненаабагульненай стылявой рысы навуковага маўлення, якая адлюстроўвае форму мыслення.

Важнейшая задача навуковага стылю маўлення – растлумачыць прычыны з'яў, паведаміць, апісаць істотныя прыметы, уласцівасці прадмета навуковага пазнання.

Названыя асаблівасці навуковага стылю знаходзяць выражэнне ў яго моўных характарыстыках і вызначаюць сістэмнасць уласнамоўных сродкаў гэтага стылю. Навуковы стыль маўлення ўключае ў сябе моўныя адзінкі трох тыпаў.

1. Лексічныя адзінкі, якія валодаюць функцыянальна-стылявой афарбоўкай дадзенага стылю. Гэта асаблівыя лексічныя адзінкі, сінтаксічныя канструкцыі, марфалагічныя формы.

2. Міжстылёвыя адзінкі, г.зн. стылістычна нейтральныя моўныя адзінкі, якія выкарыстоўваюцца ў роўнай ступені ва ўсіх стылях.

3. Стылістычна нейтральныя моўныя адзінкі, якія ў асноўным функцыянуюць менавіта ў дадзеным стылі.

Такім чынам, стылістычна важным становіцца колькасная перавага тых ці іншых адзінак у навуковым стылі. Колькасна маркіраванымі адзінкамі ў навуковым стылі становяцца, перш за ўсё, некаторыя марфалагічныя формы, а таксама сінтаксічныя канструкцыі.

## 3.1. Лексічныя асаблівасці навуковага стылю

Вядучай формай навуковага мыслення з'яўляецца паняцце. Дакладна і адназначна называюць спецыяльныя паняцці навуковай сферы зносін і раскрываюць іх змест асаблівыя лексічныя адзінкі – тэрміны.

Тэрмін з'яўляецца асноўнай лексічнай і паняційнай адзінкай навуковай сферы чалавечай дзейнасці. У колькасных адносінах у тэкстах навуковага стылю тэрміны пераважаюць над іншымі відамі спецыяльнай лексікі (наменклатурнымі назвамі, прафесіяналізмамі), у сярэднім тэрміналагічная лексіка звычайна складае 15–20 % ад агульнага аб'ёму лексікі дадзенага стылю. У прыведзеным фрагменце тэксту навуковага стылю тэрміны выдзелены, што дазваляе ўбачыць іх колькасную перавагу ў параўнанні з іншымі лексічнымі адзінкамі:

Пытанне пра этыялогію дыслексіі да цяперашняга часу з'яўляецца дыскусійным.

*Некаторыя аўтары адзначаюць спадчынную схільнасць пры парушэннях чытання. Вывучэнне дыслексіі ў блізнят дазволіла даследчыкам зрабіць вывад пра спадчынны характар некаторых фактараў, якія абумоўліваюць узнікненне дыслексіі (парушэнне латэралізацыі, затрымка развіцця маўлення)* (Лагапедыя, с.445). Параўнайце: з 39 слоў тэксту 16 – тэрміны, што складае 41 %.

Для тэрмінаў як асноўных лексічных складальнікаў навуковага стылю маўлення, а таксама для іншых слоў навуковага тэксту характэрана выкарыстанне ў адным канкрэтным значэнні.

Абагульненасць, абстрактнасць выкладу ў навуковым стылі на лексічным узроўні рэалізуецца ў выкарыстанні вялікай колькасці лексічных адзінак з абстрактным значэннем (абстрактная лексіка). «Навуковае маўленне супадае з паняційна-лагічным, ... паняційнае маўленне выступае як больш абстрактнае».[23]

В.Дз.Мітрафанава [24] адзначае, што лексіка навуковага стылю аднастайная і аднародная. Гэта прыводзіць да павелічэння аб'ёму навуковага тэксту за кошт неаднаразовага паўтору адных і тых жа слоў. Так, па яе дадзеных, у тэкстах па хіміі на аб'ём тэксту ў 150 тысяч лексічных адзінак прыведзеныя ніжэй словы выкарыстаны наступную колькасць разоў: вада – 1431, раствор – 1355, кіслата – 1182, атам – 1011, іон – 947 і да т.п.

Навуковы стыль мае і сваю фразеалогію, якая ўключае тэрміны-словазлучэнні: *адораныя дзеці, вядучая дейнасць, дзейсны падыход, камунікатыўная дэпрывацыя, парушэнне маўлення, педагагічны эксперымент, разумовыя дзеянні, рэферэнтная група* і г.д.

### 3.2. Марфалагічныя асаблівасці навуковага стылю

Мове навуковых зносін уласцівыя і свае граматычныя асаблівасці. Адцягненасць і абагульненасць навуковага маўлення праяўляецца ў асаблівасцях функцыянавання разнастайных граматычных, у прыватнасці марфалагічных, адзінак, што адлюстроўваецца ў выбары катэгорый і форм, а таксама ступені іх частотнасці ў тэксце. Рэалізацыя закона эканоміі маўленчых сродкаў у навуковым стылі прыводзіць да выкарыстання больш кароткіх варыянтных форм. Напрыклад, форм назоўнікаў мужчынскага роду замест жаночага роду: *клавіш* (замест *клавіша*), *зал* (замест *зала*).

Формы адзіночнага ліку назоўнікаў выкарыстоўваюцца ў значэнні множнага: *Асноўныя задачы лагапедычнага навучання <u>дзіцяці</u> з раснастайнымі відамі маўленчых анамалій ва ўмовах спецыяльных дашкольных устаноў уключаюць не толькі карэкцыю <u>дэфекту</u>, але і падрыхтоўку да авалодання граматай* (Лагапедыя, с.567). У прыведзеным прыкладзе назоўнікі, якія абазначаюць прадметы, што

[23] Балли, Ш. Французская стилистика / Ш.Балли. – М., 1961. – С. 144.

[24] Гл.: Митрофанова, О.Д. Язык научно-технической литературы / О.Д.Митрофанова. – М.: Изд-во МГУ, 1983. – С. 30–31.

паддаюцца лічэнню (*дзіця, дэфект*), называюць цэлы клас прадметаў з указаненнем іх характэрных прымет або маюць зборнае абагульненае значэнне.

Аднак абстрактныя і рэчыўныя назоўнікі ў спецыяльным тэксце выкарыстоўваюцца і ў форме множнага ліку, набываючы канкрэтнае значэнне: *...тахілаліі такога тыпу сустракаюцца рэдка; педагагічныя эксперыменты, якія праводзіць настаўнік...; рухальныя аналізатары; безумоўныя тармажэнні* і г.д.

Назвы паняццяў у навуковым стылі пераважаюць над назвамі дзеянняў, гэта прыводзіць да меншага выкарыстання дзеясловаў і большага выкарыстання назоўнікаў. Пры выкарыстанні дзеясловаў заўважаецца тэндэнцыя да іх семантызацыі (дзеяслоў губляе лексічнае значэнне), што адпавядае патрабаванню абстрактнасці і абагульненасці навуковага стылю. Гэта праяўляецца ў тым, што большая частка дзеясловаў у навуковым стылі функцыянуе ў ролі звязкі: *быць, з'яўляцца, называцца, лічыцца, стаць, рабіць, здавацца, заключацца, складаць, валодаць, вызначаць, уяўляць* і г.д.

Ёсць значная група дзеясловаў, якія выступаюць у якасці кампанентаў дзеяслоўна-іменных спалучэнняў, дзе галоўная сэнсавая нагрузка прыпадае на назоўнік, які абазначае дзеянне, а дзеяслоў выконвае граматычную функцыю (абазначае дзеянне ў самым шырокім сэнсе слова, перадае граматычнае значэнне ладу, асобы і ліку): *прыводзіць – да ўзнікнення, да парушэння, да паслаблення, да маўлення, да жыцця, да кахання; рабіць – разлік, вылічэнне, назіранне* і да т.п. Дэсемантызацыя дзеяслова праяўляецца ў пераважванні ў навуковым тэксце дзеясловаў шырокай, абстрактнай семантыкі: *існаваць, адбывацца, мець, праяўляцца, мяняць(ца), працягваць(ца)* і г.д.

Для навуковага маўлення характэрна выкарыстанне дзеяслоўных форм з паслабленым лексіка-граматычным значэннем часу, асобы, ліку, што пацвярджаецца сінанімічнай структуры сказаў: *можна зрабіць заключэнне – робіцца заключэне, гук вымаўляюць – гук вымаўляецца* і г.д.

Яшчэ адна марфалагічная асаблівасць навуковага стылю заключаецца ў выкарыстанні цяперашняга часу са значэннем якасці або прыметы, што неабходна для характарыстыкі ўласцівасцей даследуемых прадметаў і з'яў: *Пры раздражненні пэўных месц кары вялікіх паўшар'яў рэкулярна адбываюцца скарачэнні. Гульня займае важнае месца ў жыцці дзіцяці.*

Па даследаваннях навукоўцаў, працэнт дзеясловаў цяперашняга часу ў тры разы перавышае працэнт форм прошлага часу і складае 67–85 % ад усіх дзеясловаў.

Адцягненасць і абагульненасць навуковага стылю праяўляецца ў асаблівасцях выкарыстання катэгорыі трывання: каля 80 % складаюць формы незакончанага трывання, якія з’яўляюцца больш абагульнена-адцягненымі. Невялікая колькасць дзеясловаў закончанага трывання выкарыстоўваецца ва ўстойлівых зваротах у форме будучага часу, які сінанімічны цяперашняму: *разгледзім..., гульня прыме выгляд*. Шматлікія дзеясловы незакончанага трывання пазбаўлены пары закончанае / незакончанае трыванне.

Формы асобы дзеяслова і асабовыя займеннікі ў навуковым стылі таксама выкарыстоўваюцца ў адпаведнасці з перадачай адцягнена-абагульненых значэнняў. Практычна не выкарыстоўваюцца формы 2-ой асобы і займеннікі *ты, вы*, таму што яны з’яўляюцца найбольш канкрэтнымі; рэдка выкарыстальныя формы 1-ай асобы адзіночнага ліку.

Найбольш часта ў навуковым маўленні выкарыстоўваюцца адцягненыя па значэнні формы 3-яй асобы і займеннікі *ён, яна, яно*. Займеннік *мы*, акрамя выкарыстання ў значэнні так званага аўтарскага *мы*, разам з формай дзеяслова часта выражае значэнне рознай ступені адцягненасці і абагульненасці ў значэнні «мы разам, у сукупнасці»: *Мы прыходзім да выніку... Мы можам зрабіць заключэнне...*

## 3.3. Сінтаксічныя асаблівасці навуковага стылю

Для сінтаксісу навуковага стылю маўлення характэрна тэндэнцыя да складаных пабудоў, што садзейнічае перадачы складанай сістэмы навуковых паняццяў, устанаўленню адносін паміж родавымі і відавымі паняццямі, паміж прычынай і вынікам, доказам і вывадамі. З гэтай мэтай выкарыстоўваюцца сказы з аднароднымі членамі і абагульняючымі словамі пры іх. У навуковых тэкстах распаўсюджаны розныя тыпы складаных сказаў, у прыватнасці з выкарыстаннем складаных падпарадкавальных злучнікаў, што ўвогуле характэрна для кніжнай лексікі: *у выніку таго ..., што; у той час ..., як* і г.д.

Сродкамі сувязі частак тэксту служаць пабочныя словы і словазлучэнні: *па-першае, з другога боку*, якія ўказваюць на паслядоўнасць выкладу навуковага матэрыялу. Для аб’яднання частак тэксту, у прыватнасці абзацаў, якія маюць цесную лагічную сувязь адзін з адным, выкарыстоўваюцца словы і словазлучэнні, што і паказваюць на гэту сувязь: *такім чынам, у заключэнні* і г.д.

Сказы ў навуковым стылі аднастайныя па мэце выказвання – яны амаль заўсёды апавядальныя. Пытальныя сказы рэдка выкарыстоўваюцца, але могуць быць прыведзены для прыцягнення ўвагі чытача да ўзнятай праблемы.

Абагульнена-абстрактны характар навуковага маўлення, пазачасавы план выкладу матэрыялу абумоўліваюць выкарыстанне пэўных тыпаў сінтаксічных канструкцый: няпэўна-асабовыя, абагульнена-асабовыя і безасабовыя сказы. Асоба, якая выконвае дзеянне, у такіх сказах адсутнічае або падразумеваецца абагульнена, няпэўна, уся ўвага засяроджана на дзеянні, на яго абставінах. Няпэўна-асабовыя і абагульнена-асабовыя сказы выкарыстоўваюцца пры ўвядзенні тэрмінаў, вывядзенні формул, пры тлумачэнні матэрыялу на прыкладах. Напрыклад: *На развітае мысленне паказваюць ...; Разгледзім наступны прыклад...; Параўнаем сказы...; Хуткасць рухаў адлюстроўваюць ...* і да т.п.

## 3.4. Асноўныя прыметы навуковага тэксту

Навуковы тэкст уяўляе сабой разнавіднасць тэксту агульналітаратурнай мовы, які выдзяляецца шэрагам граматычных, лексічных, структурна-семантычных і логіка-кампазіцыйных асаблівасцей. Важнейшыя прыметы тэксту з'яўляюцца агульнымі для шырокага набору тэкстаў, якія функцыянуюць у разнастайных сферах маўленчых зносін (навуковай, справавой, сродках масавай камунікацыі і інш.). Прыналежнасць да сферы навуковых зносін, навуковай дзейнасці накладвае на гэтыя прыметы тэксту пэўныя абмежаванні, якія абумоўліваюць адбор і выкарыстанне пэўных лексіка-граматычных сродкаў, выкарыстанне спецыяльных структурных, лагічных, кампазіцыйных схем арганізацыі тэкставага матэрыялу.

Можна выдзеліць шэраг агульнапрынятых тэкставых прымет, дастаткова поўна апісаных у літаратуры ў дачыненні да розных тыпаў тэкстаў: звязнасць, структурнасць, цэласнасць, мадальнасць, функцыянальна-сэнсавы тып. Уласцівыя навуковаму стылю лагічнасць, дакладнасць, адцягненасць, абагульненасць, ацэначнасць знаходзяць сваё адлюстраванне практычна ва ўсіх вышэйназваных прыметах. Стыль ствараецца сістэмай узаемазвязаных сродкаў, якая надае асаблівы характар дадзенаму тыпу маўлення, стварае новую яго якасць, якая ўспрымаецца як канкрэтны стыль. Інакш кажучы, рэалізацыя прымет звязнасці, цэласнасці, мадальнасці, структурнасці, функцыянальна-сэнсавых тыпаў у навуковым тэксце таксама сістэмна і функцыянальна абумоўлена і падпарадкавана прынцыпам лагічнасці,шадназначнасці і несупярэчлівасці.

**Звязнасць.** Прымета звязнасці тэксту з'ўляецца найбольш даследаванай. Доўгі час звязнасць разумелася як яўна выражаная

сувязь паміж суседнімі сказамі ў тэксце (г.зн. звязнасць разглядалася як фармальна-структурная сінтаксічная арганізацыя тэксту, якая мае выразныя лексіка-граматычныя спосабы выражэння). На сучасным этапе развіцця лінгвістычнай навукі да звязнасці адносяць таксама і сувязь, якая не мае выразнага фармальнага выражэння. Аналіз паказвае, што звязнасць навуковага тэксту ў многім грунтуецца на ўнутранай логіцы прадмета даследавання.

Існуюць разнастайныя класіфікацыі сродкаў звязнасці. Найбольш распаўсюджанай з'яўляецца групоўка сродкаў сувязі ў залежнасці ад іх моўнага ўвасаблення. У сувязі з гэтым прынцыпам выдзяляюцца наступныя сродкі сувязі: <u>*лексічныя*</u>, да якіх адносяцца поўныя, сінанімічныя, кантэкстуальныя і інш. паўторы, а таксама замена займеннікам; <u>*граматычныя*</u> (трывальна-часавыя формы дзеясловаў, парадак слоў, сінтаксічны паралелізм); <u>*лексіка-граматычныя*</u> (злучнікі, злучальныя словы, пабочныя словы і словазлучэнні), якія забяспечваюць лагічную і кампазіцыйную арганізацыю тэксту шляхам выражэння шырокага спектру адносін – умоўных, прычынна-выніковых, уступальных, параўнальных і г.д.

Напрыклад: *Чалавек не толькі аб'ект і суб'ект сацыялізацыі. Ён можа стаць яе ахвярай. Гэта звязана з тым, што працэс і вынік сацыялізацыі заключаюць у сабе ўнутранае супрацьпастаўленне.*

Паспяховая сацыялізацыя прадвызначае, з аднаго боку, эфектыўную адаптацыю чалавека ў грамадстве, а з другога боку – здольнасць у пэўнай ступені супрацьстаяць грамадству, а дакладней – частцы тых жыццёвых калізій, якія перашкаджаюць развіццю, самарэалізацыі, самаўпэўненасці чалавека.

*Такім чынам, можна канстатаваць, што ў працэсе сацыялізацыі закладзены ўнутраны да канца не вырашаны канфлікт паміж ступенню ідэнтыфікацыі чалавека з грамадствам і ступенню адасаблення яго ў грамадстве. Іншымі словамі, эфектыўная сацыялізацыя прадвызначае пэўны баланс паміж ідэнтыфікацыяй з грамадствам і адасабленнем у ім* (Сацыяльная педагогіка, с.22).

У гэтым урыўку з навуковага тэксту сродкамі сувязі з'яўляюцца неаднаразовыя паўторы тэрмінаў *сацыялізацыя, чалавек, грамадства*; замена назоўнікаў займеннікамі (*Чалавек...Ён...; ахвярай...-Гэта..., грамадствам... у ім*); злучнікі і злучальныя словы (*з тым, <u>што</u>...; калізій, <u>якія</u>..., канстатаваць, што...*), выкарыстанне дзеясловаў пераважна незакончанага трывання, прамы парадак слоў. Акрамя гэтага ва ўрыўку ёсць выразы, якія паказваюць на сувязь частак тэксту: *з аднаго боку..., з другога боку..., дакладней..., такім чынам..., іншымі словамі....*

На сучасным этапе рэалізацыя прыметы звязнасці ў навуковым тэксце (у параўнанні з тэкстамі іншых стыляў агульналітаратурнай мовы) мае наступныя асаблівасці.

1. Найбольш частотны від сувязі – лексічны паўтор тэрміна, для забеспячэння адназначнасці тэксту (адна з лексем папярэдняга сказа паўтараецца ў наступным). Да лексічнага паўтору адносяць таксама выпадкі, калі словы, якія маюць агульны лексічны кампанент, належаць да розных часцін мовы.

2. Выкарыстанне стандартызаваных моўных сродкаў для кампазіцыйнага афармлення зместу тэксту.

3. Нейтральны парадак слоў, пры якім тэма (тэматычная, зыходная, вядомая інфармацыя) размяшчаецца ў пачатку, а рэма (новая, важная, актуальная інфармацыя) – у канцы сказа. У структурна-сінтаксічным плане тэма супадае з дзейнікам, а рэма – з саставам выказніка.

4. Спецыфічнае ўжыванне катэгорыі часу дзеяслова.

5. Звязнасць навуковага тэксту заснавана на ўнутранай логіцы прадмета даследавання.

6. У рэальных тэкстах звязнасць адначасна здзяйсняецца сукупнасцю разнастайных сістэмна арганізаваных сродкаў, якія ствараюць семантычнае, структурна-сінтаксічнае і тэматычнае адзінства, што дазваляе выдзяляць розныя тыпы структурнай арганізацыі тэксту.

Для сувязі частак тэксту выкарыстоўваюцца спецыяльныя сродкі (словы, словазлучэнні, сказы), якія паказваюць:

- на паслядоўнасць развіцця думак (*спачатку, потым, затым, перш за ўсё, першапачаткова* і г.д.);
- на сувязь першаснай і другаснай інфармацыі (*як указвалася, як ужо было адзначана, як гаварылася, разгледжаны* і да т.п.);
- на прычынна-выніковыя адносіны (*але, таму, дзякуючы таму, адпаведна, у сувязі з тым, што, у выніку гэтага* і г.д.);
- на пераход да новай тэмы (*разгледзі цяпер, пяройдзем да разгляду* і да т.п.);
- на блізасць, тоеснасць прадметаў, абставін, прымет (*ён, той жа, такі, так, тут, таксама* і г.д.).

**Структурнасць**. Структурнасць выражае адносіны паміж часткамі (элементамі, адзінкамі) любога складана арганізаванага аб’екта. Навуковы тэкст мае шматузроўневую арганізацыю, у якой можна выдзеліць розныя элементы і вызначыць адносіны паміж імі з мэтаю пабудовы разнастайных структурных схем аднаго і таго ж тэксту.

Выдзяляюць тэматычную, кампазіцыйную і змястоўную структуры тэксту.

1. Тэматычная структура (у залежнасці ад аднесенасці тэксту да яго тэмы) утворана прадметам выкладу, г.зн. тым, пра што паведамляецца ў тэксце з той ці іншай ступенню дэталізацыі. У аснове тэмы – матэрыяльныя аб'екты, працэсы, з'явы, выпрацаваныя навукай катэгорыі і паняцці. Раскрыццё тэмы – сутнасці якой-небудзь з'явы, працэсу, паняцця і г.д. патрабуе выдзялення і апісання асобных змястоўных характарыстык аб'екта. Яны складаюць падтэмы тэксту. Сукупнасць тэмы і падтэм утварае тэматычную структуру тэксту, якая мае іерархічную будову. На моўным узроўні тэматычная структура фарміруецца лексічнымі (сінанімічнымі, кантэкстуальнымі, сэнсавымі) паўторамі і разнастайнымі (граматычнымі, згорнутымі, разгорнутымі) канструкцыямі, якія ўтвараюць лексіка-тэматычную сетку тэксту. Напрыклад: *Запамінанне – адзін з працэсаў памяці, пры дапамозе якога адбываецца ўвод інфармацыі ў памяць. У працэсе запамінання ўключэнне новых паступовых элементаў у структуру памяці адбываецца шляхам іх увядзення ў сістэму асацыятыўных сувязей. У залежнасці ад спосабу і характару здзяйснення працэсаў памяці адрозніваюць адвольнае і неадвольнае запамінанне, далей – запамінанне механічнае і сэнсавае, а таксама апасродкаванае і неапасродкаванае* (ПС, с.109).

2. Кампазіцыйная або логіка-кампазіцыйная структура навуковага тэксту (аднесенасць адзінак тэксту да яго кампазіцыі) адлюстроўвае паслядоўнасць размеркавання сэнсавых блокаў у тэксце. Навуковым тэкстам уласцівы тыпізаваныя схемы размеркавання змястоўнай інфармацыі ў залежнасці ад жанравай прыналежнасці.

Асноўныя пісьмовыя жанры навуковага маўлення (першасныя – навуковы артыкул, манаграфія, дысертацыя, і другасныя – рэферат, анатацыя, рэзюме, рэцэнзія, навуковы водзыў, агляд) маюць пэўную, уласцівую ім кампазіцыйную арганізацыю, г.зн. парадак размеркавання сэнсавых частак тэксту, а таксама больш або менш стандартызаваны набор моўных сродкаў афармлення пераходу ад адной часткі да другой.[25]

3. Змястоўная (сэнсавая, прэдыкатыўная) структура тэксту адлюстроўвае сэнсавыя сувязі і адносіны, якія устанаўліваюцца паміж паняццямі, з'явамі, прадметамі рэальнага свету, якія адлюстроўваюцца ў тэксце ў выглядзе моўных адзінак розных узроўняў. Усведамленне сэнсавай структуры навуковага тэксту вядзе дя яго разу-

---

[1] Прыклады кампазіцыйнай структуры навуковых тэкстаў прыводзяцца ў §5. Асноўныя жанры навуковай літаратуры.

мення і далейшага выкарыстання атрыманых ведаў. Неабходна асабліва падкрэсліць, што змест тэксту ўяўляе сабой далёка не суму значэнняў моўных адзінак, якія яго складаюць, таму што ў працэсе функцыянавання мовы як сістэмы назіраецца прырост якасці інфармацыі. Змест тэксту – катэгорыя псіхалінгвістычная і ўяўляе сабой мысліцельнае ўтварэнне, якое ўзнікае ў інтэлекце чалавека ў працэсе асэнсавання тэксту. Для вызначэння зместу тэксту патрабуецца не толькі асэнсаванне асобных моўных выразаў, але і большых адрэзкаў тэксту, што адпавядаюць падтэмам і мікратэмам, суадносінам іх паміж сабой, і на гэтай аснове асэнсаванне тэксту ў цэлым.

З пункту гледжання характару зместу можна выдзеліць тэксты, якія суадносяцца з тэарэтычнымі і эмпірычнымі (заснаванымі на вопыце) ўзроўнямі навуковага пазнання.

Эмпірычныя тэксты, як правіла, маюць апісальны, канстатавальны характар і служаць для фарміравання фрагмента канцэптуальнай (якая датычыць паняццяў, паняційнай) карціны свету вызначанай галіны ведаў.

Тэксты, што маюць тэарэтычную накіраванасць, звычайна маюць тлумачальны, пераканальны, ацэначны характар.

Такім чынам, навуковы тэкст уяўляе сабой складане адзінства тэматычнай, кампазіцыйнай і сэнсавай арганізацыі.

**Цэласнасць**. Цэласнасць уяўляе сабой базавую характарыстыку тэксту як прадмета камунікацыі. Яна характарызуе ўнутранае, змястоўнае, сэнсавае адзінства тэксту, лічыцца псіхалінгвістычнай катэгорыяй, якая непасрэдна не суадносіцца з моўнымі сродкамі і ўзнікае ў працэсе разумення тэксту ў выніку аналітыка-сінтэтычнай дзейнасці адрасата. Без цэласнасці фармальна звязаны тэкст губляе сэнс.

У сферы навуковай камунікацыі дакладнасць, адназначнасць, адэкватнасць, сапраўднасць інфармацыі вызначае сэнс навуковай дзейнасці і навуковых зносін, таму ўсе моўныя сродкі, якія функцыянуюць у тэксце, падпарадкаваны тлумачэнню, інакш кажучы, выражэнню цэласнасці ў знешнім маўленні. Тлумачэнне цэласнасці, г.зн. яе структураванне і выражэнне, уяўляюць працэс пераходу ад цэласнага, нерасчлянёнага ўяўлення да выдзялення важных кампанентаў, затым – вузлавых фрагментаў цэласнасці і іх моўнаму афармленню ў выглядзе тэксту. Так адбываецца працэс параджэння цэласнага тэксту. У працэсе успрымання, асэнсавання тэксту адбываецца адваротны пераход ад знешняй формы тэксту, яго вузлавых фрагментаў і важных кампанентаў да цэласнага разумення.

Адна і тая ж цэласнасць можа быць па-рознаму выражана ў знешнім маўленні. Атрыманыя ў выніку тэксты могуць разглядац-

ца як сінонімы – члены парадыгмы тэкстаў, суадносных з адной і той жа цэласнасцю. Гэта ўласцівасць ляжыць у аснове такіх відаў маўленчай дзейнасці, як рэферыраванне і анатаванне тэкстаў, выдзяленне ключавых слоў, складанне розных відаў планаў. Стварэнне другасных тэкстаў, магчыма, дзякуючы таму, што ў іх захоўваецца інварыянт зместу зыходнага тэксту, а другасная інфармацыя прадстаўлена ў адпаведнасці з мэтамі і задачамі дзейнасці.

Такім чынам, цэласнасць уяўляе сабой псіхалінгвістычную катэгорыю, якая адлюстроўвае інварыянт зместу тэксту як вынік яго ўспрымання адрасатам (атрымальнікам тэксту). Цэласнасць тэксту можа быць усвядомлена і перададзена з рознай ступенню дэталізацыі. Для навуковага тэксту, у адрозненне ад мастацкага, адназначнае асэнсаванне і структураванне цэласнасці з'яўляецца асноўнай задачай, што непасрэдна абумоўлена патрэбамі і ўмовамі навуковай камунікацыі і забяспечваецца выкарыстаннем спецыяльных моўных сродкаў.

**Функцыянальна-сэнсавы тып маўлення.** Функцыянальна-сэнсавы тып маўлення ўяўляе сабой універсальную тыпалагічную адзінку тэксту, якая выдзяляецца на аснове разнастайных прымет (камунікатыўна-прагматычных, логіка-сэнсавых, структурна-семантычных). У залежнасці ад камунікатыўнай мэты выдзяляюць <u>апісальныя</u> (апісанне, азначэнне, дэфініцыя, паясненне, паведамленне) і <u>аргументаваныя</u> (разважанне, доказ, тлумачэнне) тыпы тэкстаў. У тэкстах вялікага аб'ёму розных жанраў функцыянальна-сэнсавыя тыпы знаходзяцца ў разнастайных адносінах. Гэта вызначае агульную камунікатыўную дамінанту тэксту – апісальную ці аргументаваную.

**Мадальнасць.** Прымета мадальнасці выражае характар адносін паведамляемага да рэчаіснасці (аб'ектыўная мадальнасць) і адносіны суб'екта (адрасанта, аўтара, адпраўніка) тэксту да прадмета паведамлення (суб'ектыўная мадальнасць).

Прымета мадальнасці і сродкі яе выражэння ў навуковым стылі маюць спецыфічныя асаблівасці, абумоўленыя мэтамі і задачамі камунікацыі ў дадзенай сферы чалавечай дзейнасці. Комплексны ўлік галоўных кампанентаў пазнавальнага працэсу, а таксама ўсіх складальнікаў структуры свядомасці і мыслення (логіка-паняційны, крытыка-рэфлексіўны і канкрэтна-вобразны кампаненты) дазваляе разглядаць мадальнасць як неад'емную прыналежнасць навуковага стылю.

У навуковым тэксце, як ужо адзначалася, сустракаецца як аб'ектыўная, так і суб'ектыўная мадальнасць.

Аб'ектыўная мадальнасць выражае адносіны паведамляемага пра разнастайныя бакі навуковага пазнання да рэчаіснасці ў плане рэальнасці (ажыццяўляльнасці і ажыццявімасці) і нерэальнасці (неажыццявімасці). Пры гэтым назіраецца пэўны дыяпазон градацый значэнняў: рэальнасць – верагоднасць – меркаванне – нерэальнасць.

Суб'ектыўная мадальнасць выражае адносіны адрасанта (аўтара, суб'екта) да паведамляемага: упэўненасць або няўпэўненасць, згоду ці нязгоду, магчымасць або немагчымасць.

Іншы раз выдзяляюць суб'ектыўную мадальнасць, заснаваную на выражэнні эмацыянальна-экспрэсіўных адносін («танальнасць») і мадальнасць, у аснове якой ляжыць рацыянальная, інтэлектуальная ацэнка («ацэначнасць»). Танальнасць характарызуе адносіны аўтара тэксту да свайго даследавання і аналізуемай праблемы. Па адносінах да прац іншых аўтараў і самім аўтарам, за выключэннем жанра рэцэнзіі, танальнасць дапускаецца вельмі рэдка, прычым толькі станоўчая, і дастаткова часта выкарыстоўваецца ацэначнасць, як станоўчая, так і адмоўная. Да моўных сродкаў выражэння ацэнкі адносяцца словы, у семантычных адносінах блізкія да асноўных паняццяў ацэнкі – «добра» / «дрэнна». Ацэнка таксама часта выкарыстоўваецца для ўказання на адпаведнасць / неадпаведнасць зместу патрабаванням, якія ставяцца да навуковых даследаванняў. Да іх адносяцца правільнасць, дакладнасць, актуальнасць, лагічнасць, змястоўнасць. У навуковым тэксце ацэначныя сродкі размяркоўваюцца нераўнамерна. Найбольш часта сустракаюцца ва ўводзінах, пры выкладзе гісторыі пытання, у палемічных фрагментах тэксту. Ступень выражанасці суб'ектыўнай ацэнкі залежыць ад навуковага профілю, камунікатыўна-стылявога тыпу і жанра тэксту (ацэначнасць, напрыклад, з'яўляецца вядучай прыметай такога жанра, як рэцэнзія).

**Кампазіцыя навуковага тэксту.** Кампазіцыя – гэта будова, суадносіны і ўзаемнае размеркаванне частак твора. Кампазіцыйна любы навуковы твор, незалежна ад галіны навукі і жанра, змяшчае дзве ўзаемазвязаныя часткі – апісальную (аглядную) і асноўную.

У апісальнай (аглятнай) частцы адлюстроўваецца ход навуковага даследавання, пры гэтым ва ўводзінах даецца абгрунтаванне актуальнасці навуковага даследавання, фармулюецца прадмет і выбраны метад даследавання, вядзецца выклад гісторыі пытання (калі неабходна) і прадвызначаемы вынік.

У асноўнай частцы навуковага твора асвятляюцца методыка і тэхніка даследавання, дасягнуты вынік.

Усе матэрыялы, якія не з'яўляюцца надзённа важнымі для разумення праблемы, выносяцца ў дадатак.

Выбар кампазіцыі навуковага твора, яе дэталізацыя залежаць ад віду рашаемай навуковай задачы, выбранага метаду даследавання, галіны навукі, жанра, традыцый, індывідуальнага стылю аўтара і да т.п.

**Схема пабудовы ўводнай часткі навуковага твора** (аўтарэферата, дыпломнай работы, праблемнага артыкула і г.д.): абгрунтаванне актуальнасці навуковага даследавання (актуальнасці праблемы); характарыстыка работ, тэорый, якія ёсць па гэтай тэме, гістарыяграфія пытання; выдзяленне канкрэтнага пытання (прадмета даследавання); фармулёўка гіпотэзы; абгрунтаванне выкарыстання выбранай тэорыі (метаду); папярэдняя фармулёўка вывадаў.

**Схема пабудовы заключнай часткі навуковага твора**: кароткі выклад навуковага даследавання; канчатковая фармулёўка вывадаў; спіс аўтарскіх работ.

У межах навуковага стылю выдзяляюць розныя тыпы маўленчых выказванняў: апісанне, апавяданне, разважанне, доказ, тлумачэнне, азначэнне, ацэнка, класіфікацыя і г.д., звязаныя з камунікатыўным намерам аўтара і яго адносінамі да адрасата. Яны адрозніваюцца па сваіх змястоўных, моўных, лагічных, структурна-кампазіцыйных характарыстыках. У розных тыпах тэкстаў пераважаюць розныя тыпы маўленчых выказванняў (камунікатыўных спосабаў).

Навуковы стыль, як вядома, рэалізуецца ў вуснай і пісьмовай формах. Гэта яшчэ адзін з крытэрыяў унутранай дыферэнцыяцыі навуковага стылю.

Традыцыйнымі жанрамі вуснага навуковага маўлення з’яўляюцца: даклад, выступленне, лекцыя, майстар-клас, калоквіум, семінар, апытванне, экзамен і г.д.

Пісьмовае навуковае маўленне рэалізуецца ў навуковых артыкулах, манаграфіях, рэфератах, рэцэнзіях, дысертацыях, анатацыях, інструкцыях, патэнтах, раздзелах веб-сайта і інш.

## §4. Асноўныя жанры навуковай літаратуры

Галоўнай крыніцай навуковай інфармацыі і сродкам яе перадачы зяўляецца навуковы дакумент.

Як ужо неаднаразова адзначалася, асноўнымі жанрамі навуковых тэкстаў з’яўляюцца анатацыя, рэферат, водзыў, рэцэнзія, курсавая і дыпломная работы.

**Анатацыя** – гэта кароткае, абагульненае апісанне (характарыстыка) тэксту кнігі, артыкула.

Перад тэкстам анатацыі даюцца выходныя дадзеныя (аўтар, назва, месца і час выдання) у намінатыўнай форме. Гэтыя дадзеныя можна ўключыць і ў першую частку анатацыі.

Анатацыя звычайна складаецца з дзвюх частак.

У першай частцы фармулюецца асноўная тэма кнігі, артыкула: у другой частцы пералічаюцца (называюцца) асноўныя палажэнні. Суб'ект дзеяння ў анатацыі звычайна не называецца, таму што ён вядомы з кантэксту, больш актыўна выкарыстоўваюцца пасіўныя канструкцыі.

**Рэферат** (ад лац. refero – паведамляю) – кароткі выклад у пісьмовым выглядзе зместу навуковай працы або літаратуры па тэме. У працэсе працы над рэфератам адпрацоўваюцца ўменні самастойна вывучаць літаратурныя крыніцы, навыкі лагічнай класіфікацыі тэкстаў, сістэматызацыі адлюстраваных у іх дадзеных, уменне паслядоўна і лагічна выражаць сваю думку, рабіць вывады.

Паводле розных характарыстык рэфераты можна падзяліць на наступныя групы:

• па паўнаце выкладу матэрыялу: *інфарматыўныя* (перадаюць усе асноўныя палажэнні першакрыніцы) і *індыкатыўныя* (указваюць толькі на асноўную тэму першакрыніцы);

• па колькасці рэфераваных першакрыніц: *манаграфічныя* (пішуцца на аснове адной працы) і *аглядныя* (пішуцца на аснове некалькіх прац па адной тэме);

• па чытацкім прызначэнні: *агульныя* (разлічаны на шырокае кола чытачоў, таму змест перадаецца ў цэлым) і *спецыялізаваныя* (пераказ зместу арыентаваны на спецыялістаў);

• па складанні: *аўтарамі* (аўтарэферат дысертацыі), *спецыялістамі* (той галіны, да якой адносіцца рэферат) і *прафесіяналамі-рэферэнтамі*, а таксама перакладчыкамі-рэферэнтамі.

**Рэцэнзія** (ад лац. recensio – разгляд) – водзыў аб навуковай рабоце або творы, у якім прадстаўлены аргументаваны разбор, аб'ектыўная ацэнка і абгрунтаваныя вывады аб каштоўнасцях рэцэнзуемай работы, а таксама аб асобных яе недахопах. Сістэматычная работа па напісанні рэцэнзій дапамагае развіццю аналітычных здольнасцей, вучыць абгрунтаванасці суджэнняў, доказнасці вывадаў, лагічнасці выкладу сваіх думак, дазваляе авалодаць публіцыстычна-вобразным стылем напісання.

**Водзыў** дае самую агульную характарыстыку работы без падрабязнага аналізу, але змяшчае практычныя рэкамендацыі: аналізуемы тэкст можа быць прыняты да работы ў выдавецтве або на саісканне вучонай ступені.

**Даклад** – публічнае паведамленне, якое прадстаўляе сабой разгорнуты выклад на пэўную тэму. Падрыхтоўка даклада патрабуе самастойнай распрацоўкі пэўнай тэмы з выкарыстаннем розных крыніц інфармацыі (слоўнікаў, энцыклапедый, вучэбнай, навуковай і мастацкай літаратуры, метадычных дапаможнікаў, вынікаў назіранняў, апытвання і прымянення іншых спосабаў эмпірычнага і тэарэтычнага даследавання). Пры падрыхтоўцы даклада ўлічваецца склад слухачоў, узровень іх падрыхтаванасці, законы ўспрыняцця і асэнсавання інфармацыі.

## ПЫТАННІ І ЗАДАННІ

1. Ад чаго залежыць выбар моўных сродкаў пры маўленні і чым кіруюцца пры іх адборы?
2. Што называецца «стылем»?
3. Якія функцыянальныя стылі беларускай літаратурнай мовы выдзяляюцца?
4. Што аб’ядноўвае і што адрознівае публіцыстычны і мастацкі стылі (размоўны і мастацкі, публіцыстычны і навуковы і г.д.)?
5. Якія моўныя сродкі характэрны ўсім функцыянальным стылям?
6. Якія моўныя сродкі характэрны толькі пэўнаму стылю?
7. Адзначце асаблівасці навуковага стылю мовы.
8. Назавіце асноўныя лексічныя (марфалагічныя, сінтаксічныя) асаблівасці навуковага стылю.
9. Якія асноўныя прыметы павінен утрымліваць тэкст навуковага стылю?
10. Ахарактарызуйце звязнасць і цэласнасць навуковага тэксту.
11. Назавіце асноўныя жанры навуковай літаратуры.

## ПРАКТЫКАВАННІ

**1. Прачытайце тэкст, перакладзіце яго на беларускую мову. Зрабіце вывад пра ўжыванне моўных сродкаў у залежнасці ад стылю.**

Если угодно, язык – это океан. Можно черпать и наливать в сосуды различной формы. Одна и та же вода принимает форму куба, бутылки, амфоры, хрустального шара и грязной лужи.

Много языков внутри одного языка, ну, или, скажем мягче, много языковых сфер. Вспомним некоторые из них.

Язык технической и документальной информации. Язык судопроизводства и протоколов. Язык газетной информации. Язык учёных докладов, популярных лекций, застольных речей, отчётных докладов... Язык, которым я пишу заявление о предоставлении мне жилплощади, и язык, которым я пишу сонет.

Нелепо выглядела бы фраза в инструкции: «Придя на своё тёпленькое местечко и усевшись на свой замасленный стулишко, вахтёр обязан сверкнуть глазами во все стороны!..»

Точно так же нелепо выглядела бы фраза в интимном письме: «Нижеследующим уведомляю гражданку Сидорову, что вот уже неделю я испытываю любовное томление!..» (*В.Солодухин*).

**2. Прачытацейце тэкст. Якія вобразныя сродкі і з якой мэтай ўжыты ў тэксце. Вызначце тып і стыль тэксту.**

З самага ранняга дзяцінства і да глыбокай старасці ўсё жыццё чалавека непарыўна звязана з мовай.

Дзіця яшчэ не навучылася, як трэба гаварыць, а яго чысты слых ужо ловіць журчанне бабуліных казак, мамінай калыханкі. Але і казкі, і прыгаворкі – гэта мова.

Падлетак ідзе ў школу. Юнак крочыць у інстытут ці ва універсітэт. Цэлае мора слоў, шумлівы акіян маўлення падхапляе яго там, за шырокімі дзвярыма. Скрозь жывыя гутаркі настаўнікаў, скрозь старонкі соцень кніг упершыню бачыцца яму адлюстраваны ў слове неахопна-складаны сусвет. Праз с л о в а ён упершыню даведваецца пра тое, чаго яшчэ не бачылі (а магчыма, і ніколі не ўбачаць!) яго вочы. У гучным слове паўстаюць перад ім льяносы Арынока, бліскаюць айсбергі Арктыкі, шумяць вадаспады Афрыкі і Амерыкі. Раскрываецца вялікі свет прастораў зорак; бачнымі становяцца мікраскапічныя космасы малекул і атамаў.

Новы чалавек родніцца са старажытнымі думкамі, з тымі, што склаліся ў галовах людзей за тысячагоддзі да яго нараджэння. Сам ён набывае магчымасць звяртацца да праўнукаў, якія будуць жыць шмат стагоддзяў пасля яго смерці. І ўсё гэта толькі дзякуючы мове. (*Л.Успенскі*)

**3. Прачытайце тэксты. Вызначце, да якога стылю яны належаць. Аргументуйце свой адказ.**

**I.** Сярод жанок, што тоўпіліся на двары, аб уступленні ў калгас найбольш хваляваліся Чарнушкава Куліна і Сарока.

– Як хто, а я – што б такое зрабіла калі! – Куліна круціла галавой, з чырвоным, злым тварам, клялася перад усімі: ніколі, нават пад прымусам!

– Жызня будзе: прыйдзеш з работы – ніякай турботы! – растарэквала адважна Сарока. – Ні каровы, ні свіняці – адны сцены ў хаце!.. Любата!

– Як ето яно будзе? – трывожылася Васілёва Маня. – Добра, як у каго няма нічого!

– Аге! – запярэчыла нявестцы Васілёва матка. – Не шкода хіба! Багатаму шкода карабля, а беднаму кашаля! (*І.Мележ*)

**ІІ.** Гук – гэта ваганне паветра пад уздзеяннем пругкага цела. Такім целам для гукаў мовы з’яўляюцца органы маўлення.

Кожны гук мае вышыню, сілу і тэмбр. Вышыня гука залежыць ад частаты вагання. Чалавечы слых успрымае гукі з частатой ад 20 да 20 тысяч герц (герц – адно ваганне ў секунду).

Сіла гука абумоўліваецца амплітудай вагання паветра, і яна будзе тым большая, чым большая яго амплітуда.

Тэмбр гука ствараецца спалучэннем ваганняў рознай частаты. (*Лагапедыя, с.32*)

**ІІІ.** На двары ля нашай маленькай, ужо струхнелай у вуглах, хаткі шаркае піла, звініць сасновае бярвенне і ўвачавідкі расце зруб. Заўчора было шэсць вянцоў, а сёння ўжо восем.

На зрубе сядзяць старыя Астах і Гапей. Астах сухі, як таракан, з мякенькай, як кудзелька, барадой. Гапей – круглейшы, меншы ростам і шырэйшы ў плячах. Абодва з будаўнічай брыгады, абодва ўвішненька махаюць сякерамі, шчыруюць. Робяць яны ўсё згодна. Толькі і чуеш: «Астах, пасабі прыпадняць бэлечку, села няшчыльна» або «Гапей, паз малаваты, давай яшчэ трошкі знімем».

Маці ўвесь дзень на рабоце, сушыць сена. А я памагаю цеслярам: то моху падам, то адвес ці яшчэ што-небудзь. Кручуся ля зруба, дабрэючы ад радасці: гэта ж мы блізкім часам ужо ў новы дом пяройдзем. Як магу, стараюся дагадзіць будаўнікам.

**IV.** Беларуская ССР гарантуе кожнаму жыхару рэспублікі неад’емнае права на выхаванне і атрыманне адукацыі на беларускай або рускай мове. Гэта права забяспечваецца сістэмай дашкольных устаноў, агульнаадукацыйных школ, прафесіянальна-тэхнічных вучылішчаў, сярэдніх спецыяльных і вышэйшых навучальных устаноў.

Права на выхаванне і атрыманне адукацыі на роднай мове маюць і грамадзяне іншых нацыянальнасцей, якія жывуць у рэспубліцы. Дзяржава стварае ўмовы для рэалізацыі гэтага права.

Кіраўнікі і іншыя супрацоўнікі сістэмы народнай адукацыі павінны валодаць мовай навучання, на якой працуе адпаведная ўстанова.

**V.** Вытокі народнай творчасці, якія ідуць ад роднай прыроды, ад таго, што бачыць вока і кранае сэрца, па-мастацку ўвасоблены ў лепшых узорах беларускага арнаменту. Традыцыйнае ткацтва складвалася стагоддзямі. Майстры адкідвалі непатрэбнае – заставалася і ўмацоўвалася сапраўднае, народнае, самае цудоўнае. Да гэтага часу ёсць цэлыя вёскі, дзе ткацтвам займаецца большасць жанчын і дзе ў кожнай хаце стаіць самаробны ткацкі станок – кросны.

Многія рэчы, якія былі вытканы яшчэ нашымі прабабкамі, па майстэрству, разнастайнасці малюнка, каляровай гаме ўяўляюць сапраўдныя творы мастацтва.

**4. Прачытайце тэкст. Вызначце асноўныя лексічныя асаблівасці навуковага стылю.**

Монатанія – функцыянальны стан арганізма, які развіваецца пры аднастайнай рабочай нагрузцы, звязанай з доўгачасовым выкарыстаннем аднолькавх элементарных дзеянняў або з непарыўнай устойлівай канцэнтрацыяй увагі ва ўмовах дэфіцыту сэнсорнай інфармацыі. У маўленні монатанія праяўляецца ў адсутнасці меладычнай карэляцыі ў фаналагічнай сістэме, г.зн. невыкарыстанні танічнага націску для дыферэнцыяцыі гукавых абалонак слоў і марфем. (*СЛ, с201–202*)

**5. Прачытайце тэкст. Вызначце асноўныя марфалагічныя і сінтаксічныя асаблівасці навуковага стылю.**

Вызначыць месца і ролю сацыяльнага выхавання ў жыцці чалавека можна толькі пры суаднясенні яго з такімі працэсамі, як развіццё і сацыялізацыя.

Развіццё – гэта рэалізацыя іманентных (унутры ўласцівых) задаткаў, уласцівасцей чалавека.

Развіццё чалавека ва ўзаемадзеянні і пад уплывам навакольнага асяроддзя ў самым агульным плане можна вызначыць як працэс і вынік яго сацыялізацыі, г.зн. засваення і аднаўлення культурных каштоўнасцей і сацыяльных норм, а таксама самаразвіцця і самарэалізацыі ў тым грамадстве, у якім ён жыве.

Сацыялізацыя адбываецца: а) у працэсе стыхійнага ўзаемадзеяння чалавека з грамадствам і стыхійнага ўплыву на яго разнастайных, іншы раз рознабакова накіраваных абставін жыцця; б) у працэсе ўплыву з боку дзяржавы на тыя ці іншыя катэгорыі людзей; в) у працэсе мэтанакіраванага стварэння ўмоў для развіцця чалавека, г.зн. выхавання; г) у працэсе самаразвіцця, самавыхавання чалавека.

Такім чынам, можна лічыць, што развіццё – агульны працэс станаўлення чалавека; сацыялізацыя – развіццё, абумоўленае канкрэтнымі сацыяльнымі ўмовамі. (*Сацыяльная педагогіка, с.3*)

**6. Напішыце анатацыю на кнігу ці артыкул (на выбар).**

**7. Напішыце рэферат на тэму «Навуковы стыль беларускай літаратурнай мовы», карыстаючыся энцыклапедыяй «Беларуская мова» (Мн., 1994, с.370–371), вучэбным дапаможнікам У.В.Анічэнкі «Асновы культуры маўлення і стылістыкі» (Мн.,1992, с.40–47).**

**8. Падрыхтуйце навуковы даклад на адну з наступных тэм. Звярніце ўвагу на звязнасць, структурнасць і цэласнасць вашага навуковага тэксту.**

1. Форма, змест і прапаганда педагагічных і лагапедычных ведаў.
2. Прафілактыка маўленчых парушэнняў.
3. Асаблівасці лагапедычнага абследавання дзяцей з парушэннямі слыху.
4. Спецыфіка карэкцыйна-педагагічнай работы пры розных формах афазіі.
5. Сімптаматыка маторнай алаліі.
6. Формы функцыянальных і арганічных парушэнняў голасу.
7. Характарыстыка асобы лагапеда.
8. Асноўны паняційна-катэгарыяльны апарат лагапедыі як навукі.
9. Змест сацыяльнай педагогікі як галіны ведаў.
10. Аб’ектыўныя фактары пераўтварэння чалавека ў ахвяру недобразычлівых умоў сацыялізацыі.
11. Рэлігійныя арганізацыі і рэлігійнае выхаванне.
12. Сям’я і сямейнае выхаванне.
13. Паняцце і прыметы субкультуры.
14. Сродкі масавай камунікацыі і сацыялізацыя.

15. Дзяржава і дзяржаўная сістэма выхавання.
16. Сістэма спецыяльных установ для дзяцей з парушэннямі маўлення.
17. Рэгіён як адзін з мезафактараў, што ўплываюць на сацыялізацыю чалавека.
18. Фарміраванне эмоцый у дзяцей.
19. Фактар псіхічнага развіцця дзіцяці.
20. Псіхічнае развіццё дзіцяці і ўплыў асяроддзя

**9. Перакладзіце тэксты на беларускую мову. Вызначце лексічныя, марфалагічныя і сінтаксічныя асаблівасці навуковага стылю.**

**I.** Алалия – отсутствие или недоразвитие речи вследствие органического поражения речевых зон коры головного мозга во внутриутробном или раннем периоде развития ребенка. Синонимы: *дисфазия, ранняя детская афазия, афазия развития, слухонемота* (устаревшее).

Один из наиболее сложных дефектов речи, при котором нарушены операции отбора и программирования на всех этапах порождения и приема речевого высказывания, вследствие чего оказывается не сформированной речевая деятельность ребенка. Система языковых средств (фонематических, грамматических, лексических) не формируется, страдает мотивационно-побудительный уровень речепорождения. Наблюдаются грубые семантические дефекты. Нарушено управление речевыми движениями, что отражается на воспроизведении звукового и слогового состава слов. Встречается несколько вариантов алалии в зависимости от того, какие речевые механизмы не сформированы и какой из их этапов (уровней) преимущественно страдает. (*Лагапедыя, с.64*)

**II.** Полем коррекционной деятельности может выступать и волевое развитие дошкольника.

Предмет коррекции волевого развития ребенка: волевое действие (в совокупности всех элементов: цель, мотив, решение, усилие, исполнение как преодоление препятствий, оценка результата); саморегуляция (стимуляция и торможение активности); упрямство и негативизм.

В естественных условиях коррекция волевого развития ребенка происходит в процессе его непосредственного ежедневного общения со взрослыми.

Представленные в нашей коррекционной программе фрагменты вариантов такого общения учитывают особенности волевого действия ребенка. Каждый фрагмент базируется на определенном элементе волевого действия (выбор цели, преодоление препятствий и совершение усилий, планирование и прогнозирование, оценка и т.д.).

В соответствии с возрастом и индивидуальными особенностями волевого развития ребенка одно и то же задание может быть предложено детям разного возраста. Например, наделение функциями контролера любимой игрушки для ребенка 2-3 лет – средство воспитания, формирования саморегуляции; для ребенка 5-6 лет – средство психологической помощи, коррекции. (*Педагогіка, с.123*)

# РАЗДЗЕЛ 6

# АФІЦЫЙНА-ДЗЕЛАВЫЯ ДАКУМЕНТЫ І ПАПЕРЫ

## §1. Паняцце дакумента. Класіфікацыя і рэквізіты дакументаў

У штодзённым жыцці і працы чалавек наладжвае афіцыйныя, службовыя адносіны з іншымі людзьмі, з арганізацыямі, установамі. Гэтыя адносіны рэгулююцца прававымі нормамі, замацаванымі ў законах, указах, пастановах, дагаворах і іншых дакументах.

Дакументамі называюцца адпаведным чынам складзеныя, падпісаныя і засведчаныя справавыя паперы, якімі афармляюцца розныя гаспадарчыя аперацыі, прававыя адносіны і дзеянні юрыдычных асоб і грамадзян[26].

Усе дакументы можна падзяліць на чатыры групы:

**1. Распарадчыя дакументы**, якія змяшчаюць распараджэнне, заданне кіраўніка прадпрыемства, установы, арганізацыі ці іншых асоб на ажыццяўленне пэўных гаспадарчых аперацый. Да ліку распарадчых дакументаў адносяцца: пастановы, распараджэнні, рашэнні, загады.

**2. Арганізацыйныя дакументы**, якія змяшчаюць у сабе інфармацыю пра арганізацыю працы на прадпрыемстве ці ва ўстанове. Да арганізацыйных дакументаў адносяцца: статуты, палажэнні, інструкцыі і г.д.

[26] Гл.: Рабинович П.А. Корреспонденция и делопроизводство. — М., 1971. — С.5.

**3. Арганізацыйна-распарадчыя дакументы** – прымяняюцца пры афармленні распарадчай і выканаўчай дзейнасці органаў кіравання. Да ліку такіх дакументаў адносяцца пратаколы.

**4. Інфармацыйна-даведачныя дакументы**, у якіх знаходзіцца інфармацыя або даведка аб тым, як вырашалася тое ці іншае пытанне, дзе знаходзіцца тая ці іншая асоба, якая працуе на данным прадпрыемстве ці ва ўстанове (арганізацыі). Да інфармацыйна-даведачных дакументаў адносяцца: даведкі, дакладныя і тлумачальныя запіскі, зводы, агляды, акты, лісты, тэлеграмы, тэлефонаграмы.

Па форме дакументы можна падзяліць на агульныя, стандартныя і тыпавыя.

**Агульнымі** з'яўляюцца дакументы, якімі афармляюцца розныя дзеянні і адносіны, напрыклад, загады, службовыя лісты, заявы і пад. На кожны раз тут складаецца новы дакумент.

**Стандартныя** запаўняюцца ў пэўнай паслядоўнасці і па строга абавязковых правілах. Гэта – даручэнні, камандзіровачныя пасведчанні, даведкі пра заработную плату, з месца жыхарства і пад.

**Для тыпавых** дакументаў, апрача формы, органы кіравання вызначаюць прыкладны змест.

Кожны дакумент складаецца з асобных элементаў – ***рэквізітаў*** (аўтар, адрас, адрасат, дата, подпіс і г.д.). Спынімся на асноўных рэквізітах.

**Аўтар дакумента**. Аўтарам службовага дакумента могуць выступаць установа, арганізацыя, прадпрыемства. Іх назвы даюцца ў назоўным склоне ў строгай адпаведнасці з устаноўленымі адпаведнымі прававымі актамі найменнямі. Напрыклад:

Установа адукацыі «Гродзенскі дзяржаўны універсітэт імя Янкі Купалы» (а не Гродзенскі дзяржаўны універсітэт імя Янкі Купалы)

**Адрас арганізацыі (прадпрыемства, установы)**. Гэты рэквізіт уключае: індэкс прадпрыемства сувязі, паштовы і тэлеграфны адрас, нумар тэлефона. Напрыклад, адрас педагагічнага факультэта Установы адукацыі «Гродзенскі дзяржаўны універсітэт імя Янкі Купалы» наступны:

вул. Захарава, 32.
Тэл. дэканата: 8 (0152) 75-42-66.
230023, г.Гродна.

**Дата дакумента** ставіцца пры завяршэнні афармлення дакумента, яна павінна з'яўляцца адначасова датай яго падпісання і адпраўкі. Дата афармляецца арабскімі лічбамі. На яе адводзіцца восем знакаў, напрыклад: 10.02.02. Калі лічба адна, то перад ёю абавязкова ставіцца «0» (08.03.02.). Апрача даты, што ставіц-

ца на дакуменце тым, хто яго склаў, датуюцца таксама ўсе стадыі афармлення і апрацоўкі дакумента: узгадненне, візаванне, зацверджанне, накладанне рэзалюцый, атрыманне дакумента, выкананне.

**Адрасаванне дакументаў** – указваецца атрымальнік, каму прызначаецца дакументаваная інфармацыя, робіцца на дакументах, якія адпраўляюцца ў іншыя арганізацыі або прыватным асобам, падаюцца кіраўніцтву (заявы, дакладныя і тлумачальныя запіскі) і перадаюцца ў структурныя падраздзяленні (распараджэнні, указы).

**Адрасат** – складаны рэквізіт, у яго могуць уваходзіць наступныя часткі: назва ўстановы, арганізацыі, прадпрыемства (у назоўным склоне); назва структурнага падраздзялення (у назоўным склоне); назва пасады атрымальніка (у давальным склоне); прозвішча і ініцыялы (у давальным склоне); паштовы адрас.

Наяўнасць ці адметнасць некаторых з пералічаных частак вызначаецца відам дакумента.

Мае свае асаблівасці парадак адрасавання дакументаў замежным карэспандэнтам. Яны адрасуюцца ў арганізацыі або канкрэтнай асобе, звычайна без паказу пасады. Пры гэтым спачатку пішуцца прозвішча і ініцыялы, потым назва арганізацыі, далей яе адрас.

## §2. Асноўныя патрабаванні да афармлення афіцыйна-дзелавых папер і асаблівасці мовы дакументаў

Для напісання дакументаў, заканадаўчых актаў выкарыстоўваецца адна з разнавіднасцей літаратурнай мовы – афіцыйна-дзелавы стыль.

У афіцыйных дакументах выклад ідзе ў форме прадпісання, канстатацыі, сцверджання. Прадпісальны характар дакументаў выяўляецца ў адметнасці выкарыстання моўных сродкаў. Шырока ўжываюцца:

• дзеясловы ў неазначальнай форме: *разгледзець, спланаваць, даручыць, атрымаць* і г.д.

• спалучэнні са словамі: *неабходна, трэба, абавязаны, забараняецца, мець права* і інш.

• дзеясловы ў форме цяперашняга часу: *арганізуе, зацвярджае, прыцягвае, наймае* і г.д.

• уласцівы неасабовы характар выказвання (за выключэннем загадаў, заяў, дакладных, аўтабіяграфій).

**Дакументу не ўласцівы**

- эмацыянальнасць
- суб’ектыўная ацэначнасць
- гутарковасць
- дыялектызмы
- жарганізмы
- іншая лексіка абмежаванага выкарыстання

**Дакумент павінен быць**

- акрэсленым у падачы матэрыялу
- дакладным
- лагічным
- паслядоўным(лаканічным)
- абгрунтаваным
- доказным і пераканаўчым

Непажадана ўжываць у дакуменце мнагазначныя словы. І па магчымасці абмяжоўваць выкарыстанне запазычаных слоў і спецыяльных тэрмінаў.

Тэкст дакумента найчасцей складаецца з дзвюх узаемазвязаных частак – *канстатавальнай* і *распараджальнай* (*пастаноўчай*).

*Канстатавальная частка* з’яўляецца ўводзінамі ў сутнасць пытання, якое разглядаецца, якое мае на мэце растлумачыць, чым выкліканы распараджэнні. У ёй могуць быць пералічаны факты, падзеі, дадзена ацэнка. Нярэдка ў канстатавальнай частцы даецца пераказ акта вышэйшага органа, дзеля выканання якога даецца гэты распараджальны дакумент.

Тэкст *распараджальнай часткі* ідзе з абзаца. Да фармулёвак гэтай часткі ставяцца асабліва строгія патрабаванні. Яны павінны быць канкрэтныя, не супярэчыць па сэнсе раней выдадзеным дакументам, быць дакладнымі, яснымі. Трэба пазбягаць неканкрэтных выразаў тыпу: *актывізаваць, павысіць, дабіцца поспехаў* і г.д.

## §3. Апісанне афармлення некаторых афіцыйна-дзелавых дакументаў

Адны дакументы маюць сталую, абавязковую форму, другія дапускаюць пэўную варыянтнасць. Даючы апісанне асноўных афіцыйна-дзелавых папер і прыводзячы ўзор іх афармлення[27], мы ставім мэту выкласці найважнейшыя патрабаванні да іх зместу і формы, падаць моўна-стылёвыя сродкі, што ўжываюцца ў розных відах дакументаў.

**Аб’ява** звычайна даецца, калі неабходна абвясціць, што адбудзецца нейкае мерапрыемства (сход, дыспут, сустрэча з пісьменнікамі, канферэнцыя, заняткі гуртка і г.д.). Яна вывешваецца на відным месцы. У кожнай аб’яве дакладна называецца дата, час і

[1] Узоры афармлення некаторых афіцыйна-дзелавых папер размешчаны ў дадатку, у канцы дапаможніка.

месца правядзення мерапрыемства. Унізе, з правага боку, звычайна паказваецца, хто робіць аб'яву.

**Заява** пішацца пры неабходнасці афіцыйнага звароту да афіцыйнай асобы, ва ўстанову, грамадскую арганізацыю. У гэтым дакуменце звычайна просяць вырашыць якое-небудзь пытанне (прыняць на вучобу ці работу, у члены арганізацыі і да т.п.).

На ўвесь радок зверху пішацца назва арганізацыі, установа ці пасада, прозвішча, імя, імя па бацьку (ініцыялы) службовай асобы; пасля з правага боку на трэцюю частку радка ў слупок – прозвішча, імя, імя па бацьку таго, хто падае заяву. Пры неабходнасці ўказваецца яго пасада і хатні адрас. Праз адзін-два радкі пасярэдзіне ліста пішуць слова Заява. Праз радок, з абзаца пачынаецца тэкст заявы. Калі да заявы прыкладаюцца дакументы (даведкі, спраўкі, копіі пасведчанняў, рэкамедацыі, акты і інш.), то ў канцы асноўнага тэксту звычайна ідзе іх пералік.

На заяве ўнізе злева праз адзін-два радкі ад асноўнага тэксту ставяць дату, а справа, на гэтым жа радку – подпіс.

**Аўтабіяграфія** пішацца ад першай асобы. У ёй коратка расказваюць пра свой жыццёвы шлях. Змест аўтабіяграфіі розны, але ёсць агульныя патрабаванні, прытрымлівацца якіх неабходна кожнаму.

Спачатку ўказваецца прозвішча, імя, імя па бацьку, час і месца нараджэння таго, хто піша аўтабіяграфію. Затым называюцца бацькі і месца іх працы на час напісання аўтабіяграфіі. Пасля гэтага коратка гавораць пра гады вучобы, называюць асноўнае з працоўнай і грамадскай дзейнасці, указваюць сваё сямейнае становішча.

Праз адзін-два радкі ад зместу аўтабіяграфіі злева ставяць дату, а справа, на гэтым жа радку – подпіс.

У некаторых аўтабіяграфіях, напрыклад, у людзей творчых, могуць быць падрабязныя апісанні асобных этапаў жыцця і разгорнутыя развважанні. У творчых аўтабіяграфіях толькі прыблізна захоўваецца агульная схема гэтай паперы і праз выклад жыццёвых фактаў выразна выяўляецца асоба чалавека, у аўтабіяграфіях-дакументах паказваюцца галоўныя этапы жыцця.

**Распіска** – дакумент, які сцвярджае, што ва ўстанове або ад прыватнай асобы атрыманы рэчы, дакументы, грошы.

Распіска складаецца ў наступнай форме: назва дакумента; прозвішча, імя, імя па бацьку, пасада асобы, якая дае распіску; назва установы або асобы, ад якой атрымана што-небудзь; дакладная назва таго, што атрымана з указаннем колькасці або сумы (колькасць ці сума пішуцца спачатку лічбамі, затым у дужках словамі); подпіс атрымальніка (справа); дата напісання распіскі (злева).

Калі распіска мае асабліва важнае значэнне, то подпіс асобы, якая дала распіску, завяраецца ва ўстанове ці ў натарыуса.

**Даверанасць** пішацца тады, калі каму-небудзь давяраюць атрымаць грошы, пасылку, абсталяванне і іншае. Даверанасць можа выдавацца ўстановай або службовай ці прыватнай асобай. У ёй называецца: а) пасада, прозвішча, імя, імя па бацьку таго, хто давярае; б) пасада, прозвішча, імя, імя па бацьку таго, каму давяраюць; в) што і адкуль неабходна атрымаць; г) дата і подпіс.

Унізе даверанасці, якую выдала ўстанова, падпісваецца кіраўнік і ставіць пячатку. Калі даверанасць дае прыватная асоба, яе подпіс завяраецца на месцы вучобы або працы (у дэканаце, канцылярыі, аддзеле кадраў).

**Пратакол** пішацца для таго, каб занатаваць усё найбольш важнае з таго, што абмяркоўвалася на сходзе, пасяджэнні і г.д.

У пратаколе абавязкова запісваецца колькасць прысутных, адзначаецца, хто быў старшынёю і сакратаром сходу (пасяджэння), якія пытанні і ў якім парадку абмяркоўваліся, хто дакладваў і выступаў, што пастанавілі.

Той, хто вядзе пратакол, не зможа запісаць усё даслоўна, таму неабходна паслядоўна перадаваць асноўныя думкі выступленняў і дакладна фармуляваць пастановы.

**Справаздача** расказвае, што і як выканана за адпаведны тэрмін. Гэты дакумент не мае строгай формы. Кожны, хто піша справаздачу, павінен паказаць, як выконвалася заданне, якія цяжкасці давялося пераадолець і што дала праца. У канцы справаздачы неабходна зрабіць вывады і даць свае прапановы. Як і кожная афіцыйная папера, справаздача павінна мець подпіс і дату.

**Службовы ліст** – гэта дакумент, які з’яўляецца сродкам зносін адной установы з іншымі установамі, арганізацыямі, прадпрыемствамі і прыватнымі асобамі. Лісты афармляюцца на бланках. На лісце назва дакумента не ўказваецца. Рэквізітамі ліста з’яўляюцца: дата, індэкс, адрасат, загаловак да тэксту, тэкст, адзнака пра наяўнасць дадатка (пры неабходнасці), подпіс, прозвішча выканаўцы і нумар яго тэлефона.

Да тэксту службовага ліста ставяцца наступныя патрабаванні: выразнасць, дакладнасць, кароткасць выкладу. Ліст павінен быць прысвечаны аднаму пытанню. Моўныя фармулёўкі, стандартныя звароты і ўстойлівыя словазлучэнні, якія выкарыстоўваюцца ў службовых лістах:

Пачатак дакумента: «*Паважаны спадар (спадарыня)..*», *«Шматпаважаныя спадары,..», «Удзячны Вам за ліст ад...», «Мы*

*былі радыя атрымаць Ваш ліст....», «Пацвярджаем з удзячнасцю, што атрымалі Ваш ліст...», «Ваш ліст ад... атрыманы, намі разгледжаны Вашы прапановы...», «У адказ на Ваш ліст ад ... нагадваем, што ....», «У пацверджанне нашага факса паведамляем, што....», «У дадатак да нашага ліста ад...», «Прыносім прабачэнне за затрымку з адказам на...», «Падрабязна разгледзеўшы Вашу прапанову...», «Дэталёва пазнаёміўшыся з Вашым праектам...», «Уважліва даследаваўшы Вашы заўвагі...», «У сувязі з правядзеннем сумесных работ...», «У сувязі з абменам...», «Улічваючы выказаныя заўвагі...», «Лічачы прынцыповым палажэнне...», «Установа не прадвызначае...», «Арганізацыя не плануе...», «Школа не лічыць магчымым...», «Установе не патрабуецца ...»* і г.д.

Канец дакумента: «*Мы разлічваем на паспяховы працяг супрацоўніцтва...», «Мы спадзяемся на Вашу зацікаўленасць у пашырэнні сувязей....»* і г.д., а затым праз 2–3 міжрадковыя інтэрвалы друкуецца з абзаца: «*З павагай...», «З глыбокай павагай...»,* але калі ліст пачынаўся са слоў «*Паважаны...», «Глыбокапаважаны...»,* то вышэйадзначаныя спалучэнні не пішуцца.

Па функцыянальным прызначэнні службовыя лісты дзеляцца на: с*лужбовыя лісты, якія патрабуюць адказу* (ліст-запытанне, ліст-просьба, ліст-зварот, ліст-прапанова, інфарматыўна-тлумачальныя лісты, ліст-прэтэнзія, ліст-забарона) і *службовыя лісты, якія не патрабуюць адказу* (ліст-папярэджанне, ліст-напамін, ліст-запрашэнне, ліст-паведамленне, цыркулярныя лісты, суправаджальныя лісты).

Ліст-просьба – дакумент, у якім адрасант выражае просьбу пра выкананне якога-небудзь дзеяння, атрыманне дакументацыі ці матэрыяльных каштоўнасцей. Кампазіцыйна ліст-просьба будуецца наступным чынам: выклад прычыны, якая выклікала неабходнасць звярнуцца з просьбай, просьба і чакаемы вынік у выпадку, калі просьба будзе задаволена, а таксама можа выказвацца меркаванне пра падрыхтаванасць да далейшага супрацоўніцтва. Пры складанні могуць выкарыстоўвацца наступныя моўныя выразы: *Просім даслаць нам прапанову на...; Просім Вас паведаміць, ці зможаце Вы...; Мы будзем удзячны, калі Вы інфармуеце нас пра магчымасць паставіць нам...* і да т.п.

Ліст-прапанова – гэта дакумент, у якім выказваецца прапанова прадаўца, экспарцёра аб жаданні падпісаць пагадненне з указаннем яго канкрэтных умоў. Прапанова можа быць накіравана ў адказ на просьбу пакупніка, імпарцёра або па ініцыятыве прадаўца, экспарцёра. Пры складанні прапановы выкарыстоўваюцца наступныя моўныя мадэлі: *У адказ на Вашу просьбу ад... мы прапануем Вам...;*

*Якасць тавару адпавядае ўзорам, якія мы даслалі Вам разам з каталогам...; Тавар мае сертыфікат якасці ...* і г.д.

Ліст-напамін – афіцыйна-дзелавы дакумент, у якім напамінаецца пра выкананне пэўных дзеянняў і меры, якія будуць прыняты ў выпадку невыканання гэтых дзеянняў. Такія лісты звычайна маюць у сваім змесце наступныя выказванні: *Нагадваем Вам, што згодна з планам работы...; Другі раз напамінаем Вам аб тым, што...* і інш.

Ліст-запрашэнне – дакумент, які адрасуецца пэўным асобам або канкрэтным арганізацыям. У гэтых лістах звычайна выкарыстоўваюцца такія моўныя выразы: *Прыміце наша запрашэнне...; Дазвольце Вас запрасіць...; Мы будзем удзячныя за ўдзел...* і г.д.

Ліст-пацвярджэнне – дакумент, які пацвярджае атрыманне іншых дакументаў або матэрыялаў, тэлеграм і пад. У сваім змесце могуць мець такія выразы: *Даводзім да Вашага ведама, што прапанова прынята ...; Пацвярджаем атрыманне запрошанай дакументацыі...* і г.д.

Суправаджальны ліст складаюць у выпадку адпраўкі адрасату дакументаў, якія патрабуюць дадатковага тлумачэння па іх выкананню. У іх указваецца, для чаго накіраваны асноўны дакумент, што з ім неабходна зрабіць і ў які тэрмін. Можна ўжываць наступныя выразы: *Дасылаем дакументы, якія неабходна да... падпісаць і заверыць пячаткаю...; Атрыманыя дакументы размножце, падпішыце, заверце і дзве копіі дашліце на адрас...* і г.д.

Дагаворны ліст – дакумент, які пацвярджае факт адпраўкі пагадненняў, дагавораў. Такія лісты звычайна маюць у сваім змесце наступныя выказванні*: Накіроўваем Вам ... экземпляры падпісанага намі дагавора №.. ад ...на аказанне платных адукацыйных паслуг...; дасылаем падпісанае з нашага боку пагадненне № ... ад ...; Просім Вас даслаць адзін экземпляр пагаднення...* і г.д.

Ліст-запыт – афіцыйна-дзелавы дакумент, які ўяўляе сабой зварот асобы ці арганізацыі, што жадаюць, каб ім растлумачылі якоенебудзь пытанне або засведчылі які-небудзь факт. Такога тыпу лісты павінны быць даволі кароткімі, са спасылкай на адпаведныя нарматыўныя дакументы, дасягнутыя раней дагаворы, ранейшыя лісты. Можна ўжываць наступныя выразы: *Згодна з палажэннем №... ад ..., ці маем права на ...; Адпаведна загаду №... ад..., калі неабходна прадставіць справаздачу ...* і г.д.

Гарантыйны ліст – дакумент, які мае на мэце афіцыйна пацвердзіць пэўныя абяцанні (умовы), якія адрасуюцца канкрэтнай асобе або цэламу прадпрыемству. Напрыклад, можна выкарыстоўваць наступныя выразы: *Гарантуем, што згодна з дагаво-*

*рам № ... ад ... абсталяванне ў кабінетах будзе ўстаноўлена...; Абяцаем, што згодна з інструкцыяй № ... ад... гарантыйны тэрмін абслугоўвання* ... і г.д.

Лісты-паведамленні –паведамляюць або сцвярджаюць пра наяўнасць ці адсутнасць чаго-небудзь. Звычайна яны пачынаюцца словамі: *Даводзім да Вашага ведама, што...; Адносна Вашага пытання паведамляем..., Адпаведна загаду №... ад... сцвярджаем, што*...і г.д.

Інфарматыўныя лісты – з'яўляюцца разнавіднасцю лістоў-паведамленняў. Асноўная мэта гэтых лістоў – прапаганда дзейнасці пэўнай арганізацыі або рэклама пэўнай прадукцыі. У змесце інфарматыўных лістоў могуць быць наступныя выразы: *Адміністрацыя інфармуе, што... адбудзецца...; Плануецца правесці...; Мяркуецца разгледзець...* і г.д.

Цыркулярныя лісты – афіцыйныя лісты, якія дасылаюцца ва ўсе падведамасныя арганізацыі ці падначаленым службовым асобам. Яны часцей за ўсё носяць распарадчы характар і змяшчаюць інфармацыю аднаго і таго ж зместу.

**Рэзюме** – сучасны жанр афіцыйна-дзелавога стылю; пісьмовы тэкст з кароткай інфармацыяй пра сябе, які складаецца чалавекам, што шукае работу, для наступнай прапановы работадаўцу.

Рэзюме складаецца наступным чынам:

1. Слова «Рэзюме» не пішацца, загалоўкам дакумента з'яўляюцца прозвішча, імя, імя па бацьку, выдзеленыя адпаведным шрыфтам.

2. Указваецца дакладны дамашні адрас, тэлефон або іншы сродак хуткай сувязі.

3. Асабістыя дадзеныя: грамадзянства, дата і месца нараджэння, сямейнае становішча; калі ёсць дзеці, указаць дату іх нараджэння.

4. Мэта, з якой пішацца рэзюме: г.зн. пасада, якую хоча атрымаць суіскальнік.

5. Адукацыя: характарызуецца апісаннем кожнага факта: указваецца дата пачатку і заканчэння навучальнай установы. Калі адукацыя праходзіла па некалькіх ступенях, то спачатку ўказваецца самая высокая ступень, г.зн. звесткі падаюцца ў адваротным храналагічным парадку.

6. Вопыт работы адлюстроўваецца інфарматыўна: указваецца месца работы (пачынаецца з апошняга і далей у адваротным парадку), пасада, стаж работы на дадзенай пасадзе. Абсалютная паўната звестак не абавязковая: суіскальнік мае права выдзеліць тую частку сваёй практычнай дзейнасці, якая з'яўляецца важнай для прапаноўваемай вакансіі.

7. Прафесійнае навучанне (прафесійныя навыкі) можа быць звязана з вывучэннем замежнай мовы, авалодваннем камп'ютэрам (спецыяльныя курсы, практыка, стажыроўкі і г.д.).

8. Якасці асобы.

9. Захапленні.

10. Дата складання рэзюме.

Моўнае афармленне тэксту рэзюме, як і іншых дакументаў афіцыйна-дзелавога стылю, патрабуе лаканічнасці, дакладнасці, стандартызацыі пры падачы інфармацыі.

**ПЫТАННІ І ЗАДАННІ**

1. Што такое дакумент? Дайце класіфікацыю дакументаў.
2. Назавіце асноўныя рэквізіты дакументаў і ахарактарызуйце іх.
3. Якія моўныя сродкі характэрны афіцыйна-дзелавому стылю?
4. Назавіце асноўныя патрабаванні да афармлення афіцыйна-дзелавых дакументаў.
5. Якія разнавіднасці службовых лістоў вы ведаеце?
6. Што такое рэзюме і як яно афармляецца?
7. Складзіце распарадчы ці арганізацыйны афіцыйна-дзелавы дакумент.

**ПРАКТЫКАВАННІ**

**1 Складзіце па адным прыкладзе распарадчага, арганізацыйнага, арганізацыйна-распарадчага і інфармацыйна-даведачнага дакумента. Назавіце асноўныя адрозненні паміж дадзенымі дакументамі.**

**2. Напішыце заяву з просьбай:** а) перавесці на індывідуальны графік заняткаў; б) паслаць на практыку ў той раён, дзе жывуць вашы бацькі; в) выплаціць вам матэрыяльную дапамогу; г) дазволіць вам датэрмінова здаць залікова-экзаменацыйную сесію. **Укажыце неабходныя для заявы рэквізіты.**

**3. Карыстаючыся дапаможнікам па «Беларускай мове (прафесійнай лексіцы)», складзіце план структуры напісання пратакола. Выпішыце словы і выразы, якія найбольш характэрны для пратакола. Якія дзве функцыі ўключае ў сябе пратакол?**

**4. Прачытайце ў часопісе «Беларуская мова і літаратура ў школе» (1990г., №9) артыкул Л.Гарэлік «З вераю ў роднае слова». Выпішыце фрагменты аўтабіяграфіі Ніла Гілевіча. Адкажыце, чаму ў некаторых аўтабіяграфіях з'яўляецца нормай больш падрабязнае апісанне пэўных жыццёвых этапаў або разгорнутыя разважанні?**

**5. Падрыхтуйце тэксты афіцыйна-дзелавога (дагавор, ліст-напамінанне, даведка і інш.) стылю, выкарыстаўшы асобныя спецыяльныя словы і выразы з прыведзеных.**

Адказчык, заяўнік, кватэранаймальнік, пастанова, устаноўчы дагавор, тарыфная стаўка, статутны фонд.

**6. Складзіце распіску на атрыманне: а) грашовай сумы ад прыватнай асобы; б) фота- і аўдыё апаратуры для педагагічнай практыкі. Назавіце неабходныя для распіскі рэквізіты.**

**7. Вызначце асноўныя патрабаванні да напісання працоўнага дагавора і даручэння. Складзіце самастойна працоўны дагавор.**

**8. Прачытайце і прааналізуйце тэкст. Знайдзіце лагічныя памылкі і выпраўце іх.**

У саўгасе «Прамень» пабудавана новая жывёлагадоўчая ферма. Яна абсталявана па апошнім слове тэхнікі: механізавана раздача кармоў, ёсць аўтапаілкі, асфальтаваны цэнтральны праход. Уваходзіш, і не верыцца, што гэта тая самая вёска, гаспадарка якой яшчэ пяць – шэсць гадоў таму лічылася сярод самых адстаючых. Вакол чыстата, парадак. Даяркі ў белых халатах. Электрычнасць. Хораша тут стала!

**9. Прачытайце тэкст. Выпраўце памылкі, якія дапушчаны пры афармленні дакумента.**

**ВЫПІСКА**
з рашэння агульнага сходу працоўных і служачых глаўбудтрэста

Павестка дня

1. Аб адкрыцці новай фабрыкі-пральні да Новага года – пахвальным жаданні зрабіць вольнымі нашых жанчын-гараднянак ад працоўных турбот.

Выступаючыя адзначылі бойкі пачатак будаўніцтва камбіната. Калектыў будаўнікоў сёмага трэста у кароткі тэрмін пабудавалі корпус. Наступіў час уключацца ў стварэнне фабрыкі субпадрадным арганізацыям: гэта трэсту №12, Гроднанафтахіммантажу і інш. Але кіраўнікі гэтых прадпрыемстваў не спяшаюцца пасылаць на аб'ект рабочых.

У гэтым годзе трэба будзе асвоіць 772 тысячы рублёў. Прайшло шэсць месяцаў, а выканана на 220 тысяч рублёў. Будоўлі не хапае бетону, раствору. У гэтым вінаваты трэст №14.

**10. Прааналізуйце тэкст пісьма. Які фактычны матэрыял у ім з'яўляецца лішнім? Ці правільна напісаны адказ. Складзіце варыянты пісьма-запыту і пісьма-адказу.**

Паважаныя! Я скончыў тры курсы дзённага аддзялення хіміка-тэхналагічнага інстытута і з 1997 года працую на Лідскім лакафарбавым заводзе на пасадзе зменнага майстра і вучуся на завочным аддзяленні інстытута. З 1996 года супрацоўнічаю ў сцянным і шматыражным друку, маю апублікаваныя работы.

Вельмі прашу паведаміць, на якіх умовах магчымы перавод на факультэт журналістыкі з тэхнічнага ВНУ. Якія прадметы патрэбна здаваць? Якія неабходныя дакументы для пераводу?

Перавод на факультэт журналістыкі магчымы толькі з факультэтаў і аддзяленняў журналістыкі дзяржаўных універсітэтаў. Пытанне аб пераводзе вырашаецца персанальна камісіяй па пераводах, якая працуе ў другой палове чэрвеня кожны год. Студэнты тэхнічных ВНУ могуць паступіць на факультэт журналістыкі толькі на агульных асновах на першы курс.

**11. Напішыце справавыя лісты: пра пастаўку камп' ютэраў; прэтэнзія аб неаплаце за педагагічную практыку; пра запрашэнне на міжнародную канферэнцыю і інш.**

**12. Складзіце рэзюме для атрымання пасады: а) сацыяльнага педагога ў школе; б) дэфектолага ў дзіцячым садку; в) псіхолага на прадпрыемстве; г) псіхолага ў фірме.**

# РАЗДЗЕЛ 7

# ТЭОРЫЯ І ПРАКТЫКА ПЕРАКЛАДУ НАВУКОВЫХ ТЭКСТАЎ З РУСКАЙ МОВЫ НА БЕЛАРУСКУЮ

У цяперашні час ужо не выклікае сумнення неабходнасць лінгвістычнага вывучэння тэорыі і практыкі перакладу навуковай і тэхнічнай літаратуры. Дадзеная дысцыпліна ўзнікла на мяжы лінгвістыкі з аднаго боку, і навукі і тэхнікі – з другога. Таму пераклад навуковай і тэхнічнай літаратуры неабходна разглядаць і з мовазнаўчых (пры даследаванні агульнамоўных пытанняў), і з навукова-тэхнічных (пры разглядзе тэрміналогіі) пазіцый.

Калі скульптар высякае скульптуру з каменю, ён кіруецца не толькі сваёй першапачатковай задумкай, але і канкрэтнымі ўласцівасцямі і якасцямі таго матэрыялу, які ёсць перад ім. Яму неабходна прымаць пад увагу тое, як крышыцца камень пад разцом, якая яго супраціўляльнасць, цвёрдасць, зыходныя недахопы. Інакш кажучы, медыум (матэрыял) адыгрывае ў працэсе творчасці актыўную ролю і, у вядомым сэнсе, азначае канчатковы вынік. «The medium is the message (Медыум ёсць паведамленне, пасланне)» – пісаў Маршал Мак Люан. Гэта значыць, што пры перакладзе адна мова адыгрывае ролю пасрэдніка, медыума, пры дапамозе якога перадаецца сэнс выказанага на іншай мове. Пры гэтым, канечне, неабходна ўлічваць уласцівасці, якасці і магчымасці мовы, на якую робіцца пераклад. Даслоўны пераклад рэальна не існуе. Нават пры перакладзе з адной блізкароднаснай мовы на другую некаторыя змяненні непазбежны.

## §1. Змест паняцця «пераклад»

Перакладаюцца з адной мовы на другую вершы, мастацкая проза, навуковыя і навукова-папулярныя кнігі з розных галін ведаў, дыпламатычныя дакументы, дзелавыя паперы, артыкулы палітычных дзеячаў і выступленні аратараў, газетныя матэрыялы, гутаркі, кінастужкі, мультфільмы і да т.п.

Для таго, хто перакладае, важную ролю адыгрываюць два наступныя палажэнні:

- мэта перакладу – як мага бліжэй пазнаёміць чытача ці слухача, які не ведае мовы арыгінала, з даным тэкстам або зместам вуснага выступлення;
- перакласці – значыць выказаць дакладна і поўна сродкамі адной мовы тое, што ўжо выражана сродкамі другой (у дакладнасці і паўнаце перадачы – адрозненне перакладу ад пераказу).

Пераклад можа быць трох тыпаў.

**Унутрымоўны пераклад** – перадача тымі або іншымі сродкамі данай мовы такога ж зместу, які першапачаткова быў выказаны іншымі сродкамі гэтай жа мовы.

Практычна гэта тычыцца тых выпадкаў, калі тэкст напісаны ў пэўным стылі, напрыклад, навуковым або афіцыйна-дзелавым, а яго пераказваюць у больш простай і даступнай форме пры дапамозе агульнаўжывальнай лексікі і спрошчанага сінтаксісу. Напрыклад:

*Афект – гэта моцны і адносна кароткачасовы эмацыянальны стан, які суправаджаецца выяўленымі рухальнымі і вегетатыўнымі праяўленнямі* (ДэфСД, с. 15). – *Ой! Дзяўчаты, сёння са мною быў поўны афект. Спачатку ад пачутага я моцна ўзбудзілася, а потым ледзь не страціла прытомнасць* (Размова студэнтак).

**Міжмоўны пераклад** або пераклад ва ўласным сэнсе – гэта аднаўленне сродкамі адной мовы такога ж зместу інфармацыі, які быў выказаны раней сродкамі іншай мовы. Напрыклад:

В зависимости от преобладания того или иного эмоционального фона можно выделить два основных вида органического инфантилизма: неустойчивый – с психомоторной расторможенностью, эйфорическим оттенком настроения и импульсивностью и тормозимый – с преобладанием пониженного фона настроения, нерешительностью, боязливостью.

У залежнасці ад пераважання таго ці іншага эмацыянальнага фону можна выдзеліць два асноўныя віды арганічнага інфантылізму: няўстойлівы – з псіхаматорнай растарможанасцю, эйфарычным адценнем настрою і імпульсіўнасцю і тармазімы – з пераважаннем паніжанага фону настрою, нерашучасцю, баязлівасцю.

**Пераклад са звычайнай чалавечай мовы на нямоўную сістэму ўмоўных знакаў**, якія прынятыя ў той ці іншай навуцы. Напрыклад:

**А** – дамінантны ген; **а** – рэцэсіўны ген; **с** – інверсія; $\mathbf{c_o}$ – ацэнтрычная храмасома.

Роля мовы пры перакладзе тая ж, якую яна заўсёды выконвае ў жыцці грамадства: гэта найважнейшы сродак чалавечых зносін.

Працэс перакладу распадаецца на два моманты. Каб перакласці, неабходна:

➢ перш за ўсё зразумець, дакладна ўсвядоміць, растлумачыць самому сабе тое, што перакладаецца (пры дапамозе моўных вобразаў, г.зн. ужо з элементамі перакладу);

➢ знайсці, выбраць адпаведныя сродкі выражэння ў той мове, на якую робіцца пераклад (словы, словазлучэнні, граматычныя формы).

Уменне перакладаць неабходна любому адукаванаму чалавеку, які жыве ў рэальна існуючым двухмоўным ці шматмоўным асяроддзі, бо ўменне перакладаць складаецца з:

➢ умення правільна ўспрыняць, зразумець змест пачутага ці прачытанага на адной мове;

➢ умення адэкватна перадаваць гэты змест на іншай мове.

Каб умець перакладаць і карыстацца перакладам у працэсе моўных зносін, валодаць дзвюма – трыма і больш мовамі недастаткова. Неабходна ведаць яшчэ і законы перакладу, якія абумоўлены яго складанай і супярэчлівай прыродай, усведамляць патрабаванні, якія да яго ставяцца, ведаць прыёмы, якія дапамагаюць хутка і якасна перакласці і многае іншае.

Уменне перакладаць само сабою не прыходзіць, як уменне чытаць, пісаць і гаварыць. У працэсе перакладу выкарыстоўваюцца ўменні аўтаматычнага і творчага характару.

**Аўтаматычныя ўменні** – гэта веданне гатовых перакладчыцкіх адпаведнікаў і навыкі прымяняць іх.

**Творчыя ўменні** – гэта ўменні знаходзіць аналагі, выбіраць адзін з некалькіх магчымых варыянтаў, а таксама майстэрства выконваць адэкватныя замены.

У двухмоўных слоўніках звычайна падаюцца моўныя адзінкі толькі ў тых значэннях, якія з'яўляюцца фактамі мовы. Двухмоўныя слоўнікі звычайна ўстанаўліваюць адпаведнасць паміж словамі дзвюх моў толькі на ўзроўні мовы, а не маўлення, без уліку канкрэтнага кантэксту або толькі арыентуючыся на тыповыя кантэксты. Слоўнік падае толькі некаторыя з магчымых адпаведнікаў, а не абсалютнае значэнне слова.

## §2. Прыёмы перакладу з рускай мовы на беларускую

Любое дзеянне, як адзначае А.Н.Лявонцьеў, акрамя свайго інтэнцыйнага аспекту (што павінна быць дасягнута), мае і свой аперацыйны аспект (як, якім чынам гэтага дасягнуць). Можна сказаць, што аперацыі – гэта спосабы ажыццяўлення пэўных дзеянняў. У адносінах да перакладу аперацыйныя ўменні і навыкі можна ахарактары-

заваць як уменне карыстацца рознымі прыёмамі перакладу. Гэтыя прыёмы – гатовыя рашэнні, якія можна прымяніць на практыцы.

Параўнальны аналіз арыгінальных і перакладных тэкстаў дае магчымасць падзяліць усе прыёмы перакладу на два віды: падстаноўкі і трансфармацыі.

Прыёмы перакладу, якія заснаваны на максімальна магчымым сэнсава-структурным паралелізме мовы арыгінала і мовы перакладу, называюць **падстаноўкамі.**

Прыёмы перакладу, якія выкарыстоўваюць адыход ад магчымага сэнсава-структурнага паралелізму тэксту арыгінала і перакладу, называюць **трансфармацыямі**.

Іншымі словамі, з падстаноўкамі мы маем справу, калі перакладаем слова ў слова, радок у радок, толькі падстаўляючы замест слоў і спалучэнняў адной мовы словы і спалучэнні другой мовы, а пры трансфармацыях тэкст перакладу ў пэўнай ступені адрозніваецца ад тэксту арыгінала. Напрыклад:

*1. Развитие ощущений артикуляционных движений и артикуляционного паратаксиса. – Развіццё адчуванняў артыкуляцыйных рухаў і артыкуляцыйнага паратаксіса. 2. Внимание ребёнка привлекается к ощущению состояния нёбной занавески. – Увага дзіцяці прыцягваецца да адчування стану паднябеннай фіранкі.* (Першы сказ перакладзены з дапамогай падстановак, а другі – пры дапамозе трансфармацый).

Падзел прыёмаў перакладу на падстаноўкі і трансфармацыі заснаваны на наяўнасці (або адсутнасці) у абедзвюх мовах так званых моўных паралеляў. Такія паралелі існуюць паміж любой парай моў, бо калі б іх не было зусім, то пераклад з адной мовы на іншую быў бы немагчымы.

Агульнасць паходжання ўсходнеславянскіх моў, блізкасць іх гістарычнага развіцця і ўзаемадзеянне на сучасным этапе абумовілі наяўнасць у беларускай і рускай мовах аднолькавых ці блізкіх слоў, словазлучэнняў, зваротаў. Разам з тым, у любой мове адлюстравана адзіная, самабытная і непаўторная карціна бачання свету, што прыводзіць да наяўнасці тых слоў, словазлучэнняў, зваротаў, што адрозніваюць адну мову ад другой.

Такім чынам, пераклад з адной мовы на другую немагчымы без пэўных змен, трансфармацый. Аб’ектам перакладу з’яўляецца не сістэма як нейкая абстракцыя, а канкрэтны моўны твор – тэкст арыгіналу. На аснове тэксту арыгіналу ствараецца іншы моўны твор на іншай мове – тэкст перакладу. Дасягненне перакладчыцкай эквівалентнасці, нягледзячы на разыходжанні ў фармальных і семан-

тычных сістэмах дзвюх моў, патрабуе ад перакладчыка перш за ўсё ўмення зрабіць шматлікія і якасна разнастайныя міжмоўныя пераўтварэнні – так званыя трансфармацыі – для таго, каб тэкст перакладу з максімальна магчымай дакладнасцю передаваў усю інфармацыю, якая заключана ў зыходным тэксце.

Традыцыйна трансфармацыі дзеляцца на граматычныя, лексічныя і лексіка-граматычныя.

Вопросы логопеда относятся к процессу предстоящей работы. – Пытанні лагапеда адносяцца да працэсу

**Пры граматычных трансфармацыях** пераўтвараецца фармальная структура выказвання і застаецца нязменным набор слоў, які складае яго сэнс. Асноўнай прычынай такога тыпу трансфармацый з'яўляецца неаднолькавасць структур зыходнай мовы і мовы перакладу, што праяўляецца ў адсутнасці пэўных форм і канструкцый у адной з моў (ці ў мове арыгінала, ці ў мове перакладу). З граматычных трансфармацый вылучаюцца:

• ***марфалагічныя*** – замены часцін мовы або іх форм і інш. Напрыклад: *Расказывающий стихотворение неожиданно повысил голос – Чытач верша нечакана павысіў голас* (дзеепрыметнік заменены на назоўнік); *Белорусский язык – один из сложнейших предметов для учеников начальных классов. Беларуская мова – адзін з самых складаных прадметаў для вучняў пачатковых класаў* (прыметнік мужчынскага роду заменены на прыметнік жаночага роду); *Дверь в класс была открыта. – Дзверы ў клас былі адчынены* (форме адзіночнага ліку назоўніка *дверь* адпавядае множналікавы назоўнік *дзверы*);

• ***сінтаксічныя*** – замены членаў сказа, цэлых сінтаксічных канструкцый. Напрыклад: *Настаўнік стаяў, ледзь стрымліваў гнеў. – Учитель стоял, едва сдерживая гнев* (Просты сказ з аднароднымі выказнікамі заменены на просты сказ, які ўскладнены адасобленай акалічнасцю, выражанай дзеепрыслоўным словазлучэннем. У даным сказе назіраецца таксама замена дзеяслова на дзеепрыслоўе, таму што часцей за ўсё марфалагічныя і сінтаксічныя трансфармацыі ўжываюцца адначасова).

**Лексічныя трансфармацыі** – гэта прыёмы лагічнага мыслення, пры дапамозе якіх мы раскрываем значэнне іншамоўнага слова ў кантэксце і знаходзім яму пэўны адпаведнік, які не супадае са слоўнікам. У семантычных адносінах сутнасць трансфармацый заключаецца ў замене перакладаемай адзінкі словам або словазлучэннем іншай унутранай формы, якая актуалізуе той элемент іншамоўнага слова, які рэалізуецца ў даным кантэксце.

У лексіцы навуковай і тэхнічнай літаратуры выкарыстоўваецца вялікая колькасць спецыяльных тэрмінаў. Таму пры перакладзе такіх тэкстаў словы адбіраюцца з асаблівай стараннасцю для максімальна дакладнай перадачы думкі. Вялікую ўдзельную вагу маюць службовыя словы і словы, якія забяспечваюць лагічныя сувязі паміж асобнымі элементамі выказвання.

Сярод разнавіднасцей лексічных трансфармацый выдзяляюць наступныя:

• **канкрэтызацыя** – замена слова або словазлучэння зыходнай мовы з больш шырокім значэннем словам або словазлучэннем мовы перакладу з больш вузкім значэннем (*В кабинете, спиной к доске, сидел директор школы. – У кабінеце каля дошкі сядзеў дырэктар школы*);

• **генералізацыя** – замена адзінкі зыходнай мовы, што мае больш вузкае значэнне, адзінкай мовы перакладу з больш шырокім значэннем (*У стены стояли стеклянные шкафы. – Паўз сцяны стаялі шкляныя шафы*);

• **антанімічны пераклад** – трансфармацыя сцвярджальнай адзінкі ў адмоўную і наадварот (*Чтобы не уронить своё достоинство, нужно очень много знать. – Каб падтрымаць сваю годнасць, неабходна шмат ведаць*);

• **кампенсацыя** – ужываецца ў тых выпадках, калі пэўныя элементы тэксту арыгінала па той або іншай прычыне не маюць эквівалентаў у мове перакладу і не могуць быць перакладзены яго сродкамі, перакладчык узнаўляе тую ж інфармацыю якімі-небудзь іншымі сродкамі, прычым неабавязкова ў тым жа месцы тэксту, што ў арыгінале (*Когда проехали небольшенькую побуревшую гать, то увидели, что около леса стояло здание старой школы. – Калі пераехалі рудую грэбельку, то ўбачылі, што каля лесу стаяў будынак старой школы*).

Акрамя названых лексічных трансфармацый, вылучаецца яшчэ тры разнавіднасці:

а) дыферэнцыяцыя значэнняў (перадача значэння адзінкі без яго ўдакладнення ў перакладзе), напрыклад: *Васіль Адамавіч праз увесь сход і не думаў гаварыць. – Василий Адамович поначалу и не думал высказываться*;

б) сэнсавае развіццё (разнастайныя метафарычныя і метанімічныя замены), напрыклад: *Пасля учынку Сашы Коркіна, Мар'я Пятроўна ледзь не згарэла. – После поступка Саши Коркина, Марья Петровна чуть не сгорела со стыда*;

в) цэласнае пераўтварэнне (універсальны сродак перакладу фразем), напрыклад: *Бачыў настаўнік, што і хлопчыкі, і дзяўчынкі*

*не ўсе былі <u>на адзін капыл</u>. – Видел учитель, что и мальчики, и девочки не все были <u>на одну колодку</u>.*

**Лексіка-граматычныя трансфармацыі** ахопліваюць пэўнымі зменамі як граматычную будову моўнай адзінкі, так і яе семантычную напоўненасць.

Усе трансфармацыі звычайна зводзяцца да чатырох элементарных тыпаў:

1) перастаноўкі: *<u>Слабослышащие дети</u> внимательно следили за движениями учителя танцев. – <u>Дзеці, якія маюць слабы слых,</u> уважліва сачылі за рухамі настаўніка танцаў.*

2) замены: *Миша не отвечал, боялся «<u>сесть в лужу</u>». – Міша не адказваў, бо баяўся <u>памыліцца</u>.*

3) дабаўленні: *Как бы ни было, но Машенька стала оказывать нашему учителю явную <u>благосклонность</u>. – Як бы там ні было, але Машанька стала выказваць да нашага настаўніка выразную <u>прыхільнасць і зацікаўленасць</u>.*

4) пропускі: *Время к теплу подвинулось. – Набліжалася цеплыня.*

Аднак неабходна адзначыць, што ў чыстым выглядзе ўсе чатыры тыпы трансфармацый сустракаюцца рэдка – звычайна яны спалучаюцца адзін з адным, прымаючы характар складаных, комплексных трансфармацый.

Граматычныя і лексіка-граматычныя трансфармацыі ў сказе могуць ужывацца пад уплывам наступных фактараў: сінтаксічнай функцыі сказа; лексічнай напоўненасці сказа; сэнсавай структуры сказа; кантэксту; экспрэсіўна-стылёвай функцыі сказа.

Граматычныя трансфармацыі могуць быць поўнымі або частковымі ў залежнасці ад таго, як змяняецца структура сказа – поўнасцю ці часткова. Звычайна, калі змяняюцца галоўныя члены сказа, адбываецца поўная трансфармацыя, напрыклад: *Сегодня <u>ученик</u> <u>смотрел</u> чистымі синими глазами. – У вучня сёння <u>быў чысты, сіні позірк</u> вачэй*, калі змяняюцца даданыя – частковая: *Первоклассник читал, минуя трудные для него звуки. – <u>Пяршакласнік</u> <u>чытаў</u>, <u>мінаў</u> цяжкія для яго гукі.*

Як правіла, рознага віду трансфармацыі ажыццяўляюцца адначасова, спалучаюцца адна з адной – перастаноўка суправаджаецца заменай, граматычнае пераўтварэнне – лексічным і г.д.

Беларуская мова мае сістэму сродкаў, якія ўжываюцца для замены не ўласцівых ёй дзеепрыметнікаў пры перакладзе з рускай. Самым пашыраным з'яўляюцца складаныя сказы (азначальныя, дапаўняльныя, дзейнікавыя). Напрыклад: *Улица, <u>ведущая</u> к школе, проходила мимо библиотеки. – Вуліца, <u>якая вяла</u> да школы (у бок*

*школы), праходзіла каля бібліятэкі. ~Уровень развития речи у слабослышащих детей определяется главным образом степенью нарушения слуха. – Узровень развіцця маўлення ў дзяцей, якія маюць слабы слых, вызначаецца галоўным чынам ступенню парушэння слыху.*

Некаторыя дзеепрыметныя звароты можна перадаць дзеепрыметнымі і дзеепрыслоўнымі словазлучэннямі: «*Что-то здесь не так», – сказал остановившийся учитель. – «Штосьці тут не так», – сказаў настаўнік, спыніўшыся.*

Дзеепрыметнікі можна перадаваць прыметнікамі: *дрожащая речь – дрыготкае маўленне, взаимно погашающиеся платежи – узаемна пагашальныя плацяжы*.

Асобным дзеепрыметнікам сэнсава адпавядаюць назоўнікі: *расказывающий повысил голос – апавядальнік павысіў голас, председательствующий встал – старшыня ўстаў*.

Дзеепрыметнікі могуць перадавацца дзеясловамі: *Дети, спешившие на урок, бежали быстро. – Дзеці спяшаліся на ўрок і беглі хутка*.

Дзеепрыметныя словазлучэнні могуць перадавацца азначэннямі-прыдаткамі: *стимулирующие вещества – рэчывы-стымулятары*.

Перакладчык, які працуе не механічна, зацікаўлены ў пэўным выбары моўных сродкаў. Пераклад – гэта не простае ўзнаўленне ўсёй сукупнасці элементаў арыгінала, а складаны і свядомы пошук разнастайных магчымасцей іх перадачы. Майстэрства перакладу прадугледжвае і ўменне выкарыстаць пэўны тып лексічных або граматычных трансфармацый, ад гэтага ўмення будзе залежаць паўнацэннасць тэксту перакладу.

Такім чынам, перш чым рабіць пераклад на беларускую мову, неабходна прачытаць тэкст цалкам на рускай мове. Трэба добра ведаць змест, сюжэт, структуру тэксту. Толькі ў такім выпадку атрымаецца асэнсаваны пераклад з рускай мовы на беларускую.

## ПЫТАННІ І ЗАДАННІ

1. Што такое «пераклад»?
2. Якія тыпы перакладаў вы можаце назваць?
3. Якія прыёмы перакладу з рускай мовы на беларускую вы ведаеце?
4. Што такое «трансфармацыі»?
5. На якія тыпы дзеляцца трансфармацыі?
6. Прывядзіце прыклады лексічных трансфармацый.

**1. Перакладзіце тэксты. Вызначце асноўныя адрозненні паміж рускай і беларускай мовамі ў галіне фанетыкі і правапісу.**

**I.** Социальный педагог – специалист по работе с детьми и взрослым населением в социально-культурной и семейно-бытовой сферах. В соответствии с тарифно-квалификационной характеристикой, включающей его должностные обязанности (7–14-й разряды), социальный педагог:

– осуществляет комплекс мероприятий по воспитанию, образованию, развитию и социальной защите личности детей в учреждениях и по месту жительства;

– изучает особенности личности обучающихся, окружающей микросреды, условия жизни;

– выявляет интересы и потребности, трудности и проблемы, конфликтные ситуации, отклонения в поведении детей и своевременно оказывает им социальную помощь и поддержку;

– выступает посредником между личностью подопечных и учреждением, семьей, средой, специалистами различных социальных служб, ведомств и административных органов;

– определяет задачи, формы, методы социальной педагогической работы, способы решения личных и социальных проблем, принимает меры по социальной защите и помощи, реализации прав и свобод личности воспитанников;

– организует различные виды социальной деятельности детей и взрослых, мероприятия, направленные на развитие социальных инициатив, реализацию социальных проектов и программ, участвует в их разработке и утверждении;

– способствует установлению гуманных, нравственно здоровых отношений в социальной среде;

– содействует созданию обстановки психологического комфорта и безопасности личности воспитанников, заботится об охране их жизни и здоровья;

– осуществляет работу по трудоустройству, патронажу, обеспечению жильем, пособиями, пенсиями, оформлению сберегательных вкладов, использованию ценных бумаг воспитанников из числа сирот и оставшихся без попечения родителей;

– взаимодействует с учителями, родителями (лицами, их заменяющими), специалистами социальных служб, семейных и

молодежных служб занятости, с благотворительными организациями и т.д. в оказании помощи детям, нуждающимся в опеке и попечительстве, с ограниченными физическими возможностями, девиантным поведением, а также попавшим в экстремальные ситуации. (*ПС, с.104*)

**II.** Олигофренопедагогика – отрасль дефектологии, разрабатывающая проблемы воспитания и обучения, пути коррекции недостатков психофизического развития умственно отсталых детей.

Первые попытки воспитания и обучения умственно отсталых детей были предприняты во Франции в начале XIX в. Ж.Итаром. В середине XIX в. французский врач и педагог Э.Сеген обобщил и оформил в виде целостной медико-педагогической системы собственную практику воспитания слабоумных детей. Со второй половины XIX в. в связи с развитием всеобщего начального обучения усилилось внимание к проблеме воспитания таких детей и для них начали создаваться спец. классы и школы во многих странах. Становление олигофренопедагогики в России связано с именами Е.К.Грачевой, М.П.Постовской, В.П.Кащенко, которым принадлежит заслуга в создании первых учреждений для умственно отсталых детей (первый вспомогательный класс был организован в Москве в 1908 году). Значительную роль в отечественной олигофренопедагогике сыграли виднейшие деятели русской медицины В.М.Бехтерев, П.Ф.Лесгафт, Г.И.Россолимо и другие, стремившиеся сблизить педагогику с медицинской наукой и тем самым усилить естественнонаучную основу обучения и воспитания умственно отсталых детей.

Важнейший вклад в создание научных основ отечественной олигофренопедагогики внес Л.С.Выготский. Его концепция о возможности и необходимости ослабления интеллектуального дефекта в результате развития в первую очередь высших психических функций явилась основополагающей в олигофренопедагогике.

Олигофренопедагогика как наука разрабатывает психолого-педагогические проблемы диагностики умственной отсталости, методы и принципы организации учебно-воспитательного процесса, педагогическую классификацию и типологию исследований – комплексное изучение умственно отсталых детей, проводимое в сопоставительном плане с нормой и разными видами патологии. Наиболее важная и специфическая задача олигофренопедагогики – оп-

ределение оптимальных педагогических средств коррекции недостатков познавательной деятельности и личности ребенка в целях его социальной и трудовой адаптации. На основе общих дидактич. принципов построены специальные дидактические принципы олигофренопедагогики, согласно которым процесс обучения и воспитания носит коррекционно-развивающий характер и направлен на максимальное преодоление (ослабление) недостатков познавательной, эмоционально-волевой и двигательной сфер умственно отсталого ребенка с ориентацией на его положительные возможности. (*ДэфСД, с.49*)

**2. Перакладзіце тэксты. Прачытайце спачатку тэкст на рускай мове, а затым на беларускай. Укажыце віды трансфармацый, якія былі выкарыстаны ў працэсе перакладу.**

**I.** Педагогика вальдорфская – научно-практическое направление в воспитании и обучении, разработанное Рудольфом Штейнером (1861–1925) на основе антропософии, мистического учения о человеке, его единстве с духовной основой Вселенной. Цель вальдорфской педагогики – посредством соответствующего воспитания, включающего обучение медитации, музыке, эвритмии (разработанному Р.Штейнером и его последователями искусству телесных движений, сопровождающих речь или музыку) и другому, помочь ребенку избрать свой жизненный путь, раскрыть свои способности и свойства. В настоящее время в мире существует около 500 вальдорфских школ (открыты они и в нашей стране) и 1000 детских садов. (*ПС, с.99*)

**II.** Гидроцефалия (от греч. *hydor* – вода и *kephale* – голова) – заболевание мозга, проявляющееся в накоплении ликвора в черепной полости вследствие нарушения баланса его секреции и всасывания. Существует гипотеза о наследственной обусловленности гидроцефалии. Многочисленные факты свидетельствуют о том, что гидроцефалия возникает в результате патологии родов, а также при *менингите* и менингоэнцефалите. Внешне гидроцефалия проявляется в деформациях черепа (увеличение лба и темени и т.п.). Характерные особенности детей, страдающих гидроцефалией, – сниженная умственная работоспособность, частые вспышки эйфории либо гнева, склонность к резонерству. Умственной отсталостью страдают примерно 2 % больных гидроцефалией. В ряде случаев после периода прогрессирующей гидроцефалии, внутричерепное давление нормализуется и заболевание приобретает компенсированный характер. (*ДэфСД, с.18–19*)

**3. Перакладзіце тэксты. Адзначце несупадзенне граматычных форм слоў розных часцін мовы ў адной і другой мовах.**

**I.** Педагогическая парадигма (от греч. paradeigma – пример, образец) – совокупность теоретических, методологических и иных установок, принятых научным педагогическим сообществом на каждом этапе развития педагогики, которыми руководствуются в качестве образца (модели, стандарта) при решении педагогических проблем; определенный набор предписаний (регулятивов). Понятие «парадигма» введено американским историком Т.Куном, выделившим различные этапы в развитии научной дисциплины: предпарадигмальный (предшествующий установлению парадигмы), господства педагогики («нормальная наука»), этап кризиса в научной революции, заключающийся в смене парадигмы, переходе от одной парадигмы к другой. (*ПС, с.104*)

**II.** Гипердинамический синдром (от греч. *hyper* – чрезмерно и *dynamis* – сила), синдром двигательной расторможенности – наиболее распространенное проявление раннего поражения ЦНС, выражающееся в чрезмерной активности, суетливости, раздражительности, неспособности к целенаправленному и организованному поведению. Заметно усиливается при утомлении и соматических заболеваниях. Наиболее выражен у детей, страдающих церебрастенией, у которых повышенная утомляемость препятствует произвольной регуляции поведения. Обычно проходит к 11–12 годам, но в подростковом возрасте возможны обострения. Дети с гипердинамическим синдромом. требуют особого подхода – дозирования нагрузок, смены видов деятельности. (*ДэфСД, с.19*)

**4. Перакладзіце тэксты. Якімі прыёмамі перакладу вы карысталіся?**

**I.** Учебная деятельность – процесс приобретения человеком новых знаний, умений и навыков или изменения старых; деятельность по решению учебных задач. Последовательность осуществления учебной деятельности: анализ задачи, принятие учебной задачи, актуализация имеющихся знаний, необходимых для ее решения; составление плана решения задачи, практическое ее осуществление, контроль и оценка решения задачи, осознание способов деятельности, необходимых для решения учебной задачи. (*ПС, с.155*)

